# ЗЬМЕСТ

## За політэхнічнае выхаваньне



## Паскорыць тэмпы політэхнізацыі



## За ленінскую нацыянальную політыку



## На фронце культурнай рэволюцыі



## Узмацнім ваенізацыю ў школе



## Літаратура—зброя клясавай барацьбы



## Мастацтва—на службу соцбудаўніцтву



## Наш вопыт



## За ўзмацненьне органаў дыктатуры пролетарыяту

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЁГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ









№ 9-10 ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК 1930

# ЗА ПОЛІТЭХНІЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

# І УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД ПА ПОЛІТЭХНІЧНАЙ АСЬВЕЦЕ

## Пастанова-адозва зьезду

У сучасны момант соцыялістычнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі СССР набывае вялікае значэньне проблема культурнай рэволюцыі. Без належнага ўздыму політычнага і культурнага ўзроўню працоўных мас нельга пасьпяхова прасоўвацца наперад па шляху разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва.

„Карэнная соцыялістычная перабудова краіны,—кажа рэзолюцыя XVI зьезду партыі, — патрабуе агульнага ўздыму культурна-політычнага ўзроўню рабочых мас. Аднэй з рашаючых прадпасылак культурнай рэволюцыі зьяўляецца ліквідацыя няпісьменнасьці, правядзеньне абавязковага пачатковага навучаньня, а таксама рэформа школы і ажыцьцяўленьне політэхнічнай асьветы“. Падрыхтоўка кадраў для нашай гаспадаркі зьяўляецца аднэй з важнейшых проблем соцыялістычнага будаўніцтва. Вырашэньне гэтай проблемы ў пераважнай меры залежыць ад політэхнізацыі школы.

Соцыялістычная рэконструкцыя характарызуецца вялізарным уздымам тэхнічнай рэволюцыі і перабудовай соцыяльных адносін на соцыялістычных пачатках. У нашай краіне ствараюцца фабрыкі і заводы-гіганты, будуюцца буйныя электрастанцыі, разгортваецца шпаркім тэмпам колектывізацыя сельскай гаспадаркі.

Найноўшая тэхніка і навука ва ўмовах пролетарскай дзяржавы даюць такі вытворчы эфэкт, якога ня ведае аніводная капіталістычная краіна

На аснове суцэльнай колектывізацыі сельскай гаспадаркі ў нас ліквідуецца кулацтва як кляса, што „азначае штурм рабочае клясы на апошнюю апору капіталістычнае эксплёатацыі ў краіне.“ Буйная соцыялістычная вытворчасьць патрабуе ўсебакова разьвітых рабочых, якія павінны быць ня толькі добрымі вытворцамі матар'яльных каштоўнасьцяй, але і організатарамі соцыялістычнай гаспадаркі.

Рэволюцыйны процэс перабудовы тэхнікі вытворчасьці спараджае ўмовы для бязупыннай зьмены функцый.

Соцыялістычная рэконструкцыя вядзе да ператварэньня сельскай гаспадаркі ў буйную прамысловасьць, пабудаваную на аснове найноўшых дасягненьняў навукі і тэхнікі, на аснове электрыфікацыі, трактарызацыі і хэмізацыі. На гэтай падставе паступова зьнішчаецца стагодні падзел працы паміж горадам і вёскай. Адначасова соцыялістычная вытворчасьць стварае ўмовы для зьнішчэньня падзелу паміж разумовай і фізычнай працай. Сучасны рабочы павінен мець даволі высокі ўзровень культурна-політычнага разьвіцьця для таго, каб быць непрымірымым барацьбітом за комунізм і змагацца за ўздым соцыялістычнай вытворчасьці. Мы павінны рыхтаваць новых людзей, якія маглі-б лёгка орыентавацца ў розных вытворчых процэсах. Гэта задача можа быць вырашана толькі пры ўмове шырокага разгортваньня політэхнічнай асьветы.

Аднэй з важнейшых проблем гаспадарча-палітычнага значэньня зьяўляецца безадкладнае ажыцьцяўленьне політэхнічнай асьветы па ўсім культурным фронце. Барацьба за політэхнізм ёсьць барацьба за комуністычнае выхаваньне мас. Політэхнічнай асьветай павінны быць ахоплены шырокія пласты працоўных, ня толькі вучні, але і дарослыя рабочыя і сяляне. У барацьбе за політэхнізм павінны прымаць удзел ня толькі органы Наркомасьветы, але і профсаюзы, гаспадарчыя ўстановы, комсамол, Чырвоная армія і іншыя грамадзка-палітычныя організацыі нашай краіны. Перамога на фронце культурнай рэволюцыі будзе толькі тады, калі справа політэхнізацыі зробіцца справай усіх процоўных мас.

Ва ўмовах БССР, як аднэй з нацыянальных савецкіх рэспублік, політэхнічная асьвета непасрэдна ўвязваецца з нацыянальнай політыкай комуністычнай партыі і пролетарскай дзяржавы. Комуністычнае выхаваньне зьяўляецца сродкам ня толькі пераробкі прыроды грамадзкага чалавека, але і мэтодам уздыму грамадзкай вытворчасьці. Політэхнічная асьвета, як частка комуністычнага выхаваньня, садзейнічае вырашэньню проблемы разьвіцьця соцыялістычнай гаспадаркі і ўздыму культурна-палітычнага ўзроўню пролетарыяту і працоўных у нашай рэспубліцы. На базе політэхнічнае асьветы мы падрыхтуем патрэбныя нам кадры соцыялістычнага культурнага будаўніцтва, якія будуць весьці, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, рашучае змаганьне за правільнае правядзеньне ленінскае нац. політыкі ў культурным будаўніцтве, будуць весьці рашучае змаганьне з расійскім вялікадзяржаўным шовінізмам, з імкненьнямі часткі старой контррэволюцыйнай нац.-дэмократычнай і шовіністычнай інтэлігенцыі ўзяць монополію ў культурным будаўніцтве, выстаўляючы супроць установкі партыі на разьвіцьцё нацыянальнай культуры па форме і соцыялістычнай па зьместу сваю ўстаноўку—нацыянальная культура і па форме, і па зьместу, будуць весьці рашучае змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам, беларускім нац-дэмократызмам і шовінізмам розных колераў.

Першы ўсебеларускі зьезд па політэхнічнай асьвеце зьвяртаецца да пролетарскай грамадзкасьці з заклікам пачаць рашучую барацьбу за політэхнізм пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Зьезд з вялікай увагай і сьвядомасьцю працаваў над пытаньнямі конкрэтнага ажыцьцяўленьня політэхнізацыі школы і прыняў цэлы шэраг пастаноў, якія могуць быць праведзены ў жыцьцё толькі пры актыўным удзеле працоўных мас.

Профсаюзы, як школа комунізму, павінны перш за ўсё выканаць пастанову XVI партыйнага зьезду аб тым, каб уся політыка-асьветная і культурная праца іх „была накіравана, у першую чаргу, на разьвіцьцё соцыялістычна-сьвядомых адносін рабочых да соцыялістычнай вытворчасьці“. Профсаюзы павінны безадкладна разгарнуць працу па вытворчай і політэхнічнай пропагандзе сярод рабочых, мобілізаваць інжынэраў, агрономаў і іншых спэцыялістых для актыўнага ўдзелу ў політэхнізацыі школы, вылучыць кваліфікаваных рабочых для кіраўніцтва вытворчай працай вучняў на прадпрыемствах, наладзіць масавую політэхнічную перападрыхтоўку настаўніцтва, удзельнічаць у справе выданьня і пашырэньня тэхнічнай літаратуры, кіраваць разгортваньнем соцспаборніцтва і ўдарніцтва па лініі ажыцьцяўленьня політэхнізму.

Комсамол павінен мобілізаваць грамадзкую думку працоўнай моладзі вакол проблемы політэхнічнай асьветы,

праводзіць актыўную працу ў школе і піонэратрадах па організацыі тэхнічных гурткоў, майстэрняў і навучальна-вытворчых цэхаў пры прадпрыемствах, наладзіць сувязь школы з фабрыкамі, заводамі, саўгасамі і колгасамі, уцягнуць вучняў у грамадзка-політычную працу социялістычных прадпрыемстваў, прыняць актыўны ўдзел у політэхнічным паходзе, мобілізаваць комсамольскі друк для асьвятленьня ходу політэхнізацыі школы, наладзіць брыгады і лёгкія кавалеры для праверкі выкананьня на мясцох пастаноў політэхнічнага зьезду.

ВСНГ, Наркомзем, Колгасцэнтр, НКШЗ і іншыя гаспадарчыя ўстановы павінны безадкладна адчыніць дзьверы фабрык, заводаў, электростанцый, саўгасаў і колгасаў для вучняў, прымацаваць ФЗС да конкрэтных вытворчасьцяй, абсталяваць пры прадпрыемствах адпаведныя навучальна-вытворчыя цэхі і вытворчыя музэі, уключыць у свой бюджэт выдаткі па політэхнізацыі школ, даць сваіх спэцыялістых і рабочых для вытворчага навучаньня вучняў, выпрацаваць разам з НК Асьветы адпаведныя політэхнічныя програмы.

Інжынэры, агрономы павінны стаць галоўнымі пропагандыстымі тэхнічных і агрономічных ведаў, павінны кіраваць вытворчымі гурткамі, навучаць дзяцей на прадпрыемствах, чытаць спэцыяльныя лекцыі на курсах перападрыхтоўкі настаўніцтва, прымаць удзел у выданьні вытворчай літаратуры.

Рабочыя і колгасьнікі павінны дапамагаць вучням у час працы за варштатам і машынай, прымаючы шырокі ўдзел у правядзеньні політэхнізацыі як на фабрыцы, так і ў полі, сачыць за політэхнізацыяй школы, за выкананьнем школаю вызначаных плянаў, ставіць пытаньні аб політэхнізацыі на вытворчых нарадах і на агульных сходах, зьвяртаць увагу на санітарна-гігіенічныя ўмовы дзіцячай працы.

Настаўнікі! Вы павінны перш за ўсё дасканала вывучыць тую вытворчасьць, на аснове якой будзе разгортвацца політэхнізацыя школ, і перабудаваць выкладаньне адпаведных дысцыплін на політэхнічных пачатках.

Вось тыя мінімальныя патрабаваньні, якія патрэбна ажыцьцяўляць дзеля таго, каб політэхнізацыя школы ў гэтым годзе была пасунута наперад.

Зьезд зварочвае ўвагу на небясьпеку з боку дробнабуржуазных скажэньняў марксысцка-ленінскага разуменьня політэхнізму. Славесны політэхнізм і буржуазны профэсіяналізм павінны сустрэць рашучы адпор з боку пролетарскай грамадзкасьці.

Уперад на барацьбу за політэхнізм, пад кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі!

---

# Рэконструкцыя народнае гаспадаркі і політэхнічнае выхаваньне

*Даклад Народнага Комісара Асьветы БССР т. ПЛАТУНА*

Таварышы! Культурнае будаўніцтва Савецкага Саюзу прыблізна мае тыя самыя этапы свайго разьвіцьця, як і социялістычнае гаспадарчае будаўніцтва. Праўда, мы крыху адставалі ў культурным будаўніцтве і адстаем яшчэ і зараз ад рэконструкцыі нашае народнае гаспадаркі, зараз яшчэ адстаем ад тых тэмпаў, якія ўзяты па социялістычна-гаспадарчаму будаўніцтву, але ўсё-ж такі, калі мы прасочым з самага пачатку за нашай работай, дык мы, таварышы, ідзем тымі самымі этапамі разьвіцьця нашага культурнага будаўніцтва, якімі

ішла наша народная гаспадарка. Інакш, зразумелая рэч, быць ня можа, таму што мы заўсёды ў культурным будаўніцтве падпарадкуемся тэй матар'яльнай базе, экономіцы, якая ёсьць у даны пэрыод.

Пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі мы адбудавалі разбураныя старыя школы, карэнным чынам зьмяніўшы зьмест іх работы, соцыяльную структуру так, як былі зьменены зьмест работы і соцыяльная структура нашае прамысловасьці і сельскае гаспадаркі.

Пасьля таго, як была адноўлена, у межах даваеннага часу, наша народная гаспадарка, мы ў гэты час колькасна таксама дасягнулі значных вынікаў і ў культурным будаўніцтве, нават трохі большых, чым у галіне народнае гаспадаркі.

Мы ўжо к 27-28 г. мелі па колькасьці значна шырэйшую сетку нашых школ, сетку ўсіх культурных установ, чым гэта было ў дарэволюцыйны час.

Пераломны пэрыод у культурным будаўніцтве наступіў тады, калі ўжо ўся рабочая кляса, пад кіраўніцтвам партыі, паставіла рубам пытаньне культурнага будаўніцтва, а ўласна, паміж XIV і XV зьездам ВКП(б); на XV зьезьдзе партыі мы ўжо мелі выразныя дырэктывы партыі па пытаньнях культурнае рэволюцыі.

Гэтыя дырэктывы XV зьезду партыі аб культурнай рэволюцыі, я павінен заявіць, ня выкананы і да гэтага часу органамі народнае асьветы і ўсімі тымі організацыямі, якія займаліся культурнай работай.

Пасьля XIV зьезду партыі, калі пачалі шпаркім тэмпам індустрыялізаваць нашу краіну, мы апынуліся перад фактам надзвычайна нізкай культурнасьці працоўных мас. Калі мы пачалі прывозіць складаныя машыны, калі пачалі мэханізаваць вытворчасьць сельскай гаспадаркі, мы апынуліся перад фактам недастатковай культурнасьці працоўных мас, апынуліся ў такім становішчы, калі мелі месца, побач са сьвядомым шкодніцтвам старой буржуазнай інтэлігенцыі, спэцыялістых, выпадкі несьвядомага шкодніцтва нават з боку рабочых, з боку тых, якіх нельга назваць ворагамі савецкае ўлады.

Мы мелі, нават у нашых беларускіх умовах, выпадкі, калі пастаўленыя складаныя замежныя машыны, за якія мы плацілі валютай, паасобныя групы рабочых з прычыны нізкай культурнасьці псавалі іх ня толькі таму, што яны ня ўмелі імі кіраваць, ня ўмелі абыходзіцца з гэтымі машынамі, а псавалі проста з прычыны сваіх барбарскіх, някультурных адносін да гэтых машын.

Мне расказвалі адзін такі выпадак: на адну з нашых фабрык Беларусі была прывезена вельмі складаная машына. Машына гэтая была надзвычайна тонкай конструкцыі. У часе работы падыходзіць адзін рабочы і думае так: „замежная машына—добрая машына, моцная машына, і вось цікава, што з ёй зробіцца, калі я кіну ў яе кавалак дроту". Узяў і кінуў дрот у гэту машыну. Машына, зразумелая рэч, папсавалася і на некаторы час вышла са строю. Ці можна назваць такога рабочага шкоднікам? Нельга. Шкодніцтва мы маем тады, калі машыны псуюцца сьвядома, з пэўнымі контррэволюцыйнымі мэтамі. А тут было несьвядомае шкодніцтва, якое залежала, галоўным чынам, ад някультурнасьці, адсталасьці гэтага рабочага, ад недастатковай яго палітычнай сьвядомасьці. Можна прывесьці яшчэ цэлы шэраг фактаў такога парадку.

Вазьмеце, таварышы, сельскую гаспадарку. У нас ёсьць саўгасы і колгасы, у якіх ужываюцца складаныя сельскагаспадарчыя машыны. Колькі працуюць

нашы трактары, якіх нам і так не хапае, як наогул не хапае і іншых складаных машын? Колькі яны працуюць, як мы іх скарыстоўваем? Мы іх, па-першае, вельмі часта псуем, бо ня ўмеем з імі абыходзіцца і, па-другое, мы настолькі ня ўмеем організоўваць працу гэтых машын, што скарыстоўваем іх толькі на 25-30 проц., і залежыць гэта, галоўным чынам, ад таго, што ў нас да гэтага часу слаба была пастаўлена агульнапалітычная, агульнакультурная падрыхтоўка і надзвычайна слаба была пастаўлена тэхнічная падрыхтоўка.

Пэрыод яшчэ большага пераломў ў культурным будаўніцтве—гэта сучасны пэрыод. Вы ведаеце, што XVI зьезд партыі паставіў пытаньне агульнага наступленьня соцыялізму на ўсім фронце, наступленьня на фронце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Вы памятаеце, пэўна, што на XVI зьезьдзе тав. Сталін гаварыў так: „XIV зьезд быў зьездам індустрыялізацыі, зьездам рашучага наступленьня ў прамысловасьці, у рэконструкцыі нашае прамысловасьці, у тэмпах будаўніцтва прамысловасьці“.

XV зьезд быў зьездам, галоўным чынам, рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, колектывізацыі, будаўніцтва саўгасаў, мэханізацыі сельскай гаспадаркі, а XVI зьезд быў зьездам агульнага наступленьня на фронце соцыялістычнага будаўніцтва па ўсіх галінах гаспадарчага будаўніцтва і ў галіне прамысловасьці, і ў галіне сельскае гаспадаркі, і, як вынік,—зьнішчэньне рэшткаў капіталістычных элемэнтаў, якія ёсьць у нас у краіне, ліквідацыя кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

Мы ў нашай экономіцы, у народнай гаспадарцы перажываем надзвычайна вялікі пэрыод, пэрыод агульнага наступленьня соцыялістычнага будаўніцтва—выкарчоўваньня рэшткаў капіталізму.

Вядомая рэч, і ў справе культурнага будаўніцтва мы таксама прыступілі да агульнага наступленьня.

Таварышы, я спачатку ўжо гаварыў, што культурнае будаўніцтва адставала ў нас ад гаспадарчага, а гэта, вядомая рэч, інакш і не магло быць. Раней трэба было пабудаваць экономіку народнае гаспадаркі і на яе базе можна было больш шпарка разгортваць культурнае будаўніцтва. Цяпер мы гэтага дасягнулі, цяпер мы ўжо маем магчымасьць соцыялістычнага наступленьня, перабудовы і ў галіне нашае культурнае работы.

Я павінен тут зрабіць адну заўвагу такога парадку. Да гэтага часу дзе-ні-дзе глядзяць на справу культурнага будаўніцтва як на трэці фронт.

Нам трэба зараз рашуча адмовіцца ад такога разуменьня, ад такой формулёўкі. Вельмі часта здаралася, што да культурнага будаўніцтва адносіліся як да трэцяга фронту, да трэцяразраднае справы, і пры складаньні бюджэту часамі адносілі яго да трэцяй катэгорыі. Вельмі часта бывала, што, калі трэба правесьці скарачэньне каштарысу, глядзелі так, як-бы яго скараціць бяз шкоды для гаспадарчага будаўніцтва. Між тым гэта шкодзіла ня толькі самой культуры, але і ўсёй народнай гаспадарцы.

Таму мы павінны зараз разглядаць справу культурнага будаўніцтва, як справу агульнага фронту соцыялістычнага будаўніцтва.

Мы, такім чынам, павінны ўсю справу культурнага будаўніцтва самым цесным чынам зьвязаць і падпарадкаваць агульнаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Для таго, каб было яскравей відаць, што мы не павінны зьяўляцца трэцім фронтам, а зьяўляемся агульным фронтам соцыялістычнага будаўніцтва, мы можам спаслацца на такую надзвычайна

важную ў нашых умовах справу, як падрыхтоўка кадраў.

Вы ведаеце, што аб кадрах яшчэ да XVI зьезду ЎсеКП(б) былі дзьве пастановы Цэнтральнага комітэту комуністычнай партыі: першая, калі разглядалася шахцінская справа, другая—гэта пастанова лістападаўскага пленуму 29 г.

Гэтыя дзьве пастановы зьяўляліся такім этапам культурнага будаўніцтва, які ўжо нас уключыў, зьвязаў з усёй вытворчасьцю. Вы ведаеце, што пастанова ЦК УсеКП (б) у ліпені 28 году гаварыла аб практыцы перадачы некаторых профтэхнічных вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў гаспадарчым органам для таго, каб гаспадарчыя органы былі больш зацікаўлены ў падрыхтоўцы кадраў.

Пастанова лістападаўскага пленуму пашырыла гэтую практыку, прапанаваўшы, каб усе індустрыяльна-профтэхнічныя навучальныя ўстановы, якія будуць адчыняцца, організоўваліся адпаведнымі гаспадарчымі аб'яднаньнямі і наркоматамі.

Такім чынам, мы, згодна з гэтай пастановай, ужо зьвязалі адпаведныя навучальныя ўстановы з агульна-гаспадарчым плянам. Мы зьвязаліся з вытворчасьцю. Мы рэорганізавалі карэнным чынам нашу профэсійна-тэхнічную асьвету.

Мы ўключыліся ў агульна-гаспадарчы плян таго ці іншага прадпрыемства, таго ці іншага аб'яднаньня прадпрыемстваў заводу. Мы гэтым самым дабіліся таго, што падрыхтоўкай кадраў цікавіцца ня толькі такі ўсеаб'ядноючы орган па кадрах, як Народны комісарыят асьветы; мы паставілі рубам гэта пытаньне перад гаспадарчымі органамі, паставілі пытаньне так: ня будзеце падрыхтоўваць, ня будзе кадраў; ня будзе кадраў, ня будзе пасьпяховага соцыялістычнага гаспадарчага будаўніцтва.

Мы маем пастанову XVI зьезду па падрыхтоўцы кадраў. Ён ухваліў тыя мерапрыемствы, што былі праведзены ЦК УсеКП(б) па падрыхтоўцы кадраў.

Мы маем пастанову XVI зьезду аб ліквідацыі няпісьменнасьці, аб усеагульным абавязковым навучаньні, аб адзіным культурным пляне. НКАсьветы займаецца культурнай работай, культработай займаюцца і профсаюзы, коопэрацыя і ўсялякія іншыя організацыі. Яны даюць грошы, яны павінны організоўваць работу на гэтыя грошы, яны павінны кіраваць гэтай работай.

А да гэтага часу ў нас разнабой у рабоце, да гэтага часу ў нас няма адзінага пляну культурнай работы. Калі ў нас ёсьць адзіны плян гаспадарчага будаўніцтва, калі гэты плян гаспадарчага будаўніцтва опэрацыйна зьвязаны паміж асобнымі зьвеньнямі, дык у культурным будаўніцтве гэтага няма. Няма ня толькі опэрацыйнай увязкі, але да гэтага часу няма хоць якога-небудзь адзінага пляну. Мы трацім грошы культфондаў на ўсялякія патрэбы па лініі профэсійных організацый і ня маем такога эфэкту, які мог-бы і павінен быць. Праўда, па ліквідацыі няпісьменнасьці профсаюзы ў гэтым годзе давалі і эфэктыўнасьць, коопэрацыя ў гэтым годзе таксама мае сякія-такія посьпехі. але няма актыўнага ўдзелу ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці, ёсьць толькі спачуваньні гэтай справе.

Гэта, таварышы, надзвычайна шкодзіць нам у нашай рабоце, шкодзіць ня толькі таму, што мы вельмі часта трацім шмат грошай на непатрэбныя рэчы, дубліруем выдаткі, але і таму, што мы не організоўваем супольнымі намаганьнямі масы за культурнае будаўніцтва.

Возьмем хоць-бы прыклад правядзеньня ўсеагульнага навучаньня ў гэтым годзе. Хто гэтай справай займаецца?

Займаецца, і то пакуль што дрэнна, толькі НКАсьветы. Хто больш займаецца? Ніхто, на вялікі жаль, гэтым не займаецца. Нават такая організацыя, як комсамол, ня гледзячы на тое, што т. Рубенчык учора выступаў і скардзіўся, што тэзісы не разданы, комсамол нічога бадай не зрабіў у справе ўсеагульнага навучаньня ў БССР. Мы зараз абвясьцілі разам з комсамолам паход па праверцы ўсеагульнага навучаньня, паслалі людзей па лініі цэнтральнага праўленьня саюзу працаўнікоў асьветы і інспэктуру НКА, якую, да слова кажучы, гэтыя 2-3 месяцы трымаем літаральна на калёсах. Комсамол нават не ўзварухнуў комсамольскія масы і не паслаў сваіх работнікаў у паход. А комсамолу, па-мойму, трэба было шмат чаго зрабіць у справе ўсеагульнага навучаньня. І зараз яшчэ ня позна гэта рабіць, хоць трошкі ўжо спазьніліся.

Працаўнікі НКАсьветы прыяжджаюць на месцы з усімі пастановамі і ЦК партыі, і СНК, і ЦВК, усе гэтыя пастановы яны прыносяць і паказваюць мясцовым таварышом і, патрабуючы іх выкананьня, кажуць: „вось глядзеце, колькі было пастаноў, але, на вялікі жаль, бадай што ніхто на мясцох нічога ня робіць, за рэдкім выключэньнем некаторых організацый, за выключэньнем пакуль што толькі асьветнікаў“.

Тав. Смыг у Магілеве прымушан быў праз галаву партыйных, профсаюзных і комсамольскіх організацый ісьці непасрэдна на фабрыкі і заводы дамагацца перад рабочымі пастаноўкі пытаньня культурнага будаўніцтва, у прыватнасьці політэхнізацыі школы, а кіруючыя організацыі нічога ня ведаюць, нічым не займаюцца.

Вось некалькі заўваг агульнага парадку адносна культурнага будаўніцтва.

Чаму нам зараз трэба перайсьці да карэннай перабудовы ўсяе асьветы—перабудовы ня ў сэнсе структурнай перамены, хоць гэта таксама адыгрывае значную ролю, ня ў сэнсе замены назваў, але ў сэнсе зьместу работы, у сэнсе таго, як мы і каго мы павінны рыхтаваць праз усе зьвеньні нашай народнай асьветы, нашае школы?

Сучасны пэрыод рэконструкцыі народнае гаспадаркі ідзе па лініі індустрыялізацыі прамысловасьці, па лініі шпаркага разгортваньня новых фабрык і заводаў, па лініі ахопу ўсё новых і новых відаў прамысловасьці, па лініі новае тэхнікі. Сучасны пэрыод рэконструкцыі народнае гаспадаркі і сельскае гаспадаркі ідзе па лініі організацыі буйных соцыялістычнага тыпу, гаспадарак—колгасаў і саўгасаў, ідзе па лініі мэханізацыі сельскае гаспадаркі. Рэконструкцыя ўсяе народнай гаспадаркі зьмяняе карэнным чынам экономічныя асновы падзелу працы ў горадзе і вёсцы. Сучасная тэхніка карэнным чынам мяняе падзел працы паміж кваліфікаванай і некваліфікаванай рабочай сілай. Для сучаснай тэхнікі патрэбен рабочы, які ведае навуковыя процэсы вытворчасьці, які здолен кіраваць машынай, які ведае, як ужываць асноўныя прылады, інструманты. Пры сучаснай тэхніцы рабочы ня можа быць рамесьнікам, такім рамесьнікам, які ў нас яшчэ ёсьць дзе-ні-дзе да гэтага часу ў нашай прамысловасьці. Рабочы павінен быць падрыхтаваным, павінен ведаць процэсы вытворчасьці, тэхнолёгію мэталю, дрэва, павінен ведаць узаемадзеяньне ўсіх процэсаў вытворчасьці. Сучасная тэхніка набліжае нас да зьнішчэньня падзелу паміж фізычнай і разумоваю працаю, дае нам магчымасьць замяніць фізычную сілу чалавека ў шмат якіх галінах працы сілай машыны. Гэта дае магчымасьць надзвычайна шырокаў цягнуць у

вытворчасьць ня толькі мужчын, але і жанчын.

Усе рабочыя абгаварваюць пляны народнай гаспадаркі, адказваюць за пастаноўку працы на данай вытворчасьці, усе рабочыя зьяўляюцца гаспадарамі вытворчасьці, рабочая кляса зьяўляецца гаспадаром Савецкага Саюзу. Таму ўсе рабочыя, асабліва падрастаючае маладое пакаленьне, павінны быць клясава-сьвядомымі грамадзянамі з дастатковай агульнай адукацыяй і з тэхнічнымі ведамі. Такога рабочага мы можам падрыхтаваць праз сыстэму політэхнічнага выхаваньня, праз сапраўдную політэхнічную школу, як аб гэтым сказаў у свой час Ленін. На вялікі жаль, ніхто гэтых слоў тав. Леніна ня выканаў так, як трэба было выканаць. Ён пісаў вось што: „Задача школы 2-й ступени дать вполне знающего, дать человека, вполне способного стать мастером и заменить практически подготовленного столяра и т. д. с тем, однако, чтобы этот „ремесленник“ имел широкое общее образование, знал минимум основы таких-то и таких-то наук, научился быть коммунистом, имел политехнический кругозор, начатки политехнического образования“.

Вось які нам патрэбен рабочы.

Што гаворыць нам програма комуністычнай партыі? Яна гаворыць, што „ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту, гэта значыць, у пэрыод падрыхтоўкі ўмоў, якія даюць магчымасьць поўнага ажыцьцяўленьня комунізму, школа павінна быць ня толькі праваднікам комунізму наогул, а і праваднікам ідэёвага, арганізацыйна-выхаваўчага ўплыву пролетарыяту на паўпролетарскія і непролетарскія пласты мас, з мэтай выхаваньня новага пакаленьня“. Вось, таварышы, якая нам зараз патрэбна школа.

Мы маем масавую славесную, „начотніцкую“ школу. Мы маем такія сярэднія і вышэйшыя профэсійна-тэхнічныя школы, якія рыхтуюць спэцыялістых наогул.

Вы ведаеце, што амэрыканцы сьмяюцца з нашых старых інжынэраў. „У вас, кажуць яны, інжынэры, дактары, спэцыялістыя наогул, яны вельмі адукаваныя людзі, але нікчэмныя практыкі“. Рыхтаваць спэцыялістых мы павінны праз фабрыку і завод, а ня толькі ў сьценах унівэрсытэту ці інстытуту.

Мы з вышэйшай школай больш-менш справіліся. Вышэйшую і сярэднюю школу мы зьвязалі з фабрыкай і заводам. У вышэйшых школах мы даем агульна-політэхнічныя веды нашым студэнтам. Разам з вузкай спэцыялізацыяй, мы рыхтуем спэцыялістых данай вытворчасьці, данай спэцыяльнасьці з тым разьлікам, каб яны ведалі наогул усе процэсы вытворчасьці.

Такім чынам, некаторыя дасягненьні ў вышэйшай і сярэдняй школе мы маем, але нам патрэбна будзе яшчэ дабіцца таго, каб нашы гаспадарчыя ўстановы, дырэктары фабрык і заводаў не адносіліся да практыкантаў так, як адносяцца ў некаторых мясцох. На вялікі жаль, у гэтым годзе ў нас пад бокам, у Менску, ёсьць завод „Комунар“. Студэнты Віцебскага політэхнікуму прыехалі на завод „Комунар“ на практыку. Гэтыя студэнты патрацілі час і нічога не зрабілі. Дырэктар „Комунара“ гаварыў: „я вам буду плаціць патрэбную пэнсію, але вы, калі ласка, ня ўмешвайцеся ў вытворчасьць“. І студэнты хадзілі па Менску, сядзелі ў дзяржаўнай бібліотэцы, чыталі кнігі, а вытворчай практыкаю не займаліся. З вялікай труднасьцю нам удалося наладзіць гэтую справу.

І я лічу, што цяпер, калі заводу „Комунар“ і наогул усёй нашай прамысловасьці так пільна патрэбны кадры, такія адносіны да практыкантаў, да вытворчага навучаньня трэба рашуча зьнішчыць.

Надзвычайна цяжкая справа—гэта з масавай школай. Масавыя школы ў нас да гэтага часу, акрамя ФЗС і ШКМ, зьяўляюцца начотніцкімі, славеснымі школамі. З нашых масавых школ людзі выходзяць абсолютна не прыстасаванымі да працоўнага жыцьця.

Нашы масавыя школы працавалі, калі строга сказаць, бяз пэўнай патрэбнай карысьці. І калі мы цяпер перавялі нашы вышэйшыя і сярэднія зьвеньні асьветы на іншы мэтод работы, калі мы зьменшылі тэрмін навучаньня ў вышэйшых і сярэдніх школах, нам патрэбна абавязкова карэнным чынам рэорганізаваць нашу масавую школу. Нам патрэбна нашу масавую школу зрабіць політэхнічнаю, прыстасаваць яе да сярэдняй і вышэйшай школы.

Таварышы, аб політэхнізьме, таксама як і аб сыстэме народнае асьветы, гавораць ужо больш 10 год. Сыстэма народнае асьветы пачала ў нас абгаварвацца ў 1919 годзе. Канчатковую пастанову па гэтым пытаньні мы мелі толькі ў гэтым годзе на другой партыйнай нарадзе ЦК УсеКП (б).

Аб політэхнічным выхаваньні гаворыцца ўжо з пачатку Кастрычніцкай рэволюцыі, гэта значыць, з таго часу, калі рабочая кляса, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, узяла ўладу і мела магчымасьць займацца організацыяй народнае асьветы. Але, на вялікі жаль, далей гутарак мы ўсё-ж такі не пайшлі. Да гэтага часу ня зусім добра разумеюць сутнасьць політэхнічнай школы ня толькі шырокія працоўныя масы, якія не заўсёды прымалі непасрэдны ўдзел у організацыі народнае асьветы наогул, але, на вялікі жаль, і тыя, хто непасрэдна ўдзельнічаў, кіраваў справаю народнае асьветы.

Мы маем, прыблізна, наступныя няправільныя погляды аб політэхнізьме.

Некаторыя кажуць: „мы тлумачым вучням у школах, што такое машына, электрычнасьць, хэмія, глеба, дрэва і г. д.“ Гэта і ёсьць політэхнічная школа.

Зразумелая рэч, што недастаткова ў сьценах школы гаварыць пра ўсё гэта: трэба, каб вучань азнаёміўся практычна з гэтым і змог праверыць свае тэорытычныя веды на практыцы.

Гэтага ня было і няма дагэтуль. Адсюль, як вынік няправільнага погляду, такая начотніцкая, славесная школа.

Другі пункт погляду—гэта перавага толькі працоўных звычак,—вузкае рамесьніцтва.

Гэтыя таварышы кажуць, што мы павінны навучаць чалавека абыходжаньню з інструмантамі, каб ён як аўтомат мог працаваць у вытворчасьці, г. зн., падрыхтаваць рабочага не кіраўніка машыны, а яе нявольніка. Рабочы, які вывучыў толькі пэўныя рухі машыны, падпарадкуецца гэтым рухам і больш нічога: такі рабочы нам не патрэбен. Нам патрэбен рабочы-організатар вытворчых процэсаў, кіраўнік машыны. Мы маем вялікую пагрозу—гэта імкненьне некаторых гаспадарчых організацый і паасобных таварышоў як мага зьменшыць агульна-тэхнічную адукацыю і даць толькі вузкую профэсіяналізацыю.

Ідэолёгам гэтага „політэхнізму“ зьяўляецца вядомы т. Гасьцеў.

І вось цяпер, калі профтэхнічная вышэйшая і сярэдняя школа перададзены адпаведным гаспадарчым організацыям, мы, нават і ў Беларусі, наглядаем ужо такія зьявы: прыходзіць Белкоопсаюз і кажа: „Таварышы наркомасьветнікі, мы ўнесьлі прапанову ў СНК, каб у Віцебскім коопэрацыйным тэхнікуме зьменшыць да двух год тэрмін навучаньня“.

А мы кажам: „Калі вам патрэбны тэхнікі, дык калі ласка, рыхтуйце праз тры

гады, а калі вы хочаце ўвесьці двухгадовае навучаньне, дык зьнімеце шыльду тэхнікуму, а павесьце шыльду школы па падрыхтоўцы масавых профэсій“.

Тое самае і з Галоўдартрансам, які, ня гледзячы на тое, што тэрмін навучаньня вызначаецца НКА і зьяўляецца абавязковым для выкананьня, ня гледзячы на тое, што пляны і програмы, якія даюцца НКА, зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх навучальных устаноў, Галоўдартранс абвяшчае тэрмін навучаньня 2½ гады для падрыхтоўкі тэхнікаў па аўтомобільнай і трактарнай справе. Тэхнікаў па аўтомобільнай і трактарнай справе не падрыхтуеш за 2½ гады з тым, каб яны мелі здавальняючую політэхнічную адукацыю, каб яны былі зьвязаны па агульнай адукацыі з програмаю вышэйшай школы.

Такім чынам, паўстае зараз асноўная пагроза—гэта зьвядзеньне навучаньня да вузкай профэсіяналізацыі, зьвядзеньне нашага тэхнічнага навучаньня да рамесьніцтва. Зьезду трэба выказацца рашуча супроць гэтага, супроць гэтага ў штодзённай практыцы трэба весьці рашучае змаганьне.

ЦК КСМ і мы вялі жорсткую барацьбу з ВСНГ. ВСНГ патрэбна да канца пяцігодкі, здаецца, 50 тысяч рабочых. Як вы думаеце, колькі яны з гэтага ліку меркавалі рыхтаваць праз нормальныя школы? Праз фабзавуч, профшколы—ня больш 10-15 проц., а процантаў 80-85 думалі рыхтаваць мэтодам ЦІП, г. зн., рыхтаваць аўтоматаў рабочых, рабочых нявольнікаў машыны. І толькі, калі ўжо былі дадзены дырэктывы саюзных органаў аб хутчэйшым разьвіцьці фабзавучаў, тады таварышы з ВСНГ пашлі на ўступкі, згадзіліся на пашырэньне ФЗВ. І ўсё-ткі я павінен тут сказаць—у мяне такое ўражаньне, што з фабзавучам у гэтым годзе справа будзе цяжэй, чым нават з вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, вышэйшымі школамі і тэхнікумамі, бо будаўніцтва фабзавучаў не пачата, ня будзе дзе жыць вучням.

Таварышы, ўсё-ж такі, што такое політэхнізм? Я вам зачытаю два азначэньні. Першае азначэньне належыць 2-й парт. нарадзе па сыстэме народнай асьветы пры ЦК УКП: „Такое аб‘яднаньне асьветы з вытворчай работай, азнаямленьне тэорытычнае і практычнае з асноўнымі відамі вытворчасьці, навуковае разуменьне асноўных вытворчых процэсаў і выпрацоўка ўменьня карыстацца асноўнымі інструмантамі сучаснай вытворчасьці—вось у асноўным сутнасьць політэхнізму“.

Другое больш шырокае азначэньне дае Н. К. Крупская. Яна формулюе так (чытае):

„У нас некаторыя таварышы разумелі політэхнізм, як нешта асобнае, асобны прадмет выкладаньня. Політэхнізм ня ёсьць нейкі асобны прадмет выкладаньня, ён павінен прасякаць сабою ўсе дысцыпліны, адбівацца на падборы матар‘ялу і ў фізыцы, і ў хэміі, і ў прыродазнаўстве, і ў грамадазнаўстве“.

Вось, таварышы, што такое політэхнізм. Нам, таварышы, такія політэхнічныя школы і трэба зараз пабудаваць. Увесь сучасны пэрыод вымагае ад нас гэтага. Пасьпяховасьць соцыялістычнага будаўніцтва, рэконструкцыі народнай гаспадаркі, удасканаленьня тэхнікі вымагаюць ад нас гэтага. Усё сучаснае жыцьцё, усё соцыялістычнае будаўніцтва вымагае ад нас пабудаваць такую політэхнічную школу, прапусьціць праз гэтую школу ўсіх дзяцей, наладзіць політэхнічную асьвету ня толькі для дзяцей, але і для ўсіх рабочых. Праз розныя зьвеньні і сыстэмы народнае асьветы трэба організаваць асьвету так, каб яна была сапраўды політэхнічнай асьветай.

Трэба, каб нашы клюбы ад агульнага культурніцтва перайшлі да вытворчага культурніцтва, каб у нашых клюбах і на фабрыках былі створаны гурткі політэхнічнага выхаваньня — гэта будзе значна больш карысным, чым, напрыклад, па зьніжаных цэнах даваць білеты ў кіно на Мэры Пікфорд.

Я гэтым самым ня хочу сказаць, што трэба адмовіцца ад усякага мастацкага абслугоўваньня рабочых, не, я таксама і за мастацтва, за добрае мастацтва, за самадзейнае масавае мастацтва, якое ў клюбах не разгорнута; нашы клюбы жывяцца часам дрэннымі замежнымі кіно-фільмамі.

Хто павінен будаваць такую школу? Такую школу павінен будаваць Народны комісарыят асьветы з усёй арміяй настаўніцтва і наогул асьветнікаў. Такую школу павінны будаваць усе гаспадарчыя організацыі з усёй арміяй тэхнікаў, агрономаў, з усімі рабочымі. Такую школу павінны будаваць профэсійныя організацыі; яны павінны ня толькі шэфстваваць над школай, а і цесна зьвязацца з жыцьцём школ, заняцца організацыйным і ўнутраным жыцьцём гэтых школ. Комсамол павінен організоўваць такую школу, змагацца за яе, быць ініцыятарам у гэтай справе. Гэтая школа можа быць пабудавана толькі тады, калі яна будзе ўключана ў агульна-гаспадарчы плян данага гаспадарчага прадпрыемства, калі гэта школа будзе зьяўляцца роўназначным цэхам ф-кі, саўгасу і колгасу, толькі тады, зразумелая рэч, мы пабудуем сапраўдную політэхнічную школу, такую школу, якая зараз нам патрэбна.

Пабудаваць мы можам толькі тады, калі ўсе—і НКАсьветы і гаспадарчыя, профэсійныя і комсамольскія організацыі—як сьлед возьмуцца за гэтую справу. Нам трэба ўцягнуць у гэтую справу ўсе працоўныя масы, бо яны павінны цікавіцца гэтай работай; гэтая работа надзвычайна блізкая да рабочых, бо мы вучым дзяцей, а трэба, каб дзяцей вучылі добра, а не калечылі. Трэба, каб рабочыя правяралі, контролявалі нашу працу, і тады, зразумелая рэч, мы выканаем дырэктывы партыі аб пабудове сапраўднай політэхнічнай школы (воплескі).

---

# Заключнае слова т. Платуна

У сваім заключным слове я хочу спыніцца на 2-х асноўных момантах, закранутых у спрэчках. Правільна тут была закранута пытаньне адносна культурнага будаўніцтва наогул. Я таксама гавару аб культурным будаўніцтве наогул і аб тых недарэчнасьцях, якія ёсьць у справе організацыі культурнага будаўніцтва як з боку НКАсьветы, так і з боку асобных організацый, зацікаўленых у падрыхтоўцы да навучальнага году.

Першае пытаньне—гэта програмы і падручнікі. 10 з лішнім год у нас былі програмы і падручнікі з элемэнтамі нацыянал-дэмократычных ідэй, дробнабуржуазных і нават контррэволюцыйных. 10 год з лішнім 20 тыс. асьветнікаў выкладалі па гэтых падручніках. За 10 з лішнім год быў толькі, здаецца, адзін допіс з Мазыршчыны аб няпрыгоднасьці нашых програм і падручнікаў. Вось у чым бяда. Програмы нашы былі нікуды ня вартыя, падручнікі—таксама, і нават падручнік Пінкевіча і Казлова ў некаторых частках меў контррэволюцыйны зьмест. І ўсё-ж такі 25 тыс. асьветнікаў, з іх 12-15 тыс. настаўнікаў, карысталіся гэтымі падручнікамі, не крытыкуючы іх,

калечылі дзяцей, укаранялі дзецям зусім няправільныя погляды і г. д. І толькі ў гэтым годзе, калі было завострана пытаньне барацьбы на ідэолёгічным фронце, мы ўзяліся за перагляд усіх нашых падручнікаў і програм. Але, таварышы асьветнікі ведаюць, што значыць перарабіць програмы ці падручнікі. Мы павінны былі склікаць брыгады, настаўнікаў гораду і вёскі, мы вымушаны былі склікаць дзесяткі разоў аўтораў падручнікаў. Мы вымушаны былі ў гэтым годзе ісьці на ўсялякія палёгкі аўторам для таго, каб зьнішчыць тое становішча, той прарыў, які ў нас быў на ідэолёгічным фронце. Ці зьнішчылі мы яго? У асноўным зьнішчылі.

Тав. Сапега выступае і гаворыць, што прыслалі проект програмы, што гэта манілаўшчына. Я лічу, што т. Сапега ня праў. Мы ня можам сёньня даць програму, якая-б на ўсе 100 процантаў адказвала задачам політэхнізацыі. Мы напісалі проект програмы і сказалі: таварышы настаўнікі, абмяркоўвайце гэту програму, крытыкуйце яе, выпраўляйце, мы ня будзем у прэтэнзіі, калі вы будзеце ўносіць папраўкі, якія дапамогуць нам палепшыць гэтую работу. Потым мы зможам усё гэта падагуліць і даць сталую, добра прапрацаваную програму. Інакш мы не маглі-б зрабіць, інакш было-б няправільна. І вы павінны ўсё гэта абгаварваць ня толькі самі, а і „пайсьці ў людзі“, з гэтымі проектамі пайсьці да шырокіх рабочых мас, да колгасьнікаў і абмеркаваць з імі навучальныя пляны і програмы. Другога выхаду няма. Другіх форм працы ў нас ня можа быць.

Аб пэдагогічных кадрах. Нашы настаўніцкія кадры старых навучальных устаноў ня могуць як належыць організаваць політэхнічную школу, калі мы іх не перападрыхтуем. Нашы настаўніцкія кадры павінны быць перападрыхтаваны, і за гэту перападрыхтоўку мы павінны ўзяцца дзеля таго, каб даць гэтым настаўнікам такія веды і організацыйныя звычкі, якія нам патрэбны для організацыі політэхнічных школ.

Трэба будзе прапусьціць усіх, папершае, праз адпаведныя кароткатэрміновыя курсы.

Падругое, трэба будзе ўсіх настаўнікаў абавязкова накіраваць на вытворчасьць для практыкі.

Зразумелая рэч, што мы ня зможам гэтага зрабіць за адзін год. Трэба рашуча паставіць пытаньне, каб усё гэта мы маглі правесьці да канца пяцігодкі, каб за гэты час перападрыхтаваць усіх нашых настаўнікаў.

Зараз нашы навучальныя пэдагогічныя ўстановы наладжваюць сваю працу так, каб даць падрыхтаваных настаўнікаў для політэхнічнае школы.

Піонэрорганізацыя ў справе політэхнізацыі школы павінна прымаць самы актыўны ўдзел, яна павінна падштурхоўваць сваіх бацькоў, падштурхоўваць тыя організацыі, якія ня хочуць займацца справай політэхнізацыі.

Асноваю ўсяе піонэрпрацы на пэўны адрэзак часу павінна быць барацьба за політэхнічную школу.

У нашай прэсе надзвычайна мала было артыкулаў аб політэхнічным выхаваньні. Калі і былі допісы, то ў большасьці сварлівага парадку. Лаяцца мы навучыліся добра, а вось дапамогі політэхнічнай школе ад нашай прэсы мы яшчэ ня мелі. Возьмем такую газэту, як „Рабочий“. Яна маўчыць, ніводнага радку не ахварявала гэтай справе. А, між іншым, газэта „Рабочий“ досыць пашырана, галоўным чынам, сярод рабочых.

Наша прэса павінна заняцца популярызацыяй сутнасьці політэхнізму, попу-

лярызацыяй шэрагу момантаў па арганізацыі політэхнічнае школы.

Я не хацеў-бы, каб таварышы зразумелі так, што політэхнізацыю можна праводзіць толькі на базе электрычных станцый, якіх у нас ня так многа. Політэхнізацыю школ трэба праводзіць на базе тых матар'яльных тэхнічных магчымасьцяй, якія ў нас ёсьць, прыцягваючы да гэтага матар'яльную дапамогу грамадзкіх організацый, прыцягваючы да гэтага рабочых, інжынэраў, агрономаў. Толькі такім чынам мы выканаем задачы па політэхнізацыі школы.

Мы павінны організаваць нашу работу так, як організавана барацьба за прамфінплян, барацьба за колектывізацыю.

Калі наглядаецца дзе-ні-дзе прарыў прамфінпляну, дык мобілізуюцца ўсе сілы, уся грамадзкасьць на ліквідацыю прарыву.

Напрыклад, у Донбасе ёсьць прарыў— націснулі па ўсіх лініях. Уся організацыйна-політычная работа вядзецца для таго, каб ліквідаваць гэты прарыў. Так і нам трэба паставіць работу.

Організацыя політэхнічнае школы— гэта барацьба за соцыялізм, гэта элемэнт клясавае барацьбы. І так, як мы змагаемся за соцыялістычнае будаўніцтва наогул, так мы павінны змагацца за політэхнізацыю школы.

# Формы і мэтоды політэхнізацыі школы

*Даклад тав. Ю. ДАРДАКА.*

Перш чым прыступіць да практычных меркаваньняў аб тым, што нам трэба зрабіць для політэхнізацыі школы, я хачу спыніцца на адным пытаньні мэтодолёгічнага характару, якое нам трэба высьветліць. Гэта пытаньне датычыцца сутнасьці зьместу політэхнізму.

Програма нашай партыі вызначае політэхнічную адукацыю як „знаёмства ў тэорыі і на практыцы з усімі важнейшымі галінамі вытворчасьці". Вам усім вядомы нататкі т. Леніна па пытаньні політэхнізацыі школы, але трэба сказаць, што, на жаль, мы да гэтага часу яшчэ не распрацавалі ні гэтых нататак, ні тэзісаў тав. Леніна аб вытворчай пропагандзе, а гэта зрабіць вельмі патрэбна. У гэтых нататках Ленін ня толькі высоўвае пытаньне організацыйнага характару, але і дае адказ на пытаньні чыста мэтодолёгічнага характару. Гэтыя тэзісы зьяўляюцца самым лепшым прыкладам дыялектычнага прыстасаваньня закону адзінства процілегласьцяй у конкрэтным пытаньні політэхнізму.

Што гаварыў Ленін у сваіх нататках па пытаньні аб галоўных галінах вытворчасьці? Ён гаварыў:

„Задача школы 2-ой ступени (12--17 л.)-- дать вполне знающаго свое дело, вполне способного стать мастером и „заменить" практически подготовленного к этому столяра, слесаря и т. п. с тем, однако, чтобы этот „ремесленник" имел широкое общее образование (знал minimum основы таких-то и таких-то наук: указать точно, каких); был коммунистом (точно указать, что должен знать), имел политехнический кругозор и начатки основы политехнического образования, именно:

а) основные понятия об электричестве (точно определить, какие),

б) применение электричества к механической промышленности,

в) то же к химической,

г) то же о плане электрификации РСФСР,

д) посетил не менее 1-3 раз электрическую станцию, завод, совхоз,

е) знать такие-то основы агрономии и т. д. Разработать детально минимум знаний".

Што адсюль вынікае? Адсюль вынікае, што ў асноўным мы даем нешта адзінае, але гэта адзінае мы вылучаем

і прыстасоўваем да кожнай паасобнай галіны. Гэта значыць, што мы ў кожным асобным выпадку павінны зьвязацца, прыстасавацца і вывучыць на тым ці іншым заводзе электрычнасьць, як сілу, якая ўжываецца ў гэтай прамысловасьці, і разам з гэтым вывучыць тыя мэтоды апрацоўкі, якія зьяўляюцца характэрнымі і агульнымі для ўсіх галін вытворчасьці.

Асноўнымі штрыхамі, якія характэрны для нашай сучаснай прамысловасьці, зьяўляецца тое, што паступова ствараюцца агульныя формы і мэтоды апрацоўкі матар'ялаў, аўтоматызацыя і конвэйер. Галоўных мэтодаў апрацоўкі мы маем чатыры: мэханічны, хэмічны, формы скарыстаньня энэргіі і мэтод утварэньня арганічнай матэрыі. Вось тое, што мы павінны пакласьці ў аснову разуменьня політэхнізму, і на падставе гэтага мы кажам, што політэхнізм будзе ўведзены толькі тады, калі гэтая ўстаноўка будзе ўключана ў плян нашага вывучэньня, у аснову нашых праграм.

Адсюль вынікае, што школа можа быць політэхнічнай толькі тады, калі яна будзе зьвязана ня толькі з прамысловасьцю наогул, але і з якой-небудзь конкрэтнай прамысловасьцю. Вось гэтая ўстаноўка дае нам магчымасьць вырашыць пытаньне політэхнізацыі нашай школы.

Чым тлумачыцца, што да 1930 г. мы фактычна ня мелі політэхнічнай школы? Гэта тлумачыцца, магчыма, і об'ектыўнымі фактарамі, тым, што наша прамысловасьць знаходзілася ў такім становішчы, калі мы павінны былі экономіць і на школах і на ўсім астатнім для таго, каб пабудаваць нашу соцыялістычную прамысловасьць, але побач з гэтым тут ёсьць і суб'ектыўныя фактары—мы не зацікавіліся пытаньнем політэхнізму аж дагэтуль.

Перада мною ляжыць вельмі цікавы дакумант—даклад былога кіраўніка НКА БССР т. Баліцкага аб сыстэме народнае асьветы. Гэты даклад Баліцкага быў прачытаны ў 1928 г., г. зн., 2 гады таму назад. Што ён гаварыў у сваім дакладзе? У сваім дакладзе Баліцкі гаварыў аб тым, што політэхнічная школа—гэта школа будучага, на сёньняшні дзень мы павінны організаваць не політэхнічную школу, а школу профэсійную.

Вось як Баліцкі ставіў пытаньне. Гэта, значыць, мы фактычна мелі выступленьне чыста опортуністычнага характару, выступленьне, якім ён хацеў паправіць Леніна. Тав. Ленін ставіў пытаньне ў 20-м годзе аб тым, што патрэбна зараз— у 20 годзе, калі гаспадарка была зруйнавана,—паставіць пытаньне аб політэхнічнай адукацыі, ці, праўдзівей, адразу распачаць вырашэньне неабходных пытаньняў, зьвязаных з політэхнізацыяй школ. Баліцкі ў 1928 годзе хацеў паправіць Леніна і кажа, што політэхнічная школа—гэта школа будучага, а на сёньняшні дзень мы павінны організаваць школу профэсійную.

Мы супроць гэтага мала змагаліся. Для таго, каб гэта выжыць, для таго, каб нагнаць тое, што мы прапусьцілі на працягу 10 год, мы павінны зараз жа шпаркімі тэмпамі, з напружанасьцю распачаць пабудову політэхнічнае школы.

Калі коратка ахарактарызаваць нашу політэхнічную школу, што яна павінна з сябе ўяўляць, дык мы-б сформулявалі гэта такім чынам: політэхнічная школа толькі тады будзе такой школай, калі ўся навучальная праца будзе падпарадкавана працы на конкрэтнай вытворчасьці, калі дзеці прымуць удзел у вытворчай працы на фабрыцы, заводзе, у саўгасе ці колгасе, калі дзеці будуць вывучаць навуковыя асновы вытворчых процэсаў, калі дзіцячы колектыў уключыцца ва ўсю вытворчасьць, калі дзеці дапамогуць у рабоце па падрыхтоўцы да сустрэчнага прамфінпляну, будуць удзельнічаць у спаборніцтве, ударніцтве і ва ўсёй грамадзка-карыснай рабоце прадпрыемстваў, калі будуць вывучаць ня толькі ўсё гэта, але і вытворчыя суадносіны на пасьлядоўна соцыялістычных прадпрыемствах, організацыю і кіраўніцтва фабрыкай, заводам, саўгасам і колгасам.

Вось што мы разумеем пад політэхнічнай школай. Гэта такая школа, якая зьвязана з конкрэтнай вытворчасьцю, якая ўключае дзіцячы колектыў у гэтую вытворчасьць, колектыўнай працы дзяцей надае комуністычны напрамак і характар, і ў якой дзеці вывучаюць

навуковую асновугэтых працэсаў і ўдзельнічаюць у грамадзкай працы данага заводу ці фабрыкі, колгасу ці саўгасу. Толькі такая школа будзе політэхнічнай. Адсюль вынікае першае пытаньне, на якое мы павінны даць адказ: якімі шляхамі мы павінны ісьці, каб цалкам політэхнізаваць нашу школу?

У пастанове II партыйнай нарады па пытаньні аб сыстэме народнае асьветы адзначана, што асноўным зьвяном нашае сыстэмы асьветы зьяўляецца фабрычна-заводзкая сямігодка, з аднаго боку, і школа колгаснай моладзі, з другога боку. А ў тых мясцох, дзе няма ні буйнай прамысловасьці, ні колгасаў, ні саўгасаў, а ёсьць вытворчасьць чыста комунальнага характару, існуе дапаможны тып школы —комунальная сямігодка.

Вось тыя асноўныя тыпы школ, якія II партыйная нарада вызначае ў сваіх тэзісах па пытаньні аб сыстэме народнае асьветы. І тут, як вы бачыце, пытаньне ня толькі ў перамене назваў, а і ў стварэньні зусім новых тыпаў школ як па форме, так і па зьместу. Справа ў тым, што мы ўсю сыстэму народнае асьветы павінны рэорганізаваць. А што азначае рэорганізаваць сыстэму народнае асьветы ў першым яе зьвяне? Гэта значыць, што мы карэнным чынам павінны перабудаваць як зьмест нашае працы ў школе, так і мэтоды і формы організацыі гэтай працы.

У чым сутнасьць ФЗС і КС? Сутнасьць ФЗС і КС у тым, што даная сямігодка прымацоўваецца да конкрэтнае вытворчасьці ў тых мясцох, дзе ёсьць фабрыка ці завод, а ў тых мясцох, дзе няма такіх фабрык, а ёсьць тыпы комунальнае гаспадаркі—электрычная станцыя, вадаправод, млын і г. д., гэта школа прымацоўваецца да тыпу комунальнае гаспадаркі.

Тут можа паўстаць пытаньне: калі мы прымацуем школу да фабрыкі, заводу, электростанцыі, вадаправоду, трамваю і г. д., дык ці зьменіцца зьмест працы у данай школе? Ясна, што зьменіцца карэнным чынам, г. зн., што даная конкрэтная вытворчасьць павінна быць асновай усяе програмы, пачынаючы з першага да сёмага году навучаньня. Гэта значыць, што даная конкрэтная вытворчасьць павінна служыць стрыжнем для прапрацоўкі тых ці іншых тэм па асобных прадметах. Адсюль вынікае, што галоўнае ня толькі ў тым, каб прымацаваць школу да паасобных фабрык, але і зрабіць працу дзяцей вытворчай працай, каб яны ня толькі наглядалі той ці іншы вытворчы процэс, але і ўдзельнічалі ў гэтым вытворчым працэсе, каб яны працавалі ў гэтым цэху.

А для гэтай мэты мы павінны стварыць навучальны цэх для дзяцей, у якім дзеці павінны працаваць.

Гэты навучальны цэх павінен быць уключаны ў вытворчы плян фабрыкі, і ў гэтым цэху павінен быць організаваны ўвесь вытворчы процэс данай фабрыкі, прыстасаваны да пэдолёгічных асаблівасьцяй данага ўзросту. У тых прадпрыемствах, дзе нельга ў гэтым годзе стварыць такі цэх, дзеці павінны зьвязацца з цэхамі фабрыкі і ўдзельнічаць у тых вытворчых процэсах, якія адпавядаюць санітарна-гігіенічным умовам і правілам аховы дзіцячай працы.

Наша бяда ў тым, што мы да гэтага часу ня маем яшчэ норм дзіцячай працы ні ў сельскай гаспадарцы, ні на вытворчасьці. Мы ня ведаем, з пэдолёгічнага пункту погляду, які від работы падыходзіць для дзіцячай працы, які не, і дзецям якога ўзросту можна даручаць пэўны від работы. Гэтае пытаньне яшчэ ня вырашана.

Возьмем такое пытаньне, як пытаньне кіраўніцтва трактарам: якіх дзяцей па ўзросту мы можам дапусьціць да работы з трактарам? Ёсьць розныя думкі па гэтым пытаньні. Па думцы некаторых, да 14-гадовага ўзросту мы не павінны пускаць дзяцей на гэтую работу. Чым гэта тлумачыцца? Тым, што нашы навукова-дасьледчыя інстытуты гэтым пытаньнем не займаліся. У нас у Менску ёсьць інстытут аховы працы Ён займаецца living рознымі пытаньнямі псыхотэхнікі, а такое пытаньне, як дзіцячая праца, нават ня ўведзена ў плян працы інстытуту.

Гэта можна тлумачыць тым, што пытаньням політэхнізацыі нашы навуковыя ўстановы аддаюць малую ўвагу, а політэхнізацыя зьяўляецца адной з нашых галоўнейшых задач на даным этапе.

Разгледзім другое пытаньне, якое зьвязана з рэорганізацыяй. Калі вы возьмеце праграму нашых школ другога концэнтру (у выданьнях 1928 г. і часткова 1929 году), вы ўбачыце, што мы для другога концэнтру ўводзім цалкам прадметную сыстэму. На працягу амаль дзесяці год мы гаварылі аб комплексе ня толькі для першага концэнтру, але і для другога, аб тым, каб быў вызначаны выходны пункт, а цяпер вызначаны выходны вытворчы пункт, з якога кожны прадмет павінен выходзіць. А ў нас па ўсіх праграмах вызначаецца комплексная сыстэма. Гэта тлумачыцца тым, што кіраўніцтва і настаўнікі да канца году не прадумалі пытаньня, што такое комплексная сыстэма ў II концэнтры, што прадметы павінны быць падпарадкаваны пэўнаму вытворчаму выходнаму пункту.

Значыць, пытаньне рэорганізацыі ставіць рубам пытаньне перабудовы зьместу як фізыкі, хэміі, так і іншых прадметаў, каб яны былі падпарадкаваны толькі стрыжню вытворчасьці Перад намі зараз паўстае пытаньне аб мэтодах работы.

Скажэце, у якіх мясцох, за выключэньнем таго ці іншага выпадку, мы прынцыпова зацьвердзілі, што трэба раз назаўсёды падарваць карэньні таго анахронізму (як клясную форму, форму старой клясычнай гімназіі), якi яшчэ існуе і займае першае месца ў нашай школе.

У нас ужо ёсьць новыя формы—формы піонэрорганізацый, організацыі працы па прынцыпу брыгад, зьвеньняў.

Ці ўвялі мы ўсе гэтыя формы ва ўмовах нашых школ? На вялікі жаль, мы павінны адказаць на гэта пытаньне словам „не“.

Мы маем невялікую колькасьць школьных майстэрняў і павінны адзначыць, што гэтыя майстэрні нам амаль што нічога не даюць—то гэтыя майстэрні вузка-рамесьніцкія, то яны нам нічога не даюць у сэнсе політэхнізацыі, у сэнсе разуменьня вытворчых працэсаў.

Мы павінны адказаць, што майстэрні, якія існавалі да гэтага часу, у сэнсе ўразуменьня вытворчых працэсаў амаль нічога ня далі. Гэтыя майстэрні зьяўляюцца майстэрнямі рамесьніцкімі, і таму надалей такія майстэрні не павінны мець месца ў нашай школе. З гэтымі майстэрнямі мы павінны змагацца. Не такі тып майстэрняў нам патрэбен.

Калі мы возьмем нашу па зашкольную работу ў тым сэнсе, наколькі гэтая работа была зьвязана з пытаньнем політэхнізацыі школы, дык убачым, што ў нас, ня вялікі жаль, яшчэ няма нават падліку ўсяе работы. Тыя ж вёсткі, якія ёсьць аб школьных гуртках, паказваюць, што самае маленькае месца самую маленькую ўвагу ў гэтых гуртках аддаюць пытаньню політэхнізацыі.

Мы не завастрылі як сьлед пытаньня вынаходзтва сярод дзяцей, пытаньня разьвіцьця конструкцыйных здольнасьцяй дзяцей. Мы амаль ня ставілі перад сабою гэтых пытаньняў.

Калі мы цяпер ставім пытаньне аб рэорганізацыі нашых школ, гэта значыць, мы павінны перабудаваць усю работу такім чынам, каб яна была падпарадкавана цалкам пэўнай конкрэтнай вытворчасьці.

Што мы маем на справе з боку нашых гаспадарнікаў? Мы маем такія адносіны: прымацаваць да заводу?—нічога супроць ня маем. Але калі ставіцца пытаньне аб тым, каб ня толькі прымацаваць, але і даць магчымасьць тэй школе, якая прымацавана, удзельнічаць у вытворчым працэсе работы, каб, пачынаючы з 5-й групы, організаваць вытворчую практыку дзяцей на даным заводзе, калі мы патрабуем, каб завод распачаў організацыю майстэрняў, лябораторый для школы, бо гэта справа ня толькі школы, але і справа заводу, фабрыкі, дык тады яны адказваюць:—бачыце, мы гэтага ў наш вытворчы плян ня ўключылі.

Таму мы патрабуем, каб гаспадарчыя ўстановы ў свой прамфінплян уключылі ФЗС і КС, каб яны гэта мелі на ўвазе. Мы гэтых патрабаваньняў даб'емся. Той гаспадарнік, які ня ўлічвае, наколькі ФЗС зьяўляецца гаспадарча-эфэктыўнай, той дрэнны гаспадарнік, бо па некаторых лічбах, якія мы маем, даведзена, што чым больш мы рыхтуем рабочага ў дзіцячыя гады, тым больш эфэкту ён дае потым як рабочы ф-кі. Значыць, пытаньне ФЗС ня толькі пытаньне НКАсьветы,

але і гаспадарчае, выгоднае пытаньне для ВСНГ. Дрэнны і той гаспадарнік, які ня бачыць далей свайго носа, які думае, што ФЗВ для яго штонебудзь значыць, а ФЗС—нічога.

Раз назаўсёды гаспадарнік павінен памятаць, што бяз ФЗС мы ня будзем мець належных рабочых кадраў, і таму гэта справа выгодная і для гаспадарчых устаноў. Я думаю, што кіраўніцтва ВСНГ дасьць сваю згоду, каб уключыць ФЗС у вытворчы плян данага прадпрыемства. Але гэтага мала. Калі мы гаворым аб рэарганізацыі, мы патрабуем, каб пры фабрыках і заводах былі арганізаваны сцэцыяльныя навучальныя цэхі для 5-7 груп.

Тут пытаньне ставіцца вось як: не заўсёды магчыма пусьціць дзяцей у цэхі данай прамысловасьці. Тут гаспадарнікі заяўляюць, што ім трэба выконваць прамфінплян, а дзеці будуць перашкаджаць ім у рабоце. Таму мы ставім пытаньне, каб зараз жа, з гэтага году, ВСНГ у сваіх вытворчых плянах вызначыў такія мерапрыемствы, якія-б далі магчымасьць арганізаваць спэцыяльныя навучальныя цэхі. Але ў тых выпадках, калі гэта немагчыма, калі ў даных умовах гэтага зрабіць нельга, мы павінны пайсьці на тое, каб дзеці адбылі сваю вытворчую практыку на даным заводзе, у цэхах заводу.

Побач з гэтым, мы высоўваем пытаньне організацыі майстэрняў, ня тых рамесьніцкіх майстэрняў, якія былі да гэтага часу; супроць гэтых майстэрняў мы выступаем катэгорычна, мы заяўляем, што гэтыя майстэрні ня маюць ніякай сувязі з політэхнізмам; нам патрэбны майстэрні-лябораторыі, якія былі-б уключаны ў гаспадарчы плян данай вытворчасьці.

Для таго, каб зрабіць вытворчую працу дзяцей больш эфэктыўнай, перш чым пасылаць на завод, патрэбны майстэрні-лябораторыі, у якіх дзеці працуюць і набываюць неабходныя тэхнолёгічныя і тэхнічныя веды.

Майстэрні павінны быць двух тыпаў: I тып, дзе дзіця можа ўдзельнічаць у жывым процэсе, знаёміцца з мэтодам апрацоўкі матар'ялу: мэханічным мэтодам апрацоўкі матар'ялу, хэмічным мэтодам, а таксама з формамі скарыстаньня энэргіі і мэтодам стварэньня органічных рэчаў. Значыць, мы павінны організаваць такія майстэрні, дзе дзеці маглі-б знаёміцца з асноўнымі мэтодамі апрацоўкі матар'ялаў. Але, акрамя таго, павінен быць і іншы тып майстэрняў—так званая майстэрня мёртвага інвэнтару, дзе былі-б разборныя машыны, разборныя модэлі, каб дзеці знаёміліся ня толькі з вытворчасьцю праз майстэрнюлябораторыю, а і з паасобнымі часткамі данай машыны, варштатаў, рухавікоў і г. д.

Тут таксама мы павінны біць тых, што спасылаюцца на „об'ектыўныя прычыны" і гавораць, што мы ня можам прыступіць да політэхнізацыі школ, ня можам прыступіць да прымацаваньня школ да вытворчасьці, бо ёсьць об'ектыўныя прычыны, што перашкаджаюць гэтаму. Няма об'ектыўных прычын, а ёсьць суб'ектыўныя прычыны: ненастойлівасьць, нежаданьне праводзіць гэтую работу. Вось як ставіцца пытатаньне.

Але ў нас ёсьць і першы концэнтр. Што мы павінны зрабіць з першым концэнтрам? Дзяцей I концэнтру пусьціць ужо на фабрыку, каб яны ўдзельнічалі ў вытворчым процэсе, пакуль што ў большасьці выпадкаў нельга.

Для гэтага мы павінны зрабіць вось што: у ФЗС мы павінны організаваць рабочы пакой, дзе-б нашы дзеці знаёміліся з тэхнікай, з прымітыўнай апрацоўкай як дрэва, так і мэталю і г. д.

Але гэта будзе магчыма ў сьценах рабочага пакою ці ў майстэрні, якая будзе прыстасавана да гэтага ўзросту.

У рабочым пакоі шматкомплектавых школ, дзе магчыма адводзіць спэцыяльны пакой, там неабходна гэта зрабіць. У гэтым пакоі павінны быць сконцэнтраваны розныя матар'ялы, інструманты, шэраг прылад для вырабу розных конструкцыйных рэчаў, тэхнічных модэляй, павінны быць прымітыўныя прылады для тэхнолёгічных вымераў.

У гэтых пакоях можна організаваць куткі па электрычнасьці, каб старэйшыя групы знаёміліся са скарыстаньнем энэргетыкі, праводкай электрычнасьці, тэлефону, пабудовай модэляй розных машын, варштатаў. Як матар'ял, можна

скарыстаць паперу, картон, будаўнічыя матар'ялы, мэталь, мануфактуру і інш. Рабочы пакой адчынены ў пэўныя дні для паасобных груп і зьвеньняў на пэўны час. Праца ў вытворчым пакоі павінна быць вытворчай.

Праз вытворчую дзейнасьць дзеці павінны вывучаць тэхнічныя асаблівасьці розных матар'ялаў, тэхніку іх апрацоўкі, навучацца карыстацца інструмантамі, варштатамі, машынамі, рухавіком, якія даступны для гэтага ўзросту.

Праца дзяцей павінна быць політэхнічнай, г. значыць, яна павінна:

1) адпавядаць дзіцячай сіле як у сэнсе фізычным, гэтак і псыхічным;

2) дапамагаць разьвіцьцю дзіцячых конструкцыйных здольнасьцяй і винаходзтва;

3) даць разуменьне аб асноўным, што характэрна для цэлага шэрагу вытворчасьцяй;

4) знаёміць з рознымі матар'яламі, іх тэхнолёгічнымі ўласьцівасьцямі, інструмантамі, машынамі;

5) знаёміць дзяцей з біо-хэмічнымі процэсамі ў сельскай гаспадарцы;

6) выхоўваць комуністычныя адносіны да працы, навучаць правільным прыёмам у організацыі працы;

7) знаёміць з прынцыпамі працы на заводзе, фабрыцы і г. д.

Толькі такім чынам мы зможам распачаць політэхнізацыю школы з 1 концэнтру. Ва ўмовах аднакомплектавых школ, рабочы пакой ў пэўныя гадзіны дню зьмяшчаецца ў тым жа навучальном пакоі. Дзеці працуюць у розных гуртках, праводзяць досьледы па тэхнолёгіі мэталяў, разьбіраюць і зьбіраюць модэлі. Тут павінны быць скарыстаны такія прылады, як „Конструктар", „Піонэр", якія спэцыяльна створаны для таго, каб даць магчымасьць разьвіваць конструкцыйныя здольнасьці дзяцей. Гэтыя мерапрыемствы мы павінны больш скарыстоўваць у нашых умовах у I концэнтры.

Акрамя таго, у I концэнтры трэба праводзіць экскурсіі на вытворчасьць у сувязі з вывучэньнем тых ці іншых комплексных тэм, а ў некаторых выпадках магчымы ўдзел дзяцей у працы фабрыкі, калі ёсьць адпаведныя ўмовы.

Што датычыцца комунальнай сямігодкі, дык яна будуецца на тых жа прынцыпах, што і ФЗС. Але калі ФЗС за аснову бярэ фабрыку альбо завод, дык тут за аснову бярэцца комунальны тып гаспадаркі, тып мэханізаванай арцелі.

Такія арцелі ёсьць у многіх мястэчках, яны праз 1-2 гады перарастуць у дзяржаўныя фабрыкі. Да гэтых арцеляй мы прымацоўваем школы на такіх жа ўмовах, як да фабрык, але гэтага мала. Мы патрабуем яшчэ аднаго: нам ня'толькі важна тое, што мы атрымлізаем ад фабрыкі, але мы павінны і ёй нешта даць. Вось так стаіць пытаньне. Мы зьяўляемся ня толькі гледачамі, але і ўдзельнікамі ў рабоце гэтай фабрыкі. Таму мы ставім пытаньне так, што ніводная школа не распачынае работы, пакуль ня будзе мець пляну, ня толькі агульна-грамадзкага, як мы да гэтага часу рабілі, але і навучальнага пляну, пакуль плян ня пройдзе праз вытворчую нараду. Мы павінны прыцягнуць да працы рабочых данай фабрыкі. Няхай рабочыя ўдзельнічаюць у распрацоўцы мэтодычных пытаньняў. Ня трэба палохацца таго, што рабочыя мэтодычна не падрыхтаваны. Рабочыя ня толькі зразумеюць, але і дадуць цэлы шэраг практычных паказаньняў. Тыя школы, якія прыцягнулі рабочых да гэтай працы, маюць належныя вынікі.

Гэты плян павінен прайсьці і праз фабзаўком.

Ёсьць адна тэндэнцыя, памойму, шкодная тэндэнцыя, якая заключаецца ў тым, што мы пры політэхнізацыі школы выходзім ня з вытворчага абкружэньня, а з таго, чым займаюцца бацькі дзяцей. Напрыклад, у якім-небудзь мястэчку ёсьць фабрыка і завод, дзе мы можам стварыць ФЗС, але ў гэтай школе ў большасьці вучацца дзеці саматужнікаў, і інспэктар адказвае, што стварыць фабрычна-заводзкую сямігодку немагчыма, бо няма дзяцей рабочых.

Гэта шкодная тэндэнцыя, бо мы будуем політэхнізацыю школы не на падставе пашпарту бацькоў, а на падставе вытворчага абкружэньня і соцыяльна-экономічных адносін, у якіх знаходзіцца даная школа. Пакуль інспэктар гэтага не зразумее, нічога ня будзе.

Трэба прымаць пад увагу вытворчае абкружэньне. Калі ў гэтай мясцовасьці ёсьць колгаснае асяродзьдзе, дык мы будзем мець школу колгаснай моладзі, калі комунальнае,—школу КС, калі фабрычна-заводзкае,—ФЗ.

Мы павінны правесьці політэхнізацыю ня толькі ва ўмовах гораду, але і ва ўмовах вёскі. У тых мясцох, дзе ёсьць колгасы, мы павінны рэорганізаваць сямігодкі ў школы колгаснай моладзі, каб вучні маглі ўдзельнічаць у рабоце данага колгасу. У вытворчай рабоце данага колгасу могуць удзельнічаць і дзеці I концэнтру, але тут мы павінны ведаць, якую работу можна даць дзецям I концэнтру і дзецям II концэнтру.

Акрамя таго, мы павінны паставіць пытаньне аб тым, каб I концэнтр ШСМ раз назаўсёды выканаў паказаньні аб агрономізацыі школы. Такое паказаньне да гэтага часу ня выканана, ня гледзячы на тое, што агрономізацыя школы зьяўляецца органічнай часткай політэхнізацыі. Агрономізацыя—гэта ня толькі практычны ўдзел у сельска-гаспадарчай рабоце. Агрономізацыя зьвязана цалкам з пытаньнем грамадзка-карыснай працы, зьвязана з мэтодам проектаў. Ва ўмовах вёскі мы павінны паставіць мэтоды проектаў такім чынам, каб дзеці правялі шэраг новых досьледаў над новымі культурамі, над паляпшэньнем жывёлагадоўлі, птушніцтва і інш.

Акрамя агрономізацыі школы, ў масавай школе I концэнтру і вясковай школе, трэба ставіць пытаньне аб працоўным пакоі па прынцыпу ФЗС. Тут паўставе пытаньне: як быць з аднакомплектавай школай? Я лічу, што і ў гэтых выпадках організацыя працоўнага пакою можа быць праведзена, бо там мы можам організаваць усю работу ў адным пакоі і для ўсіх чатырох груп у адзін час.

Адсюль вынікае адно з асноўных пытаньняў, якое мы павінны зараз вырашыць,—гэта пытаньне аб бесьперапынным навучальным годзе. Вы ведаеце, што да гэтага часу мы яшчэ не паставілі належным чынам пытаньня пра бесьперапынны навучальны год. А мы павінны яго паставіць таму, што ФЗС, апрача сваё работы на заводзе і ўдзелу ў грамадзкай працы, павінны знаёміцца з асновамі агрономіі, а гэта мы зможам організаваць толькі тады, калі і ў нас будзе бесьперапынны навучальны год. Гэтую работу мы зможам організаваць толькі тады, калі ФЗС выйдзе на пэўны час у вёску, каб папрацаваць там у колгасе ці саўгасе. Інакш мы пытаньня аб „асновах агрономіі“ вырашыць ня зможам. Тое-ж самае і з вясковымі школамі, якія павінны выяжджаць у бліжэйшы горад для таго, каб знаёміцца там з гарадзкой індустрыяй.

Як быць са школамі ў тых мясцох, дзе няма ні колгасу, ні саўгасу, ні фабрыкі, ні заводу? Ці можна ў гэтых мясцох гаварыць аб політэхнізацыі школы? Мы павінны сказаць, што ў гэтых мясцох політэхнізацыя школы зьяўляецца патрэбнай справай; для гэтага трэба выканаць пастанову II партыйнай нарады аб стварэньні раённых мэханізаваных майстэрняў, якія-б маглі абслугоўваць такія раёны, прапускаць дзяцей праз перасовачныя тэхнічныя пункты. Гэта можна зрабіць пры належнай організацыі нашых перасовачных тэхнічных пунктаў пры раённай мэханізаванай майстэрні Мы зараз ставім пытаньне перад Саўнаркомам аб тым, каб Усебеларуская сельска-гаспадарчая выстаўка была ў будучымператворана ў політэхнічны перасовачны музэй. Я лічу, што гэта пытаньне будзе належным чынам вырашана, і што ў будучым выстаўка будзе перароблена пад політэхнічны музэй. Тады нам будзе лёгка організаваць і вырашыць пытаньні перасовачных тэхнічных пунктаў для тых раёнаў, дзе гэта будзе магчыма, і ў тых раёнах мы павінны скарыстаць усю тую вытворчасьць, што ёсьць, для прымацаваньня школы да вытворчасьці.

На жаль, ва ўмовах БССР у нас слаба пашыраны і тэхнічныя і агротэхнічныя станцыі. Пытаньне ставіцца аб тым, каб зараз у кожным раёне організаваць гэтыя станцыі. Тады мы зможам зрабіць такія перасовачныя пункты, якія маглі-б задаволіць, хоць ня поўнасьцю, патрабаваньне азнаямленьня з тэхнікай. Але зводзіць політэхнізацыю толькі да знаёмства з тэхнікай мы лічым немагчымым, бо, акрамя азнаямленьня з тэхнікай

як гарадзкія школы, так і вясковыя павінны знаёміцца з організацыяй работы шляхам выездаў ў колгасы альбо саўгасы. Вясковыя школы павінны час ад часу, па пэўнаму пляну, выжджаць на вытворчасьць для азнаямленьня з індустрыяй. Мы ня будзем мець яшчэ разгорнутай політэхнічнай школы, але гэта будзе першым крокам, які дапаможа ў далейшай рабоце.

Аднэй з труднасьцяй політэхнізацыі школы зьяўляецца політэхнічнае абсталяваньне. Калі вы возьмеце такое пытаньне, як пытаньне аб мэблі для нашай політэхнічнай школы, то мы павінны адкрыта сказаць, што ўсе проекты нашых інжынэраў у адносінах да нашых якол 7-годак і 4-хгодак ніколі ня былі разьлічаны на політэхнічную школу. Яны ў сваёй рабоце выходзілі з таго, што памяшканьні трэба прыстасаваць для заняткаў, для лекцый, але ня ўлічвалі таго, што мы павінны організаваць яшчэ майстэрні (ляборыторыі, працоўныя пакоі і г. д.). Аб гэтым нашы інжынэры ніколі ня думалі, і ў нас няма зараз ні мэблі для нашай політэхнічнай школы, ні памяшканьняў. Апрача таго, мы ня маем ніводнага выпрацаванага тыпу мадэляй, варштатаў, машын, рухавікоў і інш. для політэхнічнай школы, ня кажучы ўжо аб тым, што ў нас павінна быць вырашана пытаньне аб стварэньні цацак для нашай політэхнічнай школы і дзіцячых садоў.

Мы самі ў БССР таксама павінны будаваць такія фабрыкі, якія-б займаліся гэтымі пытаньнямі. Я ведаю, як ВСНГ глядзіць на гэта, але мы лічым, што гэтую справу неабходна зараз-жа вырашыць. Вось, напрыклад, у Менску ёсьць фабрыка цацак, але што робіць гэтая фабрыка цацак? Калі-б вы паглядзелі тыя шаблёны, якія выпускаюцца гэтай фабрыкай цацак, дык убачылі-б, што яны ня толькі недапушчальны, але нават зьяўляюцца шкоднымі.

Мы ставім пытаньне перад ВСНГ аб пераводзе гэтай фабрыкі цацак на такую працу, каб яна вырабляла цацкі тыпу „Конструктара", „Піонэра", тыпу політэхнічнай цацкі. Я лічу, што гэтага мы ад ВСНГ даб'емся, і ВСНГ пойдзе насустрач нам у гэтых нашых запатрабаваньнях. У нас няма ніводнай фабрыкі, якая-б вырабляла тып стандартнай мэблі, прыстасаванай для нашай політэхнічнай школы. Мы павінны рашуча ставіць пытаньне перад ВСНГ аб тым, каб адзін з заводаў працаваў спэцыяльна па выпуску стандартнага абсталяваньня для нашай школы, і скарыстаць іншыя цэхі заводаў па выпрацоўцы стандартных варштатаў, машын і інш. для політэхнічнай школы.

Ёсьць яшчэ адна труднасьць, якую трэба перамагчы пры вырашэньні пытаньня політэхнізацыі школы. Гэта—проблема пэдагогічных кадраў. Без пэдагогічных кадраў мы ня можам у належнай меры правесьці політэхнізацыю нашай школы. Вось на гэтым пытаньні я тут і спынюся. Памойму, гэтае пытаньне трэба паставіць перад тымі заводамі, прадпрыемствамі, да якіх прымацаваны школы, каб яны ўключылі ў свой плян працы вытворчую практыку настаўніцтва з тым, аднак, каб на аснове практыкі вывучыць і тэорытычны курс „уступ у даную вытворчасьць". Гэта першае. Другое—нашы пэдтэхнікумы, якія рыхтуюць настаўніцтва для I концэнтру, павінны быць прыстасаваны і тыпізаваны па ўзору індустрыяльна-пэдагогічных і агро-пэдагогічных інстытутаў; тое-ж самае з пэдінстытутам і пэдфакам. Але гэтага мала. Без дапамогі саміх рабочых і іх брыгад мы пытаньня політэхнізацыі ня вырашым. Таму мы лічым патрэбным, каб для кіраўніцтва ШКМ, ФЗС, КС, вытворчай практыкай дзяцей, майстэрнямі былі высунуты рабочыя высокай кваліфікацыі, лепшыя батракі, якія ведаюць тую ці іншую работу. Мы павінны прыцягнуць іх, каб яны кіравалі ўсёй працай. Акрамя таго, мы павінны прыцягнуць да гэтай справы інжынэраў, тэхнікаў, агрономаў.

Я перайду да апошняй часткі дакладу, да пытаньня аб тым, якімі мэтодамі мы павінны політэхнізаваць нашы школы.

Асноўным павінен быць мэтод організацыі масавага руху вакол пытаньня політэхнізацыі школы. Што гэта азначае? Гэта—пытаньне аб стварэньні адзінага пляну для ўсіх організацый. Перада мною ляжыць вельмі цікавы дакумант.

Гэта першы пачатак у БССР заключэньня ўмоў па політэхнізацыі школы. Добрускі раён заключыў дагавор паміж усімі організацыямі па політэхнізацыі школы. І вось тут ёсьць умова, вельмі характэрная ўмова як сваімі адмоўнымі, так і станоўчымі бакамі. Тут гаворыцца аб тым, што павінна зрабіць заводакіраўніцтва фабрыкі, інжынэрна-тэхнічны пэрсонал, фабрычны комітэт для політэхнізацыі школ. Я зачытаю некалькі пунктаў гэтай ўмовы. „Заводакіраўніцтва фабрыкі павінна даць магчымасьць працаваць вучням ФЗС у цэхах фабрык, як у мэханічных майстэрнях для вывучэньня мэталю, так і ў асноўных цэхах фабрык, паставіўшы гэту працу на правох навучальнай вытворчасьці цэху—фабрыкі“. Гэта бярэ на сябе фабрычна-заводзкае кіраўніцтва Добрушу. Далей: „забясьпечыць працу ў цэху належным кваліфікаваным кіраўніцтвам і матар'ялам.“

Гэты дагавор можа стаць прыкладам таго, як мы павінны прыступаць да організацыі дагавароў па політэхнізацыі нашых школ.

У чым недахоп гэтага дагавору? Асноўны недахоп у тым, што тут няма контрольных лічбаў. Што дае фабрыка—колькі грошай, якія матар'ялы? Чым гэта тлумачыцца? Тым, што фабрыкі і заводы да гэтага часу не атрымалі дырэктыў аб гэтым з боку ВСНГ. Тав. Вольскаму, які заключыў гэты дагавор, прышлося доўга ўгаварваць работнікаў фабрык і заводаў для таго, каб яны далі на гэта згоду. Але ўсё-ж такі пачатак у гэтай справе зроблены. Мы ўжо маем дагаворы паміж фабрыкай і ФЗС, але ў нас няма раённых дагавароў для ўсіх астатніх школ раёну. Колгасцэнтр ня цікавіцца гэтым пытаньнем. Мы павінны зараз жа прыступіць да вырашэньня пытаньня політэхнізацыі школ. Мэтод адзінага пляну ў гэтай рабоце павінен быць асноўным мэтодам. Да гэтага мы павінны прыцягнуць фабрыкі, заводы і інжынэрна-тэхнічныя сэкцыі. На жаль, мы да гэтага часу ня чулі голасу інжынэрна-тэхнічнай сэкцыі, мы ня ведаем, якія іх адносіны да тых запатрабаваньняў, што мы высоўваем тут на сёньняшні дзень.

Акрамя заключэньня ўмоў, нам патрэбна стварыць масавы рух вакол пытаньня політэхнізму. Вы ведаеце той загад, які дадзены піонэрскай організацыі. На вялікі жаль, мы да сёньняшняга дню, як належыць, не азнаёмілі з гэтым пытаньнем саміх дзяцей. Мы не паставілі належным чынам гэтага пытаньня сярод рабочых, каб яны ведалі, што пытаньне політэхнізацыі школ - гэта важнае пытаньне. Мы не паставілі на інжынэрна-тэхнічнай сэкцыі пытаньня аб сутнасьці політэхнічнай школы.

Пасьля сканчэньня зьезду мы павінны, у зьвязку з агульным культурным паходам, абвясьціць політэхнічны паход, паход за політэхнізацыю школ.

У нас у Беларусі ня ўжываюцца тыя новыя формы, якія ёсьць у нашых рэспубліках. Напрыклад, пытаньне культэстафэты. Мы гэтага ва ўмовах БССР ня маем. Мы павінны па гэтым пытаньні сказаць сваё рашучае слова, што комсамол павінен гэтым кіраваць. Трэба абвясьціць політэхнічны паход, выходзячы з тых мэтодаў, якія паказаны ў тэзісах, вакол гэтага трэба стварыць грамадзкую думку, вакол гэтага мобілізаваць усіх, бо пытаньне політэхнізацыі школ датычыцца ня толькі аднаго настаўніцтва, але і ўсяе грамадзкасьці.

Політэхнічны паход павінен стаць ня толькі кампанейскай справай, а і грунтам, выходзячы з якога мы павінны да канца пяцігодкі цалкам політэхнізаваць усю сыстэму народнай асьветы.

І яшчэ адно. Дзеля таго, каб цалкам політэхнізаваць нашу школу да канца пяцігодкі, мы павінны ўжо ўгэтым годзе распрацаваць контрольныя лічбы аб політэхнізацыі нашых школ.

Як скласьці гэтыя лічбы? Як распачаць працу? Вось такія дагаворы, якія будуць заключаны сёньня ці заўтра паміж усімі організацыямі, павінны ўлічыць тыя контрольныя лічбы, якія патрэбны для школы. Але чакаць гэтых контрольных лічбаў зьверху я лічу зусім немэтазгодным. Мы павінны выступіць са сваім сустрэчным прамфінплянам. Мы павінны адзначыць, што нам неабходна, якое абсталяваньне нам патрэбна, што закупіць, дзе набыць сродкі. Такі сустрэчны плян павінна зараз скласьці кожная школа.

І побач з гэтым мы павінны адзначыць, што стварэньне ФЗС цалкам зьвязана са стварэньем фабрычна-заводзкага вучнёўства і колгасвучнёўства, як кіруючых зьвеньняў у справе політэхнізацыі нашых школ. Бяз гэтага мы ня можам належным чынам політэхнізаваць усю нашу работу.

Калі мы пяройдзем на такія рэйкі, а гэтыя рэйкі павінны быць такімі, то мы ўжо цяпер з гэтага году павінны абвясьціць, побач з політэхнічным паходам, і конкурс на лепшую політэхнічную школу, конкурс на лепшы завод, які-б найлепшым чынам дапамагаў політэхнізацыі нашых школ.

Мы павінны ўключыць у мэтод нашае работы пытаньне грамадзкага буксіру, узяць на агульны грамадзкі буксір тыя заводы і школы, якія да гэтага часу не распачалі справы політэхнізацыі.

Такім мэтодам, і толькі такім, мы зможам сапраўды політэхнізаваць нашу школу і зможам сапраўды распачаць організацыю новай школы з новым зьместам. Побач з гэтым мы павінны паставіць пытаньне барацьбы на два фронты.

Вы ведаеце, што цяпер, у сувязі з політэхнізацыяй школы, мы маем шэраг небясьпечных ухілаў у справе політэхнізацыі. Гэта, з аднаго боку, ухіл шматрамесьніцтва, а з другога,—ухіл у бок славеснай, начотніцкай школы і вузкарамесьніцтва.

Мы павінны змагацца з гэтымі ўхіламі і толькі пад кіраўніцтвам партыі, калі мы пойдзем такім шляхам, мы ўжо ў гэтым годзе распачнем пабудову сапраўды політэхнічнай школы.

## Політэхнізацыя школы і задачы профсаюзаў

*Даклад т. КЛІМКОВІЧА*

Наш зьезд сабраўся ў вельмі адказны момант, калі ўсе сілы савецкай грамадзкасьці трэба мобілізаваць на працу па ажыцьцяўленьню социялістычнага, у тым ліку і культурнага будаўніцтва. Зьезд адзначае другую рэволюцыю ў народнай асьвеце. Першую рэволюцыю ў справе народнае асьветы зрабіў Кастрычнік, калі нашы школы, якія раней былі зброяй клясавага прыгнечаньня, пасьля Кастрычніка сталі зброяй клясавае барацьбы пролетарыяту супроць буржуазіі. Тады мы паставілі перад школамі мэту—выхоўваць барацьбітоў за социялізм, але форму навучаньня мы зламаць не змаглі і толькі зараз мы зможам даць пролетарскай школе па зьместу пролетарскую форму навучаньня. Я ня лічу патрэбным паўтараць асноўныя думкі папярэдніх дакладчыкаў аб сутнасьці політэхнізацыі. я з імі цалкам згодзен. Я хочу застанавіцца на пытаньні аб месцы профсаюзаў у політэхнізацыі школы.

У пытаньні народнае асьветы профэсіянальныя організацыі наогул прымалі доўгі час слабы ўдзел. У гэтым знайшло свой адбітак праваопортуністычнае кіраўніцтва профработай у мінулым. Профорганы не разумелі таго, што барацьба за культурную рэволюцыю зьяўляецца асноўнай задачай профорганізацыі. Цэхаўшчына і ведамсьцевыя перагародкі, якія існавалі паміж асобнымі ўстановамі, што вядуць культработу, адсутнасьць узаемнай увязкі і дапамогі мелі свой уплыў і на справу будаўніцтва школы. Зразумела, нельга гэтага сказаць аб усіх профсаюзах наогул, тым часам як многія профработнікі, выступаючы з дакладамі аб працы профорганізацый, заяўлялі, што ўся папярэдняя работа профорганізацый зьяўляецца цалкам опортуністычнай. Гэта няправільна. У жыцьці профорганізацыі былі розныя этапы: ваенны комунізм, аднаўленьне нашай прамысловасьці і інш., і на кожным этапе профорганізацыі мелі свае мэтоды работы і свае посьпехі.

У пэрыод рэконструкцыі ўсяе нашай прамысловасьці, колектывізацыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як

клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, калі задачы профорганізацыі значна ўскладніліся, калі профсаюзы павінны былі стаць сапраўднай школай кіраваньня прамысловасьцю, а затым паступова і сельскай гаспадаркаю, калі яны павінны былі організаваць і павесьці ў бой усе рабочыя масы, выявіліся значныя праваопортуністычныя хістаньні, памылкі і ў профсаюзным кіраўніцтве. Партыя рашуча ўдарыла па трэд'юніонізму, праваму опортунізму і бюрократызму ў профрабоце. Партыя і надалей будзе рашуча змагацца з падобнымі зьявішчамі і патрабаваць, каб профорганізацыі былі сапраўднымі правадырамі ў барацьбе рабочых за соцыялізм.

Профорганізацыі зьверху данізу павінны прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, і толькі тады яны выканаюць сваю ролю. Вось чаму непатрэбна даводзіць, што політэхнізацыя школы можа быць праведзена толькі пры ўдзеле профорганізацый і мобілізацыі працоўных мас усяе краіны. Вось чаму непатрэбна даводзіць і таго, што профсаюзы павінны зрабіць справу політэхнізацыі школы сваёй кроўнай справай.

Што павінны рабіць профорганізацыі ў справе політэхнізацыі? Яны павінны ў першую чаргу давесьці кожнага рабочага да разуменьня аб значэньні і неабходнасьці політэхнізацыі школы, а ў нас ёсьць ужо такія выпадкі, калі профсаюзныя работнікі самі не разумеюць важнасьці політэхнізацыі асьветы і адносяцца да гэтай справы вельмі няўважліва. Некаторыя ФЗМК „умудрыліся“ паставіць даклад аб політэхнізацыі школы на агульных рабочых сходах пасьля дакладу аб прамфінпляне, у бягучых справах. Мы павінны даць рашучы адпор падобнай опортуністычнай недаацэнцы політэхнічнай асьветы. Зараз жа трэба абавязкова прымацаваць школы да заводаў і саўгасаў, зьвязваючы пытаньне політэхнізацыі школы са справай усеагульнага пачатковага навучаньня і ліквідацыі няпісьменнасьці. Для популярызацыі ідэй політэхнізму профсаюзы павінны скарыстаць усе свае формы работы: сходы рабочых, шматтыражкі, насьценгазэты, вечары, афяраваныя гэтаму пытаньню, гутаркі ў час абедзенага перапынку, лекцыі і г. д. Трэба організаваць спэцыяльную работу з кваліфікаванымі рабочымі, каб навучаць іх мэтодыцы работы з дзяцьмі.

Аднэй з форм популярызацыі і замацаваньня ідэі політэхнізму будуць даклады на пленуме фабкому, на рабочым сходзе, прыкладна, адзін раз у тры месяцы: як ідзе работа, якія ёсьць недахопы. У гэтай справе значна дапаможа таксама і выстаўка школы па гэтым пытаньні. Трэба дабіцца таго, каб рабочыя зразумелі гэтую справу, каб рабочыя, прапрацоўваючы прамфінплян, уключылі ў яго і выдаткі на політэхнізацыю, каб прапановы рабочых аб політэхнізацыі ня гінулі без карысьці. Трэба ўвязаць школу з прадпрыемствамі ня толькі па лініі політэхнізацыі, але і па лініі ўсяе культурнай працы школы (гурткі, шэфства, брыгады, курсы і г. д.). Такая ўвязка забясьпечыць увагу і практычны ўдзел профсаюзаў у справе політэхнізацыі. З другога боку, школа павінна ведаць прамфінплян заводу, яна абгаварвае яго, дапамагае організаваць сустрэчны прамфінплян, яна павінна ведаць, як выконваецца прамфінплян, якія ёсьць прарывы, і дапамагчы ліквідаваць іх. Школа павінна ведаць, як ідзе соцспаборніцтва на заводзе, і дапамагаць яго разгортваньню. Школа організуе дапамогу профэсіянальным організацыям заводу па абслугоўваньню ўдарнікаў прадпрыемства, па паляпшэньню працы чырвонага кутка і г. д. Завод у сваю чаргу павінен ведаць, як ідзе выкананьне вучэбных плянаў, забясьпечваць пабудову майстэрняў і лябораторый, уключаць школу ў свой прамфінплян, ствараць пэўны фонд на школьныя патрэбы. Сродкі для гэтага фонду чэрпаюцца ня толькі з ФУБР'у, але і з культфондаў фабзаўмясцкомаў, спэцыяльна організаваных профорганізацыямі і адміністрацыяй. Завод павінен назіраць за станам школы і своечасова організаваць рамонт яе ці дапамогу ў рамонце сіламі рабочых, забясьпечваючы своечасовы пачатак заняткаў. Завод павінен дабіцца ад коопэрацыі забесьпячэньня школы гарачымі сьнеданьнямі, апалам і г. д. Шмат чаго могуць зрабіць профэсіянальныя

організацыі заводу пры правільнай пастаноўцы справы.

Профэсіянальныя організацыі павінны зараз жа правесьці растлумачальную працу сярод рабочых, каб з іх боку ня было грубых адносін да вучняў, якія будуць праводзіць практыку на фабрыцы, павінны дапамагчы справе „тэхнізацыі" настаўніцтва школы.

На гэтую справу трэба адшукаць сродкі, хаця-б за кошт скарачэньня іншых выдаткаў профсаюзаў.

Фабрычна-заводзкі комітэт павінен сачыць за ўцягненьнем дзяцей у піонэрорганізацыю, дапамагаць у працы форпосту; дапамога павінна быць і матар'яльнай, у тым ліку і на выхад піонэраў у лягеры. Гэтым не абмяжоўваецца тая дапамога, якую павінны аказваць профэсіянальныя організацыі школе. У нашых тэзісах ёсьць шмат конкрэтных прапаноў па гэтай працы. Трэба асабліва падкрэсьліць работу профсаюзаў па арабочваньню нашых пэдВНУ і пэдтэхнікумаў; гэта справа набывае вялізарнае значэньне, і нашы профорганізацыі павінны зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу.

Ад інжынэрна-тэхнічнай сэкцыі мы патрабуем вялікае дапамогі ў справе політэхнізацыі. Інжынэр і тэхнік павінны ведаць, што такое політэхнічная школа, на іх ускладаецца кіраўніцтва вытворчай практыкай вучняў, яны павінны азнаёміць настаўніцтва з процэсамі вытворчасьці.

Пару слоў аб політэхнізацыі вясковай школы. У тых вёсках, дзе ёсьць заводы, справа куды лягчэй. Там жа, дзе іх няма, неабходна вытворчым саюзам узяць шэфства над школамі, прыцягнуць 25-тысячнікаў да працы школы, даваць заданьні рабочым брыгадам, якія выяжджаюць на вёску, організаваць прыезд у фабрычна-заводзкія сямігодкі вучняў вясковых школ, дапамагчы ім грашовымі сродкамі.

Такім чынам, напружанай работай усіх організацый мы зможам пабудаваць новую політэхнічную школу, соцыялістычнымі тэмпамі забясьпечыць падрыхтоўку тэхнічных кадраў і кадраў кваліфікаваных рабочых у масавым маштабе, забясьпечыць выхаваньне новага чалавека, усебакова політэхнічна разьвітага, адданага справе будаўніцтва соцыялізму.

# З ВЫСТУПЛЕНЬНЯЎ ПА ДАКЛАДАХ

Шчарбакоў

## Пытаньні політэхнізму ў сувязі з агульнымі проблемамі культурнай рэволюцыі

Уся сутнасьць, увесь зьмест політэхнізацыі школ і політэхнізму наогул закранаюць усе галіны нашай культурнай працы, усе найбольш галоўныя проблемы культурнай рэволюцыі. Больш таго, усё нашае гаспадарчае будаўніцтва, уся наша праца па перабудове быту, усе нашы політычныя мерапрыемствы таксама павінны быць шчыльна зьвязаны з політэхнізмам і наадварот. Пытаньне політэхнізацыі надзвычайна шчыльна пераплятаецца з агульнай генэральнай лініяй нашай партыі, з лініяй будаўніцтва комунізму. Яно павінна пераплятацца з усімі пытаньнямі культурнага будаўніцтва, з усёй нашай політыка-асьветнай працай.

Таму я і хочу ў сваім выступленьні заастрыць увагу зьезду на пытаньнях політэхнізму ў сувязі з вельмі важнай проблемай культурнай рэволюцыі. Я хочу зьвязаць гэтыя два пытаньні дзеля таго, каб паказаць, наколькі тут існуе глыбокая органічная сувязь, наколькі пытаньнямі політэхнізму мы сапраўды закранаем наша гаспадарчае, савецкае будаўніцтва і нашу працу ў галіне культуры.

Ня трэба, зразумела, паўтараць, ня трэба гаварыць на гэтым зьезьдзе аб

тым, якое надзвычайна вялікае палітычнае і гаспадарчае значэньне набылі зараз пытаньні культуры.

Досыць зьвярнуцца да пастаноў XV і XVI зьездаў, даволі азнаёміцца з пастановамі нашага XIII зьезду КПБ, каб убачыць, якое вялікае значэньне маюць пытаньні, зьвязаныя з культурнай рэволюцыяй.

Усе спрэчкі, усе выступленьні дэлегатаў, хаця-б на нашым XIII зьезьдзе КПБ, не абыходзілі моўчкі пытаньняў культуры, пытаньняў асьветы ў самым шырокім сэнсе гэтага слова.

Гэта гаворыць аб тым, наколькі гэтымі пытаньнямі культуры пранікліся масы, наколькі яны ў вачох гэтай масы набылі надзвычайна вялікае значэньне.

Калі мы гаворым аб культурнай рэволюцыі і аб галоўных проблемах культурнай рэволюцыі, дык мы маем на мэце перш за ўсё самога чалавека. Нам трэба выхоўваць чалавека, выхоўваць і перавыхоўваць масы ў такім напрамку, каб кожны з нас і масы ў цэлым маглі сапраўды пасьпяхова будаваць новы грамадзкі лад—комунізм, былі адданы гэтаму новаму ладу. Нам трэба выхаваць масы гэтак, каб яны маглі зусім па іншаму падыходзіць да працы, разумець гэтую працу. Нам трэба выхоўваць чалавека, які мог-бы зусім па-іншаму падыходзіць да процэсаў гаспадарчага будаўніцтва, да вытворчых процэсаў.

Нам трэба ў той жа час выхоўваць масы працоўных такім чынам, каб яны маглі ацаніць сучасныя дасягненьні навукі і тэхнікі, маглі знаёміцца з гэтымі дасягненьнямі навукі і тэхнікі і скарыстоўвалі іх у сваёй практычнай працы. Нам патрэбна зараз вельмі пісьменная рабочая кляса. Падвышэньне гэтай пісьменнасьці сярод усіх працоўных мас, уздым іх культурнасьці зьяўляецца нашай чарговай задачай. Нам трэба перабудаваць увесь быт чалавека, прышчапіць новыя формы працы, формы колектыўнай, комуністычнай працы.

Вось да чаго, у асноўным, зводзіцца проблема культурнай рэволюцыі. Яна высоўвае перад намі падвойнае патрабаваньне, перш за ўсё, у адносінах перавыхаваньня самога чалавека.

Цяпер, калі вы возьмеце пытаньне політэхнізму, дык вы убачыце, што гэтае пытаньне ў першую чаргу вымушае ставіць у цэнтры нашай увагі выхаваньне і перавыхаваньне па-новаму. Яно мае на мэце выхаваньне ня толькі дзяцей і моладзі, але і перавыхаваньне дарослага працоўнага насельніцтва.

Ня трэба забывацца, што політэхнізацыя павінна закрануць ня толькі нашыя школы, ня толькі ўсю сыстэму нашай асьветы, але і ўся наша сыстэма культурна-асьветнай працы павінна быць прасякнута політэхнізацыяй. Гэта, па першае. Падругое, калі мы гаворым аб політэхнізацыі, дык, мне здаецца, што перш за ўсё нам трэба як сьлед зразумець сутнасьць політэхнізму. Мы разумеем пад політэхнізмам ня толькі прышчэпку працоўных звычак моладзі, нашым дзецям, ня толькі прывучэньне іх да працы. З выступленьняў некаторых паасобных таварышоў мажліва было заключыць, што яны менавіта гэтак, зусім няправільна разумеюць сутнасьць політэхнізму. Трэба сьцерагчыся, трэба змагацца з гэткім разуменьнем політэхнізму. Сярод нашых гаспадарчых працаўнікоў і нават працаўнікоў Наркомасьветы ёсьць такі пункт погляду, што калі яны справу навучаньня ўвяжуць з вытворчасьцю, калі яны дадуць дзецям працоўныя звычкі, калі кожная школа выпусьціць дзяцей, якія змогуць даць выхад сваім звычкам, дык гэтым яны нібыта вычарпаюць ідэю політэхнізацыі. З гэткім разуменьнем сутнасьці політэхнізму трэба рашуча змагацца. Політэхнізм дапушчае цэлы шэраг мерапрыемстваў, накіраваных ня толькі да таго, каб падрыхтоўваць рабочую сілу, патрэбную нам для гаспадарчага будаўніцтва. Політэхнізм патрабуе, перш за ўсё, разуменьня вытворчых процэсаў. Політэхнізм патрабуе таго, каб наша моладзь, наша дарослае пакаленьне было знаёма з дасягненьнямі тэхнікі і навукі, ацэньвала-б гэтыя дасягненьні. Політэхнізм павінен выхоўваць у нашых дзецях і ў моладзі звычкі да новай колектыўнай, комуністычнай працы; ён павінен выхоўваць у дзецях і моладзі наш марксысцка-ленінскі сьветапогляд. Дзякуючы політэхнізацыі, якая дае мажлі-

васьць разумець вытворчыя процэсы, увязваць гэтыя процэсы ў нешта цэлае, адзінае, мы як ня трэба лепш зможам праводзіць сярод нашых дзяцей сапраўды працоўнае комуністычнае выхаваньне. Усе пытаньні, зьвязаныя з політэхнізацыяй, маюць надзвычайна вялікае дачыненьне да ўсяе культурнай працы.

Вазьмеце, напрыклад, пытаньне аб ліквідацыі няпісьменнасьці. Чаго мы дамагаемся пры ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных? Перш за ўсё—сьвядомага ўдзелу гэтых былых няпісьменных у савецкім і социялістычным будаўніцтве.

Калі справу ліквідацыі няпісьменнасьці не зьвязаць са справай нашага будаўніцтва, дык яна траціць у нашых умовах свой сэнс. Але ж гэты ўдзел у будаўніцтве дапушчае і політэхнізм. Тут, як вы бачыце, ёсьць вельмі значная блізкасьць паміж ліквідацыяй няпісьменнасьці і політэхнізацыяй.

Навошта рабочым ліквідаваць сваю няпісьменнасьць? Дзеля таго, каб актыўна ўдзельнічаць у будаўніцтве соцыялізму, каб удзельнічаць у будауніцтве савецкай дзяржавы, каб змагацца з бюрократызмам у нашым савецкім апараце, каб глыбока ўдумацца ў сутнасьць усіх процэсаў вытворчага жыцьця, каб знаёміцца з найноўшымі дасягненьнямі навукі і тэхнікі і, такім чынам, ужываць усе дасягненьні на практыцы, у самой вытворчасьці, у самым гаспадарчым будаўніцтве. Менавіта ліквідацыя няпісьменнасьці мае на мэце тое, што мы гэтым самым наблізім рабочага да актыўнага і сьвядомага ўдзелу ў будаўніцтве новай грамады. І памыляюцца, зразумела, тыя, хто гаворыць, што справа політэхнізацыі—гэта справа толькі адных асьветнікаў. Калі запытаць кожнага з нас, ня толькі рабочага, ня толькі селяніна, але нават „серадняка“ асьветніка, наколькі глыбока ён уразумеў патрабаваньні, сутнасьць самога політэхнізму, дык мы можам тут сьмела сказаць, што такога глыбокага разуменьня політэхнізму, сутнасьці політэхнізацыі нават сярод асьветнікаў яшчэ няма.

З гэтай прычыны тут патрэбна вялікая, глыбокая праца сярод асьветнікаў, сярод мас працоўных, плянавая, сыстэматычная пропаганда ідэй політэхнізму сярод гэтых мас дзеля таго, каб перш за ўсё зразумець сутнасьць гэтага політэхнізму, каб гэтыя масы і асьветнікі, нарэшце, зразумелі, што наша марксысцка-ленінскае вучэньне шчыльна пераплецена з політэхнізмам.

Значыць, патрэбна вялікая работа ў адносінах пропаганды тэорыі самога політэхнізму.

Але было-б памылкова, каб побач з гэтымі патрабаваньнямі мы ня высоўвалі іншых патрабаваньняў—менавіта практычнай працы па правядзеньню політэхнізацыі, каб мы ня ставілі зараз пытаньняў практычнага характару. І на то і другое нельга забывацца.

Правільна таварышы гавораць, што мы зараз ужо, а тым болей пасьля гэтага зьезду, сустрэнемся з вялікімі перашкодамі ў справе практычнага зьдзейсьненьня задач політэхнізму. У нас няма і спэцыяльна распрацаваных програм, насычаных політэхнізмам, у нас няма падручнікаў, мы будзем мець шмат няпрыемнасьцяй і тады, калі вучобу ў школе будзем зьвязваць з вытворчасьцю, калі школы будзем прымацоўваць да прадпрыемстваў. Нам трэба правесьці вялікую працу па практычнай увязцы кожнай дысцыпліны з вытворчасьцю з пункту погляду політэхнізму. Тут кожнаму настаўніку прыдзецца вельмі многа папрацаваць, каб зразумець, якую частку свае програмы, свае дысцыпліны ўвязаць з політэхнізмам.

Вазьмеце далей гэткую галіну, як узаемная сувязь паміж асобнымі дысцыплінамі ў сувязі з правядзеньнем політэхнізму. Цяжкасьцяй тут будзе нямала, але гэтыя цяжкасьці не павінны нас спыняць. Трэба ўсяляк дапамагаць Наркомасьветы і яго органам на мясцох у часе правядзеньня патрэбнай працы па політэхнізацыі. У распрацоўцы плянаў, програм, інструкцый у сувязі з політэхнізацыяй само настаўніцтва магло-б адыграць значную ролю і гэтым дапамагчы Наркомасьветы. Трэба стварыць масавы рух за політэхнізм. У практычнай працы настаўніку трэба перш за ўсё ўзброіцца дзеля таго, каб дапамагчы Наркомасьветы ў разьвязваньні гэткай важнай задачы, як складаньне програм, апа

ведных навучальных плянаў. Для нас павінна быць зусім ясна, што пэдагог, ці будзе ён фізыкам, прыродазнаўцам, ці грамадазнаўцам, пэдагог, які непасрэдна вядзе выкладаньне свае дысцыпліны, хутчэй за ўсё зможа знайсьці тыя шляхі, якія зьвяжуць яго дысцыпліну з самой вытворчасьцю; ён хутчэй за ўсё зможа разьвязаць пытаньне, як менавіта пабудаваць програму з пункту погляду політэхнізму, як увязаць сваю дысцыпліну з вытворчасьцю, як пабудаваць працу так, каб ідэі політэхнізму сапраўды пранікалі ў нашы школы, ва ўсе нашы ВНУ.

Так, мне здаецца, і трэба ставіць пытаньне.

Зьезд гэты будзе мець вялізарнае грамадзка-політычнае значэньне. Ён ня толькі дасьць нам штуршок да далейшай практычнай працы па вырашэньню ўсіх гэтых пытаньняў, зьвязаных з політэхнізмам. Ён пакладзе пачатак сапраўды такога настрою, толькі пры наяўнасьці якога мы будзем мець перамогі і на фронце асьветы. Мы ўжо і зараз маем некаторыя дасягненьні ў галіне політэхнізацыі. Пытаньнямі політэхнізму пачынаюць цікавіцца, іх абгаварваюць, а ўжо адно гэта мае вялікае значэньне. Зьезд павінен пакласьці пачатак нашай вялікай працы, магутнаму руху ўсіх працоўных мас разам з нашымі асьветнікамі за справу політэхнізму.

---

**Пірацінскі**

# Ведаць вытворчы профіль раёну

У програме нашае партыі мы разумеем політэхнізм як азнаямленьне з галоўнымі тыпамі вытворчасьці, і з гэтай прычыны прымацаваньне школы да пэўнай вытворчасьці яшчэ не вырашае проблемы політэхнізму. На падставе аднэй вытворчасьці мы яшчэ ня створым у школах політэхнізму.

Паўстае пытаньне, як нам ва ўмовах Беларусі, ва ўмовах кожнага гораду зрабіць усё мажлівае дзеля таго, каб вучань меў магчымасьць азнаёміцца з цэлым шэрагам найгалоўнейшых вытворчасьцяй.

Найбольш мэтазгодным у гэтых адносінах зьяўляецца складаньне вытворчага профілю раёну. Пасьля зьезду раённай інспэктуры, пры дапамозе інспэктароў, тэхнікаў і лепшых мэтодыстых на мясцох, скласьці вытворчы профіль данага раёну, улічыць, што, напр., у Віцебску ёсьць швейная ф-ка, тэкстыльная ф-ка, завод мэтпром і г. д. і шляхам дакладнага плянаваньня, шляхам дакладнай дагаворанасьці з прадпрыемствам устанавіць, што, прыкладам, першая школа, якая мае сувязь з заводам мэтпром, у сакавіку будзе праводзіць экскурсію на такое та прадпрыемства і г. д. Усё гэта павінен сплянаваць раённы цэнтр. Трэба скласьці такі профіль раёну, каб улічыць бязумоўна, усе прадпрыемствы, якія могуць быць выкарыстаны для мэт політэхнічнага выхаваньня.

У сувязі з гэтым стаіць пытаньне, як азнаёміць на працягу 2-3 гадзін вучняў з данай вытворчасьцю. Ня кожны ж умее так організаваць экскурсію, каб экскурсанты прышлі і знайшлі самае галоўнае і цікавае. Для гэтага павінны быць складзены мэтодычныя запіскі на мясцох.

Потым ўзьнікае пытаньне аб тым, як організаваць прапрацоўку ўсіх практычных пытаньняў, зьвязаных з політэхнізмам. Мне здаецца, што ў выніку працы зьезду павінен быць організаваны ўсебеларускі штаб па політэхнізму, які павінен працаваць як орган, што організуе опэрацыйную работу і распрацоўвае мэтодычныя пытаньні. Мне здаецца, што пры гэтым штабе трэба організаваць сэкцыі найбольш галоўных галін вытворчасьці: сэкцыю па мэталю, па тэкстылю і г. д. Перад штабам трэба паставіць задачу аб вырашэньні наступных пытаньняў на працягу году або шасьці месяцаў для школ Беларусі: 1) організацыі ўводнага курсу ў даную вытворчасьць; 2) програмы вывучэньня пэда-

гогамі данай вытворчасьці; 3) програмы вытворчага навучаньня вучняў на вытворчасьці; 4) схэмы школьнага музэю і выстаўкі; 5) выпуску 1-2 цікавых брошурак для вучняў аб данай вытворчасьці, каб кожны вучань, які, зьвязаны з тэкстыльнай фабрыкай, меў магчымасьць прачытаць, што такое тэкстыльная фабрыка. Вось задачы, якія павінны стаяць перад сэкцыямі пры політэхнічным штабе і якія можна разьвязаць пры ўмове, калі ў гэтых сэкцыях будуць ня толькі пэдагогі, але і інжынэр данай галіны вытворчасьці, калі там будзе кваліфікаваны рабочы, майстар і г. д.

Цяпер я хочу спыніцца на некаторых організацыйных пытаньнях, якія, бязумоўна, маюць вялікае значэньне ў нашай рабоце. Ёсьць дырэктыва Цэнтральнага комітэту партыі аб тым, каб у прамысловых раёнах увесьці ўсеагульнае сямігадовае абавязковае навучаньне. Мы стаім перад такім фактам, што ўсеагульнае сямігадовае абавязковае навучаньне ні ў гэтым годзе, ні ў будучым ня зможам увесьці з тае прычыны, што, побач з увядзеньнем усеагульнага сямігадовага абавязковага навучаньня, нам трэба даць кадры для фабзавучу. А гэтыя абставіны ў даны момант не даюць магчымасьці ўвесьці ўсеагульнае сямігадовае навучаньне. Для яснасьці прыводжу некаторыя лічбы. Нам трэба на будучы год прыняць у фабзавуч па ўсім Саюзе 400 тысяч дзяцей, гэта толькі па лініі прамысловасьці, ня лічачы комунальнай гаспадаркі, ня лічачы школ конторвучу і г. д., а калі іх улічыць, гэта лічба вырасьце да 500 тысяч. Апроч таго, у нас ёсьць вельмі шмат ФЗВ па лініі транспорту, а мы можам даць толькі па ўсім СССР контынгент вучняў, скончыўшых фабрычна-заводзкія сямігодкі ці наогул сямігодкі 200 тысяч. Адкуль гаспадарчыя органы возьмуць астатнія 200 тыс.? Яны ўжо бяруць іх з нашых 6, 5 і нават 4 груп. І з кожным годам будуць браць яшчэ больш і больш. Адсюль які вывад трэба зрабіць? Калі мы ў гэтым годзе перададзім вучняў 6-х клясаў у ФЗВ, дык у будучым годзе мы будзем мець парожнія сёмыя клясы. Значыць і ў будучым годзе мы ўсеагульнага абавязкавага сямігадовага навучаньня не ўвядзем. Трэба разумець, што якія-б пажаданьні ў нас ні былі аб увядзеньні ўсеагульнага абавязковага сямігадовага навучаньня але калі мы будзем стаяць перад гэтай проблемай, што для народной гаспадаркі не хапае кадраў, дык нам прыдзецца адарваць ад школ дзяцей.

Што ж трэба зараз зрабіць для зьнішчэньня ножніц паміж запатрабаваньнямі прамысловасьці і нашымі мажлівасьцямі? Мне думаецца, што зараз, як ніколі, самай вострай проблемай зьяўляецца ўцягненьне ў школы перарosткаў і падросткаў, якія па якіх-бы то ні было прычынах не займаюцца ў школах. Іх трэба абавязкова ўцягнуць у нашыя школы. Гэта павінна рабіцца адпаведнымі тэмпамі. Трэба прыцягнуць усіх, што ёсьць на вуліцы, і ўцягнуць іх у нашы школы. Трэба ісьці па лініі паўгадовых, аднагадовых курсаў і г. д. Мы ў гэтым годзе організавалі курсы па падрыхтоўцы ў ФЗВ, але гэта зусім ня тое. Трэба імкнуцца наўкол нашых школ сконцэнтраваць такія школы, якія маглі-б нам падрыхтаваць кадры для ФЗВ, і, апроч таго, мы стаім яшчэ перад проблемай вывазу ўсіх лішніх дзяцей з вёскі для іх падрыхтоўкі ў ФЗВ. Толькі пры дапамозе гэтага мы зможам згладзіць прарэхі, якія ў нас атрымаліся.

Перадапошняе пытаньне—гэта аб рэконструкцыі нашага навучальнага году. Невядома, чаму да сучаснага моманту мы займаемся ў школах з верасьня і па чэрвень месяц, гэтак жа, як і 20 год таму назад, 40 год таму назад, як гэта было ў клясычнай гімназіі. Мы не задумваемся над пытаньнем, што трэба неяк іначай прыстасаваць нашую вучобу ў школах. Але зараз наша гаспадарка прымушае нас задумацца. У мінулым годзе ФЗВ перайшлі на прыём і выпуск два разы ў год. Мы будзем мець зімовыя наборы ў гэтым годзе. Яны будуць браць нашых вучняў школ, гэта значыць, разбураць групы ў сярэдзіне году. З гэтай прычыны трэба зараз жа перабудавацца на сыстэму навучаньня, якая павінна быць прыстасавана да фабзавучу. Пытаньне ідзе аб тым, каб перавесьці нашу школьную сыстэму, увесь наш навучальны год на сэмэстровую сыстэму.

Апошняя мая заўвага. Некаторыя таварышы зьвярталі ўвагу на тое, што на шыя школы сямігодкі выпушчаюць вучняў непасрэдна на вытворчасьць. Гэта самае няправільнае, што можа быць. Нам трэба змагацца з гэтым, асабліва змагацца тады, калі мы маем гэткія выразныя паказаньні з боку ВСНГ СССР. Я прывяду вельмі невялікую пастанову па гэтым пытаньні. У гэтай пастанове гаворыцца: „Такім чынам, як тып політэхнічнай школы, кожная ФЗС, прымацаваная да пэўнага прадпрыемства, органічна зьвязаная з ім, ня рыхтуе для яго рабочых кадраў“.

Ёсьць пастановы ЦК аб тым, каб увесьці, як базу для ФЗВ, фабрычна-заводзкія сямігодкі. Мы ўвесь час змагаемся з заўчаснай спэцыялізацыяй, таму ўсякая вылазка супроць такога вырашчэньня справы не дапамагае політэхнізацыі нашай школы, а толькі шкодзіць ёй.

---

П. Панкевіч

# Электрыфікацыя краіны і політэхнічнае выхаваньне

Даклад т. Платуна называўся так: „Рэконструкцыя народнае гаспадаркі і політэхнічнае выхаваньне“. Гэта проблема агульная, і тут трэба даць некалькі агульных тлумачэньняў. Перш за ўсё трэба адказаць, што такое політэхнізм? Я, зразумела, не магу зараз, і ніхто тут ня можа зараз даць ужо сталае тлумачэньне, што такое політэхнізм. Гэта складанае пытаньне. Мы толькі даем некалькі адзнакаў політэхнізму. Аднэй з галоўных адзнакаў політэхнічнай асьветы зьяўляецца злучэньне вытворчай працы дзяцей з іх выхаваньнем, з іх навучаньнем. Там, дзе няма такога злучэньня вытворчай працы дзяцей з іх выхаваньнем, там па сутнасьці няма і політэхнізму.

Другой адзнакай політэхнізму зьяўляецца злучэньне вытворчай працы дзяцей з іх навучаньнем на базе соцыялістычнай вытворчасьці. Гэта абавязкова трэба падкрэсьліць. Патрэцяе, політэхнізм характарызуецца ўсебаковым вывучэньнем соцыялістычнай вытворчасьці. Маркс і Энгельс, напрыклад, падкрэсьліваюць тое, што трэба вывучаць усе вытворчыя процэсы, якія зьяўляюцца характэрнымі для данага этапу гісторычнага разьвіцьця грамадзтва. У програме компартыі таксама формулявана думка аб тым, што трэба знаёміць тэорэтычна і практычна з галоўнымі відамі вытворчасьці. Гэта па сутнасьці тое самае.

Вось тры моманты, якімі і характарызуецца політэхнічная асьвета. Мы павінны рыхтаваць усебакова разьвітых вытворцаў і організатараў соцыялістычнай вытворчасьці.

Вось наша агульная ўстаноўка. Ці ёсьць унас адпаведныя прадпасылкі для гэтага? Зразумела, ёсьць. Зараз наша краіна перажывае пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі. Якія ёсьць новыя моманты ў процэсе разьвіцьця соцыялістычнай рэконструкцыі? Аб гэтых новых момантах трэба гаварыць. Уся наша задача заключаецца ў тым, каб ня толькі ўлічваць тое, што ёсьць зараз, а і новыя тэндэнцыі разьвіцьця, каб прадбачыць пэрспэктывы гэтага разьвіцьця. Якія гэта пэрспэктывы? Зараз, напрыклад, узьнікае думка аб тым, што савецкая тэхніка можа ісьці не па шляху капіталістычнага разьвіцьця. Вы ведаеце, што ў галіне вытворчых сіл галоўнымі мэталямі ў капіталістычным грамадзтве зьяўляецца сталь, жалеза, чыгун. Што сталь, жалеза і чыгун патрэбны і для нашай краіны, гэта яскрава падкрэсьліваецца нашай пяцігодкай. Гэта зьяўляецца бясспрэчным. Але адначасова з гэтым выступаюць новыя мэталі, якія заваёўваюць сваё месца ў нашай гаспадарцы і маюць вялікую будучыну, гэта — алюміній, ванадзі, вольфрам і г. д. Гэтыя лёгкія мэталі зьяўляюцца вяшчу-

намі таго будучага ладу, за які мы змагаемся, зьяўляюцца вяшчунамі комунізму. Утварэньне новага мэталю магчыма на базе электрычнасьці. Зусім не выпадкова тое, што Ленін у сваіх вядомых нататках на тэзісы Надзеі Канстанцінаўны падкрэсьліваў важную ролю электрычнасьці. Ён паказваў, што электрычнасьць выступае, як абагульваючы процэс у тэхніцы вытворчасьці.

На III усерасійскім зьезьде комсамолу Ленін казаў наступнае: „Мы ведаем, што комуністычнае грамадзтва нельга пабудаваць, калі не адбудаваць прамысловасьці і земляробства, пры чым, трэба іх адбудаваць не па старому. Трэба адбудаваць іх на сучаснай, па апошняму слову навукі пабудаванай, аснове. Вы ведаеце, што гэтай асновай зьяўляецца электрычнасьць, што толькі, калі адбудзецца электрыфікацыя ўсяе краіны, усіх галін прамысловасьці і земляробства, калі вы усьвядоміце гэту задачу, тады толькі вы зможаце пабудаваць для сябе тое комуністычнае грамадзтва, якое ня зможа пабудаваць старое пакаленьне. Перад вамі стаіць задача гаспадарчага адраджэньня ўсяе краіны, рэорганізацыя, аднаўленьне земляробства і прамысловасьці на сучаснай тэхнічнай аснове, якая грунтуецца на сучаснай навуцы, тэхніцы, на электрычнасьці. „Ленін, збор твораў, т. XVII, стар. 319.

Вы бачыце, Ленін зусім яскрава гаварыў, што прамысловасьць і сельск. гасп. павінны быць пабудаваны на сучаснай тэхніцы, а пад сучаснай тэхнікай і навукай ён разумее электрычнасьць.

Вазьмеце яшчэ і другую яго думку, якая таксама вельмі проста расшыфроўвае тое, што ён разумее пад прамысловасьцю. Ён кажа, паміж іншым, наступнае: „Замест няпэўнай альбо адцягненай формы аднаўленьня буйнай прамысловасьці, мы зараз гаворым аб пэўным, дакладным, разьлічаным конкрэтным пляне электрыфікацыі ўсяе краіны“ (там жа, стар. 33).

Вы бачыце, што ён ставіў знак роўнасьці паміж электрыфікацыяй усяе краіны і буйнай машыннай індустрыяй.

Вось яшчэ апошняе, што трэба падкрэсьліць: Ленін ўвязваў электрыфікацыю ўсяе краіны з палітычнымі момантамі. Ён, паміж іншым, паказваў, што электрыфікацыя павінна перабудаваць дробную сельскую гаспадарку. У яго мы чытаем: „Калі электрыфікацыя праз 10-20 год,—ні каплі не страшэнны індывідуалізм дробнага земляроба і вольны гандаль у мясцовым звароце. Калі не электрыфікацыя,—усёроўна няўхільны зварот да капіталізму“.

Вы бачыце, у электрыфікацыі нават ён бачыў гарантыю ад адраджэньня капіталізму ў нас. Тут чыста палітычная пастаноўка пытаньня. Вы ведаеце яго афорызм: „комунізм—ёсьць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсяе краіны“.

Калі мы, гаворым аб політэхнічнай адукацыі, мы павінны ўлічваць гэтую важную ролю электрыфікацыі. Электрыфікацыяй трэба займацца ня толькі як пабудовай пэўнай сеткі электрастанцый. Не, таварышы! Зараз на глебе электрыфікацыі мы маем і рэконструкцыю тэхнічных процэсаў. Энэргетычная рэконструкцыя зьяўляецца базай мэханічнай і тэхнолёгічнай рэконструкцыі. Вы зараз можаце ўбачыць, што тое бяздоньне, якое існавала паміж хэміяй і фізыкай, зараз парушаецца. Возьмем, напрыклад, электронную тэорыю. Гэтая тэорыя зьяўляецца базай хэміі, ня гледзячы на тое, што гэтая тэорыя мае дачыненьне да фізычных зьяў. На аснове электрычнасьці ўтвараюцца новыя галіны прамысловасьці--электра-хэмічная, электра мэталюргічная і г. д. Трэба тут напомніць думку Энгельса, які піша наступнае: „Электрычнасьць уладае, як і цяплыня, толькі ў другім выглядзе, свайго роду „вездесущием“. На зямлі не адбываецца ніводнае зьмены, якая ня мае сувязі з электрычнымі зьявамі. Пры выпарэньні вады, пры гарэньні полымя, пры сутыканьні двух розных ці розна нагрэтых мэталяў, пры сутыканьні жалеза і росчыну мядзянага купарвасу і г. д. адбываюцца, побач з бачнымі для вачэй фізычнымі і хэмічнымі зьявамі, адначасова і электрычныя процэсы. Чым уважлівей мы вывучаем розныя процэсы ў прыродзе, тым часьцей натыкаемся пры гэтым на сьляды электрычнасьці“. (Архіў Маркса і Энгельса, т. II, стар. 291).

Электрычнасьць, такім чынам, мае „вездесущий“ характар.

Зараз нават у адсталых раёнах і мястэчках знойдзеце электростанцыі. На мясцох часамі не разумеюць, што трэба вывучаць у мястэчках. Калі на мясцох ёсьць электрыфікацыя, трэба вывучаць яе ў першую чаргу. Зараз часта і вёскі адсталыя электрыфікаваны (напр., раён Асінбуду). Электрычнасьць зьяўляецца асновай абагульненьня вытворчых процэсаў. Вось што гаворыць адзін аўтар Ханкоўскі: „электрыфікацыя ня толькі дае вялізарны ўздым вытворчых сіл нашай вёскі, ня толькі замацоўвае тыя соцыяльныя ўзрухі, якія намеціліся да нашага часу, але і дае вялізарны штуршок да пышнага росквіту новых соцыяльных адносін у масавым маштабе, утварае абставіны для росту соцыялістычных адносін больш вышэйшага парадку, чым зараз. Гэта тлумачыцца ня толькі тым, што ўжываньне электрычнасьці ў масавым маштабе пераводзіць усё грамадзкае разьвіцьцё на больш высокую ступень, але таксама і тым, што электрычная энэргія, ў параўнаньні са ўсімі інш. відамі, па сваёй прыродзе ёсьць энэргія збагачэньня ўсіх вытворчых процэсаў“ („Пути индустриализации“ № 10, 1930 г., стр. 11-12).

Вось дзе мы павінны шукаць адзінства гэтых вытворчых процэсаў, менавіта ў электрыфікацыі. Электрычны рухавік зьяўляецца ўнівэрсальным. Ён спрашчае працу, і гэтая праца робіцца настолькі даступнай, што каля электрыфікаваных машын можа працаваць нават і дзіця. Пакруціць кнопку гэта ня так цяжка і дашкольніку.

Я напомню зноў нататкі Леніна на тэзісы Надзеі Канстанцінаўны, дзе проста даводзіцца, што мы павінны вывучаць электрычнасьць, павінны вывучаць ўжываньне электрычнай энэргіі ў хэмічнай і мэханічнай вытворчасьці.

Яшчэ раз паўтараю, што ў гэтай электрычнасьці мы маем процэсы абагульненьня вытворчасьці. Паколькі мы не ізолюем тэхніку вытворчасьці ад соцыяльных адносін, мы павінны адшукаць адзінства і вытворчых адносін.

Цяпер ва ўмовах СССР мы назіраем зьнішчэньне падзелу паміж разумовай і фізычнай працай. Маркс гаварыў аб нівэліраваньні рабочае сілы ў сувязі з аўтоматызацыяй фабрык і заводаў. Гэтае нівэліраваньне рабочае сілы павінна быць прадметам нашага вывучэньня, для таго, каб усьвядоміць соцыяльную аснову політэхнізму.

Часамі мы назіраем, што старыя кваліфікаваныя майстры пры новых машынах становяцца зусім бездапаможнымі.

Дазвольце прачытаць вам адно месца з газэты „Правда“:

„У ноч на 16 чэрвеня (у Керчы) спыніліся дысгаўстэры коксавых печаў. Дзяжурныя электрыкі Ландо і дэ-Марцін, незнаёмыя з гэтымі новымі машынамі, зьбянтэжыліся і ня ведалі, што трэба рабіць. 55 новых коксавых печаў стаялі цэлую гадзіну, пакуль ня прышоў старшы мэханік. Завод страціў 53 тоны коксу“.

І вось гэтай дробязі—пусьціць у ход машыны—не змаглі зрабіць старыя майстры, якія працуюць даўно, якія ведаюць досыць добра сваю работу. Пры новых машынах яны аказаліся няпрыгоднымі.

Возьмем прыклады, якія нядаўна былі асьветлены ў часопісі „Революция и Культура“, аб хлебным заводзе. Там гаворыцца, што старыя рабочыя, якія прышлі на завод з саматужных пякарняў, прыносяць з сабою старыя традыцыі і ня могуць хутка прыстасавацца да новых аўтоматычных мэханізмаў.

Вось чаму мы павінны паставіць рашуча проблему аб політэхнізацыі, бо політэхнізацыя зьяўляецца проблемай соцыялістычных кадраў, такіх кадраў, якія могуць быць прыстасаваны да самых розных галін вытворчасьці, якіх можна лёгка перакідваць з аднэй вытворчасьці на другую.

Процэс перамены функцый ў вытворчасьці вельмі яскрава характарызаваў бліжэйшы вучань Маркса і Энгельса—Ляфарг. Я вам цітаваць Маркса і Энгельса ня буду, бо яны вам вядомы.

Вось што піша Ляфарг: „Толькі тады (г. зн. пры комунізьме—П. П.) чалавек будзе вольным у грамадзтве. Ён будзе мець магчымасьць вандраваць, пераяжджаць па свайму жаданьню і заўжды мяняць галіны працы.

Раней вывучэньне рамяства патрабавала некалькіх год, машына-ж скараціла яго да некалькіх месяцаў. Вы ўсе маглі-б з дапамогаю машыны праз месяц пачаць шыць, хоць бы ніколі ня трымалі голкі ў руках, і пасьля такога-ж кароткага пэрыоду навучаньня умець ткаць і прасьці. Адзінае рамяство, якое будзе існаваць у будучыне,—гэта рамяство мэханіка. Чалавек будзе па чарзе праходзіць праз усе рамёствы, і гэта будзе найвялікшым для яго фізычным і разумовым разьвіцьцём".

І далей мы чытаем у Ляфарга зноў тое самае: „Толькі ў комуністычным грамадзтве чалавек, вызваліўшыся ад клапот пра сваю прыватную ўласнасьць і абавязаны толькі выконваць свой грамадзкі абавязак, каб карыстацца дабром грамадзтва, будзе мець магчымасьць вольнавандраваць з поўначы на поўдзень, пераходзіць ад прадзеньня да апрацоўкі зямлі, або да усякіх іншых заняткаў і без усялякай перашкоды разьвіваць сваю індывідуальнасьць" (Ляфарг, творы т. II, стар. 317).

Вось як мы павінны перабудаваць нашу політэхнічную школу. Мы не павінны замыкацца толькі ў аднэй галіне, мы не павінны замыкацца толькі ў рамках аднаго варштату і цэху. Гэтага не павінна быць, інакш у нас будзе не політэхнізацыя, а профэсіяналізацыя. Праўда, мы не адмаўлямся ад профэсіянальнай асьветы, але падменьваць політэхнізм профэсіянальным навучаньнем да 17 году будзе скажэньнем нашай політычнай ўстаноўкі. Гэта зьяўляецца бяспрэчным.

Наша бліжэйшая задача—заняцца вывучэньнем працэсаў соцыялістычнай рэконструкцыі. Зараз трэба зьмяніць формы народнае асьветы: мы павінны перайсьці на рэйкі політэхнічнай адукацыі. Гэтыя формы не павінны мець застойнага характару. Яны будуць зямяняцца ў залежнасьці ад тэхнічнай базы і соцыяльных умоў.

# РЭЗОЛЮЦЫІ ЗЬЕЗДУ

## *Рэзолюцыя па дакладу тав. Платуна*

1. Рэконструкцыя народнае гаспадаркі Савецкага Саюзу, якая праводзіцца рабочаю клясаю пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, перабудоўвае ўсю народную гаспадарку на новых соцыялістычных пачатках.

Яна праводзіцца па адзінаму для ўсяго Савецкага Саюзу пляну соцыялістычнага будаўніцтва.

Структура і прырода савецкай улады, як дыктатуры пролетарыяту, стварае ўсе ўмовы шырокага, ўсебаковага абгаварэньня пляна ў соцыялістычнага будаўніцтва працоўнымі Савецкага Саюзу. Гэтым самым усе працоўныя ўдзельнічаюць у соцыялістычнай перабудове народнае гаспадаркі і ў складаньні адзінага пляну соцыялістычнага будаўніцтва, чаго, зразумела, няма і ня можа быць у капіталістычных краінах.

2. Рэконструкцыя народнае гаспадаркі ідзе па лініі індустрыялізацыі ўсяе вытворчасьці як гораду, так і вёскі.

У галіне прамысловасьці разгортваюцца новыя фабрыкі і заводы, абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі. У галіне сельскае гаспадаркі рэконструкцыя праходзіць шляхам організацыі буйных гаспадарак соцыялістычнага тыпу (саўгасаў і колгасаў), шляхам мэханізацыі вытворчасьці і сельскай гаспадаркі, што зьбліжае працу на зямлі з працай на фабрыцы і заводзе і карэнным чынам мяняе экономічную аснову падзелу працы паміж горадам і вёскай.

Апрача гэтага, рэконструкцыя народнае гаспадаркі зьмяняе ўвесь характар вытворчасьці, увесь характар працы, выбіваючы глебу з-пад ног старога грамадзкага падзелу працы наогул, выбі-

ваючы экономічную аснову клясавага падзелу чалавечага грамадзтва.

3. Сучасная тэхніка палягчае працу. Шмат відаў працы, якія выконваліся фізычнаю сілаю чалавека, зараз замяняюцца машынамі, што дае магчымасьць шырокага ўцягненьня ў вытворчасьць жанчын. Гэта таксама карэнным чынам мяняе традыцыйны падзел працы паміж мужчынай і жанчынай. Гэта—папершае, а падругое, сучасная тэхніка ў савецкіх умовах паступова зьнішчае межы паміж кваліфікаванай і некваліфікаванай працай і вядзе да зьнішчэньня межаў паміж фізычнай і разумовай працай.

4. Выходзячы з гэтага, трэба рубам паставіць пытаньне аб рэорганізацыі нашай народнай асьветы, г. зн., організацыі такой школы, якая-б адпавядала запатрабаваньням соцыялістычнага будаўніцтва, якая-б падрыхтоўвала, выхоўвала працоўных, асабліва падрастаючае маладое пакаленьне, як актыўных будаўнікаў соцыялізму.

„У пэрыод дыктатуры пролетарыяту, г. зн., у пэрыод падрыхтоўкі ўмоў, якія робяць магчымым поўнае ажыцьцяўленьне комунізму, школа павінна быць ня толькі праваднікoм комунізму наогул, але і праваднікoм ідэёвага, організаванага выхаваўчага ўплыву пролетарыяту на паўпролетарскія і непролетарскія пласты працоўных мас з мэтай выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова замацаваць комунізм“ (Програма УсеКП(б), п. 12-ы).

Гэтай школай можа быць і павінна быць політэхнічная школа.

Выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады ў сваю чаргу патрабуе стварэньня політэхнічнае школы. Адзіны плян народнае гаспадаркі дае поўную магчымасьць для яе стварэньня.

5. Да гэтага часу, ня гледзячы на тое, што аб політэхнізацыі ўжо шмат пісалася і гаварылася, шмат хто, нават з працаўнікоў Нарасьветы, не разумее, што такое політэхнізм, і часта зводзяць політэхнізацыю школы альбо да славеснасьці, альбо да рамесьніцтва.

Другая партнарада па сыстэме Нарасьветы так формулюе сутнасьць політэхнізму: „Аб‘яднаньне асьветы з вытворчай працай, азнаямленьне тэорытычна і практычна з асноўнымі відамі вытворчасьці, навуковае разуменьне асноўных вытворчых процэсаў і выпрацоўка ўменьня карыстацца асноўнымі інструмантамі сучаснае вытворчасьці,—вось у асноўным сутнасьць політэхнізму“.

Наша школа пакуль што не зьяўляецца працоўнай політэхнічнай школай, апрача ШКМ і ФЗС, у якіх пачынаюць паступова ўводзіцца элемэнты політэхнізму.

6. У практычнай рабоце па ажыцьцяўленьню політэхнізацыі школы сустракаюцца і магчымы ў далейшым выпадкі пасыўнага супраціўленьня ёй (патрабаваньне адкладу яе ажыцьцяўленьня да стварэньня „спрыяючых умоў“, настойваньне на існаваньні сямігодак у старой форме, пэсымістычныя настроі некаторых асьветнікаў у сувязі з адсутнасьцю дэталізаваных програм політэхнічнае школы і матар‘ялаў для яе ажыцьцяўленьня і г. д.). Побач з гэтым магчыма нават актыўнае супраціўленьне політэхнізацыі з боку тых працаўнікоў, якія сьвядома ці несьвядома адбіваюць погляды варожае нам клясы і зьяўляюцца яе рупарам.

Наяўнасьць пасыўнага супраціўленьня і магчымасьць актыўнага становяць проблему політэхнізацыі асьветы клясавай задачай змаганьня за кадры і патрабуюць пільнай увагі і рашучага змаганьня з боку органаў, кіруючых асьветай; у прыватнасьці, патрабуе разьвіцьця і ўзмацненьня тэорытычны вучастак гэтага фронту. Патрэбна самае ўважлівае згуртаваньне і організацыя тэорытычнае думкі навакол пытаньняў політэхнізацыі асьветы як узмацненьнем існуючых і стварэньнем належнага новага тэорытычнага цэнтру, так і організацыяй выкладчыкаў сярэдніх навучальных устаноў у колектывы па расправоўцы тэорытычных пытаньняў, падліку і ацэнцы практыкі радавых асьветнікаў.

7. Праз політэхнічную школу мы павінны прапусьціць усіх дзяцей.

Для пасьпяховасьці выкананьня пяцігодкі кадраў трэба ўключыць у сыстэму політэхнізацыі і пазашкольную ась-

вету, паколькі гэта будзе магчыма і патрэбна, і сыстэму завочнага навучаньня.

8. Сучасная тэхніка, хуткія тэмпы рэконструкцыі нашае народнае гаспадаркі „абумоўліваюць з гэтай прычыны перамену працы, частую перамену заняткаў і ўсебаковую рухавасьць рабочага“. Таму нам патрэбна арганізаваць асьвету так, каб можна было рабочым у пэўны пэрыод часу, выходзячы з патрэб тае ці іншае вытворчасьці, карэнным чынам мяняць функцыі, пераходзіць на іншую вытворчасьць. Такая падрыхтоўка магчыма толькі праз політэхнічную школу.

9. Сучасная тэхніка ў нашых умовах зьнішчае падзел паміж кваліфікаванай і некваліфікаванай працай, паміж разумовай і фізычнай працай. Тут політэхнічная школа павінна і будзе адыгрываць рашаючую ролю.

10. Політэхнічная асьвета дае магчымасьць у нашых умовах шмат больш ўцягнуць у вытворчасьць жанчын.

11. Увесь Савецкі Саюз, у прыватнасьці і асабліва БССР, ставіць востра пытаньне падрыхтоўкі кадраў, патрэбных для гаспадарчага і культурнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Работа па падрыхтоўцы кадраў, галоўным чынам якасная падрыхтоўка, значна пасунецца наперад, калі будзе падведзена база агульнае політэхнічнае асьветы.

Проблема політэхнічнай асьветы стала ў сучасных умовах аднэй з важнейшых проблем гаспадарча-політычнага значэньня. Выразнай праграмай дзейнасьці па правядзеньню політэхнізацыі мы адыграем буйную ролю ў справе далейшага паскарэньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і правядзеньня культурнай рэволюцыі. Політэхнічная асьвета зьяўляецца моцнай зброяй як у справе рэконструкцыі ўсяе нашае сыстэмы народнае асьветы, так і ў справе сапраўднага вырашэньня проблемы кадраў і проблемы культурнае рэволюцыі цалкам.

12. З усяго выкладзенага вышэй відаць важнасьць і неабходнасьць політэхнічнага выхаваньня ўсіх працоўных. Політэхнічнае выхаваньне ня ёсьць справа толькі Наркомасьветы і яго органаў, а трэба, каб за арганізацыю політэхнічнае школы актыўна ўзяліся і гаспадарчыя, і профсаюзныя, і комсамольскія арганізацыі, а гэтак жа і само падрастаючае пакаленьне. Дзіцячая комуністычная арганізацыя, зьяўляючыся політычным кіраўніком шырокіх мас працоўнай дзятвы, кіруючы іх удзелам у грамадзка-політычным жыцьці, павінна весьці рашучую барацьбу за выхаваньне сапраўдных комуністычных кадраў для соцбудаўніцтва, за хуткае правядзеньне політэхнізацыі ў жыцьцё.

Справе політэхнізацыі трэба надаць шырокі грамадзкі характар, паставіць пад контроль шырокіх працоўных мас, трэба паставіць справу так, каб мы мелі к канцу пяцігодкі сапраўдную політэхнічную школу.

Усе вызначаныя зьездам мерапрыемствы па правядзеньню політэхнічнай асьветы могуць быць, аднак, рэалізаваны толькі пры ўмове бязьлітаснай барацьбы са скажэньнямі і няправільным разуменьнем політэхнізму.

Зьезд адзначае наліччa як сярод гаспадарнікаў, профпрацоўнікоў, так і асабліва сярод шырокіх колаў асьветнікаў політычнай недаацэнкі значэньня політэхнізацыі, імкненьне схавацца за об'ектыўнымі цяжкасьцямі ў правядзеньні практычнай работы па політэхнізацыі. Трэба абвясьціць бязьлітасную барацьбу ўсім гэтым настроям і зьвязаць нашу праграму дзейнасьці ў правядзеньні політэхнізацыі з генэральнай лініяй нашай партыі, з соцыялістычным будаўніцтвам. Патрэбна пасьлядоўная і сыстэматычная барацьба з усякага роду скрытым і адкрытым опортунізмам, што перашкаджае правядзенью політэхнічнай асьветы і прасоўваньню ўперад на культурным фронце.



## *Рэзолюцыя па дакладу тав. Дардака*

1. Сучасны этап разгорнутага соцыялістычнага наступленьня на ўсім фронце, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, калі рабочая кляса, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, прыступіла да вырашэньня асноўнай задачы соцыялістычнай рэволюцыі — выкарчоўваньня карэньняў капіталізму і закладаньня моцнага фундамэнту соцыялізму, ставіць ва ўсю шырыню проблему культурнай рэволюцыі як адну з найважнейшых прадпасылак да выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, да выкананьня лёзунгу—дагнаць і перагнаць у тэхніка-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

У рэзолюцыі XVI партзьезду зазначана: „XV партзьезд высунуў як адну з важнейшых проблем рэконструкцыйнага пэрыоду проблему культурнай рэволюцыі. Тэмпы разгортваньня культурнага будаўніцтва яшчэ недастатковы: зьезд зьвяртае ўвагу на неабходнасьць іх узмацненьня. Правядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня і ліквідацыя няпісьменнасьці павінны стаць ударнай задачай партыі на бліжэйшы пэрыод“.

2. Усеагульнае абавязковае навучаньне ня толькі проблема колькаснага ахопу, але і проблема якаснай перабудовы ўсяе школьнай работы. Школа з першых яе звеньняў павінна дапамагчы вырашэньню проблемы падрыхтоўкі кадраў як для соцыялістычнай прамысловасьці, так і для соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі. У тэзісах 2-й партыйнай нарады па нарасьвеце па гэтым пытаньні адзначана: „Сыстэматычная адукацыя рабочых, якія заняты ў прамысловасьці, і прыцягненьне больш разьвітых рабочых і колгасьнікаў ва ўдарным парадку ў сярэднія, вышэйшыя навучальныя ўстановы—неабходная і важная політычная задача, але ў асноўным вырашыць пытаньне падрыхтоўкі кадраў мы зможам толькі тады, калі маладая зьмена рабочых і колгасьнікаў яшчэ ў дзіцячыя і юнацкія гады атрымае агульную адукацыю, політэхнічную і грамадзка-політычную падрыхтоўку“.

3. Програма партыі вызначае політэхнічную адукацыю як азнаямленьне ў тэорыі і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасьці. Ленін у сваіх нататках да тэзісаў т. Крупскай наступным чынам расшыфроўвае галоўныя галіны: „Задача школы 2-й ступені наступная: выпусьціць такіх, якія-б поўнасьцю і добра ведалі сваю справу, якія-б здольны былі поўнасьцю стаць майстрамі і замяніць практычна-падрыхтаванага да гэтага сталяра, цесьляра, сьлесара і г. д., з тым, аднак, каб гэты „рамесьнік“ меў шырокую агульную адукацыю, каб ведаў мінімум асноў такіх і такіх навук (дасканальна зазначыць, якія); каб быў комуністым (ясна вызначыць, што ён павінен ведаць); каб меў політэхнічны погляд і пачаткі асноў політэхнічнай адукацыі, а менавіта:

а) асноўныя разуменьні электрычнасьці (ясна вызначыць, якія);

б) прыстасаваньне электрычнасьці ў мэханічнай прамысловасьці;

в) тое самае ў хэмічнай;

г) тое самае аб пляне электрыфікацыі РСФСР;

д) якія-б наведаў ня менш 1-3 разоў электрычную станцыю, завод, саўгас;

е) ведаць такія і такія асновы агрономіі і г. д. Распрацаваць мінімум ведаў.

4. Выходзячы з гэтага, мэтодолёгічна правільным будзе, калі ў аснову політэхнічнай адукацыі і выхаваньня пакладзена будзе конкрэтная вытворчасьць. Асноўныя штрыхі соцыялістычнай гаспадаркі, якая зараз рэконструіруецца— аўтомотызацыя вытворчасьці, конвэер, адзінства і тыпізацыя ў абсталяваньні вытворчасьці, паступовая ўніфікацыя спажываемай энэргіі, процэсы апрацоўкі і ўся організацыя вытворчасьці і працы ствараюць глебу для выдзяленьня агульных мэханічных, тэхнолёгічных, энэргетычных і вытворча-організацыйных прынцыпаў, якія зьяўляюцца характэрнымі для цэлага шэрагу вытворчасьцяй. Побач з гэтым павінны быць захаваны спэцыфічныя для кожнай галіны вытворчасьці своеасаблівыя штрыхі. Гэта

мэтодолёгічная ўстаноўка дае нам магчымасьць весьці барацьбу супроць ухілаў у разуменьні політэхнізму, якія выражаюцца:

а) у разуменьні політэхнізму як мэханічнага злучэньня паасобных галін вытворчасаці;

б) давядзеньні політэхнізму да рамесьніцтва.

Гэтыя ўхілы ня ўлічваюць дыялектычнага закону адзінства процілегласьцяй.

5. Такім чынам, пад політэхнічнай асьветай мы разумеем, як правільна зазначае т. Крупская, „цэлую сыстэму, у аснове якой ляжыць вывучэньне тэхнікі ў яе размаітых формах, узятую ў яе разьвіцьці і ва ўсіх яе сувязях (опосредствованиях). Сюды ўваходзіць вывучэньне „натуральнай тэхнолёгіі“, як Маркс называў жывую прыроду, тэхнолёгіі матар'ялаў, сродкаў вытворчасьці, вывучэньне рухомай сілы—энэргетыкі; сюды ўваходзіць вывучэньне географічных асноў экономічных адносін, уплыў сродкаў вытворчасьці і апрацоўкі на грамадзкія формы працы і ўплыў апошніх на ўвесь грамадзкі ўклад.

Такім чынам, політэхнізм мы будзем мець тады, калі ўся вучэбная праца падпарадкавана працы на конкрэтнай вытворчасьці, калі дзеці ўдзельнічаюць у вытворчай працы на фабрыцы і заводзе, у саўгасе, колгасе, калі вывучаюць навуковыя асновы вытворчага процэсу, калі дзіцячы колектыў уключаецца ва ўсю вытворчую і грамадзкую працу пэўнага прадпрыемства, калі дзеці дапамагаюць выпрацоўваць сустрэчны прамфінплян, удзельнічаюць у соцспаборніцтве, ударніцтве і ва ўсёй грамадзка-карыснай працы прадпрыемства, калі вывучаюць вытворчыя суадносіны на пасьлядоўна соцыялістычным прадпрыемстве, організацыю і кіраўніцтва фабрыкай, заводам, колгасам і саўгасам.

6. Пастанова 2-е Партнарады па сыстэме народнай асьветы аб тым, каб былі два асноўных тыпы школ: фабрычна-заводзкая сямігодка і школа колгаснай моладзі, азначае характар і форму політэхнізацыі школы. Няма нэйтральных проста сямігодак, а ёсьць школы, якія зьвязаны з конкрэтнай вытворчасьцю, якія ўключаюцца ў агульны плян гэтай вытворчасьці.

Гэтыя школы зьяўляюцца апорнымі пунктамі для політэхнізацыі іншых вакольных школ. У тых мясцовасьцях, дзе няма значных фабрык і заводаў, ствараюцца комунальныя сямігодкі на тых жа прынцыпах, як і ФЗС. Гэтую пастанову трэба зараз жа ажыцьцёвіць з такім разьлікам, каб не пазьней верасьня 1931 г. рэорганізаваць усю сетку сямігодак у фабрычна-заводзкіх раёнах, мястэчках і гарадох—у ФЗС, у мястэчках і дробных гарадох, дзе ёсьць вытворчасьць комунальнага тыпу (электрычныя станцыі, млыны, вадаправод), альбо дробная дзяржаўная прамысловасьць—у комунальныя сямігодкі, а ў колгасах і саўгасах—у ШКМ.

8. Побач з політэхнізацыяй сеткі сямігадовых школ на базе конкрэтнай вытворчасьці трэба разгарнуць сетку ФЗВ і сельгас-і саўгас-вучнёўства, як асноўныя кіруючыя зьвеньні ў справе падрыхтоўкі кваліфікаваных, політычна-адукаваных рабочых. Пытаньне політэхнізацыі зьяўляецца актуальным і для пэдагогічных устаноў, якія рыхтуюць настаўнікаў: пэдтэхнікумы, пэдкурсы, пэдінстытуты, пэдфак павінны быць прымацаваны ўжо ў гэтым годзе да фабрык і заводаў.

Элемэнты політэхнізму павінны прасякнуць сельска-гаспадарчыя і індустрыяльныя сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы.

8. Практычна політэхнізацыя ФЗС і КС павінна складацца з наступнага:

а) Не пазьней 1 лістапада г. г. прымацаваць гарадзкія і местачковыя школы да фабрык і заводаў, электрычных станцый, мэханізаваных арцеляй з мэтаю, каб прадпрыемства ўключыла школу як органічную частку свайго вытворчага пляну.

б) Організаваць пры фабрыках, заводах і г. д. спэцыяльныя вучэбныя цэхі для 5-7 груп, дзе дзеці змаглі-б праводзіць сваю вытворчую практыку, адначасова з гэтым організаваць майстэрні-лябораторыі, галоўным чынам мэханізаваныя, якія павінны таксама быць уключаны ў вытворчы плян пэўнага прадпрыемства. Гэтыя майстэрні павінны

даць дзіцяці мінімум політэхнічных ведаў у сэнсе мэтодаў апрацоўкі матар'ялаў: мэханічныя, хэмічныя і формы скарыстаньня энэргіі.

Увага. Навучальны цэх зьяўляецца цэхам заводу, фабрыкі, комбінату. У гэтым цаху павінен быць добра організаваны ўвесь вытворчы процэс пэўнага заводу, фабрыкі ці комбінату, з прыстасаваньнем для дзяцей як варштатаў, так і матар'ялаў. Навучальны цэх павінен быць уключаны ў гаспадарчы плян фабрыкі, заводу ці комбінату і працаваць па заданьнях фабрыкі.

в) Організаваць у масавай школе у 1-4 групах працоўныя пакоі, якія-б далі магчымасьць дзецям азнаёміцца з тэхнікай вытворчасьці (прымітыўная апрацоўка дрэва, мэталю і інш. плястычных матар'ялаў;) скарыстаць прылады „конструктар-піонэр“ у канструкцыйных мэтах. Пашырыць модэляваньне і дапамагчы вынаходзтву.

Побач з гэтым павінны організоўвацца для дзяцей экскурсіі на заводы і фабрыкі на некаторых вытворчасьцях, калі ёсьць адпаведныя санітарна-гігіенічныя ўмовы, мажлівы ўдзел старэйшых груп (3-4) у непасрэднай працы вытворчасьці.

Увага. У 1-4 групах працоўныя пакоі павінны організоўвацца наступным чынам:

а) у многакомплектавых школах для працоўных пакояў адводзяцца адзін альбо два пакоі комбінаванай працы, якая павінна ўключыць розныя матар'ялы, інструманты, прыстасаваныя для ажыцьцяўленьня конструкцыйных замыслаў дзяцей, тэхнічнага модэляваньня; трэба організаваць шэраг тэхнолёгічных куткоў, прымітыўныя прыстасаваньні для тэхнолёгічных і тэхнічных вымераў

б) у аднакомплектавых альбо двухкомплектавых школах у працоўны пакой пераходзіць той жа пакой, дзе дзеці займаюцца; так арганізуваецца некалькі куткоў-габінэтаў, па таму ж прынцыпу, як і ў многакомплектавай школе.

г) Скарыстаць тэхнічныя дыяпозытывы цэлага вытворчага процэсу і чырцяжы, пачынаючы з 1-й ступені школы. Падрыхтаваць тэхнічныя і політэхнічныя кіно-фільмы.

д) Організаваць усю грамадзкую работу школы навокал фабрыкі, заводу і г. д., мобілізаваць школу ў справе дапамогі выкананьня прамфінпляну, сустрэчнага пляну, контролю над соцспаборніцтвам, удзелу ва ўдарніцтве на фабрыцы і ў іншых грамадзка-політычных кампаніях.

е) уся програма павінна будавацца на вытворчасьці пэўнага прадпрыемства, г. зн., конкрэтна ўзяць вытворчасьць, як стрыжань, павінна быць органічная сувязь паміж ФЗС і ФЗВ; плянаваньне работы павінна коордынавацца паміж усімі навучальнымі ўстановамі, якія прымацаваны да гэтых фабрык і заводаў.

ж) Організацыя і мэтоды работы ў такой політэхнічнай школе павінны быць новымі—мэтод проектаў, як асноўны мэтод работы школ, новыя формы організацыі работы—зьвеньні, брыгады—паступова выцiснуць клясную форму організацыі работы.

Не парываючы сувязі з саўгасамі альбо колгасамі на працягу ўсяго навучальнага году, школа асабліва павінна ў сэзонны час прыняць актыўны ўдзел у працы саўгасу альбо колгасу, пачынаючы з першых груп у пэўнай паступовасьці.

9. Як фабрычна-заводзкія, так і колгасныя сямігодкі павінны быць зараз жа політэхнізаваны. Кіруючымі зьвеньнямі павінны быць саўгасвуч і ШКМ пры мэханізаваных саўгасах, машынна-трактарных станцыях. Не пазьней 1 лістапада школы павінны быць прымацаваны да саўгасаў і колгасаў у тых школьных раёнах, дзе яны ёсьць. Апрача практычнай работы і ўдзелу ў вытворчасьці колгасу ці саўгасу, дзеці павінны знаёміцца з тымі галінамі прамысловасьці, якія зьвязаны з сельскай гаспадаркай (сельска-гаспадарчыя машыны, хэмія, электрычнасьць), у першых групах масавых школ трэба правесьці ў жыцьцё агрономізацыю, якая зьяўляецца органічнай часткай політэхнізацыі школ. Адначасова з гэтым трэба організаваць працоўныя пакоі, як у ФЗС. І ў гэтых тыпах школ трэба ўводзіць новыя формы організацыі і мэтоды работы, як мэтод проектаў, брыгады, зьвеньні, бесьперапынны навучальны год і г. д. У гэтых школах трэба організаваць больш працяжныя экскурсіі ў горад для азнаемленьня з індустрыяй.

Ва ўсёй працы па політэхнізацыі школы павінна ўдзельнічаць самакіраваньне вучняў, шляхам перабудовы ўсёй працы пад лёзунгамі: тварам да вытворчасьці, мобілізацыі дзяцей навакол пытаньняў

політэхнізацыі, стварэньня ўдарных брыгад, удзелу ў працы ўдарных брыгад заводу, фабрыкі, колгасу, саўгасу, удзелу ў контролі па выкананьню соцспаборніцтва, у распрацоўцы сустрэчнага прамфінпляну і г. д.

10. Політэхнізацыя школы ў тых мясцовасьцях, дзе няма прамысловасьці, ня толькі мажліва, але і неабходна, бо політэхнізацыя ёсьць ня толькі вынік процэсу тэхнікі, але і арудзьдзе індустрыялізацыі. Для цэлага шэрагу раёнаў неабходна стварыць раённыя мэханізаваныя майстэрні, дзе б прапусьцілі дзяцей па конвэернай сыстэме; вытворчыя экскурсіі, сувязь з агропунктам, з агротэхнічнымі станцыямі, з мэліорацыйнымі і тарпянымі т-вамі, з лесаапрацоўкай, млынамі і інш. відамі мясцовай прамысловасьці і дарожнага будаўніцтва; побач з гэтым трэба скарыстаць матар'ял Усебеларускай выстаўкі сельскае гаспадаркі і прамысловасьці для політэхнічных мэтаў, організаваць перасовачны політэхнічны музэй, які б па пэўнаму пляну абслугоўваў раёны, у першую чаргу тыя, дзе няма прамысловасьці.

11. Політэхнічны мінімум, які павінен ведаць кожны вучань, выразна паказаны ў нататках Леніна. Неабходна зараз жа гэта дэталізаваць і, выходзячы з гэтага, скласьці програму для паасобных груп, улічваючы іх пэдолёгічныя асаблівасьці. Выдадзеная НКА програма па працы, і наогул усе програмы як для першага концэнтру, так і для другога (ФЗС і ШКМ) зьяўляюцца проектамі, на базе якіх мы павінны працягваць нашу далейшую работу па выпрацоўцы програм. Трэба распрацаваць цэлы шэраг мэтодычных лістоў па пытаньню політэхнізацыі.

12. Політэхнізацыя школы нацменшасьцяй павінна праходзіць на агульных асновах і з тэй асаблівасьцю, што ў тых мястэчках, дзе разгорнуты тып комунальнай сямігодкі, прыдзецца змагацца з той тэндэнцыяй, якая лічыць неабходным політэхнізаваць школу, выходзячы не з вакольнага вытворчага асяродзьдзя, а з заняткаў бацькоў вучняў школы.

13. Побач з політэхнізацыяй школы неабходна організаваць сетку ўстаноў пазашкольнага тыпу для політэхнічнага працоўнага выхаваньня: тэхнічныя станцыі, агротэхнічныя станцыі, тэхнічныя перасовачныя пункты, тэхнічныя гурткі, дзе-б дзеці маглі модэляваць, працаваць і разьвіваць свае конструкцыйныя здольнасьці. Кіраваць усёй гэтай працай павінна піонэрорганізацыя. Добраахвотныя організацыі (аўтодор, тэхмас і інш.) павінны дапамагчы ў гэтай справе. Пры станцыях трэба праводзіць конкурсы на лепшыя модэлі, організоўваць выстаўкі, курсы, конфэрэнцыі па пэўна вызначанаму пляну. Усё гэта павінна служыць справе вынаходзтва і пашырэньня тэхнікі сярод дзяцей.

14. Трэба зараз жа апрацаваць контрольныя лічбы па політэхнізацыі школы і пазашкольных устаноў на 30-31 г., улічваючы, што да канца пяцігодкі мы павінны ў асноўным політэхнізаваць усю сыстэму народнай асьветы. Кожная школа з свайго боку павінна выступіць са сваім сустрэчным плянам політэхнізацыі. Лічбы політэхнізацыі павінны служыць базай для абгаварэньня іх на фабрыках, заводах, колгасах, саўгасах, як органічная частка іх пляну. У сустрэчныя промфінпляны фабрык, заводаў, колгасаў, саўгасаў трэба ўключыць конкрэтныя мерапрыемствы па політэхнізацыі школы.

15 Асноўнае ў політэхнізацыі школы— гэта стварыць навакол гэтага пытаньня масавы рух, мобілізаваць шырокія колы рабочых, батракоў, беднякоў, сераднякоў; для гэтага неабходна організаваць політэхнічны паход. Мэты гэтага паходу наступныя:

а) папулярызаваць ідэі політэхнізму і давесьці контрольныя лічбы політэхнізацыі прымацаванай установы да кожнага рабочага, колгасьніка;

б) абгаварыць пляны працы прымацаванай школы на вытворчых нарадах фабрык, заводаў, колгасаў, саўгасаў;

в) стварыць добраахвотныя брыгады рабочых, батракоў, якія будуць кіраваць работаю дзяцей у майстэрнях, кіраваць тэхнічнымі гурткамі, экскурсіямі на вытворчасьць, дапамагаючы ва ўсёй пэдпрацы школы;

г) прыцягнуць інжынэрна - тэхнічны і агрономічны пэрсонал да кіраўніцтва справай політэхнізацыі настаўніцтва;

д) організаваць сыстэматычныя налёты на школы і рэвізаваць, як праводзіцца аснова політэхнізацыі школы;

е) узяць на грамадзкі буксір тыя фабрыкі і заводы, колгасы і саўгасы, якія не дапамагаюць справе політэхнізацыі школы;

ж) організаваць усебеларускі збор прапаноў па політэхнізацыі школы ад рабочых, колгасьнікаў, інжынэраў, тэхнікаў;

з) друк павінен сыстэматычна ставіць на абгаварэньне пытаньні політэхнізацыі ў сувязі з увядзеньнем усеагульнага абавязковага навучаньня. Ва ўсю гэтую працу павінны быць найбольш уцягнуты комсамольскія і піонэрорганізацыі. Трэба ўзьняць мільёны дзяцей на барацьбу за політэхнічную школу. Зараз жа неабходна:

а) выдаць сэрыю кніжак для дзяцей і дарослых — „Змаганьне за політэхнічную школу“ на розных мовах;

б) выдаць сэрыю тэхнічнай літаратуры для дзяцей;

в) выдаць сэрыю дыяпозытываў і кінофільм па політэхнізацыі школы;

г) разгарнуць экскурсійна - турыстычную работу як у горадзе, так і на вёсцы;

д) скарыстаць тэатр у політэхнічных мэтах;

е) каб часопісь „Ком. выхаваньне“ сыстэматычна друкавала артыкулы аб політэхнізацыі. вопыце, асьвятляла дасягненьні і недахопы ў політэхнізацыі школы, організавала консультацыю па пытаньнях політэхнізацыі.

16. Адна з цяжкасьцяй у справе політэхнізацыі школы — гэта пытаньне аб політэхнічным абсталяваньні. Неабходна зараз жа:

а) каб інстытут працы і інстытут пэдолёгіі і пэдагогікі распрацавалі мінімум неабходнага абсталяваньня для паасобных тыпаў школ; неабходна навукова абгрунтаваць тып мэблі і тып памяшканьня для політэхнічнай школы;

б) перавесьці адзін з мясцовых заводаў на вытворчасьць стандартнай мэблі для політэхнічнай школы;

в) перавесьці фабрыку цацак на вытворчасьць стандартных політэхнічных прылад, у першую чаргу па тыпу „конструктар-піонэр“ і політэхнічных цацак, пры другіх заводах абсталяваць цэхі па вырабу політэхнічных варштатаў і інш. навучальных прылад;

г) скарыстаць старыя прылады вытворчасьці, непатрэбныя фабрыкам і заводам, для школьных майстэрняў;

д) ка кожны завод, фабрыка, колгас, саўгас даў патрэбнае абсталяваньне для майстэрняў-лябораторый;

е) стварыць політэхнічную станцыю, скарыстаць для гэтага матар‘ял усебеларускай выстаўкі;

ж) стварыць вытворчы музэй пры фабрыках, саўгасах, колгасах.

17) Політэхнічная школа сустракае яшчэ адну цяжкасьць, якую трэба перамагчы,—гэта падрыхтоўка і перападрыхтоўка кадраў, перабудова ўсяе сыстэмы на політэхнічнай базе.

У пэдтэхнікумах, пэдінстытутах неабходна зараз жа:

а) прымацаваць іх да заводаў, фабрык і колгасаў;

б) організаваць мэханізаваныя майстэрні-лябораторыі для студэнцтва і настаўніцтва;

в) распрацаваць конкрэтны плян політэхнічнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі настаўніцтва;

г) увесьці новую сыстэму пэдасьветы, як вылучэньне рабочых брыгадзіраў, культармейцаў на пэдпрацу; уводзіць у тэхнічныя навучальныя ўстановы, с.-г. тэхнікумы курсы політэхнічнай пэдагогікі У вячэрніх школах, вяч. рабфаках, рабочых і колгасных унівэрсытэтах організаваць пэдаддзяленьні.

18. Уключаючы школу ў агульны фронт соцыялістычнага будаўніцтва, пры адзіным пляне дзейнасьці ўсіх організацый (НКА, ВСНГ, НКЗ, КСМ і добраахвотных організацый), мы ўжо ў гэтым годзе павінны дабіцца рэальных вынікаў політэхнізацыі. Для гэтага неабходна заключаць генэральныя і раённыя ўмовы паміж гэтымі організацыямі. У гэтых умовах павінна быць выразна паказана, якія абавязкі кожная організацыя бярэ на сябе.

19. Кожная організацыя павінна паказаць тыя контрольныя лічбы, якія яна бярэ для выкананьня. Гэтыя контрольныя лічбы павінны рэвізавацца рабочымі, як яны выконваюцца. Культсаветы,

культсэкцыі саветаў, саветы, заводы, фабрыкі, колгасы, саўгасы павінны ўключыць пытаньні політэхнізацыі школы ў іх раёне, як адну з важнейшых проблем. Шырока трэба разгарнуць мэтоды соцспаборніцтва, ударніцтва ў справе політэхнізацыі школ паміж заводамі, фабрыкамі, саўгасамі і колгасамі. Організаваць у 1931 годзе ў БССР конкурс на лепшую політэхнічную школу, на лепшы завод, саўгас, колгас, які наладзіў найлепш справу політэхнізацыі.

20. Навукова-дасьледчыя пэдінстытуты павінны заняцца вывучэньнем справы політэхнізацыі як з мэтодолёгічнага, так і з мэтодычнага боку. Трэба, каб і т-ва марксыстых-пэдагогаў накіравала сваю ўвагу пытаньням політэхнізму.

21. Політэхнізацыя школы ў марксыцка-ленінскім разуменьні мажліва тады, калі ва ўсёй рабоце мы будзем змагацца супроць ухілаў у разуменьні політэхнізму, якія мы маем цяпер:

а) супроць славесна вэрбальнага разуменьня політэхнізму, дзе працу на вытворчасьці, грамадзка - карысны характар гэтай працы замяняюць растлумачэньнем і размовамі аб працы, што вядзе школу да старой славесна-вэрбальной школы, з аднаго боку, і б) супроць вузкага практыцызму, жаданьня даць толькі тэхнічныя звычкі, бяз увязкі з вытворчасьцю, без разуменьня вытворчых суадносін на соцыялістычнай ф-цы, што вядзе да гасьцеўшчыны, супроць гэтых ухілаў мы павінны змагацца як у тэорыі, так і на практыцы, політэхнізацыя толькі ў разуменьні Маркса-Леніна забясьпечвае сапраўдную пастаноўку комуністычнага выхаваньня ў школе, ствараючы базу для зьнішчэньня разрыву паміж разумовай і фізычнай працай, розьніцы паміж горадам і вёскай.

---

*Рэзолюцыя па дакладу тав. Міцькова*

## „Падрыхтоўка масавых колгасных кадраў і роля ШКМ“

1. Пасьпяховае выкананьне задачы індустрыялізацыі краіны і ажыцьцяўленьне на гэтай аснове новых вытворчых форм змычкі рабочае клясы з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства стварылі ўмовы і забясьпечылі магчымасьць шпаркага тэмпу работы па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, па выкарчоўваньню карэньняў капіталізму і практычнаму ажыцьцяўленьню задачы — ліквідацыі кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнай колектывізацыі.

2. Ужо дасягнутыя посьпехі ў насаджэньні саўгасаў і колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, практычнае ажыцьцяўленьне пастаўленай партыяй задачы колектывізаваць у асноўным да канца пяцігодкі ўсе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі з усёй рашучасьцю ставяць задачу падрыхтоўкі кадраў, у тым ліку масавых, адпаведна з усё ўзрастаючымі запатрабаваньнямі і тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Усё ўзрастаючаму соцыялістычнаму сэктару сельскае гаспадаркі патрэбны такія кадры, якія-б мелі такую суму агульна-тэхнічных ведаў і звычак, што забясьпечылі-б ім магчымасьць хутчэйшага падвышэньня на самай вытворчасьці сваёй спэцыяльнай працоўнай кваліфікацыі.

3. Стварэньне колгасных кадраў, як гэта адзначыў XVI зьезд УсеКП(б) у сваіх пастановах, зьяўляецца аднэй з важнейшых умоў замацаваньня колектывізацыі і выкананьня задачы суцэльнай колектывізацыі.

У аснову работы па падрыхтоўцы масавых колгасных кадраў павінна быць пакладзена:

а) вылучэньне кадраў на кіруючую работу ў колгасах з асяродзьдзя саміх колгасных мас;

б) організацыя масавай падрыхтоўкі колгасных кадраў праз кароткатэрміновыя курсы пры с.-г. тэхнікумах, ШКМ, ВНУ і саўгасах;

в) большае ўцягненьне ў с.-г. ВНУ і тэхнікумы колгаснай моладзі.

4. Адна з асноўных задач політэхнізацыі ШКМ павінна заключацца ў тым, каб падвесьці пад ШКМ сталую вытворчую базу, цесна ўвязаўшы ШКМ з саўгасамі і буйнейшымі колгасамі.

Выходзячы з таго, што політэхнічная асьвета патрабуе вывучэньня гарадзкой і вясковай працы, неабходна, каб ШКМ зьвярнулі больш увагі на тэхніку і організавалі азнаямленьне вучняў з асновамі індустрыяльнай вытворчасьці, перш за ўсё праз вывучэньне тых галін індустрыяльнай вытворчасьці, якія найбольш цесна зьвязаны з сельскай гаспадаркай (сельска-гаспадарчае машыннае будаўніцтва, хэмія, электрычнасьць і г. д.).

Адным з асноўных недахопаў работы ШКМ да гэтай пары зьяўлялася тое, што:

а) ШКМ былі адарваны па сутнасьці ад вытворчай базы, а ў сувязі з гэтым была дрэнна наладжана практыка ШКМ;

б) незабесьпячэньне вучэбнымі прыладамі, майстэрнямі і выкладчыкамі належнай кваліфікацыі;

в) адсутнасьць належнай увагі і дапамогі ў працы ШКМ з боку зямельных і колгасных органаў.

Пасьпяховае выкананьне задачы політэхнізацыі ШКМ палягчаецца тым, што ШКМ найбольш блізка падышла да ажыцьцяўленьня гэтай задачы і найбольш шчыльна зьвязалася з вытворчасьцю і організавала ўдзел у вытворчай працы.

Выходзячы з вышэйпералічаных задач, далейшая работа ШКМ павінна вымярацца ступеньню ажыцьцяўленьня політэхнічнага выхаваньня дзяцей, падрыхтоўкі організатараў і працаўнікоў колектыўных форм гаспадаркі, абслугоўваньня вытворчых і культурна-бытавых патрэб колгасаў, дапамогі далейшаму росту колўасаў у раёне і ахопу дзяцей батрако іг беднаты (у першую чаргу дзяцей колгасьнікаў).

Пр.актычна неабходна:

1 Усе існуючыя вясковыя сямігодкі рэорганізаваць, а існуючыя ШСМ перайменаваць у школы колгаснай моладзі.

2. Політэхнічнае выхаваньне дзяцей у ШКМ павінна даваць такі аб'ём ведаў і такую вытворчую падрыхтоўку, каб ШКМ магла зьяўляцца базай для сельскагасвучнёўства і быць крыніцай папаўненьня тэхнікумаў і ВНУ, а таксама падрыхтоўваць кадры масавай кваліфікацыі для соцыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі, скарыстоўваючы іх з цягам часу ў якасьці брыгадзіраў паляводзтва, жывёлагадоўлі, трактарыстых, контрольасыстэнтаў і г. д. Пры гэтым кожная ШКМ павінна прыняць на шырокай аснове політэхнізацыі спэцыяльны напрамак (паляводны, жывёлагадоўчы, трактарны, ільнаводны і г. д.).

3. Неабходна значна павялічыць у програмах ШКМ вывучэньне сельскагаспадарчых машын і тым самым наблізіць ШКМ да тыпу агро-індустрыяльнай школы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на скарыстаньне праз організацыю вытворчага навучаньня агрокомбінатаў і пасобных прадпрыемстваў-колгасаў, для атрыманьня ўсіх вытворчых звычак, зьвязаных з процэсамі як здабычы с.-г. продуктаў, так і тэхнічнай апрацоўкі.

4. Узяць у далейшым напрамак на разгортваньне сеткі ШКМ такім тэмпам, каб к канцу пяцігодкі забясьпечыць ёю ня менш 30 проц. дзяцей бядняцка-серадняцкага сялянства, у першую чаргу, дзяцей батракоў і беднаты.

5. ШКМ павінны быць уключаны ў агульны гаспадарчы плян колгасаў і саўгасаў, якія з свайго боку забясьпечваюць школы для вучэбнай мэты спэцыяльным комплектам сельскагаспадарчых машын і прыладаў, спэцыяльнымі групамі жывёлы, спэцыяльнымі вучасткамі для апрацоўкі іх вучнёўскімі прыладамі і г. д.

ШКМ павінны аб'яднаць сваю вучэбную гаспадарку і сродкі вытворчасьці з колгасамі і саўгасамі, дзе мэханізацыя ахапіла ўжо асноўныя процэсы. У колгасах ШКМ уносяць сродкі вытворчасьці у непадзельны капітал колгасу.

Для ўсямернай дапамогі ШКМ колгасная сыстэма павінна організоўваць матар'яльнае падтрыманьне ШКМ шляхам спэцыяльных адлічэньняў ад прыбыткаў, засеву спэцыяльных гэктараў на паскарэньне політэхнізацыі ШКМ, паляпшэньня ўсяе іх работы.

6. Вытворчае навучаньне і практыка вучняў павінны зьяўляцца формай ска-

рыстаньня іх працы ў колгасах; вывучэньне програмы вытворчага навучаньня і практыкі павінна насіць характар выкананьня вытворчых заданьняў колгасаў і мець гаспадарчую каштоўнасьць для яго. Белколгасцэнтру сумесна з ЦК ЛКСМ і НКА у бліжэйшы час распрацаваць пытаньне аб відах работ, іх працягласьці для рознага ўзросту вучняў, а таксама матар'яльнага іх забесьпячэньня, даўшы месцам адпаведныя дырэктывы па гэтых пытаньнях.

7. ШКМ, якія знаходзяцца ня ў цэнтры колгасаў, павінны быць прымацаваны да колгасаў ці саўгасаў, якія і павінны зьявіцца асноўнай базай вытворчага навучаньня і практыкі вучняў.

8. Маючы на ўвазе наяўнасьць значнай колькасьці колгаснай і бядняцка-серадняцкай моладзі з ведамі ў аб'ёме пачатковай школы, неабходна, разам з існуючымі дзённымі ШКМ, арганізаваць вячэрнія ШКМ па тыпу дзённых.

Колгасцэнтру і НКЗ прыняць меры да забесьпячэньня ў першую чаргу складанымі машынамі і прыладамі тых колгасаў і саўгасаў, у якіх існуюць ШКМ.

9. Зьезд лічыць неабходным, каб Колгасцэнтр, НКА і НКЗ, для хутчэйшага правядзеньня політэхнізацыі ШКМ, забясьпечылі неабходнымі сродкамі ШКМ для належнага абсталяваньня габінэтаў, майстэрняў, лябораторый і інш.

10. Для ліквідацыі адсеву вучняў з ШКМ неабходна прыняць усе захады у гэтым жа годзе да організацыі інтэрнатаў, забесьпячэньня вучняў абуткам і вопратка, узмацніць праз грамадзкасьць матар'яльную дапамогу бяднейшым вучням.

11. Улічваючы нездавальняючую забясьпечанасьць ШКМ належным складам выкладчыкаў як па агульна адукацыйных прадметах, так і спэцыяльных, НКА і НКЗ павінны прыняць належныя крокі да ўкомплектаваньня ШКМ выкладчыкамі па агульнаадукацыйных і спэцыяльных прадметах. Неабходна, каб агравытворчы пэрсонал зямельных і колгасных органаў быў шырока выкарыстаны для работы ў ШКМ.

12. Улічваючы, што рэорганізацыя сямігодак у ШКМ і політэхнізацыя праводзяцца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы на вёсцы, калі кулацтва ўсімі сіламі будзе імкнуцца сарваць справу політэхнізацыі, неабходна, каб у бліжэйшы час было організавана правядзеньне самай шырокай растлумачальнай работы сярод колгасьнікаў і індывідуальна бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб сутнасьці і значэньні політэхнізацыі школы, даючы рашучы адпор усялякім імкненьням кулацтва сарваць або перашкодзіць практычнаму ажыцьцяўленьню задачы організаваць работу народнае асьветы ў адпаведнасьці з задачамі социялістычнага будаўніцтва.

ШКМ рашучай, сапраўды рэволюцыйнай перабудовай навучальна-вытворчай і грамадзка-карыснай работы павінны заваяваць сваё права на новую назву і перайсьці на больш высокія (колькасна і якасна) паказальнікі свае работы і стаць значным фактарам социялістычнай перабудовы вёскі.

---

*Рэзолюцыя па дакладу тав. Клімковіча*

## „Політэхнізацыя школы і задачы профсаюзаў"

*(Зацьверджана прэзыдыумам ЦСПСБ)*

1. Проблема кадраў зьяўляецца рашучай проблемай социялістычнага будаўніцтва. Магутна разгортваючаяся социялістычная індустрыялізацыя і социялістычны сэктар сельскае гаспадаркі патрабуюць неабходных кадраў кваліфікаваных рабочых, інжынэраў і тэхнікаў.

Уся існуючая сыстэма падрыхтоўкі патрэбных нам кадраў ня можа даць неабходнай колькасьці і якасьці кадраў. Гэтыя кадры мы зможам атрымаць толькі ў выніку рашучай перабудовы гэтай сыстэмы, у першую чаргу, школы на базе політэхнізму.

2. Барацьба за кадры людзей „со всесторонне развитыми способностями, способных ориентироваться во всей системе производства" (Эньгельс — Принципы

коммунизма), ёсьць у той жа часая барацьба за політэхнізм, набываючы ў наш час актуальнейшае значэньне. Політэхнізм неразрыўна органічна зьвязаны з будаўніцтвам соцыялізму. Вядучы барацьбу за політэхнізм, які дасьць нам патрэбныя кадры будаўнікоў соцыялізму, мы вядзем барацьбу за зьнішчэньне розьніцы паміж горадам і вёскай, за зьнішчэньне розьніцы паміж разумовай і фізычнай працай.

3. У прынятай VIII зьездам партыі програме адзначана, што наша школа павінна быць політэхнічнай. Ул. Іл. Ленін, які заўсёды падкрэсьліваў сэнс і значэньне політэхнізму, асабліва даводзіў аб неебходнасьці політэхнізацыі нашай школы. XVI партзьезд зазначыў на неабходнасьць узмацненьня тэмпаў культурнай рэволюцыі. „Аднэй з рашаючых прадпасылак культурнай рэволюцыі зьяўляецца ліквідацыя няпісьменнасьці, увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, а таксама рэформы школы і ажыцьцяўленьне політэхнічнай асьветы". (Рэзол. зьезду).

4. Справа політэхнізацыі школы ёсьць у першую чаргу справа ўсяе пролетарска-савецкай грамадзкасьці. Толькі опортуністыя чысьцейшай вады могуць разглядаць задачы політэхнізацыі школы, як вузка-ведамсьцьвеную задачу.

Профсаюзы, зьяўляючыся школай комунізму, ажыцьцяўляючы генэральную задачу рэконструкцыйнага пэрыоду—разгортваньне наступленьня соцыялістычных элемэнтаў на капіталістычныя па ўсім фронце, рашуча змагаючыся з вынікамі былога опортуністычнага кіраўніцтва УсеЦСПС, які проціставіў профсаюзы партыі, не жадаў і ня ўмеў мобілізаваць масы для наступленьня на культурна-ідэолёгічным фронце, павінны пад кіраўніцтвам партыі заняць адно з першых месц у барацьбе за політэхнізацыю школы, „уявіць, што справа політэхнізацыі школы ёсьць першачарговая кроўная" актуальная задача профсаюзаў.

5. Рэконструкцыйны пэрыод характарызуецца вялізарным уздымам актыўнасьці шырокіх рабочых мас у барацьбе за соцыялізм. Шырока разгорнутае соцспаборніцтва, увядзеньне новых рэволюцыйных форм і мэтодаў працы на соцыялістычных прадпрыемствах скразныя брыгады, „грамадзкі буксір", „сустрэчны прамфінплян"—ўсё гэта зьяўляецца шырокай базай для сапраўднага ўдзелу рабочых мас у падрыхтоўцы кадраў. Абапіраючыся на гэтую вялізарную актыўнасьць рабочых мас, профсаюзы павінны ў сваёй барацьбе за політэхнізм ня толькі садзейнічаць разгортваньню гэтае справы, а са ўсёй рашучасьцю ўзяцца за справу політэхнізацыі школы, дагнаць тое, што было прапушчана раней, дабіцца актыўнага організаванага ўдзелу кожнага саюзнага зьвяна ў соцыялістычным будаўніцтве школы, організуючы масавы паход рабочых за політэхнічную асьвету.

6. Профсаюзы Беларусі яшчэ надзвычайна мала зрабілі для рэалізацыі дырэктыў XVI партыйнага зьезду аб рэформе школ і ажыцьцяўленьні політэхнічнай асьветы, не разгарнулі шырокай растлумачальнай працы вакол пытаньняў політэхнізацыі школы, ня ўсе яшчэ адгукнуліся на рашучы заклік „тварам да політэхнічнай асьветы". У паасобных саюзных органах ёсьць незразуменьне палітычнага сэнсу політэхнізацыі школ, опортуністычныя погляды на гэтую справу („політэхнізацыя школ нас не датычыцца"), разгляд справы політэхнізацыі, як справы выключна органаў нар. асьветы і г. д.

7. Складанасьць і адказнасьць справы політэхнізацыі школы патрабуюць ад профсаюзаў правядзеньня шэрагу мерапрыемстваў. У задачы ўсіх зьвеньняў саюзных органаў уваходзіць мобілізацыя рабочых мас на выкананьне дырэктыў партыі аб політэхнізацыі, ператварэньне ФЗВ, ФЗС, ШКМ у прыкладныя школы політэхнічнага выхаваньня, злучаючы навучаньне з вытворчай працай. У задачы профсаюзаў уваходзіць організацыя сустрэчнага промфінпляну, падрыхтоўка кадраў, організацыя рабочага контролю над політэхнічнай школай, вылучэньне і мобілізацыя лепшых ударнікаў з вытворчасьці ў школы ў якасьці кіраўнікоў з інструктароў апошніх, сумесная праца і

органамі нарасьветы ў будаўніцтве і рэарганізацыі школ. У задачы профсаюзаў уваходзіць барацьба за ператварэньне кожнай адзінкі соцыялістычнай індустрыі, соцыялістычнага сэктару ельскае гаспадаркі ў цэнтры культурнага будаўніцтва.

8. Політэхнізацыя школы патрабуе ўключэньня яе (школы) у вытворчасьць. Школа павінна стаць органічнай часткай вытворчасьці, актыўна ўдзельнічаць ва ўсім жыцьці прадпрыемства, разам з ім весьці барацьбу за выкананьне прамфінпляну, зьніжэньне сабекошту, уздым вытворчасьці працы, палепшаньне якасьці продукцыі і г. д., за разгортваньне рэволюцыйных форм і мэтодаў працы. Профсаюзы павінны сачыць за ўключэньнем політэхнізацыі школы ў гаспадарча-фінансавы плян прадпрыемства. Школа і прадпрыемства павінны стаць адным цэлым.

9. Політэхнізацыя школы не зьяўляецца кароткатэрміновай кампаніяй, а сыстэматычнай штодзённай працай, зьвязанай з усімі процэсамі соцбудаўніцтва. Посьпех політэхнічнай школы ў значнай меры будзе залежаць ад таго, наколькі профсаюзы разгорнуць шырокую растлумачальную працу ў масах, правядуць шырокую падрыхтоўчую работу. Профсаюзы і НКА павінны зараз жа заняцца справай падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў рабочых з лепшых ударнікаў, актыўных удзельнікаў і організатараў політэхнічнай асьветы, вылучэньня інструктароў і загадчыкаў ФЗС, ФЗВ і г. д. У програмы існуючых курсаў і школ профактыву павінны быць унесены пытаньні політэхнізацыі школы. Кожнае саюзнае зьвяно на прадпрыемствах павінна зараз жа распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па сувязі школы з прадпрыемствам, па ўнясеньню ў соцдагаворы пунктаў абавязацельстваў па ўдзелу ў політэхнізацыі школы, дапамозе школе ў яе працы. ФЗМК павінны быць ініцыятарамі і застрэльшчыкамі ў барацьбе за політэхнізм, павінны стаць на чале масавага руху за політэхнічную асьвету, шырока організуючы пропаганду ідэй політэхнізму, сыстэматычную праверку таго, што робіць яго прадпрыемства па ўдзелу ў справе політэхнічнай асьветы.

Профсаюзы павінны:

1) дасканала прапрацаваць у масах сяброў профсаюзаў ідэі політэхнізацыі, пастановы па гэтаму пытаньню партыі і прафсаюзаў і г. д.;

2) організаваць і дапамагаць масам разгортваць сацспаборніцтва і ўдарніцтва па політэхнізацыі школ;

3) уключыць ва ўсю сыстэму культмасавай працы (клюбы, чырвоныя куткі, бібліотэкі) пропаганду ідэй політэхнізму сярод рабочых мас;

4) узяць на сябе абавязкі:

а) забясьпечыць школы праз адпаведныя гаспадарчыя органы вытворчымі майстэрнямі-лябораторыямі;

б) забясьпечыць школам вытворчую практыку на фабрыцы і заводзе;

в) забясьпечыць 100-процантны ахоп школамі ФЗС дзяцей рабочых;

г) вылучаць сваіх прадстаўнікоў у школьныя саветы і саветы садзейнічаньня;

д) вылучыць для ФЗС і ШКМ на працягу 30-31 г. ня менш 30-50 лепшых ударнікаў для загадваньня, інструктаваньня працы з папярэдняй іх падрыхтоўкай на спэцыяльных курсах.

е) прапусьціць праз вытворчую практыку на прадпрыемствах на працягу 3 4 мес. усё настаўніцтва гораду і вёскі, дапамагаючы ў гэтай справе і саюзнымі грашыма;

ж) забясьпечыць удзел профсаюзаў у комплектаваньні пэд. вузаў, пэд. тэхнікумаў, пэд. інстытутаў рабочымі;

з) забясьпечыць праз пляную чыя і гаспадарчыя органы выкананьне пляну будаўніцтва ФЗС з мэтай ахопу апошнімі 100 проц. дзяцей рабочых, вылучыць са сродкаў ФПБР фонд політэхнізацыі асьветы, зрабіўшы яго сталай часткай ФПБР.

10. Асаблівую ролю ў справе політэхнізму павінны адыграць ФЗМК. У задачу апошніх уваходзіць разгортваць і паляпшаць вытворчую працу школы на прадпрыемствах, асьвятленьне жыцьця,

быту і працы школы на сходах рабочых, у насьценгазэтах і шматтыражках, выпраўляць паасобныя недахопы ў працы школы, змагацца з другагодніцтвам, уцягваць усіх дзяцей рабочых у піонэрорганізацыі, організоўваць для іх лягеры, уводзіць сваіх прадстаўнікоў ва ўсе віды школьных організацый, забясьпечыць штодзённы пролетарскі контроль над школай, дапамагаючы ў набыцьці сродкаў. ФЗМК павінен на працягу бліжэйшых месяцаў мобілізаваць усе магчымыя нутраныя рэсурсы прадпрыемства (машыны, варштаты, матар'ялы) для політэхнічнага абсталяваньня школы і вытворчага цэху. Уся гэтая праца павінна весьціся такім чынам, каб была сапраўдная органічная сувязь са школай, сапраўдны ўдзел усяе масы рабочых у жыцьці школы. Вылучаныя для гэтай працы прадстаўнікі профорганаў нясуць поўную адказнасьць перад усёй рабочай масай. Трэба дабіцца таго, каб кожны рабочы ведаў школу, удзельнічаў у яе працы.

11. Культурна-політычны савет прадпрыемства і клюбу павінен уключыць у свой склад прадстаўнікоў прымацаванай школы, вылучыць спэцыяльнага організатора і рабочыя брыгады па політэхнізацыі школы, унесьці ў плян работы разьдзел „супрацоўніцтва школы і прадпрыемства“, забясьпечваючы ўсёй сваёй работай баявы тэмп і ўдзел рабочых мас у справе політэхнізацыі.

12. Профсаюзы сумесна з НКА, ВСНГ і Колгасцэнтрам павінны на працягу бліжэйшага часу распрацаваць адзіны плян правядзеньня політэхнізацыі школы, у якім прадбачыць: а) агітпроп. мерапрыемствы; б) перападрыхтоўку пэд. кадраў; в) падрыхтоўку патрэбных кадраў з ліку рабочых; г) падрыхтоўку інж.-тэх. работнікаў; д) матар'яльнае забесьпячэньне справы політэхнізацыі школы.

13. Інж.-тэх. сэкцыі і БМБІТ павінны дапамагчы органам НКА у справе апрацоўкі програм па вывучэньню процэсаў вытворчасьці і вытворчай практыкі вучняў, у справе перакваліфікацыі настаўнікаў, наладзіць консультацыі настаўнікаў па вытворча-тэхнічных пытаньнях і прыняць актыўны ўдзел як у організацыі вытворчых цэхаў, майстэрняў, лябораторый, рабочых пакояў, так і ў правядзеньні работы школ непасрэдна на прадпрыемстве.

14. Політэхнізацыя вясковай школы патрабуе асаблівай увагі з боку профсаюзаў. Ажыцьцяўленьне шэфства фабрык, заводаў над ШКМ, садзейнічаньне шэфаў політэхнічным абсталяваньнем ШКМ, вылучэньне ў гэтыя школы ў якасьці настаўнікаў рабочых з вытворчасьці, прыцягненьне „25.000-каў“ аграномаў, абмен вопытам з ФЗС, ФЗВ— зьяўляецца задачай профсаюзаў.

15. Саюз працасьветы павінен:

а) падпарадкаваць усю сваю работу справе рэорганізацыі нарасьветы і поўнага рашучага ператварэньня школы з славеснай у політэхнічную, разгарнуць шырокую растлумачальную работу і прапаганду ідэй політэхнізацыі сярод вытворчых саюзаў;

б) організаваць і матар'яльна ўдзельнічаць у політычнай і марксысцка-ленінскай падрыхтоўцы настаўніцтва, увязаўшы яе з адзіным плянам падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі пэд. кадраў;

в) павесьці рашучую барацьбу з лятунамі, дабіваючыся замацаваньня настаўніцтва за школамі да канца пяцігодкі.

16. З мэтай абмену вопытам і разгортваньня грамадзкай думкі наваколо політэхнізацыі, у максімальнай меры скарыстаць увесь пэрыядычны друк (цэнтральны, мясцовы, заводзкі, профсаюзны) для асьвятленьня ўсіх пытаньняў, зьвязаных з політэхнізацыяй і яе практычным правядзеньнем.

П. Панкевіч

# Аб організацыі матар'яльнай базы політэхнічнай школы

(*Да працы сэкцый політэхнічнага зьезду*)

Важнейшымі момантамі політэхнічнай адукацыі зьяўляюцца наступныя:

а) злучэньне вытворчай працы вучняў з іх выхаваньнем і навучаньнем;

б) разгортваньне выхаваньня і навучаньня на аснове социялістычнай вытворчасьці;

в) усебаковае вывучэньне асноўных прынцыпаў пабудовы розных вытворчых процэсаў, вывучэньне як тэорытычнае, так і практычнае.

Політэхнічная адукацыя ня можа зводзіцца толькі да таго, каб вучні набывалі тэхнічныя звычкі. Тут патрэбна яшчэ і тое, каб, побач з набыцьцём тэхнічных звычак, вучні ўразумелі сутнасьць социялістычнай вытворчасьці. Для гэтага яны павінны набыць пэўныя тэхнічныя веды і разьвіваць свае організацыйныя здольнасьці.

Социялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне і клясавая барацьба пролетарыяту патрабуюць, каб сучасны рабочы быў ня толькі добрым выканаўцам і вытворцам, але і адначасова зьяўляўся організатарам социялістычнай гаспадаркі і пасьлядоўным барацьбітом за комунізм. Ужо зараз назіраецца патрэбнасьць у тым, каб кожны рабочы мог хутка і лёгка прыстасоўвацца да розных найноўшых машын, якія ўстанаўліваюцца на нашых фабрыках і якія ў корані зьмяняюць вытворчыя опэрацыі і звычкі, а таксама, каб ён быў здольны пераходзіць ад варштату да кіраўніцтва социялістычнай гаспадаркай. Прынцыпы вылучэнства рабочых і колгасьнікаў на адказную працу, паміж іншым, грунтуюцца на аснове зьмены вытворчых функцый і нават профэсій. Політэхнічная адукацыя садзейнічае падрыхтоўцы ўсебакова разьвітых кадраў, якія павінны стаяць на высокім узроўні культурна-політычнага разьвіцьця.

У галіне політэхнізацыі школы перш за ўсё трэба вырашыць пытаньне аб сувязі школы з вытворчасьцю. У залежнасьці ад мясцовых умоў могуць быць самыя розныя формы гэтай сувязі, а менавіта: вытворчыя экскурсіі, праца вучняў у культурных і грамадзкіх організацыях прадпрыемства, праца вучняў у адным з цэхаў фабрыкі ці ў аднэй якой-небудзь галіне сельска-гаспадарчай вытворчасьці, праца вучняў на адным прадпрыемстве з паступовым пераходам ад аднаго цэху да другога і з наладжваньнем экскурсій на другія прадпрыемствы і, нарэшце, праца вучняў на розных прадпрыемствах.

Зразумела, нашым ідэалам зьяўляецца пабудова політэхнічнай адукацыі на аснове розных галоўных прадпрыемстваў, якія ў сваёй суцэльнасьці давалі-б прадстаўленьне аб асноўных прынцыпах усіх вытворчых процэсаў. Але ж у сучасны момант гэтага не заўсёды магчыма дабіцца. У большасьці выпадкаў нам патрэбна будзе ўжываць іншыя формы сувязі школы з социялістычнай вытворчасьцю. Самай прымітыўнай формай сувязі зьяўляюцца вытворчыя экскурсіі. Апошнія павінны практыкавацца ў тых мясцох, дзе няма блізка зусім ніякіх фабрык, заводаў, саўгасаў і колгасаў, і дзе можна азнаёміцца з социялістычнымі прадпрыемствамі толькі шляхам наладжваньня далёкіх экскурсій, а таксама ў тых мясцох, дзе адпаведныя прадпрыемствы ёсьць, але яны зьяўляюцца недаступнымі для вучняў па сваёй складанасьці і шкоднасьці для здароўя. Само сабой зразумела, што вытворчыя экскурсіі, якія будуюцца на простым назіраньні об'екту і ня грунтуюцца на вытворчай працы вучняў, не зьяўляюцца сродкам політэхнізацыі школы, хаця пэўныя ўмовы для гэтай політэхнізацыі яны ствараюць. Толькі тады, калі вучні пачынаюць працаваць непасрэдна на вытворчасьці з мэтай усебаковага вывучэньня нашай гаспа-

даркі, яны атрымліваюць сапраўдную глебу для політэхнічнай адукацыі. Пры адсутнасьці прадпрыемстваў у адсталых раёнах трэба арганізоўваць майстэрні пры самай школе ці майстэрні раённага маштабу. Гэта патрэбна хаця-б для таго, каб паслабіць славеснае выкладаньне ў школе. Але гэтыя майстэрні, паколькі яны не зьвязваюцца з соцыялістычнай вытворчасьцю і ня ўключаюцца ў вытворчы плян буйнага прадпрыемства, могуць даць прадстаўленьне толькі аб прымітыўных тэхнолёгічных і тэхнічных процэсах і зусім ня могуць даць прадстаўленьня аб соцыялістычных вытворчых адносінах. А між тым, патрэбна вывучыць тэхніку вытворчасьці ў сувязі з вытворчымі адносінамі, гэта значыць, трэба вывучыць прадпрыемствы не па асобных частках, а як цэлую вытворчасьць з усімі яе асаблівасьцямі энэргетычных, тэхнолёгічных і тэхнічных процэсаў і соцыяльных адносін. Ніякая майстэрня сама па сабе ня можа азнаёміць вучняў з сутнасьцю соцыялістычнага прадпрыемства.

Ня гледзячы на гэта, мы не павінны адмаўляцца ад майстэрняў наогул, і там, дзе няма буйнай вытворчасьці, майстэрня дапамагае ажыцьцяўляць працоўнае выхаваньне і пры пэўных умовах можа набліжаць школу да політэхнізму.

Аднак, нельга думаць, што ў адсталых раёнах цяпер зусім няма такіх об'ектаў соцыялістычнага парадку. Самая глухая вёска ахоплена соцыялістычным будаўніцтвам. Саўгасы і колгасы пашыраюць свой уплыў на самыя далёкія раёны. У кожнай вясковай мясцовасьці можна знайсьці гэткія об'екты, як агропункт, мэліорацыйнае т-ва, тарпяныя распрацоўкі, дарожнае будаўніцтва, лесапільны завод, лесараспрацоўкі, машынныя т-вы, сыраваран ыя і маслабойныя заводы, радыё-пункты, чыгуначныя станцыі і г. д. Усё гэта можа быць асновай політэхнічнай адукацыі.

На бліжэйшы час мы ставім перад сабой задачу абавязкова зьвязаць кожную школу з аднэй конкрэтнай вытворчасьцю, у горадзе—з фабрыкай, заводам, на вёсцы—з саўгасам і колгасам. Прымацаваньне школы да конкрэтнай вытворчасьці дае многа каштоўных вынікаў.

Нельга правільна наладзіць політэхнізацыю школы, калі настаўнікі ня будуць знаёмы з асноўнымі момантамі вытворчага процэсу на даным прадпрыемстве. Таму важнейшай задачай політэхнізацыі школы будзе вывучэньне настаўнікамі ў першую чаргу тае вытворчасьці, пры якой знаходзіцца школа. Гэтае вывучэньне можа адбывацца шляхам экскурсій і, яшчэ лепш, шляхам непасрэднай працы настаўніка ў самой вытворчасьці з паступовым пераходам ад аднаго цэху да другога. Дзеля таго, каб даць конкрэтны прыклад, як можна практычна вывучаць фабрыку, мы пададзім „інструкцыю для работы студэнтаў 1-га курсу акадэміі комуністычнага выхаваньня імя Крупскай на тэкстыльных прадпрыемствах“.

Гэта „інструкцыя“ складалася для студэнтаў на 1926-27 год.

## Інструкцыя

### для работы студэнтаў 1-га курсу акадэміі комуністычнага выхаваньня імя Крупскай на тэкстыльных фабрыках

#### I. Час працы на машынах

А. Шарсьцяна-прадзільная фабрыка

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Мыцьцё шэрсьці (левіафан, цэнтрафуга, сушыльня) | 6 дзён |
| 2. | Сартыроўка шэрсьці | 6 „ |
| 3. | Трапальная ці шчыпальная | 6 „ |
| 4. | Часальны апарат | 18 „ |
| 5. | Сэльфактар | 6 „ |
| | | 42 дні |

Б. Ткацкая фабрыка

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Матальная ці шпульная | 3 дні |
| 2. | Снавальная | 3 „ |
| 3. | Шліхтавальная | 6 дзён |
| 4. | Праборная | 3 дні |
| 5. | Мэханічны ткацкі варштат | 24 „ |
| 6. | Браковачнае аддзяленьне | 6 дзён |
| | | 45 дзён |

В. Паркалёва-набіўная фабрыка

1. Машыны для апалу . . . . . . . 6 дзён
2. Бельнае аддзял. . . . . . . . . . 6 „
3. Фарбавальныя барочкі . . . . . . 6 „
4. Паркалёва-набіўныя машыны . . . 18 „

36 дзён

**II. Агульныя зьвесткі па кожнай фабрыцы . . . . . . . . . . . . 20 дзён**

А. Пры рабоце на машынах

1. Лік конскіх сіл, якія патрэбны машыне для работы.
2. Коэфіцыент карыснага дзеяньня машыны.
3. Схэма перадачы да машыны.
4. Контроль над продуктам, што падаецца і выходзіць з машыны.
5. Тэорытычная і практычная выпрацоўка продукту машынай за 8 гадзін.
6. Мэта і задача машыны.

Б. Аддзел фабрыкі

1. Якія машыны ў аддзеле.
2. Лік рабочых ля машыны і ў аддзеле.
3. Хто кіруе аддзелам і адказвае за правільнасьць яго работы.
4. Парадак прасоўваньня продуктаў з аддзелу ў аддзел.

В. Фабрыкі ў цэлым

1. Кароткая гісторыя фабрыкі, колькасьць рабочых, колькасьць верацён, варштатаў, апаратаў, выпуск у пуда-нумарох, мэтрах, кавалках.
2. Пляц зямлі, кубатура будынкаў, вэнтыляцыя, вільготнасьць, асьвятленьне.
3. Схэма пераходаў продукту пэўнага гатунку пры яго апрацоўцы (са складу да выхаду ў гатовым выглядзе).
4. Кіраваньне фабрыкай (даць схэму кіраваньня вытворчасьцю, з адзначэньнем асобы, якая выконвае працу і адказвае за яе).
5. Колькасьць і якасьць сыравіны, што прывозіцца на фабрыку.
6. Колькасьць і номэнклятура фабрыкату, што выпускаецца фабрыкай.
7. Норма вырабу і аплата працы асноўных рабочых фабрыкі.
8. Калькуляцыя пражы ці тканіны паводле вестак бухгальтэрыі.
9. Сувязь фабрыкі з трэстам.
10. Ахова працы, тэхнічнае абсталяваньне з мэтай аховы працы, агарожы на машынах і інш.
11. Правы і абавязкі заўкому і яго організацый.
12. Профэсійныя хваробы рабочых фабрыкі.

**III. Складаньне колекцый**

1. У пральні ўзяць сыравіны розных гатункаў і відаў па 200 грам. Усё гэта ў пасьлядоўным парадку апрацоўкі зьмясьціць на лістку картону з кароткімі тлумачэньнямі.
2. У ткацкай — узоры пражы падрыхтоўчага аддзелу і да 10 узораў тавару з ткацкай.
3. У паркалёва-набіўной — узоры суравога, апаленага і афарбаванага тавару.

Увага. У гатунках пражы адзначаць нумар пражы і якасьць; у тканінах — шырыню і таўшчыню.

Такім чынам, для вывучэньня тае ці іншай тэкстыльнай фабрыкі студэнты АКВ трацілі 56-62 дні, гэта значыць, прыблізна два месяцы. За гэты час яны азнаёміліся з галоўнымі машынамі фабрыкі, на якіх самі працавалі, і, апрача гэтага, яны атрымалі прадстаўленьне аб сутнасьці прадпрыемства ў цэлым і ролі яго ў сыстэме народнай гаспадаркі. Прыблізна такога-ж парадку могуць трымацца і нашы настаўнікі на мясцох пры вывучэньні пэўнай вытворчасьці. Толькі тут патрэбна дадаць матар'ял пра барацьбу рабочых за прамфінплян, пра соцспаборніцтва, ударніцтва, пра работу вытворчых нарад.

Калі прадпрыемства даволі вывучана, тады настаўнікі павінны распачаць конкрэтызацыю програм НКА з мэтай прыстасаваньня іх да пэўнай вытворчасьці. Пры выкананьні програм трэба зьвярнуць увагу на правільную організацыю працы вучняў на прадпрыемстве.

Для гэтага пры вытворчасьці павінна быць створана спэцыяльная комісія, у склад якой трэба ўвесьці прадстаўнікоў зацікаўленых устаноў і організацый—ад прадпрыемства, фабкому, комсамолу і школы. Склад комісіі можа зьмяняцца ў залежнасьці ад мясцовых умоў. Гэта комісія павінна выпрацаваць конкрэтны плян разьмеркаваньня вучняў па цэхах і машынах прадпрыемства ў сувязі з навучальным плянам і програмамі школы. Пры гэтым ні ў якім разе нельга забывацца на асноўны прынцып політэхнізму, які заключаецца ў тым, што праца вучняў на прадпрыемстве падпарадкуецца выхаваўчым задачам. Кожны вучань павінен працаваць у кожным цэху, за кожным варштатам столькі, колькі гэта патрэбна для азнаямленьня з вытворчым процэсам у пэўнай галіне прадпрыемства. Пасьля азнаямленьня з пэўным цэхам і машынай вучань павінен пераходзіць у новы цэх, да новай машыны, у поўнай паступовасьці, прадугледжанай агульным плянам навучаньня. Сьвядомая затрымка вучня на той

працы, якая ўжо яму знаёма, будзе толькі шкодзіць політэхнічнай адукацыі. Вось чаму патрэбна раней дакладна вызначаць час і парадак пераходу вучняў ад аднэй працы да другой і потым пільна сачыць за выкананьнем вызначанага пляну. Гэта адносіцца і да тых выпадкаў, калі вучні працуюць у навучальна-вытворчых цэхах.

Для вытворчага навучаньня дзяцей і падлеткаў на прадпрыемствах трэба вывучаць важнейшыя машыны і варштаты, за якімі вучні павінны непасрэдна працаваць. Для ажыцьцяўленьня прынцыпу політэхнізму патрэбна, каб дзеці вывучылі не якую-небудзь дробязь, а самае галоўнае і характэрнае для пэўнай вытворчасьці. Але-ж адначасова з гэтым трэба сачыць і за тым, каб складанасьць вытворчага процэсу была даступна для вучняў, і каб вывучэньне іх праходзіла ў санітарна-гігіенічных умовах. Нельга прымушаць дзяцей вывучаць тое, што яны ня могуць здолець, ці што пагражае іх здароўю. Пры складаньні пляну політэхнізацыі школы патрэбна дакладна вывучаць і ведаць, якія вытворчыя опэрацыі, машыны і цэхі і нават цэлыя прадпрыемствы недаступны для вучняў па тых ці іншых прычынах. Складаныя моманты вытворчых процэсаў могуць быць вывучаны шляхам экскурсій, штучнага аднаўленьня іх у навучальна-вытворчых цэхах прадпрыемства. Скажам, дзеці, бязумоўна, ня могуць азнаёміцца са структурай дынамо-машыны ў час яе працы на электрастанцыі. Азнаямленьне с гэтым мэханізмам можна даць без якіх-небудзь перашкод у спэцыяльным навучальным цэху прадпрыемства, дзе дынамо-машына павінна раскладвацца і складвацца вучнямі ў парадку вытворчага навучаньня.

Што павінен прадстаўляць з сябе навучальна-вытворчы цэх? Перш за ўсё, ён павінен быць органічнай часткай прадпрыемства, быць уключаным у гаспадарчы плян апошняга. Нельга дапускаць таго, каб навучальна-вытворчы цэх па характару вытворчасьці быў зусім другі, чым характар вытворчасьці самога прадпрыемства. Было-б ненормальнай зьявай, каб, скажам, на тэкстыльнай фабрыцы быў створаны сьлясарны ці кавальскі цэх для вытворчай працы дзяцей. Тут мы ня мелі-б непасрэднай сувязі цэху з фабрыкай. Таксама нельга рабіць нават і таго, каб на паркалёва-набіўной фабрыцы мы арганізавалі ткацкі цэх, ці на заводзе па будаўніцтву сельска-гаспадарчых машын быў створаны чыгуначна-будаўнічы цэх.

Хоць у гэтых выпадках і былі-б некаторыя агульныя рысы паміж навучальна-вытворчым цэхам і фабрыкай, аднак гэткія цэхі усё-ж такі не адбівалі-б самага тыповага, спэцыфічнага, характэрнага з процэсаў вытворчасьці самога прадпрыемства. Характар вытворчасьці ў навучальна-вытворчым цэху павінен быць адбіткам самага галоўнага, важнейшага з таго, чым характарызуецца процэс вытворчасьці пэўнай фабрыкі і заводу. Возьмем для прыкладу электростанцыю. Апошняя ў значнай частцы ня можа быць даступнай для непасрэднай працы вучняў, бо працаваць на электрастанцыі небясьпечна, і да таго некаторыя мэханізмы зьяўляюцца вельмі складанымі. Пры электрастанцыі трэба стварыць цэх для вытворчага навучаньня дзяцей з такім абсталяваньнем, якое адпавядае здольнасьцям і падрыхтоўцы вучняў пэўнага ўзросту. У гэтым цэху павінны быць працуючыя модэлі-турбіны, дынамо-машыны, трансформатары разьмеркаваныя дошкі з асноўнымі вымяральнымі прыладамі, набор ізолятараў.

Электрычнасьць тут павінна мець слабую моц і напружанасьць, каб яна не пагражала жыцьцю вучняў. Непасрэдная праца дзяцей у навучальным цэху павінна злучацца з экскурсіямі па адпаведных цэхах электрастанцыі. Тут навучальны цэх зьяўляецца маленькай мініятурнай копіяй прадпрыемства. Аднак, бываюць выпадкі, калі непатрэбна ствараць навучальна-вытворчы цэх у выглядзе копіі прадпрыемства. Гэта бывае тады, калі некаторыя цэхі прадпрыемства зьяўляюцца даступнымі для вытворчай працы вучняў. У гэтых выпадках лепш будзе, калі вучні будуць працаваць, побач з дарослым рабочым, на самым прадпрыемстве, чым у штучна арганізаваным цэху. Апошнія павінны ахопліваць толькі гэткія вытворчыя

процэсы, якія па тэй альбо іншай прычыне нельга вывучаць непасрэдна на прадпрыемстве. На ткацкай фабрыцы, напрыклад, вучні без перашкод могуць працаваць за ткацкім варштатам непасрэдна на прадпрыемстве і ня могуць працаваць у бялільным аддзяленьні ці ў сушыльні. Тут няма сэнсу ставіць ткацкія варштаты ў навучальна-вытворчым цэху з мэтай скарыстаньня іх для працы вучняў. Гэтыя ткацкія варштаты ў навучальна-вытворчым цэху могуць быць скарыстаны толькі для вывучэньня іх структуры, характару мэханізму з практычнымі заняткамі для зборкі і разборкі пэўнага мэханізму. Праца-ж вучняў за варштатам павінна быць арганізавана на самой фабрыцы. Вытворчы процэс бялільнага аддзяленьня і сушыльні можа быць вывучаны дзяцьмі двая кім спосабам: ці шляхам кароткіх экскурсій у гэтыя аддзяленьні, ці шляхам прымітыўнага аднаўленьня адпаведных процэсаў у навучальна-вытворчым цэху ва ўмовах, спрыяючых экспэрымэнтаваньню. Такім чынам, пры організацыі навучальна-вытворчых цэхаў лепш за ўсё прытрымлівацца наступных прынцыпаў:

1. Навучальна-вытворчы цэх ёсьць ляборатория з практычнымі заняткамі і вытворчай працай дзяцей.

2. Абсталяваньне гэтага цэху павінна быць прыстасавана да ўзросту вучняў.

3. У навучальна-вытворчым цэху павінны вывучацца тыя вытворчыя процэсы, якія ня могуць быць вывучаны па тых ці іншых прычынах непасрэдна ў цэхах прадпрыемства.

4. Адначасова гэтыя вытворчыя процэсы, якія аднаўляюцца ў навучальна-вытворчым цэху, павінны адбіваць самыя важныя, істотныя, спэцыфічныя моманты вытворчага процэсу прадпрыемства.

5. Усе тыя зьвеньні вытворчага процэсу прадпрыемства, якія даступны для вучняў, павінны вывучацца непасрэдна ў цэхах гэтага прадпрыемства, дзе вучні могуць працаваць за машынамі побач з дарослымі рабочымі.

Трэба асабліва падкрэсьліць, што, ня гледзячы на патрэбнасьць організацыі навучальна-вытворчых цэхаў, усё-ж такі замыкаць вучняў у гэтых цэхах і штучна ізоляваць іх ад усяе фабрыкі будзе няправільнай устаноўкай. Там, дзе можна прарвацца непасрэдна ў фабрычны ці заводзкі цэх, трэба гэта зрабіць без усялякага хістаньня.

Пры наяўнасьці пэўных пэдагогічных і санітарна-гігіенічных умоў праца вучняў непасрэдна ў цэхах прадпрыемства зьяўляецца куды больш каштоўнай, чым праца ў навучальна-вытворчым цэху з тае прычыны, што фабрыка ў цэлым дае больш мажлівасьцяй для політэхнізацыі, чым адзін хаця-б і добра абсталяваны цэх, які дае вузкую матар'яльную базу для політэхнічнага выхаваньня, і об'ектыўна можа штурхаць на шлях профэсійнай асьветы. Аднак, у сучасны момант мы павінны весьці рашучую барацьбу за стварэньне навучальна-вытворчых цэхаў пры прадпрыемствах, бо гэтыя цэхі пры правільнай пастаноўцы выхаваньня могуць стаць месцам выяўленьня конструктывізму вучняў.

Мы ужо адзначылі, пры якіх умовах трэба організоўваць майстэрні. Зараз трэба спыніцца на характары і напрамку апошніх. Ці трэба ствараць майстэрні там, дзе ёсьць адпаведныя прадпрыемствы з навучальна-вытворчымі цэхамі? Ці ня будуць лішнімі майстэрні пры наяўнасьці гэтых цэхаў? Вось пытаньні, якія цікавілі дэлегатаў зьезду па політэхнічнай асьвеце. Калі выходзіць з таго пункту погляду, што майстэрні і навучальна-вытворчыя цэхі павінны быць аднолькавымі па сваіх задачах, характары вытворчасьці і мэтодах навучаньня, тады, зразумела, няма ніякага сэнсу ствараць аднолькавыя організацыі па лініі аднае і тае-ж школы. Але справа ў тым, што ўсё-такі ёсьць значная якасная розьніца паміж цэхам і майстэрняй, і што гэтыя організацыі пры правільным вырашэньні пытаньня не павінны выключаць адна другую. Могуць быць выпадкі, калі школа, якая мае пры сабе майстэрню, будзе лічыць мэтазгодным організаваць яшчэ і навучальна-вытворчы цэх. Зразумела, гэтыя выпадкі ня будуць надта пашыранымі, але яны ўсё-такі будуць мець месца ў нашай практыцы. Навучальна-вытворчы цэх, як мы раней сказалі, павінен адбіваць асноўныя моманты вытворчага

працэсу таго прадпрыемства, пры якім знаходзіцца школа. Тады майстэрня пры школе можа мець дваякую задачу:

1) ці быць пропэдэўтычнай ступеньню па вывучэньню прымітыўных энэргетычных, тэхнолёгічных і тэхнічных працэсаў у сувязі з пэўным прадпрыемствам для наступнага ўдзелу вучняў у вытворчай працы на гэтым прадпрыемстве;

2) ці быць унівэрсальнай арганізацыяй, якая дае вучням прадстаўленьне аб такіх вытворчых процэсах, якіх няма на даным прадпрыемстве, але якія, з пункту погляду політэхнізму, маюць вялікае значэньне.

У першым выпадку пры тэкстыльнай фабрыцы павінны быць арганізованы майстэрні тэкстыльнага напрамку з такой вытворчай працай, якая не сустракаецца ў навучальна-вытворчых цэхах ці сустрэнецца там у больш складаным выглядзе. У другім выпадку школа, якая знаходзіцца пры тэкстыльнай фабрыцы, можа організаваць пры сабе майстэрні—сьлясарныя, дрэваапрацоўчыя, картонныя і г. д. Майстэрні гэтага тыпу патрабуюць больш матар'яльных выдаткаў, чым майстэрні першага тыпу, бо яны павінны будавацца на аснове унівэрсальнага вытворчага процэсу. Вось чаму мы раім будаваць унівэрсальныя майстэрні не пры аднэй якой-небудзь школе, а для некалькіх школ пэўнага раёну і, асабліва, будаваць іх там, дзе няма прадпрыемстваў.

У майстэрнях унівэрсальнага тыпу павінны быць прадстаўлены галоўныя агульныя моманты ўсіх вытворчых процэсаў—энэргетыка (электрычнасьць, рухавікі ўнутранага згараньня і г. д.), мэханічная апрацоўка матар'ялаў, хэмічныя процэсы, апрацоўка органічнай матэрыі, тэхнічныя культуры, жывёлы, расьліны і г. д. Недахопам гэткай унівэрсальнай майстэрні, як і ўсялякай прышкольнай майстэрні, зьяўляецца тое, што яна не дае ўяўленьня аб характары вытворчых адносін у соцыялістычнай гаспадарцы. Апроч гэтага, яна ня мае ўмоў для вывучэньня агульных момантаў вытворчых процэсаў у сыстэме конкрэтных прадпрыемстваў з усімі асаблівасьцямі апошніх. А між іншым, мэханічныя, хэмічныя, энэргетычныя і друг. процэсы набываюць асаблівую якасьць у кожнай паасобку вытворчасьці.

Ужываньне хэміі на паркалёва-набіўной фабрыцы мае зусім другія ўласьцівасьці, чым на папяровай фабрыцы ці у шклянай прамысловасьці. Унівэрсальная майстэрня стварае глебу для абстрактнага вывучэньня тэхнікі вытворчасьці. Вось чаму больш мэтазгодна ствараць майстэрні, зьвязаныя з конкрэтнымі прадпрыемствамі. Толькі ў гэтым выпадку трэба сачыць за тым, каб прышкольная майстэрня зьвязвалася з конкрэтным прадпрыемствам, не зрабілася сродкам падмены політэхнічнага выхаваньня профэсійнай асьветай. У тых мясцох, дзе ёсьць фабзавуч, трэба зьвязаць ФЗС з майстэрнямі фабзавучу.

Для дзяцей першага концэнтру сямігодкі трэба організаваць рабочы пакой. Асноўная задача рабочага пакою заключаецца ў тым, каб даць мажлівасьць дзецям малодшага ўзросту займацца вытворчай працай, прыстасаванай да іх псыха-фізыолёгічных асаблівасьцяй, а таксама выяўляць свае конструкцыйныя здольнасьці. Некаторыя пэдагогі думаюць, што дзеці павінны займацца ў рабочых пакоях гэткімі процэсамі, як апліканыя, лепка непатрэбных рэчаў, апрацоўка прадметаў хатняй патрэбы і г. д. Гэтыя пэдагогі абгрунтоўваюць сваю думку тым, нібыта дзеці могуць зразумець толькі такія зьявы, якія сустракаюцца, галоўным чынам, у сям'і. Зусім зразумела, што паказаная думка зьяўляецца консэрватыўнай і не адпавядае рачаіснасьці.

Сучасныя дзеці сапраўды цікавяцца ня толькі тым, што яны сустракаюць у цісках „обители" сямейнага шчасьця, але і клясавай барацьбой пролетарыяту, соцыялістычным будаўніцтвам, найноўшай тэхнікай, індустрыяльнымі прадпрыемствамі, сельска-гаспадарчымі работамі і г. д. Сконцэнтроўваць увагу дзяцей на абкружэньні хатняга жыцьця—гэта значыць зусім адрываць іх ад рэволюцыйнай барацьбы рабочае клясы і ствараць умовы для антыкомуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня. Рабочыя пакоі павінны быць наскрозь прасякнуты духам пролетарскай барацьбы

і соцыялістычнага будаўніцтва. Яны павінны адбіваць жыцьцё нашых фабрык, заводаў, электрастанцый, саўгасаў і колгасаў. Фота-здымкі вытворчых процэсаў, малюнкі машын, модэлі буйных мэханізмаў, паасобныя часткі варштатаў, шасьцярні, падшыпнікі, трубы, вінты, дрот, самыя простыя інструманты, набор матар'ялаў і сыравіны для электрычных званкоў, радыё-апарату, батарэйкі і г. д.—усё гэта павінна знайсьці адпаведнае месца ў рабочым пакоі, усё гэта можа быць скарыстана для конструкцыйнай дзейнасьці вучняў. Ужо дашкольнікі захапляюцца электрычным званком, кішэнным электрычным ліхтаром, радыё-апаратам. Тым больш гэта даступна для дзяцей першага концэнтру. Праводка хатняга тэлефону, пабудова самалёту з дрэва ці бляхі, лепка цягніка з гліны, выраб модэлі фабрык з пяску і іншых будаўнічых матар'ялаў, выпрацоўка самаходных мініятурных трамваяў і аўтомобіляй, паравых машын, розных варштатаў – усё гэта ўжо сустракаецца ў некаторых перадавых школах. Як сродак для выяўленьня конструкцыйнае здольнасьці дзяцей, мэтазгодна скарыстаць такія прылады, як „Конструктор" і „Піонэр". Аднак наша задача ў тым, каб дзеці ня толькі працавалі, але каб у выніку іх працы атрымліваліся рэальныя карысныя рэчы. Калі дзіця бачыць, што продукт яго працы можна так ці інакш скарыстаць у жыцьці, ён перажывае поўнае здавальненьне, у яго зьяўляецца жаданьне павялічыць продукцыйнасьць свае творчасьці і вытворчай актыўнасьці.

Паказаныя асаблівасьці дзяцей павінны ўлічвацца пры організацыі рабочых пакояў, у якіх трэба мець поўны будаўнічы матар'ял, набор сыравіны, комплект даступных для вучняў інструмантаў і варштатаў. Вучні III і IV груп першага концэнтру могуць у некаторых выпадках працаваць і на прадпрыемстве пры наяўнасьці пэўных пэдагогічных і санітарна-гігіенічных умоў.

Пры гэтым трэба ўлічваць тую даволі вялізарную практыку нашых школ, якая ўжо ёсьць, па організацыі вытворчых экскурсій дзяцей паказаных груп на буйныя прадпрыемствы ў сувязі з працоўкай адпаведных комплексных тэм. Тут для вучняў могуць быць даступны, напрыклад, гэткія опэрацыі, як паварачваньне штэпсэля, рэгуляваньне ходу электрычнай кравецкай машыны, падача і устаноўка чаўнака, праца з напільнікам і г. д.

Прадпрыемствы, пры якіх знаходзіцца ФЗС, павінны паклапаціцца аб тым, каб школы былі забясьпечаны патрэбным варштатным і інструмантальным абсталяваньнем, рэзэрвавымі мэханізмамі і паасобнымі часткамі машын.

Таксама школа павінна быць забясьпечана матар'яламі для вытворча-тэхнічнай работы вучняў. Тут можна скарыстаць рэшткі матар'ялаў ад будаўніцтва, кавалкі дошчак і жалеза, дрот, упакавальны матар'ял, розныя цьвікі, шрубы, шпагат, рэшткі фарбаў, вапну, цэмэнт, цэглу і г. д.

Тыя прынцыпы, на аснове якіх будуецца політэхнізацыя ФЗС, павінны быць пакладзены і ў аснову політэхнізацыі ШКМ, з тэй толькі розьніцай, што ў апошнім выпадку патрэбна ўлічваць асаблівасьці саўгасаў і колгасаў. Процэс політэхнізацыі ШКМ можа разгортвацца пры пэўных умовах нават значна лепш, чым політэхнізацыя ФЗС, бо матар'яльная база соцыялістычнай сельскай гаспадаркі больш шырокая і больш разнастайная, чым матар'яльная база аднэй якой-небудзь фабрыкі. Сама па сабе фабрыка ня можа даць уяўленьня аб такой важнай галіне нашай гаспадаркі, як сельска-гаспадарчыя процэсы, тым часам як саўгас і колгас, наадварот, могуць даць уяўленьне ня толькі аб сваяасаблівасьцях сельска-гаспадарчых процэсаў, але і аб сутнасьці індустрыяльнай тэхнікі. Соцыялістычная сельская гаспадарка мае ўсё галоўныя рысы розных вытворчых процэсаў, а менавіта: зьявы энэргетычныя, мэханічныя, хэмічныя і апрацоўку органічнай матэрыі. Пры нашых высокіх тэмпах мэханізацыі, трактарызацыі і электрыфікацыі сельская гаспадарка паступова ператвараецца ў асобны від соцыялістычнай прамысловасьці. Вось чаму ШКМ мае добры грунт для разгортваньня політэхнічнай асьветы.

Пры ШКМ, як і пры ФЗС, могуць быць створаны рабочыя пакоі і майстэрні. Але тут рабочыя пакоі і майстэрні павінны адбіваць галоўныя рысы сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Розныя тэхнічныя культуры (лён, каноплі і інш.) і іх апрацоўка, зернавыя культуры, розныя віды глебы, казуркі і жывёлы, сельска-гаспадарчыя машыны ці іх мадэлі—усё гэта павінна быць об'ектам вывучэньня ў ШКМ. Пры гэтым нельга забывацца на тое, што трэба вывучыць ня толькі паасобныя рэчы і зьявы, характэрныя для сельскай гаспадаркі, але і працэс вытворчасьці ва ўсёй супольнасьці яго асаблівасьцяй, ва ўзаемадзеяньні яго паасобных частак і элемэнтаў, у іх бязупынным разьвіцьці, у пераходах аднаго ў другое. Вось чаму нельга ператвараць рабочыя пакоі і майстэрні ў складачнае месца розных экспонатаў і рэчаў. Гэта-ж ня музэй, а пэўная сыстэма арганізацыі вытворчай працы вучняў. Побач з рабочым пакоем і музэямі, для ШКМ могуць адводзіцца на тэрыторыі саўгасу ці колгасу невялічкія зямельныя вучасткі для экспэрымэнтальнай працы вучняў, галоўным чынам малодшага концэнтру. На гэтых вучастках неабходна праводзіць розныя дасьледчыя работы па выросьліваньню расьлін і фруктовых дрэваў, па апрацоўцы глебы, па мэліорацыі і г. д. Аднак, існаваньне гэтых зямельных вучасткаў ні ў якім разе не павінна даваць поваду настаўнікам разглядаць іх як ранейшыя прышкольныя вучасткі з тым, каб штучна ізоляваць працу вучняў ад працы дарослых саўгасьнікаў і колгасьнікаў. Самая галоўная праца вучняў павінна разгортвацца непасрэдна на розных вучастках тэрыторый соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Нават дзеля таго, каб не дапусьціць ператварэньня гэткіх вучасткаў у ізоляваныя месцы дзіцячай працы, было-б карысным зусім не ствараць іх пры школе, а дамагацца таго, каб дзеці маглі займацца адпаведнай экспэрымэнтальнай працай у любым месцы саўгасу і колгасу, на ўсякім полі, за ўсякай машынай, даступнай для нашых вучняў. Кожны рабочы сэзон месца і об'ект для экспэрымэнтаваньня вучняў павінны вызначацца па кожнаму новаму вытворчаму пляну і, у выпадку патрэбы, павінны мяняцца з кожным разам. Прышкольны вучастак як нязьменны, назаўсёды прымацаваны да школы з сталай сыстэмай об'ектаў і арганізацыі працы, тут ужо становіцца зусім непатрэбным. Школы колгаснай моладзі павінны мець дасьледчыя дзіцячыя станцыі, якія працуюць пад кіраўніцтвам агронома. Вучні працуюць там, дзе гэта прадугледжана агульным гаспадарча-вытворчым плянам саўгасу і колгасу, працуюць побач з дарослымі людзьмі ў сыстэме пэўнага колектыву рабочых.

Праца дарослых зьяўляецца для дзяцей узорам, прыкладам, які дзеці пераймаюць і на якім яны выхоўваюцца. У школе колгаснай моладзі, так сама, як у ФЗС, трэба сачыць за тым, каб дзеці выконвалі вытворчыя опэрацыі ў пэўнай паступовасьці і пры сталым пераходзе ад аднэй опэрацыі да другой, затрымліваючыся на кожнай з іх столькі, колькі патрэбна для зразуменьня пэўнага этапу вытворчага працэсу. Перамена функцый ёсьць аснова політэхнізму. На гэта не павінны забывацца настаўнікі на мясцох. У сэкцыі ФЗС па сувязі з вытворчасьцю вяліся спрэчкі аб тым, на які час трэба прымацоўваць школу да прадпрыемства.

Былі розныя прапановы: на 6 месяцаў, ня менш як на год, на ўвесь час. У гэтых прапановах ёсьць няправільныя думкі. Адразу нельга вырашаць пытаньне аб тым, на які час прымацаваць школу да прадпрыемства. Нам трэба набыць пэўную практыку. У нас ёсьць адзіная правільная ўстаноўка—зараз абавязкова зьвязаць кожную школу з конкрэтнай вытворчасьцю. І зразумела, гэта сувязь павінна быць доўгатэрміновай. Доўгатэрміновую сувязь школы з прадпрыемствам ня трэба разумець так, быццам трэба кожную групу і кожнага вучня прымацаваць на доўгі час да аднэй і тэй-жа вытворчай функцыі. Мы яшчэ раз падкрэсьліваем, што дзеці павінны азнаёміцца тэорытычна і практычна з асноўнымі прынцыпамі ўсіх вытворчых працэсаў, гэта значыць, на працягу свайго навучаньня ў школе яны павінны пераходзіць ад опэрацыі да опэрацыі,

ад варштату да варштату, ад цэху да цэху і нават вывучыць другія вытворчасьці, ня гледзячы на тое, што школа прымацавана да пэўнага конкрэтнага прадпрыемства.

Ці патрэбна выдаваць вучням заработную плату? У тых выпадках, калі вучні, працуючы на фабрыках, заводах, у саўгасах і колгасах, даюць рэальную продукцыю, іх праца павінна аплачвацца. Калі-б мы не аплачвалі вытворчую працу вучняў, гэта зьяўлялася-б эксплёатацыяй дзяцей, а наш лад пролетарскай дзяржавы накіраваны супроць усялякай эксплёатацыі. Для таго, каб не разьвіваць у дзяцей індывідуалістычных імкненьняў, трэба аплачваць вучнёўскую працу не індывідуальна, а колектыўна. Грошы, якія зароблены дзяцьмі, павінны ўносіцца ў агульны фонд школы для скарыстаньня іх на дапамогу бедным вучням, на пазыку індустрыялізацыі, па лініі МОПР'у і г. д. У дачыненьні да зарплаты, абсталяваньня майстэрняў, парадку організацыі дзіцячай працы на вытворчасьці мэтазгодна практыкаваць заключэньне дагавароў паміж школай і прадпрыемствам.

Калі мы гаворым аб дзіцячай працы ў сыстэме політэхнічнай асьветы, мы разумеем не толькі працу на вытворчасьці непасрэдна за машынай, але і грамадзкую працу вучняў. Дзеці павінны актыўна ўдзельнічаць у фабкоме, у вытворчых нарадах, на сходах рабочых, у організацыях „Бязбожніка“, МОПР'у, у культурных організацыях, у пасеўнай кампаніі і г. д. Асабліва трэба разгарнуць удзел вучняў у тэхнічных і сельска-гаспадарчых гуртках.

Для прыкладу падамо зьвесткі аб практыцы Ашынскай ФЗС на Урале.

„У вытворчую практыку былі ўцягнуты ўсе вучні 7-й групы. Працавалі па програме. Для грамадзка-карыснай працы ў цэху ўсе вучні падзяліліся на брыгады (навучальныя зьвеньні), якіх было ўсяго шэсьць: 1) па соцспаборніцтве, 2) па вытворчых нарадах і рацыяналізацыі вытворчасьці, 3) па культпрацы, 4) па сувязі з ячэйкамі ЎсеКП(б) і ЎсеЛКСМ, 5) па ударніцтве і 6) па ўкараненьні вытворчага пляну ў масы рабочых.

Кожная брыгада мела свой плян. Вось як выглядаў, напрыклад, плян брыгады па культрабоце:

1. Аказваць дапамогу добраахвотным таварыствам (Мопр, Асоавіяхім, ПН, Бязбожнік).

2. Высьветліць процант выпіскі і чытаньня рабочымі газэт і часопісаў і дапамагчы культкомісіі ў справе пашырэньня друку.

3. Абслугоўваць рабочых ў час абедзенага перапынку мастацкімі пастаноўкамі.

4. Дапамагчы насьценгазэце.

5. Вывесіць у чырвоным кутку дыяграмы, лёзунгі і ўпрыгожыць куток.

6. Узмацніць культурную працу ў цэху наогул.

Гэткія пляны складалі і ўсе астатнія брыгады, пры гэтым кожная концэнтравала сваю працу вакол якой-небудзь цэнтральнай установкі. Напрыклад, брыгада па соцспаборніцтве накіравала галоўныя сілы на тое, каб наладзіць спаборніцтва паміж паасобнымі ячэйкамі цэху і школы. Брыгада па вытворчых нарадах аддавала асноўную ўвагу зьбіраньню прапаноў рабочых, выяўленьню вынаходзтва і барацьбе за прамфінплян. Брыгада па вытворчым пляне займалася популярызацыяй вытворчага пляну цэху і заводу сярод мас. Брыгада па сувязі з партыйнай і комсамольскай ячэйкамі дамагалася набліжэньня гэтых організацый да школы з тым, каб навучыцца ў іх, як практычна праводзіць масавую працу на вытворчасьці“. („Просвещение на Урале“, № 9 за 1930 г., стар. 25).

Вельмі важна, каб усе пляны грамадзкакарыснай працы вучняў абгаварваліся і вызначаліся на агульных сходах брыгад пры ўдзеле тых організацый цэху, у якіх гэтая брыгада будзе працаваць.

Політэхнізацыя школы заключаецца ня толькі ў тым, каб організаваць вытворчую працу дзяцей па прынцыпу ўсебаковага вывучэньня соцыялістычнай вытворчасьці, але, каб перабудаваць школьную сыстэму выхаваньня і навучальныя програмы на аснове політэхнізму. Навучальная програма па кожнай дысцыпліне павінна быць прасякнута вытворчым матар'ялам, узятым, галоўным чынам, з тых прадпрыемстваў, дзе працуюць вучні. Нават

гэткія дысцыпліны, як родная мова і літаратура, могуць быць лёгка зьвязаны з вытворчай працай дзяцей. Апісаньне працэсаў вытворчасьці на пэўным прадпрыемстве, зьбіраньне тэхнічных тэрмінаў для вытворчага слоўніка, мастацкая літаратура з вытворчым зьместам—усё гэта дае мажлівасьці будаваць выкладаньне роднай мовы і літаратуры на аснове політэхнізму. Грамадазнаўства, фізыка, хэмія, матэматыка і інш. дысцыпліны таксама без перашкод могуць зьвязвацца з вытворчасьцю. Стрыжнем пабудовы навучальных праграм павінна быць конкрэтнае прадпрыемства, на аснове якога адбываецца політэхнізацыя школы. Сыстэма разьмяшчэньня матар'ялу па кожнай дысцыпліне павінна зьмяняцца ў залежнасьці ад характару вытворчасьці. Аднак, аніводная дысцыпліна, якая выкладаецца зараз у сямігодцы, ня можа даць поўнага ўяўленьня аб тэй ці іншай вытворчасьці. Вось чаму мэтагодна ўвесьці ў навучальны плян выкладаньне ўводнага курсу па організацыі тэй вытворчасьці, пры якой знаходзіцца школа.

Сыстэма і мэтоды выкладаньня ў ФЗС і ШКМ павінны быць у корані перабудаваны. Трэба больш рашуча, чым гэта было да апошняга часу, пераходзіць на лябораторную сыстэму заняткаў з падзелам дзяцей на брыгады і зьвеньні для выкананьня пэўных заданьняў. Найбольш пашыраным мэтодам навучаньня ў нашай школе павінен стаць мэтод проектаў.

# ПАСТАНОВЫ СЭКЦЫЙ

## Пастанова сэкцыі па пачатковай вясковай школе і 1-му концэнтру ШКМ

У праграмы НКА БССР („Дэталізаваныя праграмы для 1-й і 2-й груп 4 і 7 гад. савецкай політэхнічнай школы і „Дэталізаваныя праграмы для 3 і 4 груп 4 і 7 гад. савецкай політэхнічнай школы“) унесьці наступныя дадаткі і зьмены:

**Па першаму году навучаньня.**

У падтэме 3-й „Організацыя школьнай працы“—тэмы „Першыя крокі ў школе“ дадаць: „увесьці рэгістрацыю прысутнасьці дзяцей самымі дзяцьмі“. У падтэме 2-й („Санітарыя ў школе“) дадаць: „вызначыць месца вешаньня вопраткі на вешалках“.

Да тэмы ІІ-й — „Організацыя нашага колгасу„—дадаць: „растлумачыць вучням аб прымацаваньні школы да бліжэйшага колгасу“.

Мэтавую ўстаноўку ІV-й тэмы даць наступную: „організаваць удзел дзяцей у асеньняй пасеўнай кампаніі і працы колгасу і вёскі, а таксама пазнаёміць дзяцей з самымі элемэнтарнымі асеньнімі зьявамі ў прыродзе.

У тэме VI-й—„Падрыхтоўка да зімы“ —упадтэме б) „Вопратка“, дадаць словы: „пазнаёміць дзяцей з уласьцівасьцямі воўны і інш.

У тэме VIII-й—„Веснавая праца ў колгасе і на вёсцы“—падтэма а) „Прыметы вясны“—зьмяніць назву „Майскі саюз“ на назву „Прыхільнік птушак“.

Перад методкомам НКА паставіць пытаньне аб дачы конкрэтных паказаньняў па правядзеньню экскурсіі ў аднакомплектавых школах.

**Па другому году навучаньня.**

У тэме ІІ-й—„Колектыўныя гаспадаркі (арцелі, комуны) у нашым раёне“—падтэма „вытворчасьці“, разьдзелу а) дадаць: „у час падрыхтоўкі да сельска-

гаспадарчай выстаўкі к сьвяткаваньню „Дню колектывізацыі і ўраджаю“ пажадана, каб дзеці ў майстэрнях што-небудзь зрабілі“. Да падтэмы „Культура і быт“ дадаць: „жыцьцё, праца ў майстэрнях, пабудова плявалак для школы і колгасу“.

У тэме III-й—„Соцыялістычная прамысловасьць ў нашым раёне“ — дадаць: „знаёмячы з соцыялістычнаю прамысловасьцю свайго раёну, пажадана, каб дзеці склалі колекцыю вырабаў гэтай прамысловасьці“.

У тэме IV-й—„Сувязь колгасаў і саўгасаў з соцыялістычнай прамысловасьцю“, разьдзел в) „Шляхі зносін“— словы „сувязь з акруговым горадам“ замяніць словамі „сувязь з бліжэйшым горадам“.

У тэме V-й—„Веснавая праца ў колгасах і саўгасах“ (падтэма „Праца ў садзе“) пасьля слоў „Кваліфікаваны садоўнік“ дадаць словы: „умелы дагляд і колектыўная праца ў садзе“; у падтэме г) „Шкоднікі гароду, саду і поля“ словы „Майскі саюз“ замяніць словамі „Прыхільнік птушак“; у разьдзеле „Революцыйныя сьвяты“ (Дзень Чырвонай арміі) дадаць: „азнаёміць дзяцей з стрэльбай, штыком, вайсковымі прыладамі ў вайсковым кутку, і, дзе магчыма — наладзіць экскурсію ў вайсковую казарму“; у разьдзеле „Падагуленьне гадавой працы“ (выстаўка) дадаць: на „выстаўцы адвесьці месца для экспонатаў, зробленых ў кутку за год; у III-м заданьні (разьдзел „Заданьні на лета“) пасьля слоў „нагляданьні і дагляд розных расьлін“ дадаць словы: „на дасьледчым вучастку“.

### Па трэцьцяму году навучаньня

У тэме 1-й—„Пяцігодка нашага раёну“ (падтэма III-я „Віды колектыўных гаспадарак і іх кірунак“, разьдзел „Сельска-гаспадарчай машыны“) да заданьня — намаляваць сельгас-машыны, дадаць: „зрабіць модэлі некаторых сельгас-машын, а таксама прыняць удзел у працы майстэрні па рамонту сельгас-машын; у падтэме 4-й „Садоўніцтва і гародніцтва“ дадаць: „наладзіць актыўны ўдзел дзяцей у падрыхтоўцы саду да зімы; у падтэме 6-й—„Апрацоўка сельска-гаспадарчай сыравіны“ — дадаць: „збор колекцыі Сыравіны ў часе экскурсіі. Пры праходжаньні гэтай падтэмы організаваць соц. спаборніцтва з прадпрыемствам па пытаньнях зьніжэньня сабекошту і інш. На прапрацоўку падтэмы VIII-й—„Саматужная прамысловасьць ў нашым раёне“ вызначыць 8 дзён. У падтэме IX-й „Культурнае будаўніцтва нашага раёну“—унесьці дадатак: „узяць шэфства школай над дашкольнымі ўстановамі (пляцоўкамі, ясьлямі)“.

Увага. Тэмы: № 2 „Праца і здароўе“, № 3 „Насельніцтва нашага гораду“, № 4 „Сувязь гораду з вёскаю“ прапрацоўваюцца толькі гарадзкімі школамі.

Тэму № V „Пяцігодка нашае акругі“—пераапрацаваць зусім нанова.

У тэме VI-й—„Як утварылася БССР“—дадаць: „кіруючая роля партыі ў стварэньні БССР“, падтэма № 3, галіны народнай гаспадаркі БССР“ — выдзеліць асобнай падтэмай: „Значэньне сьвінаводзтва ў БССР“. У падтэме 9-й—„Шляхі Зносін БССР“—дадаць: „наладзіць пісьмовую сувязь са школай іншай рэспублікі“.

---

# Пастановы сельска-гаспадарчай падсэкцыі

## I. Увагі да праграмы па сельскай гаспадарцы

### 1-шы год навучаньня.

Увагі да 1-й тэмы — „Глеба, спосабы апрацоўкі і знаёмства з машынамі“.

1. Пры распрацоўцы тэмы прытрымлівацца сэзоннасьці.

2. Вызначыць колькасьць практычных заняткаў для кожнай дысцыпліны.

3. Для першае падтэмы у якасьці практычных заняткаў вызначыць збор монолітаў і работу ў колгасах.

4. Да працы на вытворчасьці аднесьці ворку, сартаваньне насеньня, працу з трактарам. Але вытворчая праца павінна праводзіцца на тых машынах, на якіх дазваляе ўзрост дзяцей.

Увагі да другой тэмы — „Жывёлагадоўля“.

1. Выкрасьліць у другой падтэме разьдзел „Вітаміны“, у трэцяй падтэме — „Развод“ і наступныя падзелы: „скрыжаваньне“, палепшаньне ў сябе і інш. да слоў: „як рэгуляваць ацёл“, і перанесьці ўсё ў 7-ю групу, у 5-ую тэму 3-яй групы.

2. Шостую падтэму другой тэмы першай групы: „Догляд за цёлнымі каровамі“ перавесьці ў пятую тэму 3-й групы. Усё астатняе заставіць, прытрымліваючыся строга вызначаных гадзін.

3. Практычныя работы прарабіць наступныя: 1) азначэньне жывой вагі кароў прамерамі; 2) складаньне харчорых норм для кароў; 3) дзяжурства вучняў пры скотным двары колгасу або саўгасу; 4) практычная праца па вызначэньню ўзросту кароў па рагох; 5) вырабы модэлі або сапраўднай кармушкі; 6) пазнаёміць вучняў са спосабамі даеньня; 7) дзяжурства вучняў у скотным двары колгасу па харчаваньню цялят; 8) пазнаёміцца на вэт. пункце з галоўнымі хваробамі; 9) удзел у працы па асьвятленьню і ацяпленьню хлявоў колгасаў і саўгасаў.

4. У падтэме „Каняводзтва“ вызначыць узрост коняй па зубох. Харчаваньне і догляд коняй.

Увага да 3-й тэмы — „Падвышэньне ўраджайнасьці“.

1. Прыняць тэму цалком, але вызначыць наступныя практычныя працы:

1) вывазка гною, з разьлікам на 1 га; 2) закладка компасных ям; 3) здабыча торфу для подсьцілу; 4) подсьціл; 5) засеў мінэральных угнаеньняў; 6) закладка паказальных вучасткаў для вывучэньня розных відаў угнаеньня; 7) пратручваньне і засеў; 8) вызначэньне засьмечанасьці насеньня; 9) ачыстка насеньня; 10) догляд за гнояхавальнікамі.

Увагі да 5-й тэмы — „Гародніцтва“.

1. Тэма прапрацоўваецца галоўным чынам практычна на гародзе увясну, улетку і ўвосень.

### 2-гі год навучаньня.

Увагі да 1-й тэмы — „Харчаваньне прадуктаў і сіласаваньне“.

Увесьці практычны ўдзел дзяцей у хаваньні продуктаў, наглядзе за імі і сіласаваньні.

Увагі да 3-й тэмы — „Збожжавыя, кармовыя, тэхнічныя, палявыя культуры“.

Увесьці практычны ўдзел вучняў ва ўборачнай пасеўнай кампаніі.

Увагі да 4-й тэмы — „Дробная жывёлагадоўля“.

Увесьці практычную працу вучняў у выглядзе назіраньня і догляду за харчаваньнем сьвіней, экскурсіі на сьвінарнік, харчаваньне і догляд за авечкамі. У разьдзеле „Птушкагадоўля“ увесьці пабудову кармушак, паілак, харчаваньне і догляд птушак, хаваньне яек, вывад куранят, работа з інкубатарам, пабудова птушніка, разьвядзеньне племянных птушак колгасаў і саўгасаў. Пабудова кантрольных вульляў.

Увагі да 5-й тэмы — „Садоўніцтва“.

Увесьці наступныя практычныя працы: 1) загатоўка насеньня, 2) захаваньне насеньня (сортыфікацыя); 3) пасеў; 4) пікіроўка, рассадка дзічак, окуліроўка, зрэзка на шып, выразка шыпа, пінцэроўка, зрэзка на кальцо, вывядзеньне кроны, выкапка ям і пасадка пладовага саду, догляд за старым садам і ягаднікам, барацьба са шкоднікамі.

Увагі да 6-й тэмы — „Лясная гаспадарка“.

У сувязі з распрацоўкай гэтае тэмы організаваць экскурсію на смаляны і дрэваапрацоўчы завод і наладзіць збор шышак.

### 3-і год навучаньня

Увагі да 1-й тэмы — „Складаньне севавароту“.

Вызначыць наступныя практычныя працы: вывучэньне ўмоў гаспадаркі для складаньня севавароту і складаньне для бліжэйшых колгасаў.

Увагі да 2-й тэмы — „Мэліорацыя балот і сенажаці“.

Практычна правесьці баранаваньне сенажаці, зьнішчэньне куп'я, экскурсіі на балота з мэтай вывучэньня мэліораваньня (закладка досьледаў па павярхоўнаму і таннаму паляпшэньню сенажаці).

Увагі да 3-й тэмы — „Мэханізацыя і электрыфікацыя сельскай гаспадаркі“.

Правесьці практычнае азнаямленьне і вывучэньне частак машын, іх устаноўку і працу (падрабязнае азнаямленьне).

Увагі да 4-й тэмы — „Паляпшэньне дарог“.

Правесьці практычнае азнаямленьне з рознымі паляпшэньнямі дарог і рознымі тыпамі колгасных будынкаў; унесьці ў тэму пытаньні аб аўтадоры і яго задачах.

Увагі да 5-й тэмы — „Сенаводзтва і насеньне“.

Правесьці знаемства з рознымі гатункамі машын і закладку насеннага вучастку.

**II. Увагі да праграмы па коопэрацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі**

У праграму ўнесьці наступныя зьмены:

Тэма 3-я — „Спажывецкая коопэрарыя“, словы „прэміі на заборы тавараў“ выкрасьліць зусім.

Тэму 5-ю—„Сельска-гаспадарчая і крэдытная коопэрацыя“—выкрасьліць з тае прычыны, што гэты матар'ял ёсьць у другіх тэмах.

Тэма 3-я—„Ільготы колгасам“—вызначыць практычную працу па азнаямленьню з ільготамі, атрыманымі колгасамі школьнага раёну.

Тэма трэцяя, падтэма 5-я — слова „складаньне“ выкрасьліць і замяніць наступным сказам:

„Райколгассаюз, яго мэты і задачы па колектывізацыі раёну“.

Тэма III-я, падтэма 5-я: падрабязнае тлумачэньне аб кусьце. Замяніць кароткім азнаямленьнем.

Увага. Вывучэньне програмнага матар'ялу па сельскай гаспадарцы (сяўба, уборка, лячэньне жывёлы і інш.) увязаць з антырэлігійным выхаваньнем.

# Пастанова сэкцыі па сувязі ШКМ з колгасамі і саўгасамі

1. Політэхнізацыя школы можа існаваць пры шчыльнай сувязі школы з колгасамі і саўгасамі.

2. Пасьпяховае выкананьне політэхнізацыі залежыць ад зразуменьня саўгасам, колгасам і школай таго, што гэта справа ёсьць агульная справа. Усе сілы і сродкі школы, саўгасу і колгасу павінны быць скарыстаны для політэхнізацыі школы.

3. Паміж школай і гаспадаркай павінен існаваць дагавор, дзе падрабязна будзе паказана, што дае школа і што дае гаспадарка для правядзеньня політэхнізацыі школы.

4. Трэба шырока весьці растлумачальную працу, прапаганду ідэй політэхнізацыі сярод кіруючага складу, сярод спэцыялістых, сярод колгасьнікаў, рабочых саўгасаў і ўсяго насельніцтва.

5. Перад заключэньнем згоды трэба добра азнаёміцца з вытворчым плянам колгасу ці саўгасу, з іх маёмасным становішчам.

Увага. Калі гэтага пляну няма, скласьці яго сумесна з колгасам.

6. Школа падрабязна знаёміць са сваім вытворчым плянам увесь саўгас ці колгас. Плян гаспадаркі і плян школы павінны быць паміж сабою ўзгоднены. Трэба дабіцца ўдзелу колгаснікаў ці саўгаснікаў у складаньні школьнага пляну.

7. Плян вытворчай працы школы ў асноўным павінен грунтавацца на вытворчым пляне данага колгасу або саўгасу.

8. Колгасы і саўгасы даюць поўную магчымасьць школам карыстацца іх сродкамі вытворчасьці для азнаямленьня з асноўнымі прынцыпамі вытворчасьці і для набыцьця практычных звычак.

9. Азнаямленьне вучняў з навуковымі вытворчымі процэсамі і набыцьцё практычных навыкаў праходзіць пад кіраўніцтвам спэцыялістых, якія ёсьць у колгасе.

10. Колгас і саўгас дае сродкі вытворчасьці і спэцыялістых для набыцьця політэхнічных ведаў самімі настаўнікамі.

11. Калі пры колгасе і саўгасе вопытна-дасьледчага вучастку няма, дабіцца організацыі такога разам з колгасам і саўгасам.

12. Майстэрні колгасаў і саўгасаў павінны быць так прыстасаваны, каб вучні мелі магчымасьць набываць тут працоўныя звычкі. Для організацыі агрогабінэту-ляброраторыі колгас ці саўгас дае памяшканьне і сродкі.

13. Колгас прымае ўдзел у організацыі харчаваньня і інтэрнату для вучняў ШКМ.

14. Калі пры школе ёсьць школьная гаспадарка, дык яе перадаць у колгас ці саўгас.

15. Праца школы ў колгасе альбо саўгасе праходзіць з мэтай замацаваньня працоўных звычак і з мэтай выкананьня прамфінпляну гаспадаркі.

16. Праца вучняў у колгасе або саўгасе павінна быць строга нормiравана.

17. Практычная карысная праца вучняў улічваецца колгасам альбо саўгасам, і гаспадарка за яе дае школе ўзнагароду, згодна існуючай тарыфнай сетцы.

18. Школа вядзе працу ў колгасе альбо саўгасе па падняцьцю культурнага ўзроўню калгаснікаў альбо рабочых саўгасу і палепшаньню іх быту:

а) ліквідуе няпісьменнасьць;

б) організоўвае школы малапісьменных;

в) організоўвае для дарослых сельска-гаспадарчыя гурткі альбо кароткія спэцыяльныя курсы па падняцьцю кваліфікацыі колгасьнікаў ці рабочых саўгасу;

г) прыцягвае да гэтай вучобы і паасобныя бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі;

д) організуе і наладжвае працу чырвоных куткоў, хат чытальняў, клюбаў, гурткоў, насьценгазэт;

е) вядзе працу сярод жанчын.

19. Школа дапамагае колгасу альбо саўгасу па організацыі і падліку працы ў колгасе ці саўгасе шляхам удзелу ў вытворчых нарадах, у організацыі і правядзеньні соц. спаборніцтва і ўдарніцтва.

20. Сувязь школы з колгасам і саўгасам праводзіцца шляхам соц.-спаборніцтва—заключэньнем паасобных дагавароў паміж гаспадаркай і школай, паміж паасобнымі гаспадаркамі, паміж брыгадамі гаспадаркі і школамі.

21. Школа разам з колгасам ці саўгасам праводзіць працу па матар'яльнай і культурнай дапамозе беднаце і незаможным серадняком, якія пакуль што яшчэ не ўвайшлі ў колгас.

---

# Пастанова сэкцыі ШКМ і ФЗС па пытаньню „Грамадазнаўства ў політэхнічнай школе“

1. У краіне, дзе будуецца соцыялізм, якая акружана варожымі капіталістычнымі дзяржавамі і ў якой абвострана клясавая барацьба, політэхнічная школа ні на адну хвіліну не павінна забывацца на задачу грамадзка-політычнага выхаваньня, пастаўленую перад савецкай школай Кастрычнікаўскай рэволюцыяй.

Забываньне пра гэтую задачу прывяло-б да дзяляцтва, „амэрыканізму“, да голага эмпірызму.

2. У політэхнічнай школе, якая павінна даць кадры для будаўніцтва соцыялізму на нашай тэхнічнай базе, так званыя дакладныя навукі павінны быць прасякнуты рэволюцыйным, грамадзка-політычным зьместам; з другога боку, грамадазнаўчыя дысцыпліны павінны ўключаць у сябё фактычны матар'ял, увязаны з навучальнымі плянамі політэхнічнай школы.

Нашы фабрыкі, нашы колгасы, уся наша соцыялістычная экономіка—ня толькі адна організацыя і ня толькі адна тэхніка, а новыя формы грамадзкай організацыі на вышэйшай тэхнічнай базе. Гэта ляжыць у аснове нашага пяцігадовага і генэральнага пляну соцыялістычнага будаўніцтва.

3. Выходзячы з паказаных адзнакаў, неабходна ў проект програмы па грамадазнаўству ўнесьці наступныя зьмены, якія будуць набліжаць гэтыя програмы да задач політэхнічнай школы.

а) У пятай групе разьдзел сучаснасьці пабудаваць тэматычна на конкрэтным пляне, прамфінпляне і вытворчым пляне фабрыкі і колгасу, пяцігадовым пляне

прадпрыемства (фабрыкі, колгасу) і адпаведнай галіны вытворчасьці.

Прамфінплян прадпрыемства, такім чынам, становіцца арганічнай часткаю навучальнай работы грамадаведа, з ілюстрацыйнага матар'ялу ператвараецца ў даследчы.

б) Гісторычны разьдзел 5-е групы перабудаваць тэматычна на матар'яле „фазы грамадзкага разьвіцьця да гандлёвага капіталізму". уключаючы матар'ялы па гісторыі матар'яльнай культуры і грамадзкіх форм да фэодалізму.

в) Дэталізаваць програму тэмы „Народная гаспадарка СССР і БССР" у 6-й групе, з мэтаю больш конкрэтнага выяўленьня ролі асобных вытворчых галін і палітычнай ролі на аснове дырэктыў партыі (асабліва ў разьдзеле сельскай гаспадаркі).

г) Тэму „Прамысловы пераварот у Англіі", якая зьяўляецца ўводзінамі да эпохі буржуазных рэволюцый, узмацніць фактычным матар'ялам па гісторыі тэхнікі.

д) Тыя-ж прынцыпы павінны быць і пры пераглядзе програмы 7-й групы, асабліва апошняй тэмы „Рэконструкцыя народнай гаспадаркі СССР і БССР".

4. Даручыць мэтодкому Наркомасьветы ў бліжэйшы час:

1) разаслаць паясьняльную запіску з мэтодычнымі заўвагамі да проекту програмы па грамадазнаўству з паказаньнем зробленых зьменаў;

2) напісаць мэтодычныя лісты па пытаньню аб прапрацоўцы прамфінпляну грамадаведам у школе, ужываньні мэтоду проектаў організацыі вытворчых экскурсій.

5. Адставаньне навучальнага матар'ялу ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва перашкаджае сапраўднай політэхнізацыі нашай школы, што асабліва адчуваецца грамадаведамі. З гэтай прычыны зьезд даручае мэтодкому Наркомасьветы выпрацаваць плян часопісі-падручніка і распачаць яго выданьне.

6. Зьезд адзначае поўную адсутнасьць популярнай дзіцячай літаратуры па пытаньнях пяцігодкі на беларускай, яўрэйскай і іншых нацыянальных мовах і даручае мэтодкому Наркомасьветы распрацаваць плян выданьня такіх кніжак і распачаць зараз-жа іх друкаваньне.

7. Нашы вышэйшыя пэдагогічныя навучальныя ўстановы, якія рыхтуюць грамадаведаў, да гэтага часу мала зьвяртаюць увагі на дысцыпліны, якія набліжаюць грамадаведаў да політэхнічнай школы (гісторыя матар'яльнай культуры, статыстыка, прамысловая і сельска-гаспадарчая географія і г. д.). Патрэбна зрабіць адпаведныя зьмены ў навучальных плянах, а таксама мець на ўвазе пры складаньні програм курсаў перакваліфікацыі на бліжэйшы час.

8. У гэтым напрамку павінна ісьці самаадукацыйная работа грамадаведа, дзеля гэтага даручаецца мэтодкому Наркомасьветы скласьці сьпіс адпаведнай літаратуры.

---

# Пастановы фізыка-матэматычнай падсэкцыі

## I. Увагі да програм па фізыцы

1) Проект програмы, выпрацаваны Наркомасьветы БССР, падсэкцыя прымае, як орыентыроўку.

2) Пры вывучэньні об'ектаў вытворчасьці трэба зьвярнуць увагу на такія моманты, якія маглі-б быць асноваю для тых пытаньняў фізыкі, што ўведзены ў програму.

3) Прыстасоўваць програму па фізыцы да вытворчасьці.

4) Пляны па фізыцы прыстасоўваць да прынятай сэкцыяй схэмы.

5) Для пятай групы ў програмы ўнесьці вымярэньне, узважваньне і статыку.

6) Шосты год навучаньня займаецца пытаньнем энэргетыкі.

7) Сёмы год навучаньня займаецца пытаньнем электрыфікацыі і оптыкі.

8) Лічыць патрэбным, каб Наркомасьветы ў трохтыднёвы тэрмін распрацаваў

падрабязную паясьняльную запіску, якая-б паказвала на конкрэтных прыкладах, як павінен выкладчык праводзіць сваю работу.

9) Лічыць патрэбным пераклад на беларускую і іншыя нацыянальныя мовы кніжак „для ўмелых рук“ і г. д.

10) Дагаварыцца з Белдзяржвыдавецтвам аб найхутчэйшым выданьні падручніка т. Брохіва па фізыцы.

11) Пры складаньні школьнага бюджэту лічыць патрэбным вылучаць спэцыяльныя сродкі на абсталяваньне фізычнага габінэту электро-моторамі, трансформатарамі, модэлямі машын і г. д.

## II. Увагі да програм па матэматыцы

1) Прыняць за аснову проект програмы па матэматыцы, выпрацаваны Наркомасьветы БССР.

2) Лічыць патрэбным, каб Наркомасьветы ў самы кароткі час распрацаваў паясьняльную запіску, якая паказвала-б выкладчыкам, як увязваць іх работу з вытворчасьцю.

3) Даручыць Наркомасьветы скласьці сьпіс рэкомэндуемых задачнікаў па матэматыцы.

4) Тэхнічную частку програмы пераглядзець, прыстасоўваючы яе да вытворчасьці.

# Пастанова сэкцыі па пачатковай гарадзкой школе і 1-му концэнтру ФЗС

З програмы РСФСР „Политехнический труд в школе“ (Часопісь „Политехнический труд в школе“, № 6—7, стар. 27—35) узяць ніжэй адзначаныя п. п. і ўключыць іх у програмы НКА БССР („Дэталізаваныя програмы для 1-й і 2-й груп 4-х і 7-й савецкай політэхнічнаи школы“ і „Дэталізаваныя програмы для 3 і 4 груп 4-і 7-гадовай савецкай політэхнічнай школы“.

### I ГРУПА.

КОМПЛЕКС I.

З „0“ групы 7 разьдзелу, літары А, п. 1 у тэму 2.
„ „0“ „ 7 „ „ Б, п. 1,3,4 у тэму 2.

КОМПЛЕКС II.

З „0“ групы 4 разьдзелу, літ. А, п. 1 у тэму 1.
„ „0“ „ 4 „ літ. Б, п. 1, 2, 3 і 4 у тэму 1
„ „1“ „ 4 „ літ. Б, п. 1 у тэму 1.
„ „1“ „ 1 „ літ. А, п. 1 у тэму 2.
„ „1“ „ 7 „ літ. А, п. 1 у тэму 2.
„ „0“ „ 1 „ літ. А, п. 1 у тэму 3.

КОМПЛЕКС III.

З „0“ групы 6 разьдзелу, літ. А, п. 2 і літ. Б п. 1 у тэму 4.
„ „1“ „ 2 „ літ. А, п. 1 і 2 у тэму 2.
„ „0“ „ 1 „ літ. А, п. 4 і 5 у тэму 3.
„ „1“ „ 1 „ літ. Б, п. 5 у тэму 3.
„ „1“ „ 7 „ літ. А, п. 2 у тэму 2.
„ „1“ „ 7 „ літ. Б, п. 1, 2 і 3 у тэму 3.

КОМПЛЕКС IV.

З „1“ групы 4 разьдзелу, літ. А, п. 1 у тэму 1.
„ „1“ „ 4 „ літ. Б, п. 1 і 5 у тэму 1.
„ „0“ „ 3 „ літ. А, п. 1 у п/тэму *б*, тэмы 1.
„ „0“ „ 3 „ літ. Б, п. 1, 2 і 3 у п/тэму *б* тэмы 1.
„ „1“ „ 3 „ літ. А, п. 1 і 2 у п/тэму *б* тэмы 1.
„ „1“ „ 3 „ літ. Б, п. 4 у п/тэму *б* тэмы 1.
„ „0“ „ 6 „ літ. А, п. 1 у тэму 3.
„ „1“ „ 5 „ літ. Б, п. 1 у тэму 3.
„ „1„ „ 5 „ літ. Б, п. 3 у тэму 3.
„ „0“ „ 7 „ літ. Б, п. 3, 4 у тэму 3.

## Ленінскія дні і 9 студзеня.

З „1 групы, 4 разьдзелу, літ. Б, п. 3 у тэму 3.

## Дзень Чырвонай арміі

З „0„ групы, 5 разьдзелу, літ. Б, п. 1 у тэму 3.

КОМПЛЕКС V.

З „1„ групы, 5 разьдзелу, літ. В, п. 3 у тэму 1.
„ „0“ „ 1 „ літ. А, п. 2 у тэму 2.
„ „0“ „ 1 „ літ. Б, п. 1, 2, 3, 4 і 5 у тэму 2.
„ „1“ „ 1 „ літ. А, п. 1 і 2 у тэму 2.
„ „1“ „ 1 „ літ. Б, п. 1, 2, 3 і 4 у тэму 2.
„ „0“ „ 5 „ літ. А, п. 1, 2 і 3 у тэму 3.
„ „0“ „ 5 „ літ. Б, п. 2 і 3 у тэму 3.

Група сэкцыі лічыць неабходным унесьці ў праграму гарачае сьнеданьне.

## III ГРУПА.

КОМПЛЕКС I.

З „2“ групы, 5 разьдзелу, літ. Б, п. 1 у тэму 1 (уступ).
„ „2“ „ 4 „ літ. А, п. 1 і 2 у тэму 1 (уступ).
„ „3“ „ 7 „ літ. А, п. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7 у тэму 1 п/тэму 2.
„ „3“ „ 2 „ літ. А, п. 1, 2 і 3 у тэму 1 п/тэма 2.
„ „3“ „ 2 „ літ. А, п. 4, 5, 6, 7, 8, 9 і 10 у тэму 1 п/тэма 2.
„ „3“ „ 2 „ літ. Б, п. 2 у тэму 1 п/тэму 2.
„ „3“ „ 3 „ літ. А, п. 1 і 2 у тэму 1 п/тэму 3.
„ „3“ „ 3 „ літ. Б, п. 1 і 3 у тэму 1 п/тэму 3.
„ „3“ „ 5 „ літ. А, п. 4, 5, 6, 7, 8, 9 у тэму 1 п/тэму 4.
„ „3“ „ 5 „ літ. Б, п. 3, 4, 5, 6, 7, 8 у тэму 1 п/тэму 4.
„ „3“ „ 5 „ літ. А, п. 1, 2 і 3 у тэму 1 п/тэму 5.
„ „3“ „ 5 „ літ. Б, п. 1 у тэму 1 п/тэму 5.
„ „3“ „ 7 „ літ. Б, п. 4 у тэму 2 п/тэму 1.
„ „2“ „ 4 „ літ. А, п. 2 у тэму 3 п/тэму 3.
„ „2“ „ 4 „ літ. Б, п. 6 у тэму 3 п/тэму 3.
„ „3“ „ 6 „ літ. А, п. 4 і 5 у тэму 3 п/тэму 1.
„ „3“ „ 6 „ літ. Б, п. 3 у тэму 5 п/тэму 1.
„ „3“ „ 6 „ літ. Б, п. 5 і 6 у тэму 5 п/тэму 2.
„ „3“ „ 1 „ літ. А, п. 1 у тэму 7 п /тэму 2.
„ „3“ „ 1 „ літ. А, п. 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 17 у тэму 1 п/тэму 1.
„ „3“ „ 1 „ літ. Б, п. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10 і 11 у тэму 6 п/тэму 3.

# Пастанова сэкцыі сувязі ФЗС з фабрыкамі і заводамі

1. Сэкцыя адзначае, што да гэтага часу ня толькі профсаюзныя і гаспадарчыя організацыі, але і органы нарасьветы зусім мала займаліся пытаньнем сувязі школы з фабрыкамі і заводамі.

2. Да апошняга часу кожная школа зусім самастойна зьвязвалася з тым ці іншым прадпрыемствам; самастойна там наладжвала і праводзіла сваю працу. У выніку мы мелі такое становішча, калі некаторая частка школ наладжвала сувязь (часта папяровую) з некалькімі фабрыкамі або заводамі, а другая частка школ была зусім ня зьвязана.

3. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў апошнія гады сувязь школы з вытворчасьцю, у большасьці выпадкаў, ішла па лініі організацыі экскурсій на фабрыкі і заводы, па лініі організацыі культасьветнай працы на прадпрыемствах.

Вытворчая праца вучняў на прадпрыемствах наладжвалася ў рэдкіх выпадках.

4. У сучасны момант політэхнізацыя школы патрабуе больш пільнай ўвагі з боку органаў нарасьветы, іншых організацый і ўстаноў да пытаньня сувязі школы з фабрыкамі і заводамі.

У гэтым 1930-31 навучальным годзе прымацаваньне школ да фабрык і заводаў павінна быць праведзена аўтарытэтнай організацыяй ў плянавым організаваным парадку.

5. Прымацаваньне школ да вытворчасьці ў маштабе гораду праводзіцца гарадзкім мэтодычным бюро. Прымацаваньне праводзіцца кіруючыся тэрыторыяльным прынцыпам, улічваючы абсталяванасьць школьных майстэрняў, становішча школы і г. д.

Прымацаваньне школ да фабрык і заводаў разглядаецца і канчаткова зацьвярджаецца на пашыранай нарадзе загадчыкаў школ гораду і прадстаўнікоў фабрык і заводаў.

6. Прымацаваньне ўсіх школ да фабрык, заводаў і прадпрыемстваў комунальнага тыпу ва ўсіх гарадох і буйных мястэчках БССР павінна быць праведзена да 15 кастрычніка 1930 г. У вясковых мясцовасьцях БССР прымацаваньне школ павінна быць скончана да 1-га лістапада 1930 г.

7. Усе матар'ялы (сьпісы, пратаколы і г. д.) па прымацаваньню школ да фабрык і заводаў накіроўваюцца НКА, ВСНГБ і ўсім тым гаспадарчым організацыям, якім падпарадкаваны фабрыкі і заводы. Матар'ялы гэтыя накіроўваюцца для зацьверджаньня і ўнясеньня выдаткаў у промфінплян прадпрыемства. Промфінплянам павінна быць прадугледжана: а) організацыя вучэбнага цэху, б) вучэбнага музэю, в) рабочага пакою пры школе і інш.

8. Прымацаваная школа да фабрыкі або заводу на неабмежаваны час, становіцца органічнай часткай гэтай фабрыкі або заводу. Вытворчы плян школы будуецца на падставе промфінпляну і зьяўляецца яго органічнай часткай. Вытворчы плян працы школы складаецца з удзелам рабочых і абгаварваецца на рабочым активе.

9. З моманту прымацаваньня да прадпрыемства школа ўключаецца ў агульныя задачы выкананьня промфінпляну. Уключэньне школы ў агульныя задачы выкананьня промфінпляну заключаецца ў тым, што:

а) Наладжваецца вытворчая праца ў звычайных цэхах, або спэцыяльна організаваным пры прадпрыемстве навучальным цэху.

б) Школа, як органічная частка прадпрыемства, удзельнічае ў вытворчых нарадах, у агульных сходах рабочых, у складаньні сустрэчнага промфінпляну і г. д.

в) Школа выконвае гаспадарчыя заданьні адміністрацыі прадпрыемства ў навучальным цэху, майстэрнях і г. д., пры тэй ўмове, калі гэтыя заданьні не супярэчаць пэдагогічным прынцыпам.

в) Шырока разгортваецца культасьветная праца школы на прадпрыемстве, да якога школа прымацавана.

г) Школьнае самакіраваньне перабудоўваецца ў адпаведнасьці з формамі і назвамі фабрычна-заводзкіх організацый. Сэктары школьнага самакіраваньня прымацоўваюцца да адпаведных аднародных па назве і форме сэктароў прадпрыемства для сталай і штодзённай працы там вучняў.

10. З мэтай жывога штодзённага пролетарскага кіраўніцтва, да ўсіх сэктароў школьнага самакіраваньня прымацоўваецца па некалькі рабочых. Пры школах ствараюцца тэхнічныя гурткі як для вучняў, так і для настаўнікаў.

Кіраўніцтва гэтымі гурткамі забясьпечваецца прадпрыемствам адпаведнымі інжынэрамі, тэхнікамі і кваліфікаванымі рабочымі.

Нарэшце, з ліку больш кваліфікаваных рабочых вылучаюцца кіраўнікі політэхнічнай працы ў школе і на прадпрыемстве.

11. Да актыўнай вытворчай працы ў звычайных цэхах або ў спэцыяльным вучэбным цэху дапускаюцца вучні II концэнтру ФЗС. Вучні 4-годак і 1 концэнтру ФЗС дапускаюцца толькі на экскурсіі на фабрыкі, заводы, да пасыўнага нагляданьня за машынамі і процэсамі вытворчасьці, вывучэньня фабрычна-заводзкіх організацый і выкананьня некаторай прымітыўнай работы.

12. Для таго, каб забясьпечыць штодзённае садзейнічаньне справе політэхнізацыі пры культмасавым сэктары орган!зуецца ячэйка садзейнічаньня політэхнізацыі школы.

У склад ячэйкі ўваходзіць: а) прадстаўнік ад адміністрацыі заводу, б) парт. ячэйкі, в) комсамольскай ячэйкі, г) прадстаўнік саюзу, д) вучняў, е) настаўнікаў і г. д.

У ячэйку ўцягваюцца на добраахвотных началах рабочыя массы розных цэхаў.

13. Узаемаадносіны паміж школамі і прадпрыемствамі вызначаюцца і рэгулююцца адпаведным дагаворам.

14. Для вывучэньня пытаньня адносна патрэбнага абсталяваньня навучальных цэхаў і мэханізаваных раёных майстэрняў стварыць камісію з прадстаўнікоў ВСНГБ, НКА і іншых зацікаўленых організацый.

15. З мэтай забесьпячэньня належнага кіраўніцтва вытворчым навучаньнем вучняў, паставіць пытаньне перад НКА аб вызначэньні па II конц. дадатковай стаўкі для інструктара, кіраўніка вытворчым навучаньнем.

# ПАСКОРЫЦЬ ТЭМПЫ ПОЛІТЭХНІЗАЦЫІ

## З практыкі работы па політэхнізацыі школ

(*Па матар'ялах зьезду*)

### Вопыт Барысава

— У Барысаве,—кажа дэлегат зьезду т. Пшанічнікаў,—у справе політэхнізацыі школ мы ўжо маем пэўную практыку. У нас ёсьць дагаворы школ з фабрыкамі і заводамі. 4 школы практычна працуюць на вытворчасьці.

Аднак, ня гледзячы на гэта, у нас таксама не заўсёды лёгка дагаварыцца з адміністрацыяй. Мы ведаем, што ў мінулым годзе была вынесена пастанова ВСНГ СССР аб тым, што нягоднае абсталяваньне фабрык і заводаў трэба аддаць для школ. І вось аднэй нашай школе трэба было забраць на адным заводзе такое абсталяваньне, якое было там зусім непатрэбна, але адміністрацыя не згадзілася на гэта, яна захацела... платы за абсталяваньне і адказала, што ў іх няма аб гэтым дырэктыў ад ВСНГ БССР.

8-я сямігодка Н.-Барысаву працуе ўжо трэці навучальны год на вытворчасьці. Мы прымаем удзел у вытворчай працы заводу, але практыка работы на заводзе паказала, што мы ня можам прапускаць дзяцей праз усе цэхі заводу. Напрыклад, на ф-цы „Чырвоная Бярэзіна“ ёсьць макальны цэх, які зьяўляецца шкодным для дзіцячага здароўя. Значыць, тут нешта патрэбна організаваць пры школе, ці лябораторыю, ці майстэрню.

Ня гледзячы на тое, што вучні працуюць на заводах ужо трэці год, яны не зрабілі жаднай шкоды заводам, а, наадварот, прынесьлі пэўную карысьць.

Колькі часу дзеці працуюць на заводзе?

У мінулыя гады ўсе групы працавалі па 4 гадзіны ў тыдзень.

Як організавалі работу? Мы падзялілі, згодна бесьперапыннаму рабочаму тыдню, усіх дзяцей на 5 брыгад; кожная брыгада школы працуе ў пэўны дзень. кожная брыгада мае свайго брыгадзіра. Школа працуе амаль ва ўсіх цэхах, Калі адчынілі новую фабрыку „Пролетарская перамога“, вучні працавалі і на гэтай фабрыцы.

Як набываюць вучні вытворчую практыку? Напрыклад, у нас, у запалкавай прамысловасьці, ёсьць каробачны цэх. У гэтым цэху работніца працуе на 2 варштатах. Мы зрабілі такім чынам: да работніцы паставілі яшчэ вучня; ён працуе на другім варштаце. Работніца паказвае дзецям, як трэба працаваць,

Апрача таго, дзеці ня ўвесь час працуюць у адным цэху—яны мяняюць цэхі. У нас такі прынцып, праўда, не заўсёды вытрымліваецца: дзеці 5-й групы працуюць у дрэваапрацоўчым цэху, 6-й групы—у мэталяапрацоўчым, дзеці старэйшых груп працуюць там, дзе ёсьць больш складаныя машыны, а 8-я група працуе ўжо на электростанцыі. Некаторыя спэцыялістыя раілі нам пачынаць вытворчую практыку з электростанцыі,

але ў нас такія ўмовы, што працаваць на электростанцыі цяпер няма магчымасьці.

Зразумела, політэхнізацыя школы не выяўляецца толькі ў тым, што мы працуем на вытворчасьці, гэта праца зьвязана з вучэбным плянам. Мы імкнемся зьвязваць свае навучальныя програмы з пэўнай вытворчасьцю.

Вось прыклад работы. Мы вывучаем пытаньне рацыяналізацыі. Гэтае пытаньне мы вывучаем не адцягненым способам, а бярэм конкрэтную вытворчасьць—фабрыку „Чырвоная Бярэзіна“. Мы вывучаем гэтае пытаньне на конкрэтных прыкладах: „што можна зрабіць у галіне рацыяналізацыі на гэтай фабрыцы і па г. Барысаву“.

Грамадзкая работа. Мы зрабілі нашу комсамольскую ячэйку ў гэтым годзе цэхавай ячэйкай ф-кі „Чырвоная Бярэзіна“. Мы лічым, што гэта адзін з крокаў па шляху да політэхнізацыі. Комсамольская ячэйка цяпер лічыцца пры школе цэхавай ячэйкай фабрыкі.

Аб перападрыхтоўцы настаўніцтва. У мінулым годзе мы займаліся гэтым пытаньнем. Чаму мы гэта рабілі? Калі нашы дзеці трохі папрацавалі на заводзе, яны сталі разьбірацца ў вытворчых процэсах лепш за настаўнікаў, і мы апынуліся ў такім становішчы, што ведалі завод горш, чым дзеці.

З гэтай мэтай мы паслалі настаўнікаў на заводы, але ў гэтай перападрыхтоўцы быў той недахоп, што мы толькі працавалі на заводзе. Нам загадчык цэху тлумачыў, як трэба працаваць, але пад гэтую работу ня была падведзена навуковая база.

Цяпер мы мяркуем заняцца перападрыхтоўкай настаўніцтва такім чынам, каб настаўнікі працавалі на заводзе і разам з тым, каб інжынэрна-тэхнічная сэкцыя дапамагала нам у вывучэньні тэхнолёгічных процэсаў.

Я ня згодзен з таварышамі, якія лічаць, што можна будаваць політэхнічныя школы толькі на базе высока разьвітай вытворчасьці. Справа ня ў тым. Трэба, каб школа была шчыльна зьвязана з жыцьцём, каб яна не адставала ад жыцьця.

У Барысаве ў 3-м концэнтры школ быў электротэхнічны ўхіл, але Барысаўская электростанцыя будзе мець толькі 8000 кілёват, таму НКАсьветы лічыць, што тут школам нельга надаць электротэхнічны ўхіл, што для гэтага трэба мець свой Дняпробуд. У нас ёсьць вялікі недахоп у электроманцёрах, а НКАсьветы на гэта не зьвяртае ўвагі. Зразумела, база для політэхнізацыі павінна быць, але ж нельга чакаць, пакуль у кожным маленькім мястэчку будзе свой Асінбуд.

Трэба зазначыць на вялікую цеснату ў Барысаве. Пры такіх умовах нельга праводзіць політэхнізацыю школы. Мы пры ўсім жаданьні ня можам мець свайго рабочага пакою пры школе, бо няма памяшканьня. Нам нават не даюць памяшканьняў пад майстэрні. Трэба сур'ёзна ставіць пытаньне аб пашырэньні будаўніцтва для школ, інакш цяжка праводзіць політэхнізацыю.

## Колгасы кепска адносяцца да вытворчай практыкі вучняў ШКМ

Некаторыя колгасы Гомельшчыны не разумеюць ролі і значэньня вытворчай практыкі для вучняў ШКМ. Да вучняў, якія пасылаліся на практыку ў колгасы, адносіліся зусім кепска, не дапамагалі, а перашкаджалі вучням набываць патрэбную вытворчую практыку па спэцыяльнасьці. Белколгасцэнтр нічога не зрабіў, каб зьнішчыць такія непаразуменьні.

Дэлегат з Гомельшчыны т. Беляцько расказвае:

— У мінулым годзе вучні ШКМ былі пасланы праводзіць вясеньнюю сяўбу ў колгасы, але колгасы часта перашкаджалі вучням ШКМ у набыцьці вытворчай практыкі. Колгасы большай часткай не забясьпечвалі вучняў харчамі, не плацілі ім за працу. У выніку—толькі 2 чалавекі правялі працу да канца.

Вясною гэтага году мы зноў паслалі на сяўбу ў колгасы 36 чал., але зноў колгасы ня лепш аднесьліся да вучняў. Кармілі вучняў толькі бульбаю і малаком. Што да аплаты працы, дык усе колгасы спасылаліся на тое, што аплата праводзіцца толькі ўвосень, і толькі пры дапамозе Колгассаюзу ўдалося атрымаць аванс. Замест таго, каб накіраваць на працу па спэцыяльнасьці, колгасьнікі пачалі даручаць вучням ШКМ вазіць гной, араць, баранаваць і г. д. Толькі апошні месяц вучні працавалі па спэцыяльнасьці.

Цяпер аб адносінах ШКМ і колгасу, да якога школа была прымацавана. Мы перадалі сваю гаспадарку колгасу і склалі з ім умову адносна ўдзелу вучняў ШКМ у працы колгасу. Дагаварыліся аб тым, што калі вучні працуюць у колгасе 8 гадзін, дык яны павінны атрымліваць зарплату; але калі дайшло да справы, дык колгасьнікі патрабавалі, каб вучні працавалі 10 гадзін. Тады мы прапанавалі аплачваць вучням па гадзінах і разрадах, але і гэта справы не палепшыла, і адносіны до вучняў засталіся ранейшыя.

Інвэнтар для працы вучням даставаўся заўсёды горшы. Згодна дагавору, вучні павінны былі атрымаць толькі 70 проц. зарплаты, але за гэта ўдзельнічаць у прыбытках колгасу. Аднак, на справе вучняў не дапусьцілі да ўдзелу ў прыбытках. Харчаваньнем забясьпечвалі ў першую чаргу таксама колгасьнікаў; напрыклад, у той час, калі колгасьнікі атрымоўвалі па літру малака, вучань меў толькі ¼ літра або нічога. Тлумачыцца гэта тым, што Колгасцэнтр ня даў адпаведных дырэктыў праўленьням колгасаў.

Трэба вынесьці ясную пастанову, якая-б рэгулявала вытворчую працу вучняў у колгасах, і гэтая пастанова павінна быць даведзена Колгасцэнтрам да колгасаў.

Урэшце, трэба зазначыць на адсеў з ШКМ. Вучні ШКМ ідуць у ФЗУ, на курсы па падрыхтоўцы ВНУ, на курсы каморнікаў, жывёлаводаў і г. д. Тлумачыцца гэта ў значнай меры матар'яльнай незабясьпечанасьцю вучняў, дрэннымі жыльлёвымі ўмовамі і інш.

Трэба ШКМ з пераважна батрацкім і бядняцкім складам забясьпечыць матар'яльна не на 50 проц., а на ўсе 100 проц.

---

## Інспэкторыят асьветы г. Віцебску не падрыхтаваўся да зьезду

Першыя крокі ў справе політэхнізацыі школ па г. Віцебску ўжо зроблены. Комсамол, піонэры і частка рабочых шчыра ўхапіліся за гэтую работу, але Інспэкторыят асьветы ня здолеў да гэтага часу ўзьняць масы на барацьбу за політэхнізацыю школы.

Вось што аб гэтым гаварыў дэлегат з Віцебшчыны тав Герштэйн:

У нас, у горадзе Віцебску, абвешчаны культурны паход і культурная эстафэта. У культурную эстафэту ўваходзіць маршрут па політэхнізацыі школы і па ўсеагульнаму навучаньню. Мы мобілізуем для гэтай работы ўсе культурна-асьветніцкія масы. Мы рушыліся на вытворчасьць, у рабочыя масы, мобілізуем

рабочых для работы ў гэтых групах, і рабочая маса сапраўды пачынае сур'ёзна цікавіцца гэтай работай. Рабочыя націскаюць на гаспадарнікаў і профсаюзы, каб яны дапамагалі справе політэхнізацыі. Толькі організаваўшы ўсю працоўную масу, мы зможам стварыць політэхнічную школу за самы кароткі час.

Але ёсьць у гэтай рабоце і перашкоды, напрыклад: колектыў комсамолу „Чырвоны Мэталісты" спрабаваў паставіць пытаньне аб організацыі вучнёўскіх цэхаў на ф-цы, аднак гаспадарнікі адказалі, што ў прамфінпляне на справу політэхнізацыі нічога не прадугледжана. Трэба будзе раз назаўсёды дагаварыцца, каб гаспадарнікі не перашкаджалі гэтай справе і пашлі на дапамогу політэхнічнай школе.

Віцебскі Інспэкторыят асьветы не падрыхтаваўся нават да зьезду.

З г. Віцебску тут ёсьць больш 8 прадстаўнікоў ад прадпрыемстваў. Гэта азначае, што мы правялі належную працу па падрыхтоўцы да зьезду толькі на гэтых 8 прадпрыемствах, а на другіх прадпрыемствах аб зьезьдзе ня чулі, бо Інспэкторыят асьветы нічога не рабіў для падрыхтоўкі да зьезду, нават ня ведалі, якія пытаньні стаяць на парадку дню політэхнічнага зьезду, і колькі дэлегатаў павінен прыслаць на гэты зьезд Віцебск. Гэта гаворыць аб нашай непадрыхтаванасьці. Пасля гэтага зьезду прыдзецца склікаць гарадзкую конфэрэнцыю па політэхнізацыі і організаваць вакол гэтага грамадзкую думку.

У горадзе Віцебску, дзе ёсьць каля 14 тыс. вучняў, мы ня маем тэхнічнай станцыі, якая-б магла значна дапамагчы ў справе політэхнізацыі. Трэба будзе конкрэтна паставіць пытаньне аб організацыі тэхнічнай станцыі і с.-г. станцыі ў кожным раёне.

Апрача гэтага, кожнае прадпрыемства павінна мець свой вытворчы цэх для дапамогі політэхнізацыі школ. Школы будуць знаёміцца ў гэтым цэху з вытворчымі процэсамі пэўнага прадпрыемства.

І, нарэшце, трэба організаваць масу-дзятвы, якая зможа шмат дапамагчы ў рабоце па політэхнізацыі. Піонэрыя ўзялася за гэту работу. Яны рушылі ў паход за політэхнізацыю школы. Яны раней, чым асьветнікі, пашлі на вытворчасьць растлумачваць масам аб політэхнізацыі. Мы-ж аніяк не дапамагалі дзятве ў гэтай рабоце.

## Гаспадарнікі ня ідуць насустрэч політэхнізацыі

У горадзе Магілеве ўсё яшчэ толькі зьбіраюцца прыступіць да работы па політэхнізацыі школы. Да гэтага часу няма належнай дагаворанасьці між школамі і гаспадарчымі ўстановамі, якія ня ідуць насустрэч справе політэхнізацыі школ.

Тав. Хаўкін, дэлегат з гор. Магілева расказаў зьезду аб гэтых непарадках.

— І настаўніцтва і, асабліва, рабочыя зацікавіліся пытаньнем політэхнізацыі школ. Рабочыя добра ведаюць, што рэконструкцыя нашай гаспадаркі вымагае новай, політэхнічнай школы, якая можа задаволіць новыя патрабаваньні соцыялістычнай вытворчасьці, але ў практычнай рабоце мы сустрэліся з цэлым радам перашкод.

Мы наважыліся прымацаваць усе школы да вытворчасьці. Рабочыя адкесьліся да гэтага мерапрыемства прыхільна. Яны толькі зазначалі, што шмат дзе гэтае пытаньне не падрыхтавана: няма памяшканьняў і г. д., а гаспадарнікі сустрэлі гэтае мерапрыемства зусім абыякава

Яны альбо зусім маўчалі, альбо заяўлялі, што нам ня справіцца с гэтаю задачаю. Мабыць, яны ня маюць пэўных дырэктыў па гэтым пытаньні.

Фінансавыя ўстановы таксама ня ідуць насустрач політэхнізацыі школ: у гэтым годзе мы ў Магілеве маем горшую матар'яльную базу для школ, чым у мінулым.

Такім чынам, мы бачым, што грамадзкая думка досыць падрыхтавана, настаўнікі і рабочая маса зацікавіліся справай політэхнізацыі, але няма належнай дагаворанасьці па гэтым пытаньні між адпаведнымі ўстановамі. Трэба зараз жа рашуча зьнішчыць усе перашкоды ў справе політэхнізацыі школ гор. Магілева.

---

## Як мы рыхтуем кадры

Тав. Геншафт, рабочы з Віцебску, расказвае, як яны на сваім заводзе рыхтуюць кваліфікаваныя кадры.

— У нас на заводзе,—кажа т. Геншафт, раней было 50 чалавек, цяпер—130. Мы ўзялі з біржы працы няпісьменных і адразу паставілі іх на працу, але гэта мела ўплыў на невыкананьне прамфінпляну. Тады мы ўзялі настаўніка і пачалі ліквідаваць няпісьменнасьць гэтых новых рабочых, але наша фабрычная адміністрацыя забрала памяшканьне для чырвонага кутка, і справа з ліквідацыяй няпісьменнасьці была закінута.

У нас пашыраюцца цэхі, інструктарамі для якіх прызначаюцца старыя рабочыя. У 1928 годзе мы набралі новых людзей, якіх паступова рабілі спэцыялістымі, але адміністрацыя іначай глядзіць на падрыхтоўку кадраў. Яна супроць гэтага, а прапануе лепш адразу ставіць кваліфікаваных рабочых. Але такіх рабочых няма, кваліфікаваных рабочых трэба падрыхтаваць, і тут бяз школы не абыйдзешся.

У нас на заводзе шмат няпісьменных жанчын. Каб даць магчымасьць ім вучыцца, мы адкрылі дзіцячы сад. Адміністрацыя, замест таго, каб дапамагаць у рабоце, кажа: „вы рабеце, а мы паглядзім, што з гэтага выйдзе"...

Што да політэхнізацыі школ, дык гэта пытаньне вельмі важнае. У нас на вытворчасьці можна наладзіць вытворчую практыку для вучняў. У нас часта працуе па аднаму чалавеку на два варштаты.

ВСНГ павінен даць дырэктыву ўсім організацыям, каб яны абсталявалі на вытворчасьці патрэбныя для школ цэхі, і зараз-жа распачаць працу па політэхнізацыі школ.

---

## Пытаньне політэхнізацыі школ не падрыхтавана

Дэлегат з Хойніцкага раёну апавядае:
— У гэтым годзе пры ШКМ організаваўся колгас. Дрэнна толькі тое, што ў колгасе няма трактараў і вельмі цяжка набываць практычныя і тэорытычныя веды па індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі. Цяпер, у сувязі з пастаноўкай пытаньня аб політэхнізацыі, асабліва цяжка абыходзіцца бяз буйных сельскагаспадарчых машын.

На раённых конфэрэнцыях настаўнікаў пытаньне аб політэхнізацыі было пастаўлена вельмі шырока, але ў раёне няма электрастанцый, ня ўсюды ёсьць фабрыкі і заводы, а ўсюды ёсьць колгасы і саўгасы, і таму цяпер можна праводзіць агрономізацыю школы, а потым ставіць пытаньне аб набыцьці звычак у галіне індустрыялізацыі. Для гэтага

трэба пабудаваць раённыя мэханічныя майстэрні-перасоўкі.

У справе політэхнізацыі школ раёну мы яшчэ амаль нічога не зрабілі.

Большасьць настаўнікаў у нашым раёне маладыя, якія толькі два месяцы вучыліся на пэдагогічных курсах. Трэба перавыхоўваць, падвышаць кваліфікацыю гэтых настаўнікаў. Бяз гэтай работы цяжка будзе праводзіць політэхнізацыю школ.

Райколгасаюз увесь час займаецца вельмі важнымі кампаніямі, і ніякай дапамогі ад яго мы яшчэ ня мелі.

---

## Што браць за аснову: вытворчасьць ці праграмы?

— Я хачу,—кажа т. Краўзэ, сказаць аб некаторых момантах працы аднэй є школ Аршаншчыны, якая знаходзіцца блізка ад фабрыкі, колгасу і саўгасу.

У пачатку навучальнага году перад намі паўстала пытаньне, як пабудаваць нашу праграму, як пабудаваць наш генэральны плян, што ўзяць за аснову: ці ўзяць вытворчасьць і да яе прыстасоўваць праграмы, ці ўзяць яшчэ ня існуючыя Наркомасьветаўскія праграмы і да іх прыстасоўваць вытворчасьць?

Я тут прывяду некаторыя характэрныя рысы з жыцьця школы нашага раёну.

Тэма аб нашай фабрыцы праходзіць праз усе без выключэньня групы, пачынаючы з першага концэнтру.

Другі концэнтр мае такую ўстаноўку: 5-я група распрацоўвае такую тэму: „Наш завод, яго сучаснае і мінулае“. Гэтая тэма ўвязваецца з усімі прадметамі. 7-я група ўжо непасрэдна працуе на вытворчасьці, яна больш глыбока вывучае аснову энэргетычнай базы на фабрыках. Сыстэматычнае вывучэньне ўсіх цэхаў мы праводзім з 5-й групы пад кіраўніцтвам кваліфікаваных рабочых заводу. 6-я група вывучае паасобныя часткі заводу.

Кепска, што мы адчуваем недахоп у нашых беларускіх падручніках па політэхнізацы, і гэта зьяўляецца перашкодай для нашых школ.

---

## Наша школа—завод

*(з прывітаньня зьезду ад Менскай 9-й школы)*

9-я школа зьвязана з дражджовым заводам „Красная Заря“ з 1927 году. За гэты час праз завод прайшло: за 1927-28 навучальны год 3160 чалавека-дзён; за 1928-29 навучальны год таксама 3160 чалавека-дзён; за 1929-30 навуч. год—6320 чалавека-дзён. Працавалі 3 гадзіны на дзень па 3 дні ў тыдзень.

Былі ахоплены цэхі: пакавальны, аббіўны, машыннае аддзяленьне, кавальскае аддзяленьне, патачны завод, прасавальны цэх.

У пакавальным цэху працавалі дзяўчаты. Яны разам з работніцамі стаялі каля варштатаў, пакавалі дрожджы, на разальнай машынцы разрэзвалі дражджовую паласу. У аббіўным аддзяленьні хлопцы зьбівалі скрынкі. У машынным і прасавальным аддзяленьнях вывучалі працэс работы, непасрэднага ўдзелу ў рабоце ня прымалі.

Вучні, што працавалі на вытворчасьці, акуратна наведвалі вытворчыя нарады, паседжаньні заўкому і агульныя сходы рабочых. 20 чалавек былі прымацаваны да ленкутка, ячэйкі мопру, Асоавіахіму, ячэйкі КМС. У 1929-30 нав. годзе быў заключаны соцдагавор з заводам.

2 разы заслухоўвалі даклады дырэктара заводу на агульным сходзе школы аб выкананьні прамфінпляну. У сакавіку

месяцы 1930 г. адбылася дэмонстрацыя вучняў з мітынгам на заводзе з патрабаваньнем ліквідацыі прарыву прамфінпляну. Была пастаўлена справаздача аб працы школы на агульным сходзе рабочых заводу. Да школьных установ былі прымацаваны рабочыя заводу. Політычныя кампаніі, антырэлігійныя кампаніі, рэволюцыйныя сьвяты праводзіліся сумесна з заводам, адносіны рабочых да школы вельмі добрыя. У бягучым навучальным годзе на заводзе быў пастаўлены даклад аб політэхнізацыі школы. Заводам вылучаны рабочыя для ўдзелу ў школьнай комісіі па складаньню вучэбнага пляну работы на заводзе і ў школьных майстэрнях у сувязі з політэхнізацыяй школы.

## ФЗС рыхтуе кваліфікаваных рабочых

(*Мазыршчына*)

— У нас на заводзе „Дрэваапрацоўшчык“,—кажа т. Туркін,—які налічвае 600 рабочых, майстры і наогул сярэдні адміністрацыйны пэрсонал—малапісьменныя, ня ведаюць і арытмэтыкі. З гэтай прычыны вучні ФЗС—самая падрыхтаваная частка заводу. Завод бярэ вучняў для работы проста са школы. У мінулым годзе амаль што ўся 7-я кляса пашла на вытворчасьць, і вельмі цяжка было вярнуць вучняў назад у школу. У мінулым жа годзе вучні працавалі на вытворчай практыцы, але без спэцыяльнага кіраўніка. Сярод вучняў заўважаецца ўхіл атрымаць вузкую кваліфікацыю. У гэтым годзе мы зможам мець належнага кіраўніка для практыкі. З таго, што вучні зьяўляюцца самай падрыхтаванай часткай сярод рабочых, вынікае вялізная роля ФЗС у падрыхтоўцы кадраў. Трэба, каб ВСНГ даў спэцыяльныя дырэктывы прадпрыемствам, на падставе чаго мы будзем патрабаваць ад адміністрацыі належнай дапамогі, бо іншы раз дырэктар не дае нам матар'ялу для школ, для гэтага трэба мець выразную дырэктыву з боку ВСНГ.

Я лічу, што, апрача рэзолюцый зьезду, для гаспадарчых органаў патрэбна яшчэ спэцыяльная пастанова ВСНГ. На прыклад, такая справа, як організацыя вучэбных цэхаў, можа быць праведзена толькі тады, калі мы будзем мець адпаведныя пастановы з боку ВСНГ.

## Мы чакаем ад політэхнічнай школы кваліфікаваных рабочых

(*з выступленьня рабочага т. Шпака*)

Пры шпаркім росьце соцыялізму ў нашай краіне ўзьнікае пільная патрэба ў кваліфікаваных кадрах. Гэтыя кадры часта прыходзіцца набываць з-за мяжы. Так, у нас на пабудове шоўкавай фабрыкі працуюць майстры-немцы, якія атрымліваюць па 1000 рублёў у месяц. Каб не рабіць такіх выдаткаў, нам трэба мець свае кадры, што магчыма зрабіць, калі мы створым політэхнічную школу.

Рабочыя ідуць да нас з вёскі, ў большасьці сваёй яны няпісьменныя ці малапісьменныя. Так, у нас з 2000 рабочых толькі 200 пісьменных. Ліквідацыя няпісьменнасьці павінна быць у цэнтры ўвагі.

У нас на вучня, які скончыць сямігодку, глядзяць як на інтэлігента, ён ня можа адразу працаваць як спэцыялісты на прадпрыемстве. Трэба, каб вучань і вучыўся і працаваў на прадпрыемстве. Нам патрэбен кваліфікаваны і сьвядомы рабочы, і мы атрымаем яго толькі праз політэхнічную школу.

## Рапорт 20-й фаб.—зав. школы імя Дзесяцігодзьдзя БССР

20-ая школа ў сваім складзе налічвае цяпер 378 вучняў. З гэтага ліку рабочых—64 проц., служачых—16 проц., беднаты—5 проц. і бядняцка-серадняцкіх, дзяцей—12 проц.

З іх: піонэраў—136, комсамольцаў—14 акцябрат—71, а ўсяго організаваных школьнікаў—60 проц.. Ёсьць атрад лёгкай кавалерыі.

Форма акадэмічнай працы брыгадная, форма вучнёўскай самаорганізацыі—атрадная і зьвеньнявая.

Школа падпісала дагавор на соцспаборніцтва з 8-й яўрэйскай, і з 3 дасьледчымі школамі.

Спаборніцтва і ўдарніцтва далі наступныя вынікі: непасьпяховасьць зьменшылася з 21 проц. па першаму сэмэстру да 4,5 проц. у чацьвёртым сэмэстры.

Падпіска на газэты павялічылася з 45 проц, да 114 проц. Дзякуючы ўдалай працы па выпісцы газэт школа атрымала пераходны сьцяг „Пионерской Правды“.

Вучнёўская маса на ўсе 100 проц. уцягнута ў грамадзка-карысную працу.

Вучнямі прынесена ў школу звыш 2 тон попелу і $2^1/_2$ тоны сабрана на ўскраінах гораду. Сабраны тона утыльсыравіны, $^1/_4$ тоны жалезнага лому, 20 кілёграм каляровых мэталяў, 25 мяшкоў, пабудаваны для вёскі 8 радыё-прыёмнікаў.

Школа разгарнула вялікую антырэлігійную працу сярод бацькоў вучняў, вакольнага насельніцтва, а таксама колгасаў. Ячэйка ваяўнічых бязбожнікаў налічвае 84 чал., ячэйка маладых бязбожнікаў—72 чал.

Пад кіраўніцтвам гуртка былі організаваны 2 карнавалы і дзьве дэмонстрацыі антырэлігійнага характару. Гурток бязбожнікаў дабіўся зачыненьня ў раёне малельні баптыстых.

Сіламі гуртка было зроблена 5 дакладаў антырэлігійнага характару на бацькаўскіх сходах, 4 у колгасах Пярэжырскага с. с. і 5 у рабочых клюбах.

Шырока разгарнулася праца і па інтэрацыянальнаму выхаваньню. Гурток Мопру аб‘яднае цяпер 155 вучняў. Вучні школы сыстэматычна падтрымліваюць сувязь з школамі паўночнага краю, паўночнага Каўказу, Ц. Ч. О., Уралу, Грузіі, Азэрбайджану і з піонэрорганізацыяй усходняй Прусіі, такім шляхам перадаюць практыку сваёй працы і скарыстоўваюць практыку іх працы. Наладжана шчыльная сувязь з 8-й яўрэйскай школай праз організацыю сумесных сходаў, выездаў у колгасы, наладжваньне сумесных вечароў, ваенных паходаў, наведваньне кіно, паседжаньняў пэдрадаў.

Ячэйка „Озету“ аб‘яднае зараз 80 проц. вучняў, Асоавіяхіму—60 проц., ячэйка „Прэч няпісьменнасьць“—98 проц. вучняў.

У галіне перабудовы вёскі на соцыялістычны лад зроблена наступнае: з дапамогаю школы організавана 3 колгасы, складзены для іх вытворчыя пляны і аказана дапамога ў справе організацыі працы.

Настаўнікамі школы ў Пярэжарскім с. с. праведзена 60 сходаў, організаваны піонэратрад і бібліотэка, у колгасе пастаўлена 8 спэктакляў, забясьпечаны чырвоныя куткі колгасаў плякатамі, лёзунгамі, часткова выпіскай газэт і выпускам насьценгазэты. Для працы на вёсцы сіламі вучняў сабрана 59 р. 52 к.

Школа трымае сувязь з АБВШ.

Школа правяла досыць значную працу па лініі сувязі з жактам, шляхам удзелу ў вечарох, у выданьні насьцен-газэт, у зборы падпіскі на газэты і часопісы дзяжурства ў дзіцячым пакоі ў час дэ-

монстрацый і агульных сходаў, арганізацыі працы па „лікбезу“ (ліквідавана няпісьменнасьць 20 асоб), агляду грамадзкага харчаваньня і інш.

У адказ на „Крыжацкі паход“ папы сабрана 12 р. 72 к. на падводную лодку.

Месячнік ашчаднасьці даў 56 новых укладчыкаў.

Па абслугоўваньню бібліотэчнага паходу працавала 50 вучняў у якасьці кніганош.

Для дапамогі бедным вучням на адзеньне, абутак і харчаваньне выдаткавана 855 руб., з іх 256 руб. сабрана школаю

Пытаньне політэхнізацыі школы пастаўлена было ў поўнай шырыні яшчэ у пачатку мінулага навучальнага году.

З гэтай мэтай вучэбны плян школы і програмы былі пабудаваны на базе вытворчасьці заводу „Энэргія“. Вучні, пачынаючы з 6-ай клясы, працавалі па 16 гадзін на месяц у спэцыяльнай майстэрні заводу, а таксама брыгадамі па 16 гадзін у цэхах заводу. Для азнаямленьня з іншымі галінамі вытворчасьці і для атрыманьня пэўных звычак, пры школе арганізавана сталярная майстэрня, дзе ёсьць 20 варштатаў, арганізавана праца па картоннай і пераплётнай справе. Поўнасьцю скарыстаны экскурсійны мэтод для азнаямленьня з іншымі галінамі вытворчасьці.

Звычкі і азнаямленьне з вытворчасьцю па сельскай гаспадарцы вучні атрымлівалі ў час працы на школьным вучастку, дзе была пасеяна рассада для колгасаў і пасаджана морква, а таксама працавалі у колгасах і саўгасах.

Школа значна дапамагала выкананьню прамфінпляну заводу, для чаго праводзіліся адпаведныя гутаркі у цэхах заводу, маляваліся лёзунгі, плякаты.

Вучні і настаўнікі прымалі ўдзел у пасяджэньнях фабзаўмясцкому і яго комісій прымалі ўдзел у паседжаньнях вытворчых нарад, гурткоў.

На заводзе арганізавана два гурткі— для няпісьменных і малапісьменных. Школа прымала самы актыўны ўдзел ва ўсім жыцьці заводу.

У пачатку наладжваньня сувязі з заводам былі некаторыя непаразуменьні, але ў канцы навучальнага году яны цалкам былі ліквідаваны. Адносіны рабочых да школы самыя прыхільныя. Рабочыя лічаць школу сваёй школай. З прычыны таго, што з боку Нарасьветы ня было належнага падтрыманьня ў справе політэхнізацыі, мы маем шэраг недахопаў— адсутнасьць належнага памяшканьня, абсталяваньня і г. д.

Ня бягучы год школа ставіць сваёй задачай дабіцца, каб школа стала сапраўднай фабрычна-заводзкай школай, дабіцца замацаваньня тых посьпехаў у справе політэхнізацыі, якія ёсьць, і рашуча працягваць працу ў гэтым напрамку для таго, каб школа стала цалкам політэхнічнай.

Школа дае абяцаньне Ўсебеларускаму політэхнічнаму зьезду прыняць усе заходы, каб ліквідаваць усе тыя недахопы, якія былі дапушчаны ў мінулым годзе.

М. Лазарэнка

# Агрономізацыя школы і настаўніка— значны крок да політэхнізму

Социялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі паставіла ня толькі перад вясковай, але і гарадзкой школай пытаньне аб яе агрономізацыі. Разам з гэтым набывае вялізарнае значэньне задача выхоўваньня ў вучня звычак колектывізму, звычак організацыі колектыўнай працы. Галоўнае, чаго школа павінна дасягнуць,—гэта зразуменьне вучнямі задач і шляхоў социялістычнай рэконструкцыі і ўздыму сельскай гаспадаркі, а таксама ўдзелу ў ажыцьцяўленьні гэтых задач. Вучням павінна стаць блізка і зразумела колектывізацыя сельскае гаспадаркі. Яны павінны быць добра азнаёмлены з тымі падважнікамі, з дапамогай якіх комуністычная партыя і савецкая ўлада пасоўваюць вёску да социялізму. Вучні павінны зразумець, што социялістычная перабудова вёскі адбываецца ў абставінах абвостранага клясавага змаганьня. Яны павінны зразумець рэволюцыйную ролю машын у сельскай гаспадарцы, якія ў руках савецкай улады ператвараюцца ў магутны сродак социялістычнай перабудовы вёскі. Вучні павінны добра разабрацца ў процэсах хэмізацыі і іншых асноўных спосабах уздыму сельскае гаспадаркі. Асабліва трэба завастрыць увагу вучняў на ролі прамысловасьці, на ролі рабочае клясы і вялікім значэньні індустрыялізацыі краіны і колектывізацыі сельск. гаспадаркі. Праз школу вучань павінен набыць ня толькі адпаведную колькасьць агрономічных ведаў у галіне сельскае гаспадаркі, але і патрэбную суму практычных звычак. Сельска-гаспадарчая праца ў школе павінна стаць неад'емнай часткай усяе работы школы, неад'емным падважнікам політэхнічнага выхаваньня. Трэба зьвярнуць увагу на рацыяналізацыю дзіцячае працы ў сельскай гаспадарцы, на стварэньне для яе такіх умоў, у якіх гэтая праца адначасова зьявіцца фактарам аздараўленьня дзіцячага організму.

Працоўная політэхнічная школа ня можа мець вузкарамесьніцкага характару. Ручныя формы працы на самых раньніх гадох навучаньня зьяўляюцца толькі сродкам паступовага прывучэньня вучняў да больш складаных форм працы, да ўладаньня машынай.

Пры вывучэньні сельскай гаспадаркі школа ні ў якім разе ня можа застанавіцца на вывучэньні толькі тэхнікі сельскай гаспадаркі, якая зьяўляецца магутным падважнікам у колектывізацыі сельскае гаспадаркі. Вывучэньне сельскагаспадарчых процэсаў павінна праводзіцца шляхам шырока разгорнутай грамадзка-карыснай працы, а ня шляхам сухіх гутарак, разгляданьнем табліц. Не абмяжоўваючыся экскурсіямі, школа павінна прыняць актыўны ўдзел у справе ўздыму колектыўнае сельскае гаспадаркі, устанавіўшы жывую, цесную сувязь з колгасамі, саўгасамі, організаваўшы ў іх вытворчую практыку вучняў. Найбольш цікавай формай організацыі сельска-гаспадарчай работы зьяўляецца дзіцячы сельска-гаспадарчы колектыў. Гэтыя колектывы могуць утварацца па асобных галінах гаспадаркі: колектыў птушкаводаў, сьвінаводаў, гароднікаў, садоўнікаў, паляводаў і г. д. Працуючы колектыўна ў сельскай гаспадарцы, дзеці атрымоўваюць ня толькі вытворчыя звычкі, але і выхоўваюцца як трывалыя колектывістыя.

Пяцігадовы плян разьвіцьця сельскае гаспадаркі абавязкова павінен мець адлюстраваньне ў школьнай рабоце. Акрамя агульнай пяцігодкі, трэба знаёміцца і з мясцовымі плянамі.

Вялікую дапамогу ў справе агрономізацыі школы павінна зрабіць прышкольная дзялянка. Бяз масавай організацыі прышкольных дзялянак цяжка організаваць дзіцячую сельска-гаспадарчую працу і правесьці ў школе сапраўдную агрономізацыю. Асабліва цяжка гэта зрабіць у першым концэнтры політэх-

нічнае школы. Сур'ёзная ўвага павінна быць зьвернута школай на практыкавальна-дасьледчую справу ў галіне сельскае гаспадаркі. Акрамя досьледаў па расьлінаводзтву, школа павінна разгарнуць дасьледчую работу ў галіне жывёлагадоўлі, садоўніцтва, гародніцтва і г. д.

Програма сельска-гаспадарчых ведаў і звычак павінна конкрэтна вызначыць: 1) аб'ём і зьмест матар'ялу (ведаў), 2) спосаб прапрацоўкі, 3) вытворчыя звычкі, 4) грамадзка-карысныя мерапрыемствы.

Такая програма значна дапаможа настаўніку ў яго рабоце і зробіць больш лёгкай самую працу. Прывяду адзін прыклад з 1-га году навучаньня.

**Гародніцтва**

| Аб'ём і зьмест матар'ялу | Спосаб прапрацоўкі | Вытворчыя звычкі | Грамадзка-карысныя мерапрыемствы |
|---|---|---|---|
| Першапачатковае знаёмства з жыцьцём культурных расьлін. Выбар расьлін для мясцовага гароду. Якія прылады патрэбны для апрацоўкі мясцовага гароду. Перавага колектыўнага гароду перад індывідуальным. | Вырошчваньне ў скрынках цыбулі, радзісу, салату, гароху. Назіраньне за жыцьцём расьлін і праца на прышкольнай дзяляніцы. Экскурсіі на колгасны ці саўгасны гарод. | Падрыхтоўка і ўгнаеньне глебы, паліўка, перасадка, расплод чаранкамі, насеньнем і г. д. Набыць звычкі правільна карыстацца лапатай і граблямі. Зрабіць градку, належна пасеяць насеньне і даглядаць за ім, прарэжваць, акучваць і рыхліць глебу і г. д. | Організацыя школьнага выхавальніка хатніх расьлін. Удзел у правядзеньні кампаніі. Дзень лесу. Пропаганда належачага да гародніны харчаваньня і прыцягненьне бацькоў да стварэньня колектыўнай гаспадаркі. |

Для ажыцьцяўленьня гэтых мерапрыемстваў трэба мець адпаведны склад пэдагогічнага пэрсоналу, які-б мог даць асноўныя веды ў галіне сельскай гаспадаркі. Агрономізацыя тэхнікумаў і пэдВНУ да бягучага году праводзілася слаба; каб запоўніць гэты прабел, трэба правесьці, прыкладна, наступнае:

1. На настаўніцкіх райконфэрэнцыях ставіць даклады аб агрономізацыі вясковых школ, вылучаючы дакладчыкаў з настаўнікаў-агрономаў, якія працуюць у раёнах, ці райагрономаў.

2. ЦП саюзу працасьветы павінна прапанаваць усім райшэфбюро шырока разгарнуць работу на працягу бягучага навучальнага году ў мэтодычных аб'яднаньнях настаўнікаў вясковых школ па пытаньні агрономізацыі школы і глыбокага вывучэньня мэтодычнай работы ў школе ў галіне сельскай гаспадаркі.

3. Організаваць на працягу зімы 1930-31 навучальнага году ў часе зімовага перапынку пры сель.-гас. тэхнікумах, прафшколах, дасьледчых станцыях, добра організаваных колгасах і саўгасах 10-дзённыя агрокурсы для вясковага настаўніцтва.

4. Улетку 1931 году пры буйных саўгасах і колгасах правесьці месячныя курсы для настаўніцтва з мэтай ня толькі тэорытычнага паглыбленьня агроведаў, але і набыцьця практычных звычак у пастаноўцы дасьледча-узорнай агропрацы.

5. Пры сельска-гаспадарчых ВНУ і тэхнікумах організаваць консультацыйныя бюро па агропытаньнях і колектывізацыі сельскае гаспадаркі для дачы вусных і пісьмовых адказаў настаўнікам у галіне агрономізацыі школы.

6. НМК НКА трэба скласьці програмы курсаў і даць мэтодычныя паказаньні райінспэктаром асьветы аб правядзеньні агрокурсаў.

7. З пачатку навучальнага году трэба шырока разгарнуць завочную агрономічную асьвету, для чаго патрэбна бюро завочнага навучаньня распрацаваць конкрэтны плян завочнай агроасьветы.

8. Програмы школ трэба прыстасаваць да мэт агрономічнага выхаваньня моладзі, вызначыўшы ў програмах конкрэтныя тэмы практычных прац у сельскай гаспадарцы.

9. Забясьпечыць выданьне і снабжэньне школ навукова-популярнай літаратурай па пытаньнях агротэхнікі і організацыі буйнай колектыўнай сельскай гаспадаркі.

10. Наркомзем і Белколгасцэнтр павінны забясьпечыць школы базамі для вытворчай практыкі непасрэдна ў соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі.

11. Каб даць магчымасьць школам сапраўды разгарнуць дасьледча-ўзорную работу, абавязкова трэба забясьпечыць школы патрэбным сельска-гаспадарчым абсталяваньнем і агроляборatoрыямі.

12. Усе школы павінны належным чынам організаваць работу па распаўсюджваньню агропраграматы сярод працоўнага насельніцтва шляхам закладкі дасьледча-ўзорных вучасткаў, організацыі выставак, агрофургонаў, агрогурткоў, дакладаў, конфэрэнцый, выданьне агрогазэты і г. д.

# Дагавор па політэхнізацыі школы, заключаны паміж Сеньненскімі райорганізацыямі

З мэтай дапамогі ўсеагульнаму абавязковаму навучаньню і політэхнізацыі масавай школы, Сеньненскія раённыя організацыі заключаюць гэты дагавор на 1930-31 навучальны год, з 15 верасьня 1930 г. да 15 верасьня 1931 г., і прымаюць на сябе наступныя абавязкі:

1. Раённая організацыя комсамолу абавязваецца выканаць наступнае:

а) павесьці растлумачальную работу сярод працоўнага насельніцтва аб мерапрыемствах па ўсеагульнаму абавязковаму навучаньню і політэхнізацыі школы;

б) прыняць актыўны ўдзел у організацыі і рабоце ячэек садзейнічаньня політэхнізацыі школ;

в) дапамагаць у справе набліжэньня гаспадарчых прадпрыемстваў, саўгасаў і колгасаў да школ, дабівацца, каб гаспадарчыя організацыі забясьпечвалі вучэбную практыку школам і дапамагалі ім у гэтым, садзейнічаць заключэньню дагавароў паміж школамі і саўгасамі, колгасамі і інш. прадпрыемствамі;

г) мобілізаваць усю вучнёўскую масу для справы політэхнізацыі праз піонэрскія організацыі;

д) забясьпечыць лепшымі падрыхтаванымі павадырамі піонэрскія атрады, вылучыўшы для гэтай мэты 40 лепшых падрыхтаваных комсамольцаў;

е) павесьці работу сярод колгасаў і насельніцтва за пасеў культгэктараў на дапамогу школам, дабіваючыся, каб па раёну было засеяна ня менш 100 га;

ж) сабраць па раёну 500 руб. за год на дапамогу бедным вучням і для садзейнічаньня політэхнізацыі школ;

з) завербаваць на завочны пэдтэхнікум чатырох комсамольцаў, што скончылі сямігодку.

2. Сеньненскія профсаюзныя організацыі бяруць на сябе абавязкі:

а) дабіцца ад гаспадарчых устаноў забесьпячэньня вучэбнай практыкай школ, дапамогі з боку спэцыялістых у політэхнізацыі школ, організацыі майстэрняў, вырабу вучэбных прылад і інш.;

б) вылучыць са сродкаў культфонду профсаюзаў для дапамогі бяднейшым дзецям рабочых і служачых і на справу політэхнізацыі 10 проц.;

в) дабіцца, каб усе культустановы раёну адводзілі свае памяшканьні на пэўны час для культурных патрэб школ;

г) мобілізаваць увагу ўсяе профсаюзнай масы вакол летніх лягераў, організаваўшы летам 1931 г. адзін лягер на 50 чал. дзяцей рабочых і членаў профсаюзаў за сродкі профсаюзаў;

д) правесьці на прадпрыемствах кампанію за ўступленьне ў ячэйкі садзейнічаньня політэхнізацыі школ;

е) уключыць школы ў работу розных організацый і прадпрыемстваў (вытворчыя нарады, добраахвотныя групы, штабы паходаў, ячэйкі розных таварыстваў і інш.), садзейнічаць прымацаваньню школ да гаспадарчых прадпрыемстваў;

ж) сабраць за год па раёну 600 руб. на дапамогу бедным вучням і для політэхнізацыі школ;

з) організаваць сіламі спэцыялістых-членаў профсаюзаў консультацыю для вучняў і настаўнікаў у час экскурсій, вытворчай практыкі вучняў і чытку лекцый і дакладаў у часы заняткаў, у парадку грамадзкай нагрузкі;

і) сыстэматычна заслухоўваць справаздачы школ на паседжаньнях мясцкомаў, рабачкомаў і агульных сходах, прымаючы ўдзел у складаньні плянаў працы школ.

3. Сеньненскі райколгассаюз бярэ на сябе абавязкі:

а) організаваць і забясьпечыць вытворчую практыку для вучняў у колгасах і іх прадпрыемствах;

б) садзейнічаць прымацаваньню школ да колгасаў праз заключэньне адпаведных дагавароў паміж школамі і колгасамі;

в) даваць школам усе сельска-гаспадарчыя машыны, патрэбныя для навучальнай мэты;

г) дазваляць школам сыстэматычна праводзіць экскурсіі ў колгасы і іх прадпрыемствы з навучальнымі мэтамі;

д) скарыстоўваць усіх спэцыялістых Колгассаюзу і колгасаў, у парадку грамадзкай працы, для консультацыі вучняў і пэдагогаў у час экскурсій і навучальнай практыкі і для правядзеньня чыткі ў школах лекцый па спэцыяльных галінах;

е) забясьпечыць настаўнікам школ магчымасьць шырокага азнаямленьня з вытворчасьцю колгасаў і практычную работу ў іх;

ж) улічыць прымацаваныя да колгасаў школы у вытворчых плянах колгасаў, як пэўныя адзінкі, што выконваюць пэўную долю вытворчых плянаў;

з) адлічыць на дапамогу бедным вучням-колгасьнікам і політэхнізацыю школ з культфонду колгасаў ад 5 да 10 проц.;

і) засеяць у колгасах раёну на карысьць школ 65 культгэктараў, з якіх 20—увосень 1930 г. і 45 га—вясною 1931 г.;

к) дапамагчы ў пабудове і рамонце школьных памяшканьняў, для чаго вызначыць ня менш 1650 працоўных дзён па раёну.

4. Раённы с.-г. коопэрацыйны саюз бярэ на сябе:

а) поўнасьцю забясьпечыць навучальна-вытворчую практыку вучняў і настаўнікаў школ на падпарадкаваных яму прадпрыемствах; наладзіць консультацыю спэцыялістых для вучняў у час практыкі і экскурсій;

б) адлічыць на дапамоґу бедным вучням і політэхнізацыі школы 10 проц. са сродкаў культфонду Коопсаюзу.

5. Раённае спажывецкае таварыства бярэ на сябе:

а) адлічыць на дапамогу бедным вучням і політэхнізацыю школ 10 проц. са сродкаў культфонду;

б) адпусьціць па заказах для дзяцей школ, вучняў-беднякоў з фонду дапамогі бедным вучням 1200 пар ботаў, 1200 пар паліто і 2400 гарнітураў за наяўны разьлік; забясьпечваць водпуск прадуктаў для інтэрнатаў і цукар для гарачых сьнеданьняў;

в) даваць магчымасьць вучням вывучаць кіно-апараты з дапамогай кіно-мэханікаў і зрабіць па аднэй дармовай кінопастаноўцы для вучняў у кожнай школе;

г) дапамагаць наладжваць экскурсіі школ на прадпрыемствы і ў крамы таварыства з консультацыяй з боку працаўнікоў таварыства;

д) своечасова задавальняць школы падручнікамі і пісьмовымі прыладамі, якія атрымліваюцца коопэрорганізацыямі.

6. Саматужна-прамысловы комбінат бярэ на сябе:

а) адлічыць на дапамогу бедным вучням—дзецям саматужнікаў і беднаты і політэхнізацыю школ 10 проц. са сродкаў культфонду прадпрыемстваў, аб'яднаных у комбінат;

б) прыняць захады да выкананьня заказаў на абутак і вопратку для вучняў-беднякоў і організаваць папраўку вучнёўскага абутку;

в) забясьпечыць практыку вучняў і экскурсіі на прадпрыемствах комбінату з належнай консультацыяй спэцыялістых.

7. Інспэкторыят абавязваецца правесьці наступнае:

а) у бліжэйшы час правесьці ў жыцьцё пастановы аб абавязковым ўсеагульным навучаньні, ахапіўшы школай усіх дзяцей 8-10-гадовага ўзросту; для гэтай мэты адчыніць ў раёне 21 новы школьны комплект;

б) пашырыць школьную сетку школ сямігодак;

в) пабудаваць у саўгасах і колгасах у 1930-31 годзе чатыры будынкі двух і чатырохкомплектавых пачатковых школ, пачаць будаваць дзьве пачатковыя школы і адну сямігодку;

г) адчыніць у колгасах раёну дзьве школы колгаснай моладзі для дзяцей-пераросткаў;

д) організоўваць з ліку старэйшых вучняў ўдарныя брыгады для дапамогі ў час уборачных кампаній у колгасах, паслаць на 3 дні ў пачатку навучальнага году ўсю вучнёўскую масу на ўборку бульбы, лёну, садовіны і гародніны;

е) організоўваць ударныя брыгады з вучняў і настаўнікаў для пашырэньня літаратуры, для падпіскі на пазыку „Пяцігодка у чатыры гады“ і для вярбоўкі ўкладчыкаў у касы ашчаднасьці;

ж) організоўваць брыгады па ўдзелу ў правядзеньні розных палітычных і гаспадарчых кампаній сярод насельніцтва і праводзіць работу па далейшай колектывізацыі і коопэраваньню;

з) організоўваць усю вучнёўскую масу на выкананьне нарыхтоўчых плянаў, узяўшы на сябе абавязак праводзіць збор другарадных відаў сыравіны—жалезнага лому, паперы, касьцей, капытоў, рагоў, яловай і лазовай кары, ануч, грыбоў, лекавых траў і ягад;

і) праводзіць растлумачальную працу сярод насельніцтва па ўсіх відах нарыхтовак, збору паёў, пратэрміновак;

к) на практыкавальных школьных землях праводзіць патрэбныя колгасам досьледы і вырошчваць расаду гародніны, закладваць пладавыя школкі па заданьнях колгасаў;

л) узмацніць работу па культурнаму абслугоўваньню колгасаў, саматужнікаў і іншага насельніцтва, ліквідаваць няпісьменнасьць сярод членаў колгасаў і членаў саматужніцкіх арцеляй, праводзіць гутаркі, лекцыі, даклады аб новым быце, рэволюцыйных сьвятах, па антырэлігійных пытаньнях, інтэрнацыянальным выхаваньні і інш.;

м) організаваць пры колгасах таварыствы: Мопру, Осоавіяхіму і інш., наладзіць супольна з колгасьнікамі працу гэтых таварыстваў;

н) організаваць рэгулярны выпуск насьценгазэты па школах і колгасах з удзелам вучняў і колгасьнікаў, наладжваць дармовыя пастаноўкі спэктакляў для колгасьнікаў і саматужнікаў;

о) організаваць ячэйкі садзейнічаньня політэхнізацыі школ.

8. Работа па выкананьні ўсімі організацыямі гэтага дагавору праводзіцца ў парадку соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

9. Організацыі, што заключылі дагавор, бяруць на сябе абавязак популярызаваць яго сярод шырокіх мас раёну.

10. Для праверкі выкананьня дагавору ствараецца комісія з прадстаўнікоў організацый, што заключылі дагавор

11. Усе конфлікты, якія ўзьнікаюць па гэтаму дагавору, вырашаюцца спэцыяльнай комісіяй, якая складаецца з прадстаўнікоў РК КПБ, РК КСМ, РВК, профсаюзу і іншых зацікаўленых організацый.

З умовамі дагавору згодны, у чым і падпісваемся:

Інспэктар соцвыху Матышоў.
Адк. сакр. РК ЛКСМ Трушан.
Старшыня Райпрофбюро Афанасьсеў.
Старшыня Райколгассаюзу Астапаў.
Старшыня Райспаж. т-ва Шумкоў.
Старшыня Райкоопсаюзу Кадышас.
Упаўнаваж. Райсампрамкомбінату Кандрацьцеў.

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ПОЛІТЫКУ

Ал. Некрашэвіч

## XVI зьезд УсеКП(б) аб нацыянальным пытаньні

У абсягу часу паміж XV і XVI зьездамі наша партыя дасягнула надзвычайна вялікіх посьпехаў у справе разгорнутага соцыялістычнага наступленьня і будаўніцтва соцыялізму ў савецкай краіне. Гэты абсяг часу ахарактарызаваны т. Сталіным на XVI зьезьдзе наступным чынам: „Асноўная ўстаноўка партыі заключаецца ў пераходзе ад наступленьня соцыялізму на паасобных вучастках гаспадарчага фронту па ўсяму фронту— і ў галіне прамысловасьці і ў галіне сельскае гаспадаркі". І далей: „XVI зьезд ёсьць зьезд **разгорнутага наступленьня** соцыялізму па ўсяму фронту, ліквідацыі кулацтва як клясы і правядзеньня ў жыцьцё суцэльнае колектывізацыі" (Сталін).

Разам з гэтым партыя прышла да XVI зьезду з надзвычайна вялікімі посьпехамі ў правядзеньні ленінскае нацыянальнае політыкі, якая рашуча і ўпарта праводзілася партыяй на абсягу ўсяго часу. Досыць толькі прывесьці некалькі фактаў, каб убачыць, наколькі гэтыя дасягненьні вялікія. Возьмем к прыкладу БССР. Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць складалі ў 1926-27 г. 10,8 млн. руб., у 1927-28 г.—16,3 млн. руб. толькі па прамысловасьці ВСНГ, у 1928-29 г. 34,9 млн. і ў 1930 г.—72,8 млн. руб. На аснове гэтых укладаньняў, якія можна было зрабіць толькі пры дапамозе ўсяго СССР, вырасьлі такія буйныя прадпрыемствы, як Асінбуд, Гомельскі машынабудаўнічы завод, Бабруйскі комбінат, фабрыка штучнага шоўку і інш. Памеры гэтых капітальных укладаньняў забясьпечваюць сабою і вырашэньне асноўнай задачы ў нацыянальнай політыцы—падцягваньне экономічнага ўзроўню раней прыгнечаных, адсталых нацыянальнасьцяй да ўзроўню найбольш перадавых. Так, калі прырост продукцыі цэнзавае прамысловасьці па ўсяму Саюзу за пэрыод 1924-25—1928-29 г. складаў 26 проц., дык у БССР у той жа час—32 проц; па Саюзу на 1929-30 г.—32 проц.. па БССР—76,5 проц. Побач з гэтым ішоў і рост рабочае клясы, што відаць з наступных даных:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| На 1 кастрычн. | 1925 г. | было | рабочых | 21,5 | тыс. ч. |
| „ | „ | 1926 г. | „ | „ | 27,1 | „ |
| „ | „ | 1927 г. | „ | „ | 28,8 | „ |
| „ | „ | 1928 г. | „ | „ | 34,1 | „ |
| „ | „ | 1929 г. | „ | „ | 43,8 | „ |
| „ | „ | 1930 г. | „ | „ | 52,6 | „ |

Такім чынам, колькасьць рабочых за гэты час вырасла больш чым у 2 разы, ізноў-такі абганяючы тэмпы росту па ўсяму Саюзу, што відаць з таго, што калі колькасьць рабочых у СССР за 1928-29г. узрасла на 7,8 проц., а за 1929-30 г.—на 5,7 проц., дык адпаведна за гэтыя ж гады па БССР мы маем рост на 15,2 проц. і 31,3 проц.[1])

Такім чынам, правільнае правядзеньне ленінскае нацыянальнае політыкі забясьпечвае тэмпператварэньня БССР, як і інш. нацрэспублік, у краіну індустрыяльную, зьнішчае тую галечу і нэндзу, на якую ахвяраваў яе царскі ўрад, і політыку якога працягвае ў Заходняй Беларусі „дэмократычны" фашысцкі ўрад.

Калі ўзяць другую частку народнае гаспадаркі—сельскую гаспадарку, дык і

[1]) Усе лічбы ўзятыя з кніжкі Бэнэка і Грысевіча „Выкананьне пяцігадовага пляну прамысловасьці БССР", даклады на XIII зьезьдзе КП(б)Б. БДВ, 1930 г., ст. 8, 14, 17.

тут, ня гледзячы на праваопортуністычную, контррэволюцыйную дзейнасьць былога кіраўніцтва Наркомзему, упартай воляй партыі дасягнуты вялікія посьпехі. БССР мае 3.000 колгасаў, якія аб'яднаюць больш за 11 проц. сялянскіх двароў і 14,1 проц. усяе засеўнае плошчы. Гэта значыць, што дзесяткі тысяч вясковага батрацтва, беднаты і серадняцтва ўцягнуты ў актыўны процэс соцыялістычнага будаўніцтва, гэта значыць, што яны ужо сёньня карыстаюцца перавагамі буйнае соцыялістычнае гаспадаркі. Бальшавіцкі сеў і ўборка пераканалі новыя тысячы яшчэ неколгасьнікаў аб перавазе колгаснай гаспадаркі, і мы маем новую магутную хвалю прыліву ў колгасы. Ідзе нясупынны процэс падвышэньня тэхнічнае базы сельскае гаспадаркі: на колгасных палёх ужо гудуць сотні трактараў і растуць новыя, больш рэнтабельныя культуры, як лён, каноплі і г. д. і г. д.

Ленінская політыка партыі вызваляе шматтысячныя масы бядняцка-серадняцкага сялянства ад спрадвечнага праклёну дробнай старэцкай гаспадаркі. І хіба-ж гіганцкая работа па колектывізацыі вёскі, над асушкаю Мар'інскага масыву, пабудова на торфе магутных электрастанцый ня ёсьць частка ленінскае нацыяльнае політыкі?

На базе шпаркага экономічнага ўзросту былое колёніі царызму—„Северо-Западного края" нячуванымі тэмпамі пайшло і культурнае разьвіцьцё. Калі нават царскую, далёкую і чужую грамату мелі толькі 11,3 проц. беларусаў (1897 г.) дык зараз (па перапісу на 1926 г) мы маем рост пісьменнасьці на 37,3 проц. І кожнаму зразумела, што тут справа ня толькі ў колькасьці, зьмянілася і якасьць: беларускае, яўрэйскае, польскае ды інш. працоўнае насельніцтва атрымлівае грамату на сваёй роднай, зразумелай мове: напрыклад, на 100 вучняў-беларусаў 90,2 вучацца на беларускай мове[1]). Пастанова партыі і ўраду аб увядзеньні ўсеагульнага абавязковага навучаньня, пастанова аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод асноўных мас працоўнага насельніцтва ў 1930—31 г. ёсьць самая лепшая забясьпека далейшага, яшчэ больш шпаркага, росквіту нацыянальнае пролетарскае культуры. Мы ня будзем прыводзіць фактаў росту нацыянальнае вышэйшае і сярэдняе школы, нацыянальнага мастацтва, літаратуры і г. д. і г. д. Гэты рост можа наглядаць усялякі, у каго вочы не запарушаны нацыянал-дэмократычным павуціньнем. Гэты рост прымушаны прызнаць нават нашы ворагі. Лепшым паказальнікам нацыянальнае культуры зьяўляецца рост кніжнае продукцыі: на беларускай мове было надрукавана: у 1926-27 г.—8.647.000 аркушаў, у 1927-28—12 867.000, у 1928-29—13.009.000 аркушаў і намечана да надрукаваньня ў 1930-31 г.г. 90.000.000 аркушаў.

Такія-ж паказальнікі мы маем і ў іншых братэрскіх рэспубліках. І там толькі ў выніку рашучага правядзеньня ленінскае нацыянальнае політыкі, рашучага змаганьня за генэральную лінію партыі маглі быць пабудаваны Турксіб, Днепрабуд ды інш.

Партыя бальшавікоў-ленінцаў дасканала выконвае запаветы свайго правадыра і настаўніка Леніна.

## I.

Нельга думаць, што ажыцьцяўленьне генэральнае лініі партыі, у выніку чаго мы можам ставіць сабе такія грандыёзныя задачы, як выкананьне пяцігодкі за чатыры і нават за тры гады і ператварэньне краіны Саветаў у краіну буйнае індустрыі і буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, ідзе гладка і без змаганьня з ухіламі ад генэральнае лініі партыі.

Партыя дамагалася нячуваных у сьвеце посьпехаў у рашучым, бязьлітасным змаганьні са ўсімі спробамі „папраўіць" політыку партыі, павярнуць яе ад правільнае ленінскае лініі. Гэтым змаганьнем прасякнута ўся гісторыя бальшавізму. На працягу толькі апошніх трох-чатырох год партыі прышлося разграміць контррэволюцыйны троцкізм, разьбіць нашчэнт з усімі іх тэорыямі і тэорэтыкамі правых ухілістых. І ў пы-

[1]) Даныя з кніжкі: „Национальная политика ВКП (б) в цифрах", выд. „Ком. Акад.", 1930 г., ст. 273, 277, 278.

таньні правядзеньня ленінскае нацыянальнае палітыкі партыя змагалася з „паправачкамі“ на VIII сваім зьезьдзе па програмнаму пытаньню, яна адбіла спробы рэвізаваць гэтую палітыку на X і XII зьездах.

XVI зьезд быў зьездам разгорнутага наступленьня соцыялізму па ўсяму фронту, ліквідацыі кулацтва як клясы і правядзеньня у жыцьцё суцэльнае колектывізацыі“ (Сталін). Рэч вядомая, што гэтае наступленьне адбывалася і адбываецца ва ўмовах самага абвостранага, самага жорсткага клясавага змаганьня. Ліквідуемае як кляса кулацтва, нэпманы і іх ідэолёгі, буржуазныя інтэлігенты, адчуваючы свой блізкі канец, рашуча змагаліся з партыяй, знаходзячы сваіх абаронцаў нават у паасобных адзінках самое партыі і спрабуючы атакаваць партыю са ўсіх бакоў. Ня была забясьпечанай ад варожае атакі і ленінская нацыянальная палітыка партыі. І ў гэтым пытаньні сёй-той пахіснуўся ў варожы бок нават і ў самой партыі, сёйтой спрабаваў зрабіць наскок на палітыку яе. Праўда, „гэтыя ўхілы ня так прыкметныя і напорыстыя, як „левы“ і правы ўхілы. Іх можна было-б назваць паўзучымі ўхіламі. Але гэта яшчэ ня значыць, што іх няма. Не, яны ёсьць і, галоўнае, растуць“[1]).

Асноўнай задачай усіх гэтых ухілаў, „паправак“, зьяўлялася, хацелі гэтага, ці не хацелі іх аўтары, паслабіць цесны братэрскі саюз працоўных усіх нацыянальнасьцяй Саюзу, а праз гэта паслабіць пролетарскую дыктатуру ў вогуле. Наскокі на ленінскую нацыянальную палітыку ішлі з двух бакоў: з боку вялікадзяржаўнага шовінізму і мясцовага нацыяналізму і нацыянал-дэмократызму.

Паглядзім спачатку, што прадстаўляе сабою вялікадзяржаўны расійскі шовінізм. Тав. Сталін у сваёй палітычнай справаздачы на XVI зьезьдзе УсеКП(б) так характарызаваў гэты ўхіл: „Сутнасьць ухілу да вялікадзяржаўнага шовінізму заключаецца ў імкненьні абыйсьці нацыянальныя адрозьненьні мовы, культуры, быту, у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і вобласьцяй, у імкненьні падарваць прынцып нацыянальнага роўнапраўя і разьвянчаць палітыку партыі нацыяналізацыяй апарату, нацыяналізацыяй друку, школы і іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый[1]).

Лепш за ўсё расійскім шовіністым прыпадала павесьці атаку на ленінскую нацыянальную палітыку, сьцьвярджаючы, што нібы нацыянальнае пытаньне ўжо страціла сваю вайстрыню і таму пра яго ня варта і гаварыць. Ставячы так пытаньне, ім можна было, прытупіўшы ўвагу партыі да нацыянальнага пытаньня, з большым посьпехам пачаць праводзіць сваю палітыку. Вось, напрыклад, т. Дыманштэйн піша: „XVI зьезд павінен ліквідаваць усе шурпатасьці і недагаворанасьці, што існуюць у нацыянальным пытаньні, каб у найкарацейшы тэрмін шэрагам мерапрыемстваў нацыянальнае пытаньне было назаўсёды зьнятым і адданым у архіў“[2]) А забясьпечыўшы такой „устаноўкай“ сваё наступленьне і адначасова клянучыся Леніным і сваім „інтэрнацыяналізмам“, хаця вучэньне Леніна не дае ім ніякіх дзеля таго падстаў, вялікадзяржаўныя шовіністыя вядуць далейшую атаку на ленінскую палітыку партыі і раскрываюць свой сапраўдны твар, ня двусэнсоўна патрабуючы ліквідацыі нацыянальных рэспублік і вобласьцяй.

Нейкі Н. Тоцкі піша: „Як паказвае практыка распрацоўкі пяцігадовага пляну, гэтая *фармальная самастойнасьць малых*, у асаблівасьці культурна адсталых рэспублік, зусім не магла спрыяць выяўленьню ўсіх мажлівасьцяй і гаспадарчага і соцыяльна-культурнага разьвіцьця... Малыя рэспублікі РСФСР апынуліся ў неконкурэнтназдольным стане з магутнымі тэрыторыяльнымі фармаваньнямі, што стаяць побач з імі. Можна прадбачыць, што ў будучыне пры ўсіх спробах цэнтру

[1]) Сталін — „Політ. справазд.“, ст. 94.

[1]) Там жа, ст. 94.

[2]) Цыт. па арт. К. Таболава „Нац. вопрос на XVI с‘езде“, „Правда“ № 204 і 205.

выраўніць лінію разьвіцьця гэтых малых аўтономій гэта наўрад ці будзе магчыма"[1]).

Рэакцыйнасьць такога патрабаваньня не патрабуе доказаў і відавочна кожнаму. Тав. Сталін даў такую ацэнку гэтым патрабаваньням: „Патрабаваньне зьнішчэньня нацыянальных рэспублік і вобласьцяй у даны гісторычны пэрыод зьяўляецца патрабаваньнем рэакцыйным, накіраваным супроць інтарэсаў дыктатуры пролетарыяту"[2]).

Як ужо было сказана вышэй, вялікадзяржаўныя шовіністыя імкнуцца ўпрыгожыць усе гэтыя вымаганьні шыльдаю інтэрнацыяналізму. У паасобных выступленьнях, артыкулах і г. д. імі замазваецца той факт, што шматлікія масы працоўных прыгнечаных раней нацыянасьцяй маюць цэлы шэраг асаблівасьцяй мовы, формаў культуры, быту і г. д., што нібы партыя пераацэньвае гэтыя асаблівасьці. На гэтай падставе ігноруюць пастановы партыі аб каранізацыі і нацыяналізацыі апаратаў, неабходнасьць аўладаньня мовай данай нацыянальнасьці супрацоўнікамі гэтых апаратаў. У БССР гэта прыняла форму альбо актыўнага альбо т. зв. „пасыўнага супраціўленьня" правядзенью беларусізацыі. Вось некаторыя факты з газэт: „На менскай шпалернай фабрыцы беларуская мова ігноруецца нават кіраўнікамі фабрыкі. Дырэктар фабрыкі, сэкратар партколектыву і старшыня фабзаўмясцкому не размаўляюць па-беларуску нават тады, калі рабочыя зьвяртаюцца да іх на гэтай мове". (Правда", № 240 (4685), 31-га жніўня 1930 г., арт. тав. Мітліна). „На будаўніцтве дому ўраду партыйная і комсамольская ячэйкі нават не рэагавалі на адкрытыя выступленьні вялікадзяржаўных шовіністых, якія спрабавалі высьмейваць беларускую мову" (там-жа). „У ФЗВ пры заводзе імя Ланцуцкага самі выкладчыкі, на чале з загадчыкам Ключнікавым і Штаненка, зусім адкрыта супраціўляюцца ўвядзенью беларускае мовы".

Настаўніцкі пэрсонал катэгорычна адмаўляецца выкладаць вучням на беларускай мове. „І рэч вядомая, што пад кіраўніцтвам такіх, прымерна кажучы, „пэдагогаў", дзеці, праўда далёка не пролетарскага паходжаньня, выкідваюць лёзунгі: „Прэч беларускую мову!"

Рэч вядомая, што нават з гэтых прыкладаў,—а іх можна значна павялічыць,—відаць, што ўхіл у бок вялікадзяржаўнага шовінізму ня толькі расьце, але і імкнецца павесьці атаку на пастановы XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду УсеКП(б) па гэтым пытаньні.

Тут разьюшана змагаюцца з політыкай партыі кулак, нэпман, буржуазны расійскі інтэлігент, які страціў свае ранейшыя прывілеі і монопольнае становішча ў царскім дзяржаўным апараце. І чым бы ўсе гэтыя наскокі ні прыкрываліся, адразу відаць, што, „змагаючыся за адну агульную мову аднае дзяржавы, у межах СССР, яны дабіваюцца па сутнасьці справы аднаўленьня прывілеяў панаваўшае раней мовы, а менавіта—вялікадзяржаўнае мовы"[1]).

Яшчэ ў часе атак троцкістых на партыю былі атакі і на ленінскае разуменьне сутнасьці нацыянальнае культуры. Ваганян выступіў па гэтым пытаньні нават з цэлай, досыць вялікай кніжкай, у якой падмяніў усе ленінскія партыйныя ўстаноўкі блытанымі—трацкісцкімі.[2])

Партыя разьбіла нашчэнт трацкізм, выкрыла яго контррэволюцыйную сутнасьць; разьбіла яна і антыпартыйныя ўстаноўкі троцкістых у нацыянальным пытаньні і, у прыватнасьці, аб нацыянальнай культуры, абараніўшы адзіна правільную ленінскую формулёўку: культура нацыянальная па форме і пролетарская па зьместу. З таго часу мінула больш за 3 гады. УсеКП(б) і яе частка КП(б)Б дасягнулі надзвычайна вялікіх посьпехаў у справе росквіту нацыянальнае пролетарскае культуры. Сам росквіт яе сьведчыў, што ўстаноўка партыі тут бясспрэчная. Паміж тым к моманту XVI зьезду, як сьведчаць прыведзеныя вышэй факты, якія маюць дачыненьне ня толькі да

[1]) Цыт. па арт. К. Таболава. „Нац. вопрос из XVI с'езде", „Правда" № 204 і 205.
[2]) „Політ. справаздача", ст. 96.

[1]) Сталін „Політ. справазд." ст. 96.
[2]) Гл. Ваганян „О национальной культуре". ГИЗ. 1927 г.

беларускае мовы, але і беларускае пролетарскае культуры і пасьля яго працягваюцца спробы наскокаў на нацыянальную пролетарскую культуру альбо ізноў такі „ціхі саботаж“ яе. За прыкладамі тут таксама хадзіць далёка ня варта: у рабочых клюбах масавая работа на 73 проц. вядзецца на расійскай мове, на прадпрыемствах—на 50 проц. на расейскай, на 27 проц. на беларускай і на яўрэйскай 2,9 проц

Беларуская, яўрэйская, польская кніжка—досыць рэдкі госьць у нашых бібліотэках, яшчэ больш яна рэдкі госьць у кіёсках „Саюздруку“ на вогзалах чыгунак у БССР. Ізноў гэтае становішча нельга вытлумачыць інакш, як ігнараваньнем, а іншы раз нават і актыўным супраціўленьнем пашырэньню сярод працоўных мас нацыянальнае пролетарскае культуры.

Але гэта „адмаўленьне лёзунгу нацыянальнае культуры ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту азначае адмаўленьне неабходнасьці культурнага ўздыму невялікарускіх народаў СССР, адмаўленьне неабходнасьці агульнаабавязковае адукацыі для гэтых народаў, аддачу гэтых народаў у духоўную кабалу рэакцыйным нацыяналістым“[1]).

Усё гэта сьведчыць пра тое, што варожыя соцыялістычнаму будаўніцтву і пролетарскай дыктатуры элемэнты і іх сьвядомыя ці несьвядомыя, вольныя ці нявольныя агенты ў бальшавіцкай партыі, вядучы атаку на ўсю політыку партыі, не пакідаюць і такой галіны, як нацыянальнае пытаньне. Асаблівую актыўнасьць тут праяўляюць вялікадзяржаўныя шовіністы, а таму зразумела, што партыя дала ім на сваіх зьездах самы рашучы, самы жорсткі адпор.

XIII зьезд па гэтым пытаньні сказаў: „Працягваючы і надалей бязьлітаснае змаганьне з нацыянал-опортунізмам, з беларускім нацыянал-дэмократызмам, КП(б)Б павінна адначасова зьвярнуць увагу **н а з м а г а н ь н е з в я л і к а д з я р ж а ў н ы м р а с і й с к і м ш о в і н і з м а м, я к і а к т ы в і з у е ц ц а і я к і з ь я ў л я е ц ц а а с н о ў н а ю п е р а ш к о д а ю н а ш л я х у а ў л а д а н ь н я п р о л е т а р ы я т а м п р о ц э с а м б у д а ў н і ц т в а н а ц ы я н а л ь н а й к у л ь т у р ы**“[1]).

І далей, УсеКП(б) на сваім XVI зьезьдзе пастанавіла:

„Галоўную небясьпеку на даным этапе прадстаўляе **в я л і к а д з я р ж а ў н ы ў х і л**, які прабуе рэвізаваць асновы ленінскае нацыянальнае політыкі і пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьні аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарускай нацыі вярнуць сабе страчаныя прывілеі“[2]).

II.

Адначасова і побач ішлі наскокі на ленінскую нацыянальную політыку і з боку мясцовага нацыяналізму. Досыць успомніць тую атаку, якую павялі тут, у нас, у БССР беларускія нацыянал-дэмократы і шовіністыя, і тую надзвычайна вялікую барацьбу, якую правяла ўся КП(б)Б з гэтымі наскокамі.

Тав. Сталін дае вельмі яскравую і поўную характарыстыку мясцовага нацыяналізму. Ён кажа: „Сутнасьць ухілу мясцовага нацыяналізму заключаецца ў імкненьні адасобіцца ў рамках свае нацыянальнае шкарлупы, у імкненьні затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры свае нацыі, у імкненьні абараніцца ад вялікарускага шовінізму шляхам адыходу ад агульнага струменю соцыялістычнага будаўніцтва, у імкненьні ня бачыць таго, што зьбліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР, і бачыць там тое, што можа іх аддзяліць адно ад другога. Ухіл да мясцовага нацыяналізму адлюстроўвае нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пролетарыяту, іх імкненьне адасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне. Небясьпека гэтага ўхілу ў тым, што ён культывуе буржуазны нацыяналізм, паслабляе адзінства працоўных народаў СССР і грае на руку інтэрвэнцыяністым“.[3])

---

[1]) Сталін „Політ. справазд.“ ст. 97.

[1]) Рэзолюцыя XIII зьезду КП(б)Б. БДВ. 1930 г., ст. 22, падкрэсьл. мною.

[2]) „Рэзолюцыі XVI зьезду УсеКП(б). БДВ. 1930 г., ст. 16.

[3]) Сталін „Політ. справаздача“, ст. 100.

Беларускія нацыянал-дэмократы і нацыяналісты, зьяўляючыся ідэолёгамі беларускага кулацтва, працягваючы тэндэнцыі „Нашае нівы“, усімі сродкамі і сіламі імкнуліся і імкнуцца давесьці, што беларусы, як нацыя, ня маюць у сябе клясавага падзелу, што нібы беларусы нейкая асобная „сялянска-рабочая нацыя“, што эксплёататарамі тут былі на вёсцы выключна польскія паны, а ў горадзе—яўрэйская і расійская буржуазія. Гэтым самым беларускія нацыянал-дэмократы і шовіністы бяруць пад сваю абарону беларускага кулака, ліквідуемага пасьпяховым социялістычным наступленьнем, змазваюць клясавыя супярэчнасьці, проціпастаўляюць сябе політыцы партыі раней па абмежаваньню, а пазьней і па поўнай ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. Гэта папершае. Падругое, тут у поўнай меры іх задачай зьяўлялася і жаданьне выкарыстаць гісторычныя ўмовы нацыянальных узаемаадносін для распальваньня нацыянальнага антагонізму паміж нацыянальнасьцямі, што насяляюць БССР, падводзячы пад гэта нібы клясавы грунт (палякі, яўрэі і расійцы—эксплёататары, беларусы—эксплёатуемыя).

Даводзіць, што беларусы падпадаюць пад агульныя законы грамадзкага разьвіцьця, што і яны маюць сваю буржуазію, якая выкарыстоўвае і нацыянальныя моманты ў сваім змаганьні супроць пролетарскае дыктатуры, наўрад ці зьяўляецца патрэбным. Гэта відаць усякаму хаця-б з тае зьвярынай нянавісьці беларускага кулака і яго ідэолёга бурж. інтэлігента да мерапрыемстваў партыі ў справе социялістычнай перабудовы краіны. Беларуская буржуазія ня толькі існуе, яна змагла вылучыць сваіх ідэолёгаў і організатараў, якія, паміж іншым, узмаганьні з пролетарскай дыктатурай, як сведчаць гісторычныя факты, ня так ужо горача „блюлі нацыянальны інтарэс...“

Нельга ніяк прызнаць, што зварот Лёсіка да Вільгельма II, Некрашэвіча альбо Грамыкі да францускага командваньня ў Адэсе выклікаліся „нацыянальнымі інтарэсамі“, хоць з чортам, абы толькі абараніць свае клясавыя прывілеі, абараніць буржуазію і кулацтва ад жалезнае рукі пролетарскае дыктатуры.

Беларускія нацыянал-дэмократы і шовіністы часта заяўляюць нам, што рост беларускага шовінізму тлумачыцца **выключна** тым, што ідзе наступленьне вялікадзяржаўнага шовінізму, што такім чынам беларускія шовіністы „нявінныя авечкі“, якіх вось-вось зьесць вялікарускі воўк. Аднак, мы ведаем, і партыя гэта ня раз абсолютна правільна адзначала, што ўсялякі абарончы шовінізм можа лёгка перарасьці ў наступальны. Гэтае перарастаньне беларускага шовінізму адбывалася перад нашымі вачыма. Што вялікадзяржаўны расійскі шовінізм, бязумоўна, у пэўнай ступені дапамагае мясцоваму шовінізму, гэта ізноў такі не падлягае ніякаму сумненьню, бо пры актывізацыі вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму гэты апошні дае права мясцоваму шовінізму прыкрываць свае атакі на лінію партыі ў нацыянальным пытаньні шыльдай абароны. Але зусім зразумела, што карані мясцовага нацыяналізму захаваны ня ў гэтым,—мясцовы нацыяналізм вырастае з нетраў нацыянальнай буржуазіі і кулацтва, якая, як гэта паказала гісторыя, часта, нават вельмі часта, абарону сваіх клясавых інтарэсаў прыкрывае шыльдаю змаганьня за „агульнанацыянальныя“ інтарэсы.

Распальваючы мясцовы нацыяналізм нацыянальная буржуазія паслабляе агульнапролетарскі фронт, паслабляе позыцыі пролетарыяту ў яго змаганьні за социялізм і праз гэта самае дамагаецца абароны далёка не „агульнанацыянальных“ інтарэсаў, а менавіта інтарэсаў сваёй клясы.

Што ў гэтым змаганьні супроць лініі партыі, змаганьні, іншы раз досыць удала прыкрываемым савецкімі лёзунгамі, мясцовыя шовіністы маюць цесную ідэолёгічную і організацыйную сувязь з замежнымі нацыянал-фашыстымі, якія ў сваю чаргу, як гэта робяць, к прыкладу, беларускія альбо ўкраінскія нацыянал-фашысты, вельмі хутка дагаварваюцца па ўсіх пытаньнях з польскімі імпэрыялістымі і вядуць актыўную падрыхтоўку

да нападу на СССР,—гэта ізноў-такі ясна ўсім, хто ўважліва прасочыць, к прыкладу, праграму беларускіх нацыянал-дэмакратаў (альбо ўкраінскіх) тут, у нас, і беларускіх нацыянал-фашыстаў там, за кордонам[1]).

Што гэтая сувязь і падабенства маюць ня толькі, прымерна кажучы, ідэолёгічны напрамак, але і чыста організацыйны, яскрава сьведчыць процэс украінскіх контррэволюцыянэраў—СВУ („Союз Вызваленьня Украіны").

Пра гэтую сувязь, замацаваную іншы раз пэўнай сумай з польскага генэральнага штабу, сведчаць паасобныя факты і з дзейнасьці беларускіх нацыянал.-дэмакратаў і шовіністых...

Тав. Сталін адзначае, што „трэба мець на ўвазе тую акалічнасьць, што супраціўленьне адпаведных клясаў нашай краіны адбываецца не ізолявана ад замежнага сьвету, але сустракае падтрымліваньне з боку капіталістычнага абкружэньня... Наўкола СССР ёсьць варожыя клясавыя сілы, гатовыя падтрымаць нашых клясавых ворагаў унутры СССР і моральна і матар'яльна і шляхам фінансавае блёкады, і пры выпадку, шляхам ваеннае інтэрвэнцыі[2])"

Толькі гэтых прыкладаў досыць для таго, каб выкрыць контррэволюцыйную дзейнасьць мясцовага нацыяналізму, які меў праявы ня толькі ў БССР. На конкрэтных жа праявах мясцовага шовінізму і нацыянал-дэмократызму мы ня спыняемся ня толькі з прычыны браку месца, але і таму, што гэтыя факты досыць поўна вядомы з таго жорсткага змаганьня, якое вяло КП(б)Б з беларускім нацыянал-дэмократызмам („прышчэпаўшчына", практыка работы НКА, БДВ, БАН, паасобныя выступленьні і г. д.).

Вось чаму XVI зьезд УсеКП(б), концэнтруючы ўвагу на галоўнай небясьпецы на даным этапе—вялікадзяржаўным шовінізьме, разам з тым падкрэсьлівае неабходнасьць самага рашучага змаганьня і з мясцовым нацыяналізмам. У рэзолюцыі зьезду па гэтым пытаньні сказана: „Побач з гэтым актывізуецца ўхіл да мясцовага нацыяналізму, які паслабляе адзінства народаў СССР і грае на руку інтэрвэнцыі".

І таксама, як у змаганьні за агульную генэральную лінію партыі, концэнтруючы ўдар у кожны паасобны момант на адным ухіле ад гэтай лініі (на даным этапе—правым ухіле), так і ў нацыянальным пытаньні, концэнтруючы увагу на змаганьні з вялікарасійскім ухілам, „партыя павінна ўзмацніць барацьбу з абодвума ўхіламі ў нацыянальным пытаньні і з прымірэнцтвам да іх". А гэта вымагае ад усяе партыі, ад усіх працоўных таго, каб уважліва сачыць за ўсімі процэсамі, што адбываюцца ў нацыянальным пытаньні, дасканала вывучаць сутнасьць ленінскае нацыянальнае політыкі і ўпарта, па-бальшавіцку работаць па рэалізацыі конкрэтных мерапрыемстваў у справе ажыцьцяўленьня гэтае політыкі.

[1]) Гл. па гэтым пытаньні брошуру „Бел. нац.-дэм. і бел. нац.-фашызм".
[2]) Сталін „Політ. справаздача", ст. 51.

# НА ФРОНЦЕ КУЛЬТУРНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

## Генэральны дагавор НК Асьветы з праўленьнем Белкоопсаюзу аб ліквідацыі няпісьменнасьці

У разьвіцьцё пастаноў XVI зьезду УсеКП(б), XIII зьезду КП(б)Б і пастановы ЦВК і СНК БССР, ад 25 ліпеня, адносна ліквідацыі няпісьменнасьці як „аднэй з рашаючых прадпасылак культультурнай рэволюцыі", з мэтай аб'яднаньня ўсіх сіл і сродкаў органаў Нарасьветы разам з усімі грамадзкімі організацыямі і ўсёй сыстэмай спажывецкай коопэрацыі, аб'яднанай у Белкоопсаюз, на падставе організацыі адзінага пляну дзейнасьці і ўдзелу спажывецкай коопэрацыі БССР у выкананьні пляну ліквідацыі няпісьменнасьці як сярод усіх няпісьменных працоўных, так і асабліва, у першую чаргу, сярод вытворчых і сельгаспадарчых рабочых, сяброў профсаюзаў, батракоў, колгасьнікаў і дапрызыўнікаў-пайнікаў,—НК Асьветы з праўленьнем Белкоопсаюзу заключаюць генэральны дагагор, якім вызначаюць наступныя ўзаемныя абавязкі ўдзелу ў выкананьні адзінага пляну ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў БССР.

1. Усю організацыйна-опэрацыйную і мэдодычную работу непасрэдна праводзяць НК Асьветы і яго органы на мясцох праз організуемыя штабы, комісіі садзейнічаньня культпаходу, організуюць школы, лікпункты на падставе адзінага пляну, забясьпечваюць ліквідатарамі-настаўнікамі культармейцамі, падручнікамі, навучальнымі прыладамі, праводзяць падрыхтоўку кадраў для ліквідацыі няпісьменнасьці як сярод усіх працоўных, так і сярод сяброў спажывецкай коопэрацыі.

2. Органы Нарасьветы павінны наладзіць усю работу так, каб стварыць адпаведныя ўмовы для максімальнага ўцягненьня ў гэту работу ўсіх зьвеньняў спажывецкай коопэрацыі і ўсяе савецкай коопэрацыйнай грамадзкасьці і забясьпечыць актыўны штодзённы ўдзел у працы па выкананьні пляну ліквідацыі няпісьменнасьці, у прыватнасьці:

а) організаваць штабы і комісіі садзейнічаньня культпаходу, запясьпечыць непасрэдны і актыўны ўдзел прадстаўнікоў усіх зьвеньняў коопэрацыі;

б) праводзіць пэрыодычную справаздачнасьць і інформацыю аб працы і ўдзеле кооп. орган. у органах спажывецкай коопэрацыі, організаваць і правесьці сумесна і пры актыўным ўдзеле спажкоопэрацыі масавыя агляды, конфэрэнцыі, нарады па пытаньнях работы і ўдзелу кооп. орг. у выкананьні пляну па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці; прадугледзець плянам ахоп усіх сяброў спаж. коопэрацыі агульнай сеткай школ, лікпунктаў, організуючы іх ва ўсіх мясцовасьцях пражываньня сяброў коопэрацыі;

в) сумесна з органамі спажыўкоопэрацыі організаваць вытворча-коопэрацыйную пропаганду і ўцягнуць пайшчыкаў, якія ліквідуюць сваю няпісьменнасьць, у коопэрацыйную грамадзкую работу.

3. Усе зьвеньні спажкоопэрацыі, уся савецкая коопэрацыйная грамадзкасьць павінны прыняць актыўны штодзённы ўдзел у выкананьні пляну ліквідацыі няпісьменнасьці наогул і ў першую чаргу сярод вытворчых і сельгаспадарчых рабочых, батракоў, колгасьнікаў-сяброў коопэрацыі, паставіць гэту працу ў цэнтры ўвагі і дзейнасьці ўсіх без выключэньня зьвеньняў спажкоопэрацыі, надаць ёй гаспадарча-політычны характар і цесна зьвязаць з усёй гаспадарча-коопэрацыйнай дзейнасьцю.

На абавязкі ўсіх органаў спажкоопэрацыі ўскласьці:

а) аказваньне практычнай дапамогі органам нарасьветы і грамадзкім арганізацыям у мобілізацыі рабочай, савецкай, у тым ліку і коопэрацыйнай грамадзкасьці, для правядзеньня растлумачальнай работы па ліквідацыі няпісьменнасьці на шырокіх сходах пайшчыкаў, сяброў саюзу, нарадах коопактыву і праўленьняў коопэрацыі;

б) мобілізацыю ня менш 5000 культармейцаў коопактыву для работы па ліквідацыі няпісьменнасьці ў школах, лікпунктах, па правядзеньні вытворча коопэрацыйнай пропаганды і г. д.;

в) дапамагчы выявіць усіх няпісьменных сяброў коопэрацыі, уцягнуць іх у школы, лікпункты, устанавіць сталы контроль за вучобай і рэгулярным наведваньнем імі лікпунктаў;

г) дапамагчы органам нарасьветы ў падшуканьні адпаведных для школ, лікпунктаў памяшканьняў, забясьпечыць іх патрэбным абсталяваньнем;

д) прымаць актыўны ўдзел у організацыі грамадзка-політычнага выхаваньня навучаючыхся на падставе адзінага пляну работы і праводзіць вытворча-коопэрацыйную пропаганду сярод усіх навучаючыхся праз уключэньне ў політгадзіну кооп. пытаньняў, правядзеньне спэцыяльных гутарак, лекцый, кооп. вечароў пытаньняў і адказаў, распаўсюджваньне коопэрацыйнай літаратуры і г. д.;

е) усе зьвеньні спажкоопэрацыі нясуць непасрэдную адказнасьць за сваячасовае забесьпячэньне школ, лікпунктаў сшыткамі, паперай, алоўкамі і інш. навучальнымі і гаспадарчымі прыладамі, асабліва лямпамі, газай, па пляну і заяўках штабаў культпаходу;

ж) уключыць у плян работы ўсіх органаў спажкоопэрацыі пытаньні работы ліквідацыі няпісьменнасьці, згодна гэтага дагавору; заслухоўваць раз у 2 месяцы інформацыі аб становішчы ліквідацыі няпісьменнасьці сярод коопактыву і правяраць працу па выкананьні гэтай умовы ўсімі зьвеньнямі коопэрацыі, організаваць спэцыяльныя брыгады для агляду гэтай работы.

4. З мэтай аказаньня матар'яльнай дадамогі ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод усіх працоўных мас, і ў тым ліку сяброў коопэрацыі, абавязаць усе гарадзкія ЦРК, райспажкоопэрацыю вылучаць 25 проц. гадавога культфонду і перадаваць гарадзкім і раённым штабам альбо комісіям садзейнічаньня культпаходу. Парадак узносаў 25 проц. адлічэньняў наступны: першы ўзнос у ліку 35 проц. агульнай сумы (25 проц. культфонду)—да 1 лістапада 1930 г.; другі ўзнос, таксама 35 проц., да 1 студзеня 1931 г.; трэці ўзнос, 20 проц.,—да 1 сакавіка; 4 ўзнос, 10 проц.,—да 1 мая 1931 г.

Усе гэтыя сродкі, разам з адлічэньнем іншых грамадзкіх організацый, паступаюць непасрэдна ў раённую гарадзкую касу культштабу і выдаюцца па адзінаму пляну.

Адначасова органы коопэрацыі павінны ўстанавіць праз кульштабы грамадзкі контроль за выдаткаваньнем гэтых сродкаў. Органам нарасьветы культштабы даюць справаздачы аб выдаткаваньні сродкаў.

5. Органы нарасьветы і коопэрацыйныя організацыі павінны ўсю работу па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці перавесьці на ўдарныя тэмпы, шырока разгарнуць социялістычнае спаборніцтва, ударніцтва, узяць на грамадзкі буксір тых, што адстаюць у рабоце.

6. НК Асьветы і Белкоопсаюз абавязваюцца вынесьці гэты дагавор на шырокае абгаварэньне сходаў рабочых, колгаснікаў і бядняцка-сэрадняцкіх мас—сяброў коопэрацыі, зрабіць гэты дагавор грамадзка-політычным докумэнтам, які абавязвае ўсе органы нарасьветы і спажкоопэрацыі несьці поўную адказнасьць за яго выкананьне.

Тэрмін годнасьці гэтага дагавору ўстанавіць з 1 кастрычніка 1930 году да 1 верасьня 1931 году.

**Наркамасьветы**

**Белкоопсаюз**

гор. Менск, 1930 г.

С. Кандыбовіч

# Хата-чытальня і адзіны плян культурнага будаўніцтва

Спэцыяльнай пастановай оргбюро ЦК Усе КП(б) адзначана, што „хата-чытальня павінна стаць у значна большай меры, чым у сучасны момант, організуючым цэнтрам культурнай і палітычнай актыўнасьці бядняцкіх і серадняцкіх мас (у тым ліку мас сялянак). Выключна важнае значэньне набывае яе работа ў соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі". Вось асноўная задача хаты-чытальні. Разглядаючы масавую работу ў вёсцы, мы павінны адзначыць новую паласу ў рабоце, гэта паласу прыстасаваньня масавай палітасьветнай работы да запатрабаваньняў рэконструіруемай сельскай гаспадаркі на базе колектывізацыі і абвостранага клясавага змаганьня.

Ці можам мы сказаць на сёньняшні дзень, што ў гэтым напрамку маем хоць невялічкія дасягненьні, ці хоць часткова наша хата-чытальня перабудавала сваю работу, зьмяніла мэтоды і формы работы, стала сапраўдным цэнтрам, организуючым вакол сябе бядняцка-серадняцкія масы. Трэба адкрыта прызнаць што поруч з тымі вялізарнейшымі дасягненьнямі на гаспадарчым і культурным фронце, якія мы маем, тут у нас ня толькі няма дасягненьняў, а назіраюцца адставаньне ад агульных тэмпаў і злачынная недаацэнка гэтай важнай работы на мясцох.

Усяго на тэрыторыі БССР лічыцца 525 хат-чытальняў, у наступным годзе мяркуецца адчыніць яшчэ 208, што ў сярэднім дасьць адну хату-чытальню на два сельскія саветы. Ці можа гэтая сетка абслужыць культурна-масавай работай нашу вёску? Пры вялізарнейшых палітычна-гаспадарчых задачах на вёсцы нам трэба мець па меншай меры адну хату-чытальню на сельсавет. Сельсавет-адміністрацыйная адзінка з самастойным бюджэтам, з конкрэтнымі плянамі соцыялістычнага будаўніцтва, якія патрабуюць для пасьпяховага іх выкананьня штодзённай палітасьветнай работы сярод бядняцла-серадняцкай масы, організацыі актыву, пабудовы работы па мэтоду соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Гэтую задачу павінна выканаць непасрэдна ў сельсавеце хата-чытальня. Вось чаму такая сетка хат-чытальняў ні ў якім разе не задавальняе тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Бліжэй прыгледзеўшыся да становішча хат-чытальняў, трэба прызнаць, што нават тая нездавальняючая па колькасьці сетка працуе ня больш чым на палову. Хата-чытальня на замку, зачынена. Галоўнай прычынай такога становішча зьяўляецца адсутнасьць патрэбных кадраў хатнікаў і няўважлівыя адносіны мясцовых органаў улады да гэтага важнейшага вучастку культурнай работы.

Выбарчае абсьледваньне 73 хат-чытальняў розных раёнаў БССР паказвае, што з агульнай колькасьці 73 хатнікаў працуе ў гэтай галіне больш году толькі 6 чалавек, што складае 8,2 проц. Асноўная маса хатнікаў працуе некалькі месяцаў. 46 хатнікаў з 73 працуюць менш шасьці месяцаў. Кваліфікацыя хатнікаў і падрыхтаванасьць іх да работы надзвычайна нізкая. На мясцох звычайна пасылаюць на гэту работу слабейшых таварышоў, а, пры выяўленьні з боку таго ці іншага хатніка некаторай актыўнасьці ў рабоце, раённыя організацыі зьнімаюць такіх хатнікаў для другой работы не заўсёды больш адказнай, чым работа ў хаце-чытальні. Як правіла, на працягу году кадр хатнікаў абнаўляецца на 80-100 процантаў. Соцыяльны і партыйны склад хатнікаў увогуле добры. Выбарчае абсьледваньне паказвае, што з 73 хатнікаў 58—члены і кандыдаты КП(б)Б, 12—члены КСМ і толькі 3—беспартыйныя.

Цякучасьць хатнікаў выключае ўсякую мажлівасьць для органаў народнай асьветы падбіраць, а галоўнае рэгулярна перападрыхтоўваць і сыстэматычна

падвышаць кваліфікацыю хатнікаў. Цякучасьць складу хатнікаў і сумяшчэньне работы з іншымі абавязкамі зьяўляюцца асноўнай перашкодай узьняцьцю работы хаты-чытальні на належную вышыню ў адпаведнасьці з тымі задачамі, якія стаяць перад намі на вёсцы. Сельсаветы ў першую чаргу павінны павесьці рашучае змаганьне за замацаваньне работнікаў у хатах-чытальнях ня менш, як на два гады.

Разглядаючы бюджэт хаты-чытальні, нардому, не гаворачы ўжо аб чырвоным кутку, трэба прызнаць яго зусім нездавальняючым; бюджэт чамусьці, ня гледзячы на наш агульны рост, ня мае нават тэндэнцыі да росту. Па досьледах больш паловы хат-чытальняў выпісвае менш пяці газэт пры сучасных вялізарнейшых запатрабаваньнях на газэту. Ёсьць шмат выпадкаў, калі хата-чытальня зусім застаецца некалькі месяцаў без газэты. Звычайна падпіска ўтвараецца на адзін месяц, а пры частых зьменах хатнікаў і грашовых недахопах лічыцца нормальным не забясьпечваць хату-чытальню літаратурай.

Бібліотэкі пры хатах-чытальнях надзвычайна малыя, у іх налічваецца каля ста экзэмпляраў часта ўстарэлых, нават шкодных кніжак. Асаблівую засьмечанасьць, не адпавядаючую сучаснасьці, маюць кніжкі па сельскай гаспадарцы. Калі дадаць да гэтага яшчэ тую безадказнасьць за літаратуру і маемасьць, якая пануе ў хатах-чытальнях і зноў-такі залежыць у значнай ступені ад частых зьмен хатнікаў, дык трэба адкрыта сказаць, што тут становішча катастрофічнае.

Для поўнага малюнку становішча нашай сучаснай хаты-чытальні трэба адзначыць становішча радыё. З 73 хат-чытальняў 48 мае радыё ўстаноўкі, але большая частка іх маўчыць. Хатнікі ў гэтай справе зусім няпісьменныя, часта самы просты рамонт радыё ўстаноўкі зьяўляецца для іх непасільным. Частае псаваньне радыё-ўстановак тлумачыцца няўмелым карыстаньнем гэтым магутным сродкам агітацыі і пропаганды. За адзін вечар радыё прыёмнік хаты-чытальні павінен злавіць хвалі ўсёй зямнай кулі—круцяць рэгулятар хто толькі хоча.

Каб вывесьці з такога цяжкага становішча нашу хату-чытальню, патрэбна зацікаўленасьць гэтай установай з боку ўсіх органаў на мясцох і ў першую чаргу сельскага савету. Мы маем вялізарнейшыя дасягненьні ў справе колектывізацыі сельскае гаспадаркі, у бліжэйшы час перад намі стаяць яшчэ большыя задачы па ператварэньню індывідуальнага сэктару ў соцыялістычны.

Гэтыя задачы будуць выкананы, калі будзе ўтвораны адзіны фронт узьдзейнасьці на індывідуальны сэктар, калі наша хата-чытальня сапраўды зможа організаваць вакол сябе актыў, рашуча зьмяніць формы і мэтоды работы, калі на гэты адказьнейшы вучастак работы будзе зьвернута ўвага пропорцыянальна яе важнасьці з боку мясцовых органаў. Важнейшай умовай пасьпяховага разгортваньня работы па-новаму зьяўляецца аб'яднаньне сіл у масавай агітацыйна-пропагандысцкай рабоце і выкарыстаньне сродкаў па аднаму агульнаму пляну. Калі блізка прыгледзецца да работы ў вёсцы, дык мы заўважым, што сродкі на культурна-масавую работу трацяцца ўсімі ўстановамі і організацыямі. Культфонды ёсьць у профсаюзных, коопэрацыйных і іншых організацыях, не гаворачы ўжо аб тых сродках, якія трацяцца па каштарысу. А вынікі гэтай работы ня могуць ні ў якім разе задаволіць тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва. Такое становішча тлумачыцца распыленасьцю як сродкаў, так і сіл на культурным фронце.

Наша партыя паставіла задачу пагалоўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных мас 11—45 гадоў. Для пасьпяховага ўмацаваньня колектыўнай гаспадаркі і далейшага пашырэньня соцыялістычнага сэктару патрэбна масавая агроасьвета, рашучае падвышэньне культурнага ўзроўню бядняцка-серадняцкіх мас. Гэтыя задачы павінны быць выкананы ва ўмовах жорсткага клясавага змаганьня. Зразумела, мы будзем мець перамогу на гэтым фронце, калі кожная організацыя і ўстанова накіруюць сваю

работу на выкананьне галоўнай і асноўнай задачы. Зразумелая рэч, мы ня справімся з гэтым, калі кожная арганізацыя і ўстанова на вёсцы будуць па асобку будаваць „сваю“ культработу „ў інтарэсах сваёй арганізацыі“.

Усё гэтае выклікае патрэбу ў стварэньні адзінага пляну культбудаўніцтва, які павінен аб‘яднаць усе сілы і сродкі на мясцох. Пры складаньні гэтага пляну хата-чытальня павінна выходзіць з тых конкрэтных задач, якія стаяць у бліжэйшы час на вёсцы і, у першую чаргу, з задач замацаваньня існуючых колгасаў і далейшага іх пашырэньня.

Пад адзіным плянам трэба разумець, папершае, падлік і правільную расстаноўку ўсіх сіл на вёсцы: політасьветнікаў, настаўнікаў, кооперацыйных працаўнікоў профсаюзнага актыву, мэдычных работнікаў, членаў розных грамадзкіх організацый, членаў культкомісій, жандэлегатак, членаў культбытавых комісій колгасаў, бядняцка-серадняцкага актыву і г. д. Па-другое, трэба падлічыць усе матар‘яльныя сродкі розных організацый, якія вядуць культасьветную работу. Пры падліку гэтых сродкаў, трэба ясна ўявіць, што падлік робіцца з мэтаю складаньня адзінага фінансавага пляну, а не аб‘яднаньня гэтых сродкаў у адну касу. Патрэцяе,—выпрацоўку адзінага організацыйна-політычнага пляну комбінаванага ўзьдзейнічаньня на вёску ўсіх організацый. І чацьвёртае,—стварэньне адзінага цэнтру, які-б плянаваў і рэгуляваў усю політыка-асьветную работу на вёсцы. Вось у асноўным задачы, якія стаяць пры складаньні адзінага пляну.

Конкрэтна, хата-чытальня пры складаньні пляну павінна ўлічыць, якую дапамогу трэба аказаць масавай політыкавыхаваўчай работай кожнай організацыі. Нельга дапусьціць, каб у масавай рабоце быў разнабой.

Пры складаньні пляну па замацаваньню і пашырэньню колгасаў хаце-чытальні трэба ўлічыць політычныя настроі пасобных социяльных праплястовак вёскі выявіць падрыхтаванасьць да колектывізацыі сельскай гаспадаркі беднаты, батрацтва, серадняцтва, рабочых, што жывуць ў вёсцы, а таксама ўлічыць актыўнасьць, характар, зьмест і мэтоды варожых элемэнтаў вёскі супроць колгаснай агітацыі. Адзіным плянам у гэтай частцы работы трэба выразна вызначыць, якую трэба правесьці тлумачальную работу, якімі сіламі і мэтодамі у адносінах да кожнай соцыяльнай групы. Плян павінен адлюстраваць з поўнай яскравасьцю, хто, дзе і як праводзіць работу з беднатой, батрацтвам, агульную работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас, з жанчынамі, моладзьдзю, членамі саюзу і г. д.

Плян павінен прадугледзець, каб у вырашэньні агульных культурна-політычных пытаньняў (ліквідацыя няпісьменнасьці, увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, пашырэньне сеткі кіно, радыё і г. д.) прымалі ўдзел усе організацыі: спажывецкая коопэрацыя, колгасы, прамысловасаматужная коопэрацыя, жыльлёвая коопэрацыя, комсамол, профсаюзныя організацыі і г. д.

Гэтым організацыям трэба адмовіцца ад тэй дзяляцкай політыкі, якую яны вялі да гэтага часу: профсаюзы лічылі сваім абавязкам, і то не заўсёды, „адкупіцца“ шляхам вылучэньня сродкаў, і то надзвычайна неакуратна, для ліквідацыі сярод няпісьменнасьці членаў саюзу.

Саматужна-прамысловая коопэрацыя і па сёньняшні дзень прымае зусім слабы ўдзел у справе організацыі ліквідацыі няпісьменнасьці сярод саматужнікаў. Жаданьня ўсіх організацый скончыць са спадчынай царызму, няпісьменнасьцю па ўсім фронце, ня было.

Аднак, пры складаньні пляну трэба ўлічыць спэцыфічныя задачы кожнай організацыі. Так, прыцягваючы да ўдзелу ў складаньні і выкананьні адзінага пляну культурна-масавай работы спажывецкую коопэрацыю, трэба прадугледзець такія пытаньні, як вярбоўку пайнікаў, выхаваўчую работу сярод іх, падвышэньне культурнага ўзроўню членаў крамных комісій, пытаньні профсаюзнай работы і г. д Трэба так пабудаваць плян, каб кожная організацыя праз агульны плян, праз агульную культурна-масавую работу магла вырашыць свае задачы.

Аб‘яднаньне сіл пры складаньні пляну патрабуе плянавага аб‘яднаньня сродкаў, але тут трэба сьцерагчыся перагінаў і адміністраваньня. Аб‘яднаньне сродкаў не павінна зьнішчыць ініцыятывы паасобоных арганізацый; апрача ўсяго, можа здарыцца так, што пры мэханічным аб‘яднаньні сродкаў паасобныя арганізацыі стануць на шкодны шлях ухіленьня ад непасрэднай палітасьветнай работы, унёсшы ў агульную касу сродкі. Аднак кожная арганізацыя павінна знаць колькі траціць сродкаў другая і навошта. Агульны фінансавы плян павінен быць абмеркаваны разам усімі арганізацыямі Тут узьнікае пытаньне: ці павінны быць палітасьветныя ўстановы: хаты чытальні, чырвоныя куткі, радыё і г. д. толькі бюджэтныя? Не, іх павінны адчыняць розныя арганізацыі, але пляноўка сеткі абавязкова павінна быць разам абгаворана ўсімі арганізацыямі.

Пры аб‘яднаньні сродкаў трэба захаваць поўны грамадзкі контроль з боку ўсіх арганізацый, якія выдаткоўваюць сродкі на культурную работу. Трэба пабудаваць работу так, каб сродкі трацiліся не адным хатнікам, а саветам хаты чытальні, куды павінны ўвайсьці прадстаўнікі зацікаўленых арганізацый пры непасрэдным удзеле і кіраўніцтве з боку сельсавету або яго культсэкцыі.

Важным момантам у складаньні адзінага пляну зьяўляецца плянавае скарыстаньне сіл ня толькі штатных культпрацаўнікоў, а, галоўнае, актыву грамадзкіх арганізацый. Пры разьмеркаваньні аб‘яднаных сіл важна правільна іх расставіць, паставіўшы мэту, каб кожны працаўнік прынёс максымум карысьці агульнай справе. Карысна будзе для пасьпяховай работы спэцыялізаваць работнікаў па асобных галінах культасьветнай работы. Напрыклад, культработнік вядзе бібліотэчную работу, вывучае яе, удасканальвае і сваю практыку перадае другім, другі грунтоўна вывучае пытаньні палітычнай асьветы, трэці—пытаньні самаадукацыі і г. д. Пры такой аб‘яднанай рабоце само сабою ўзьнікае пытаньне аб падрыхтоўцы новых кадраў культактыву. Прыцягнуўшы да работы і правільна скарыстаўшы актыў батракоў, беднякоў, сераднякоў, комсамольцаў, трэба кожнага нагрузіць пасільнай работай, з мэтай, каб гэты актыў мог далей расьці. Стварэньне актыву і выхаваньне яго зьяўляецца важнейшай задачай у рабоце хаты-чытальні. Вырашэньне гэтай задачы дапаможа выканаць адзіны плян на карысьць социялістычнага будаўніцтва. Пры такой пастаноўцы работы плян тады будзе жыцьцёвым, калі на выкананьне яго будуць мобілізаваны самыя шырокія масы працоўных.

Стварэньне адзінага пляну палітасьветнай работы патрабуе выразнага кіраўніцтва для выкананьня яго. Практыка двух апошніх гадоў паказала, што гэтае кіраўніцтва павінна будавацца па мэтоду культпаходаў.

Вось той комплекс задач, якія павінны быць вырашаны, якія павінны зрушыць работу хат-чытальняў. Работа будзе пасьпяховай, калі ў выкананьні яе будзе прымаць шчыры ўдзел сельсавет і ў першую чаргу яго культсэкцыя. Пляны работы і інш. мерапрыемствы па культрабоце павінны абгаварвацца пры шырокім удзеле мас на прэзыдыумах і пленумах сельсаветаў.

Хату-чытальню ня можна разглядаць як прыдатак, які ўмоўна патрэбен. Хата чытальня павінна зьявіцца неабходнасьцю для сельскага савету, як цэнтр палітыка-асьветнай работы. Гэта работа павінна мець пэўную (па зьместу) устаноўку на колектывізацыю, на клясавасьць, на абслугоўваньне асноўнай масы сялянства.

В. Мухін

# Політыка-выхаваўчая работа з няпісьменнымі і малапісьменнымі [1])

## Экскурсіі і лекцыі

У часе правядзеньня гутаркі кіраўніком політгадзіны настаўнікам лікпункту часта закранаюцца пытаньні культурнага і гаспадарчага будаўніцтва. Наша задача—паказаць на дасягненьні ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве, паказаць слухачом на пэрспэктывы далейшага разьвіцьця экономікі нашай краіны.

Гэта можна зрабіць толькі праз экскурсіі на заводы, фабрыкі, у саўгасы і колгасы, праз азнаямленьне з работай нашых савецкіх і коопэрацыйных устаноў.

Праводзячы экскурсію, трэба загадзя вызначыць плян яе, пытаньні, якія падлягаюць вывучэньню ў часе экскурсіі, даручыць асобным таварышом вывучаць асобныя галіны работы прадпрыемства або ўстановы, зьбіраць матар'ял, які-б характарызаваў работу. Пры організаванай пастаноўцы экскурсіі яна дасьць нам, апрача агульнага разьвіцьця, ажыўленьня фактычным матар'ялам тых гутарак і лекцый, якія праводзіліся, багаты матар'ял для далейшых заняткаў. Экскурсіі ў нашы ўстановы, калі яны будуць праведзены ў часе прапрацоўкі пытаньня аб сыстэме пабудовы савецкай улады, аб перавыбарах саветаў, бесьперапынцы, таксама дадуць нам багаты матар'ял.

Шмат матар'ялу дадуць экскурсіі ў музэі. Музэі сваімі экспонатамі змогуць прыкаваць увагу нашых вучняў да шэрагу пытаньняў, але будзе памылкай, калі мы за адзін раз будзем вывучаць усе экспонаты музэю. Трэба спыніць увагу нашых вучняў на асобных аддзелах, дасканала вывучаць матар'ял з мэтай паглыбленьня ведаў па прапрацоўваемым пытаньні.

Прыкладна, мы распрацоўваем па програме пытаньне клясавай барацьбы, робім гэта на падставе кніжнага матар'ялу, а ў музэях мы знойдзем адказ на гэта пытаньне ў форме дакумэнтаў, здымкаў, газэт, лістовак. Гэта дасьць нам магчымасьць выклікаць успаміны нашых вучняў, удзельнікаў грамадзянскай вайны, зьвязаць і значна ажывіць прапрацоўку програмнага матар'ялу.

Настаўнік лікпункту або школы малапісьменных ня можа зьявіцца кіраўніком экскурсій. Ён можа і будзе зьяўляцца толькі старастай групы, а розныя тлумачэньні ў музэі будуць даваць музэйныя працаўнікі, у савецкай установе—адзін з адказных работнікаў тае ўстановы, куды будзе наладжана экскурсія, на заводзе і фабрыцы—адміністрацыйна-інжынэрны пэрсонал. Таму і патрэбна загадзя папярэдзіць установу, куды наладжваецца экскурсія, каб не здарылася таго, што слухачы лікпункту зьявяцца на экскурсію, а праводзіць экскурсію няма каму.

Экскурсійную работу ня могуць вычарпаць толькі фабрыкі, савецкія ўстановы, музэі; апрача гэтых устаноў, можна наладжваць экскурсіі ў коопэратывы, жакты, знаёміцца з жыльлёвымі ўмовамі ў новых жактаўскіх дамох, у казармы да чырвонаармейцаў, у саўгасы і колгасы. Экскурсійная работа павінна знайсьці вялізарнае месца ў штодзённай рабоце лікпунктаў. Матар'ялы экскурсій будуць зьяўляцца лепшым дапаможным матар'ялам у рабоце лікпункту.

Калі, спыняючыся на экскурсійнай рабоце, мы падкрэсьлівалі, што ў канцы экскурсіі прыдзецца значнае месца адвесьці падагуленьню сабранага матар'ялу шляхам гутарак, дык гэта зусім ня значыць, што гутаркі і лекцыі ня будуць мець карысьці бяз сувязі з экскурсіямі. Лекцыі і гутаркі нам трэба наладжваць з першых дзён работы лікпункту і школы.

Пры падборы лектароў мы сустрэнемся з рознымі работнікамі—студэнтамі ВНУ, настаўнікамі, агрономамі, выкладчыкамі

[1]) Працяг, Пачатак гл. у № 7-8.

тэхнікумаў, навуковымі работнікамі ВНУ і дасьледчых інстытутаў, урачамі, інжынэрамі і г. д. Частка з іх будзе з практыкай, а частка зусім ня будзе ведаць, як праводзіць гэтую работу з малапісьменнай аўдыторыяй, пры ўсім жаданьні працаваць. Наша задача—правесьці некалькі сэмінараў з усімі, хто будзе праводзіць лекцыйную работу, аб мэтодах лекцыйнай работы і тых умовах і асяродзьдзі, у якім ім прыдзецца працаваць, асабліва ўлічваючы той момант, што гэтыя людзі будуць мець справу з малапісьменным. Калі наш лектар ня будзе мець гэтага на ўвазе, дык карысьці і посьпехаў у яго рабоце будзе мала.

Пры правядзеньні лекцыйнай работы трэба ўлічваць моманты сэзону, палітычныя і гаспадарчыя моманты жыцьця, памятуючы, што ўвязка лекцый з програмным матар'ялам таксама неабходна.

Самі лекцыі пажадана справаджаць ілюстрацыямі, прыкладамі, дыяграмамі, і калі ёсьць чароўны ліхтар, дык ён таксама павінен быць выкарыстаны як пасабнік лектару. Трэба таксама ўлічыць род і спэцыяльнасьць аўдыторыі. Там, дзе ў значнай колькасьці будуць будаўнікі, ім карысна прачытаць лекцыю на тэму, зьвязаную з будаўнічымі работамі; дзе больш жанчын, там трэба адвесьці значнае месца пытаньням быту, выхаваньня дзяцей.

Для правядзеньня лекцый пажадана некалькі лікпунктаў злучаць, каб пры меншай колькасьці лектароў абслужыць большую колькасьць слухачоў. Памяшканьнямі для лекцый могуць служыць клюбы і школы. Ня трэба ўпушчаць і такога моманту, што лекцыйнай работай трэба абслугоўваць сем'і вучняў лікпунктаў. Трэба зьвязаць лікпункты з насельніцтвам, уцягваць у палітыка-выхаваўчую работу і асоб, якія ня вучацца ў лікпунктах. Мы павінны заняцца перавыхаваньнем усяго дарослага насельніцтва, злучаць нашу работу з работаю клюбаў, чырвоных куткоў, нардамоў і хат-чытальняў.

Асобнае месца ў рабоце з малапісьменнымі і пры прапрацоўцы програмнага матар'ялу павінна заняць антырэлігійная работа. Антырэлігійная работа ў лікпунктах і школах малапісьменных павінна праводзіцца па трох напрамках: а) у напрамку выкладаньня, б) у напрамку арганізацыі і пашырэньня работы СВБ і ўтварэньня гурткоў бязбожнікаў ня толькі з вучняў, а і з вакольнага насельніцтва, прыцягваючы яго да ўдзелу ў гэтай рабоце, і в) у правядзеньні лекцый, гутарак з вучнямі і насельніцтвам, групуючы гэту работу вокал клюбу, школы і лікпункту.

У пачатку работы лікпунктаў нам прыдзецца спыніцца пры правядзеньні гутарак на прычынах узьнікненьня рэлігіі, на контррэволюцыйнай ролі духоўніцтва. Растлумачыўшы ўзьнікненьне рэлігіі і тую шкодную ролю, якую яна адыгрывала ў адносінах да працоўных, мы зможам перайсьці да правядзеньня гутарак на падставе мастацкай літаратуры, якая выкрывае ролю духоўніцтва. Злучаючы чытаньне мастацкай літаратуры з антырэлігійнай пропагандай, варта для гэтай мэты выкарыстаць наступныя творы: З. Бядулі „У глушы“, Тараса Гушчы „На прасторах жыцьця“, Крапівы „Біблія“ ды інш. Трэба таксама даваць антырэлігійны матар'ял, які закранае пытаньні прыродазнаўства і грамадазнаўства. Надзвычайна шмат матар'ялу па антырэлігійнаму пытаньню знойдзем у расійскай літаратуры, і яго трэба выкарыстоўваць.

У часе каляд ня трэба ўпушчаць моманту правядзеньня антырэлігійнай работы кампанейскім шляхам, мобілізуючы для гэтай мэты ўсіх, хто можа праводзіць антырэлігійную работу сярод насельніцтва, што жыве ў тэй мясцовасьці, дзе знаходзіцца лікпункт, мобілізуючы для правядзеньня арганізацыйнай работы вучняў лікпунктаў. Праз наладжваньне шэрагу лекцый, гутарак, арганізацыю ячэек СВБ мы зможам правесьці антырэлігійную работу ня толькі сярод сваіх вучняў, але і сярод насельніцтва.

Організацыя ячэек СВБ дасьць магчымасьць членам у сыстэматычным парадку наладжваць лекцыі, гутаркі, знаёміцца з літаратурай па антырэлігійных пытаньнях. Кіраўніком гэтай работы павінен быць больш падрыхтаваны член ячэйкі СВБ, знаёмы з адпаведнай літаратурай, падрыхтаваны практычна для гэтай работы.

Асабліва каштоўным і цікавым матар'ялам для нас будзе распрацоўка тэмы „Крыжацкі паход супроць СССР“.

На гэтым пытаньні варта спыніцца больш падрабязна, каб паказаць усю тую шкоду нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву, якую імкнуцца зрабіць паслугачы рэлігійнага культу.

### Бытавая работа

Калі мы організоўваем лікпункт або школу, мы ставім перад сабою задачу зрабіць вучня ня толькі пісьменным, але і даць яму культурныя звычкі, зрабіць яго актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва.

У нашым быце можна сустрэць надзвычайна шмат адмоўных фактаў, якія даюць сябе адчуць як у сям'і, так і на вытворчасьці.

Змаганьне за новы быт, за новага чалавека павінна быць асабліва ўзмоцнена зараз у зьвязку з тымі вялізарнымі задачамі па соцыялістычным будаўніцтве, якія стаяць перад намі.

Бытавую работу змогуць праводзіць спэцыяльныя комісіі, вылучаныя з ліку тых культармейцаў, якія будуць праводзіць у нас тую альбо іншую работу. Асаблівую ўвагу пры складаньні такіх комісій, трэба зьвярнуць на ўцягненьне ў іх жанчын і моладзі.

Бытавая комісія спачатку можа організаваць даведачнае бюро, якое ў першыя часы будзе даваць пераважна парады юрыдычныя і па бягучых пытаньнях. Трэба вызначыць пэўныя часы, у якія працуе даведачнае бюро, паставіўшы мэту абслугоўваць ня толькі вучняў лікпунктаў, а і ўсё вакольнае працоўнае насельніцтва (ва ўмовах вёскі пажадана, каб асобн. члены райполітасьветкому выяжджалі ў вёску і праводзілі там консультацыі па розных бытавых пытаньнях). Усё-ж нам трэба мець на ўвазе, што асноўным контынгентам нашых слухачоў будуць вучні лікпунктаў, таму надзвычайна пажадана злучаць некалькі лікпунктаў, з якімі і праводзіць консультацыі-гутаркі.

Наладжаньне вечароў пытаньняў і адказаў у нашай рабоце таксама зможа адыграць ня малую ролю, трэба толькі ўмела організаваць гэтую справу.

Вялікую ролю ў бытавой рабоце можа адыграць агітсуд.

Абраньне тэмы для наладжваньня агітсуду ня будзе прадстаўляць вялікіх цяжкасьцяй.

Вядома, што організоўваць агітсуд толькі для вучняў лікпунктаў (10-12 асоб) незаўсёды будзе мэтазгодна, бо правядзеньне яго патрабуе значнай падрыхтоўкі. Трэба аб'яднаць некалькі лікпунктаў, таксама прыцягваць да ўдзелу ў агітсудзе рабочых, колгасьнікаў і сялян вакольных вёсак.

У падборы тэм для агітсудоў можна параіць наступныя: суд над бюрократам, растратчыкам, антысэмітам, маткай, якая забараняе свайму дзіцяці ўступіць у піонэратрад, над адміністратарам, які не дапамагае ў справе лікбезу, знахарам, зрыўшчыкам промфінпляну, над асобай, якая адмовілася наведваць лікпункт і г.д.

У правядзеньні судоў мы можам сустрэцца з такой зьявай, што з-за дрэннай падрыхтаванасьці да суду ён ня будзе мець посьпеху, і ў далейшым нам цяжка будзе праводзіць гэтую работу.

Каб ня было такіх зьяў, нам трэба належным чынам рыхтавацца да суду. Трэба загадзя прапрацаваць зьмест прамоў абвінавачваемага, абвінавальніка, грамадзкага абвінавальніка і абаронцы. Зьмест прамоў трэба пабудаваць так, каб яны мелі адпаведны ўплыў на слухачоў. Надзвычайна пажадана вылучаць у склад суду членаў драмгуртка, якія маюць адпаведнае палітычнае і агульнае разьвіцьцё для таго, каб удзельнічаць у пастаноўцы агітсуду, і ведаюць аб тым выхаваўчым значэньні, якое мае суд. Адзін і той жа суд можна наладжваць у некалькіх мясцовасьцях, што гарантуе посьпех самой пастаноўкі і патрабуе нязначнай колькасьці работнікаў. Кіраўніком суду трэба выбіраць палітычна пісьменнага таварыша, які мае ня дрэннае агульнае разьвіцьцё. Пажадана, каб кіраўнік суду быў партыец або комсамолец.

### Сямейныя вечары

Сямейны вечар можа дасягнуць мэты толькі ў тым выпадку, калі ён будзе асабліва падрыхтаваны, прадуманы, калі будзе прадугледжана кожная дэталь.

Пры падборы ўдзельнікаў вечарыны трэба пакласьці ў аснову які-небудзь прынцып: вытворчы, тэрыторыяльны альбо сумеснае навучаньне. Трэба прыцягнуць на вечар ня толькі вучняў лікпункту, але і іх сем'і, асабліва тую частку сям'і, якая па свайму культурнаму ўзроўню патрабуе апрацоўкі, набыцьця культурных звычак.

Калі мы наладжваем сямейныя вечары з удзелам сем'яў нашых вучняў, дык трэба ўлічыць тое, што да нас прыдуць жанчыны з дзяцьмі, і трэба прадугледзець, каб дзеці знаходзілі належныя заняткі ў часе вечару пад кіраўніцтвам настаўніцы і не перашкаджалі праводзіць час дарослым.

Вядома, што ў часе падрыхтоўкі на кіраўніка вечару выпадзе адказная задача прадугледзець усе дэталі вечару, але-ж гэта ня значыць, што ён павінен рабіць усё гэта сам, яму трэба прыцягнуць да актыўнага ўдзелу ўсіх вучняў лікпункту або школы, яны павінны праявіць максымум самадзейнасьці Роля організатара—кіраваць вечарам, ня выпучваючы свае ролі.

Вечар можна падзяліць на некалькі частак: культурную частку, час самадзейнасьці і вячэру альбо шклянку гарбаты.

Культурная частка сямейнага вечару можа складацца з концэртных нумароў, інсцэніровак, дэклямацыі, сьпеваў, чыткі мастацкіх твораў і г. д Концэрт і сьпевы трэба праводзіць з удзелам драматычнага гуртка, рэшту нумароў змогуць выконваць самі ўдзельнікі вечару.

Час самадзейнасьці, за атсутнасьцю належнай падрыхтоўкі да правядзеньня яго, можа даць дваякі вынік: альбо ўсе будуць сумаваць і абяцаць, што ў далейшым ня будуць хадзіць на сямейныя вечары, альбо моладзь распачне скокі, і старэйшыя ўдзельнікі, якія па свайму ўзросту ня змогуць прымаць актыўны ўдзел у скоках, прымушаны будуць ісьці да хаты. Як першы, так і другі выпадак не зьяўляюцца пажаданымі.

Організатару трэба ўлічыць усе запатрабаваньні ўдзельнікаў вечару загадзя і ў адпаведнасьці з гэтым пабудаваць час самадзейнасьці так, каб ён задаволіў усіх удзельнікаў, зьявіўся сапраўды часам самадзейнасьці.

У час самадзейнасьці можна наладзіць выступленьні ўдзельнікаў вечару з сваімі апавяданьнямі, сьпевамі, гульнямі.

Гульні могуць быць самыя рознастайныя, пачынаючы з політбою, які мы павінны асабліва раіць, і канчаючы гульнёю ў ката і мышку.

Скокі ў часе вечару самадзейнасьці ня трэба забараняць; вядома, што зьяўляцца прыхільнікам іх таксама ня варта. Трэба імкнуцца абмежаваць скокі некалькімі нумарамі. Калі ўдзельнікі вечару стомлены і не праяўляюць належнай самадзейнасьці, дык надзвычайна карысна прачытаць некалькі апавяданьняў, якія змаглі-б узьняць настрой слухачоў, правесьці гутарку з імі па якому-небудзь вострыму пытаньню.

Да сямейнага вечару пажадана выпусьціць спэцыяльны нумар насьценнай газэты, дзе было-б адлюстравана сучаснае жыцьцё вёскі, прадпрыемства; трэба закрануць пытаньні блізкія, знаёмыя ўдзельнікам вечару. Калі ёсьць магчымасьць наладзіць сьветавую альбо вусную газэту, яна будзе мець вялікае выхаваўчае значэньне для вучняў і ўдзельнікаў вечару, а таксама ўнясе жвавасьць у правядзеньне вечару.

Для вечароў можна скарыстаць памяшканьні школ, клюбаў, бібліотэк.

### Дзіцячыя пакоі

Часта бываюць выпадкі, калі жанчына не наведвае лікпункт толькі таму, што ёй перашкаджаюць дзеці, якіх няма з кім пакінуць на час навучаньня жанчыны ў лікпункце.

Шырока разгортваючы дашкольны паход, мы прымалі ўсе захады да таго, каб даць магчымасьць жанчыне працаваць на прадпрыемстве, фабрыцы, заводзе і, на вялікі жаль, амаль што нічога не рабілі для таго, каб даць магчымасьць жанчыне наведваць лікпункт. Практыка Саратаву, паўночна-каўкаскага краю даюць досыць добрыя прыклады ўвязкі лікбезпаходу з дашкольным паходам. Там былі ўтвораны дзіцячыя

пакоі, дзе ўсе жанчыны, што вучацца ў лікпунктах, маглі пакідаць сваіх дзяцей пад наглядам спэцыяльна вылучаных для гэтага кіраўніц. У якасьці кіраўніц у Саратаве ўцягвалі студэнтак пэдтэхнікумаў, ВНУ, дашкольніц, жанчын-дэлегатак і г. д.

Трэба адзначыць, што прыцягнутыя для гэтай работы кіраўніцы ня будуць у належнай ступені падрыхтаванымі. З імі трэба правесьці адпаведную работу па азнаямленьні з мінімальнымі ведамі па організацыі дзіцячага асяродку, азнаямленьні з элемэнтамі дашкольнага выхаваньня.

У дзіцячым пакоі мы зможам выхоўваць дзяцей, падрыхтаваць іх для навучаньня ў школе, замест таго выродлівага выхаваньня, якое мы часта можам сустрэць у сям'і. Наша задача—праводзіць работу ня толькі з дзяцьмі, але і з іх бацькамі і ў першую чаргу з маткамі, бо дзіцё большую палову сутак будзе знаходзіцца ў асяродзьдзі сям'і, і калі нам не азнаёміць бацькоў з работаю дзіцячага пакою, з некаторымі элемэнтамі дашкольнага выхаваньня, дык наша работа будзе мець дрэнныя вынікі.

Сыстэматычнае скліканьне сходаў і інформацыі аб рабоце пакою актыўна дапамогуць рабоце дзіцячага пакою і будуць выклікаць зацікаўленасьць да колектыўнага выхаваньня дзяцей.

### Праз лікпункт да самаадукацыйнай работы

Праз лікпункты і школы малапісьменных мы штогод прапускаем вялізарную армію няпісьменных і малапісьменных.

Перад намі паўстае штогод задача—замацаваць грамату, не дапусьціць рэцыдываў сярод нашых вучняў.

Шляхоў змаганьня з рэцыдывамі няпісьменнасьці мы маем некалькі. Першы—гэта далейшае навучаньне на курсах і ў школах узвышанага тыпу для дарослых, бо на курсы і ў школы пападае зусім нязначная частка тых, якія вучыліся ў лікпунктах. Другі шлях—бібліотэка, чытаньне кніжак і газэт. Гэты шлях больш даступны малапісьменным, але-ж ён не заўсёды дасягае мэты. Гэты шлях патрабуе штодзённага кіраўніцтва малапісьменнымі. Чытаньне кніжкі і газэты, карыстаньне сродкамі бібліотэкі трэба зьвязваць з самаадукцыйнай работай.

Самаадукацыя адначасова з бібліотэкай зьяўляецца тым сродкам, якім мы зможам ажыцьцяўляць змаганьне з рэцыдывам няпісьменнасьці, падвышаць культурны ўзровень малапісьменнага насельніцтва

Да сучаснага моманту, на вялікі жаль, ва ўсёй політыка-асьветнай рабоце, у рабоце лікпунктаў самаадукацыйная работа займала зусім малое месца. Адсутнічала сыстэматычнае ўцягваньне скончыўшых лікпункты ў самаадукацыйную работу, ня было кіраўніцтва і падліку гэтай работы на мясцох. Адсутнічала яна часам там, дзе былі ўсе ўмовы да наладжваньня яе. Аб наладжваньні самаадукацыйнай работы дрэнна клапаціліся органы Н. К. А. і ўстановы, якія займаюцца самаадукацыйнай работай. Галоўную ўвагу зварочвалі на наладжваньне работы лікпунктаў, пашырэньне іх сеткі і зусім забываліся на выкарыстаньне магчымасьцяй па замацаваньню граматы, паглыбленьню набытых ведаў. Самаадукацыйная работа ў агульнай сыстэме політыка-асьветнай работы знаходзіцца на задворках. Гэты недахоп трэба зьнішчыць. З самага пачатку разгортваньня работы лікпунктаў і школ малапісьменных праз паступовае разгортваньне самаадукацыйнай работы ў часе навучаньня і дапамогу скончыўшым лікпункты наладзіць сувязь з установамі, якія займаюцца самаадукацыяй, і поўнасьцю перадаць гэтым установам вучняў для правядзеньня з імі далейшай самаадукацыйнай работы. Вось як павінна будавацца работа.

Самаадукацыйная работа дасьць магчымасьць малапісьменнаму замацаваць набытыя веды ў школе і лікпункце.

Калі мы ставім перад сабой задачу ліквідацыі ня толькі тэхнічнай, але і політычнай няпісьменнасьці, дык трэба памятаць аб тым, што, пачынаючы гэтую работу ў лікпункце, нам трэба максымум увагі аддаць ёй па-за лікпунктам.

Самаадукацыйная работа спрыяе шпаркаму політычнаму і агульнаму разьвіцьцю

малапісьменных. Добра арганізаваная і наладжаная самаадукацыйная работа будзе спрыяць разьвіцьцю грамадзкіх звычак у малапісьменных.

Для пасьпяховай самаадукацыйнай работы трэба прыняць усе захады да своечасовага разгортваньня яе, задаваленьня патрэбнымі падручнікамі і пасобнікамі, бо бяз гэтых рэчаў цяжка пасунуць уперад самаадукацыйную работу.

### Якім чынам наладзіць самаадукацыйную работу з малапісьменнымі

Сканчваючыя лікпункты і школы малапісьменных набываюць зусім не аднолькавыя веды. Ёсьць таварышы, добра падрыхтаваныя, якія умеюць чытаць і пісаць, а ёсьць і такія, якім вельмі цяжка чытаць і пісаць.

Тым асобам, якія прапрацавалі праграму лікпункту без належнага посьпеху, будзе цяжка займацца самаадукацыйнай работай, бо яны не набылі ў лікпункце асноўнага для самаадукацыйнай работы—уменьня чытаць і пісаць. Для такой катэгорыі патрэбна далейшая прапрацоўка праграмы лікпункту групай, і, з другога боку, трэба раіць чытаць зразумелыя і простыя па мове кніжкі. У даным выпадку немалую ролю павінна адыграць бібліотэка. Праз падбор адпаведных кніжак, правядзеньне гутарак аб прачытанай кніжцы з малапісьменным яна зможа значна дапамагчы малапісьменнаму ў рабоце над сабой. Вылучэньне кніганош з ліку бібліотэчнага актыву, абслугоўваньне праз іх малапісьменных таксама павінна быць выкарыстана бібліотэкай. Усе віды работы ў летні час бібліотэка павінна праводзіць з такім разьлікам, каб працягваць тую работу, якую праводзіў лікпункт або школа малапісьменных, дапамагаць ім у напрамку замацаваньня і набыцьця новых ведаў.

Пасьпяховасьць работы па самаадукацыі малапісьменных будзе цалкам залежаць ад арганізацыі кіраўніцтва гэтай работай. Вядома, што пры наяўнасьці вялікай колькасьці жадаючых займацца самаадукацыйнай работай нам прыдзецца для арганізацыі і кіраўніцтва самаадукацыяй прыцягнуць увесь наш актыў культармейцаў. Самае галоўнае ў пачатку работы—гэта набліжэньне кіраўніцтва да вучняў, частыя парады ім па пытаньнях як арганізацыйных, так і мэтодычных.

Для набліжэньня арганізацыйнага і мэтадычнага кіраўніцтва нам трэба ўтварыць на вядомы раён гораду або вёскі консультацыйныя пункты, якія павінны абслугоўваць усіх асоб, што займаюцца самаадукацыяй на пэўнай тэрыторыі, па ўсіх пытаньнях іх работы над падвышэньнем свайго ўзроўню.

Консультацыйныя пункты можна арганізаваць пры школах, бібліотэках, клюбах, хатах-чытальнях, наладжваючы шчыльную сувязь з тымі ўстановамі, якія абслугоўваюцца імі.

Ва ўмовах вёскі немагчыма будзе арганізаваць консультацыйны пункт за адсутнасьцю консультантаў па розных пытаньнях. Асноўнай апорай консультацыйных пунктаў у вёсцы зьявіцца настаўнік. Ён будзе даваць консультацыю нашым вучням па ўсіх пытаньнях. Арганізацыя консультацыйных пунктаў у горадзе ня зьвязана з асаблівымі цяжкасьцямі. Самая галоўная проблема—проблема кадраў—тут вырашаецца проста. Мобілізацыя з ліку студэнтаў культармейцаў для консультацыі некалькіх чалавек вычэрпвае гэтае пытаньне З памяшканьнямі і падручнікамі таксама цяжкасьцяй мы ня сустрэнем.

Арганізацыйную работу па самаадукацыі нам прыдзецца ўскладаць, галоўным чынам, на палітасьветпрацаўнікоў як у горадзе, так і вёсцы. Хатнік, бібліотэкар, загадчык клюбам, інспэктар палітасьветы—вось арганізатары самаадукацыйнай работы. Пры наладжваньні гэтай работы, вядома, нам прыдзецца абапірацца, галоўным чынам, на грамадзкасьць, бо аб правядзеньні гэтай работы толькі з дапамогай платных работнікаў нам зусім ня прыходзіцца і думаць.

Пры дапамозе грамадзкасьці, пры шчыльнай увязцы ўсяе самаадукацыйнай работы з палітыка-асьветнай работай мы зможам зрабіць жывой усю нашу работу, зацікавіць слухачоў, выклікаць

зацікаўленасьць і адданасьць да гэтай справы з боку кіраўнікоў-консультантаў.

Трэба памятаць, што пры вярбоўцы консультантаў з ліку культармейцаў трэба да падбору кандыдатур падыходзіць вельмі ўважліва, бо запатрабаваньні малапісьменных асоб, якія займаюцца самаадукацыяй, будуць значна вышэй чым тых, якія вучацца ў лікпунктах.

З тымі таварышамі, якія будуць вылучаны для консультацыйнай работы, трэба правесьці некалькі інструкцыйных гутарак аб мэтодах самаадукацыйнай работы. Карысна будзе прапрацаваць на нарадах наступныя пытаньні: а) програмы заняткаў з малапісьменнымі, б) мэтоды консультацыі, в) увязку самаадукацыйнай работы з работай політасьветных ўстаноў. Абмен практыкай з боку консультантаў у процэсе работы пажаданы, а таму трэба час ад часу праводзіць конфэрэнцыі консультантаў, дзе, апрача абмену практыкай работы, можна будзе зрабіць падсумаваньне праробленага.

Ставячы пытаньне аб правядзеньні самаадукацыйнай работы з малапісьменнымі, скончыўшымі лікпункты, трэба ўлічваць тое, што сам пераход не павінен быць стыхійным. Трэба прыняць захады да забесьпячэньня посьпеху работы праз падрыхтоўку адпаведнага кадру консультантаў, падручнікаў і пасобнікаў, сваячасова адвесьці адпаведныя памяшканьні, асыгнаваць сродкі для самаадукацыйнай работы.

Нельга ставіць пытаньне так, што самаадукацыйная работа распачынаецца тады, як скончваюцца заняткі ў лікпунктах, гэтую работу трэба распачынаць у той час, калі лікпункты або школы малапісьменных працуюць. Задача настаўніка-ліквідатора—азнаёміць вучняў з формамі самаадукацыйнай работы праз пастаноўку двух-трох дакладаў аб самаадукацыйнай рабоце. Гэта зацікавіць малапісьменнага, выкліча ў яго жаданьне займацца самаадукацыяй.

Настаўніку або ліквідатару трэба паступова прывучаць сваіх вучняў да самаадукацыйнай работы, даючы ім асобныя заданьні для самастойнай прапрацоўкі па тым альбо іншым пытаньні.

Настаўніку трэба памятаць, што галоўная яго задача—навучыць чытаць і пісаць, і чым лепш ён гэта зробіць, тым лепш ён падрыхтуе сваіх вучняў да самаадукацыйнай работы.

Праз падагульненьне прапрацоўваемага матар'ялу, экскурсіі, лекцыі настаўнік зможа выклікаць усё большую і большую зацікаўленасьць да самаадукацыі.

Самастойнае чытаньне кніжак, гутарка настаўніка аб прачытаным, парада аб далейшым чытаньні павінны таксама зьявіцца працягам работы лікпункту, школы. Бібліотэка павінна быць мобілізавана для работы з вучнямі лікпунктаў і школ.

**Як перайсьці малапісьменнаму ад лікпункту да самаадукацыйнай работы.**

Самым адказным момантам у самаадукацыйнай рабоце малапісьменных зьяўляецца пераход ад заняткаў у лікпункце да самастойных заняткаў па тым альбо іншым пытаньні.

Калі мы канчаем работу ў лікпункце і ставім сваёй мэтай прыцягнуць нашых вучняў да самаадукацыйнай работы, нам трэба даць пэўныя весткі аб вучнях установе, якая будзе праводзіць з імі самаадукацыйную работу. Гэтыя весткі дадуць магчымасьць консультанту падабраць адпаведны матар'ял для кожнага малапісьменнага, даць яго ў такім выглядзе, каб ён не перагружаў вучня і тым самым рабіў самаадукацыйную работу такой, з якой ён справіцца. Акрамя гэтага, консультант павінен перад тым, як даваць заданьне вучню, пагаварыць з ім, выявіць, чым вучань цікавіцца, і тады ўжо прыступаць да работы.

Самаадукацыйныя гутаркі ўтвараць з вялікай колькасьцю слухачоў ня трэба, у гуртку павінна быць ня больш 7 асоб. Як правіла, такія гурткі павінны складацца ня больш як з 3-4 асоб.

У гуртку трэба падбіраць такіх слухачоў, якія маюць аднолькавыя веды, аднолькавы ўзрост. Дзякуючы ўсяму гэтаму гурток будзе больш жыцьцёвым.

З пачатку заняткаў пажадана не індывідуальная консультацыя, а групавая,

пакуль самавукі ў дастатковай ступені не азнаёмяцца з работай індывідуальным шляхам. Колектыўная консультацыя дасьць магчымасьць консультанту аддаць больш увагі консультацыі вучняў па асобных пытаньнях, наладзіць абмен думкамі паміж самавукамі, што надзвычайна пажадана і карысна ў самаадукацыйнай рабоце. Консультацыя ўсяе групы зьявіцца як бы пераходным этапам ад заняткаў у лікпункце да самаадукацыйнай работы, дасьць магчымасьць знаёміцца з пасьпяховасьцю прапрацоўкі ўсёй групай матар'ялу і кожным упасобку, своячасова аказаць дапамогу адстаючым праз дадатковыя тлумачэньні, парады

Консультанту трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на сыстэматычную і штодзённую дапамогу самавукам з пачатку заняткаў, даць ім магчымасьць набыць некаторыя звычкі самастойнай работы.

Пісьмовае кіраўніцтва консультанта ў самаадукацыйнай рабоце малапісьменных павінна быць зусім выкінута, бо яно будзе не зразумелым.

Нашым работнікам трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на разгортваньне самаадукацыйнай работы ў летні час. Заняткі ўлетку павінны быць як бы працягам работы лікпунктаў пасьля выпуску. Трэба мобілізаваць асоб, якія могуць даваць консультацыі, праводзіць экскурсіі, гутаркі, лекцыі.

Мы павінны памятаць, што самаадукацыя замацоўвае работу па ліквідацыі няпісьменнасьці, а таму трэба ўжыць усе захады да пашырэньня яе.

### Грамадзкая работа лікпункту і школы

У сваёй рабоце па перавыхаваньню вучняў лікпунктаў і школ малапісьменных мы павінны ставіць на першае месца палітычнае выхаваньне, растлумачэньне малапісьменнаму тых задач соцыялістычнага будаўніцтва, якія зараз стаяць перад усёй савецкай грамадзкасьцю.

Вышэй мы спыняліся на мэтодыцы і формах палітасьветнай работы у лікпунктах. Тут мы хочам зьвярнуць увагу на разгортваньне практычнай грамадзкай работы сярод насельніцтва усім складам вучняў лікпункту і паасобку кожным вучнем. Уцягваючы няпісьменных і малапісьменных у практычную грамадзкую работу, дамагаючыся праз палітгадзіну палітычнай сьвядомасьці, школа і лікпункт выклікаюць зацікаўленасьць усіх вучняў да грамадзкай работы. Трэба дамагацца таго, каб грамадзкая работа была неабходнасьцю для вучняў. Палітгадзіна павінна зьявіцца штурхом для грамадзкай работы кожнага малапісьменнага рабочага і селяніна.

Пачатак практычнай грамадзкай работы для малапісьменных будзе цяжкім, ім трэба дапамагаць парадай і непасрэдным удзелам у правадзімай імі рабоце, і роля настаўніка ў гэтай справе надзвычайна вялікая. Школа і лікпункт павінны зьявіцца організатарамі гэтай работы.

Формы грамадзкай работы вучняў могуць быць рознастайныя, яны будуць залежаць ад мясцовых умоў, ад асяродзьдзя.

Ва ўмовах гораду практычная грамадзкая работа лікпункту і школы малапісьменных павінна будавацца навокал жыцьця фабрыкі і заводу. Выкананьне прамфінпляну, організацыя ўдарных брыгад, паляпшэньне якасьці продукцыі, змаганьне з прагуламі—гэта тыя пытаньні, у выкананьні якіх вучні лікпункту і школы павінны быць стральцамі, навокал іх і трэба будаваць грамадзкую работу школы і лікпункту.

Ва ўмовах вёскі грамадзкая работа лікпункту і школы павінна концэнтравацца вакол жыцьця колгасу.

У колгасе трэба організаваць соцыялістычнае спаборніцтва за якасьць апрацоўкі зямлі, лепшую організацыю працы і быту, падвышэньне ўраджайнасьці і палепшаньне жывёлагадоўлі, але школам прыдзецца весьці работу і сярод адзінаасобнікаў. Пропаганда колектыўных форм гаспадаркі, павялічэньне пасеўнай плошчы, увядзеньне лепшых форм апрацоўкі зямлі, лепшы догляд за скацінай, сваячасовая здача дзяржаве лішкаў хлеба—усё гэта програма работы вясковага лікпункту.

Школа і лікпункт павінны зьявіцца самым блізкім памочнікам сельсавету і

парт'ячэйкі ў правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў партыі і савецкай улады.

Асабліва важнае месца ў грамадзкай рабоце лікпунктаў павінны заняць пытаньні культпаходу. Практыка сьцьвярджае, што ўцягненьне ў лікпункты новых няпісьменных, пры дапамозе саміх вучняў лікпунктаў, дае добрыя вынікі. Трэба паставіць перад кожным вучнем задачу, каб ён прыцягнуў да навучаньня ў лікпункце аднаго няпісьменнага. Трэба, каб лікпункты заяўлялі грамадзкасьці аб сваім існаваньні, а практыка паказвае, што былі лікпункты, пра якія ня ведалі шырокія колы грамадзкасьці. Трэба разгортваць соцыялістычнае спаборніцтва паміж лікпунктамі, вучнямі на лепшую прапрацоўку програмы, павялічэньне навучальных гадзін, сыстэматычнае наведваньне заняткаў усімі вучнямі.

Пры ўдзеле ўсіх вучняў з дапамогай т-ва „ПН“, якое павінна зьяўляцца стральцом у гэтай рабоце, трэба ператварыць лікпункты ў пачатковыя ячэйкі культпаходу, зрабіўшы іх перадавымі байцамі культурнай рэволюцыі.

Нельга рэглямэнтаваць грамадзкую работу лікпункту. Вучняў трэба ўцягваць у тую работу, якая зьвляецца ў даны момант ударнай, трэба даваць такую работу, з якой вучні могуць справіцца, не даваць ім вялікую колькасьць нагрузак. Трэба выбраць дзьве-тры работы, якія зьяўляюцца актуальнымі для данай мясцовасьці, і праводзіць іх. Пасьпяховае правядзеньне гэтых работ будзе стымулам для далейшай работы вучняў, калі яны скончаць лікпункты.

Спачатку ў грамадзкай рабоце будзе ўдзельнічаць уся школа, а потым, калі вучні набудуць некаторыя звычкі, можна будзе даручаць групам лікпункту асобныя галіны работы, пры чым настаўнік павінен сачыць за іх работай, дапамагаць ім.

**Асаблівасьці палітыка-асьветнай работы з малапісьменнымі ў вёсцы**

У гарадох усе вышэйпералічаныя формы палітыка-асьветнай работы мы зможам разгортваць без асаблівых перашкод.

Значна цяжэй праводзіць палітыка-асьветную работу з малапісьменнымі ва ўмовах вёскі.

Цяжкасьці работы на вёсцы не павінны нас палохаць.

Гэтыя цяжкасьці прымушаюць нас мобілізаваць усе сілы і скарыстаць іх так, каб не зьмяншаць тэмпу і памеру работы.

Раённы палітыка-асьветны комітэт і савет „ПН“ павінны быць стральцамі ў гэтай рабоце, організатарамі яе.

На вёсцы палітыка-асьветную работу з малапісьменнымі змогуць і павінны праводзіць хаты-чытальні, бібліотэкі, чырвоныя куткі і школы.

Улічваючы тыя абставіны, што ў вёсцы адсутнічае такая колькасьць кадраў для работы, як у горадзе, нам трэба выкарыстаць тых культпрацаўнікоў і культармейцаў, што ёсьць, з такім разьлікам, каб асноўная маса малапісьменных была абслужана палітыка-асьветнай работай.

Галоўнае, на што трэба зьвярнуць увагу,—гэта на організацыю самой справы і мэтодычнае кіраўніцтва ёю. На дапамогу ў гэтым павінен прыйсьці раённы палітыка-асьветны комітэт.

Ва ўмовах гораду мы зможам склікаць нашых работнікаў і даваць ім мэтодычныя паказаньні, у вёсцы гэтаму будзе шкодзіць тэрыторыяльная адлегласьць. Там прыдзецца зьвярнуць асаблівую ўвагу на распрацоўку мэтодычных заданьняў асобам, якія праводзяць палітыка-асьветную работу. Калі ў раённым цэнтры будуць распрацоўвацца заданьні (а магчымасьць распрацаваць іх ёсьць) і рассылацца па пэрыфэрыі, дык гэтым самым мы, апрача дапамогі кіраўніку палітасьветработы з няпісьменнымі, дасягнем плянавасьці і аднастайнасьці работы па ўсяму раёну.

Мэтодычныя распрацоўкі павінны даваць напрамак у правядзеньні гутаркі, лекцыі або дакладу і самы неабходны матар'ял для гэтага.

Зусім недапушчальнай зьявай у апрацоўцы заданьняў зьяўляецца пералічэньне літаратуры, якую ва ўмовах

вёскі нельга здабыць. Можна раіць прачытаць па тым альбо іншым пытаньні кніжку, але-ж у заданьні трэба даць матар'ял у распрацаваным выглядзе.

Па спэцыяльных пытаньнях (мэдычных, агрономічных) трэба прыцягваць для распрацоўкі ўрачоў, агрономаў і г. д.

Асноўная задача політыка-асьветнай работы, ва ўмовах вёскі, сярод малапісьменнага насельніцтва—узьняць політычны і культурны ўзровень вучняў лікпунктаў і школ і гэтым самым даць магчымасьць ім далучыцца да актыўнага ўдзелу ў рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Нам трэба ня толькі праводзіць з імі гутаркі аб рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, але і організоўваць іх для правядзеньня гэтай работы на практыцы. Гэта мы зможам зрабіць праз гутаркі, лекцыі, даведачную работу, кіно, радыё, чытку газэт і кніжак, гурткавую работу і г. д.

Калі нашы вучні ў лікпунктах прывыкнуць да колектыўнага вырашэньня пытаньняў, дык на розных сходах яны будуць вырашаць пытаньні таксама колектыўна. У правядзеньні розных кампаній з боку лікпунктаў мы зможам чакаць дапамогі ад іх як ад колектыву. Уплыў колектыву школы і лікпункту на навакольнае асяродзьдзе павінен адчувацца ў штодзённым жыцьці школы. Пытаньні колектывізацыі сельскае гаспадаркі, палепшаньне быту, пытаньні санітарыі і гігіены на сёньняшні дзень ва ўмовах вёскі зьяўляюцца актуальнымі, і вакол іх нам трэба будаваць масавую політыка-асьветную работу.

Нельга выпускаць з-пад увагі і работу сярод моладзі. Пры дапамозе комсамолу нашы лікпункты і школы павінны зьвярнуць максымальную ўвагу на выхаваньне з яе актыву стральцоў культпаходу.

Асноўнай базай політыка-асьветнай работы ва ўмовах вёскі павінен быць колгас.

---

Тышкевіч і Сьцепанюк

# Працоўная жанчына павінна быць пісьменнай!

*„Трэба помятаць, што правесьці электрыфікацыю нельга, калі ў нас ёсьць няпісьменныя“.*
*„У краіне няпісьменнай пабудаваць комуністычную грамаду немагчыма“* (*Ленін*)

Рэволюцыйныя тэмпы рэконструкцыі народнай гаспадаркі, шпаркі наступ соцыялістычных элемэнтаў па ўсім фронце, усё ўзрастаючы актыўны ўдзел працоўных у соцыялістычным будаўніцтве—усё гэта з кожным днём усё вастрэй і вастрэй ставіць перад працоўнай грамадзкасьцю пытаньне як мага большага ўздыму культурна-політычнага ўзроўню працоўных мас і, у першую чаргу, ліквідацыі няпісьменнасьці.

Выключна важнае значэньне набывае ліквідацыя няпісьменнасьці сярод працоўных жанчын. У спадчыну ад мінулага мы атрымалі зусім нязначны процант пісьменных. Жанчыны на сёньняшні дзень складаюць асноўныя кадры сярод няпісьменных у БССР.

Паводле вестак перапісу ў 1926 годзе, няпісьменных сярод усіх жанчын было 72,2 проц., а няпісьменных сярод актыўнай часткі, г. зн., сярод жанчын ва ўзросьце ад 12 да 35 год, было 54,6 проц., у той час калі сярод усяго працоўнага насельніцтва гэтага ўзросту няпісьменных налічвалася 36 проц., або 806.294 чал.

Вось якую спадчыну мы атрымалі ад панаваньня абшарнікаў і капіталістых.

Культурная адсталасьць, няпісьменнасьць у цяперашні час зьяўляюцца вялікай перашкодай у соцыялістычным будаўніцтве.

Вялікая армія няпісьменных на сёньняшні дзень ня мае асноўнага сродку—агульнай тэхнічнай і політычнай адукацыі, падрыхтоўкі для таго, каб быць

сьвядомым і актыўным барацьбітом за соцыялізм і практычным удзельнікам у яго будаўніцтве.

У. І. Ленін ня раз падкрэсьліваў, што „няпісьменны чалавек стаіць па-за палітыкай: яго спачатку трэба навучыць грамаце. Бяз гэтага ня можа быць палітыкі, бяз гэтага ёсьць толькі чуткі, плёткі, казкі, забабоны, а не палітыка“.

XVI зьезд УсеКП(б) і XIII зьезд КП(б)Б у сваіх пастановах адзначылі, што ліквідацыя няпісьменнасьці зьяўляецца галоўным пытаньнем культурнае рэволюцыі, што ліквідацыя няпісьменнасьці зьяўляецца актуальнейшым пытаньнем сёньняшняга дню.

Выходзячы з гэтых задач, ЦВК і СНК БССР пастанавілі ліквідаваць няпісьменнасьць сярод усяго працоўнага насельніцтва ва ўзросьце ад 12 да 45 год на працягу 1930-31 і 31-32 г.г. У першую чаргу ліквідаваць няпісьменнасьць сярод наступных соцыяльных груп насельніцтва: рабочых і членаў профсаюзу—на працягу 1930 г., рабочых саўгасаў, батракоў і допрызыўнікаў 1909 і 1910 г.г. нараджэньня—на працягу 1930-31 г. і сярод астатняга насельніцтва—на працягу 1931-32 г.

Гэта задача ў сваю чаргу патрабуе значна большага пералому ў працы па ліквідацыі няпісьменнасьці, прыстасаваньні яе да соцыяльна-нацыянальных, культурна-бытавых умоў жыцьця і працы, асабліва працоўных жанчын, якія складаюць асноўны кадр няпісьменных.

Сярод жанчын мы маем у 3 разы больш няпісьменных, чым сярод мужчын. Для практычнага выкананьня пастаўленай задачы неабходна шырока мобілізаваць невычарпальную энэргію працоўных мас і ўцягнуць іх у практычную працу пад баявым лёзунгам: кожны пісьменны павінен навучыць аднаго няпісьменнага. Неабходна дабіцца таго, каб кожнае „ўдарнае прадпрыемства, цэхі і паасобныя брыгады былі ўдарнымі ня толькі ў вытворчых адносінах, а і ў правядзеньні палітмасавай работы, удзеле ў вытворчых нарадах, ліквідацыі няпісьменнасьці“ (з рэзолюцыі XIII зьезду КП(б)Б).

Тэмпы работы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных жанчын характарызуюцца наступнымі лічбамі:

| ГАДЫ | Усяго скончыла лікпунктаў | З іх у проц. | |
|---|---|---|---|
| | | муж. | жан. |
| 1926-27 . . . . . | 39.031 | 52,5 | 47,5 |
| 1927-28 . . . . . | 39.339 | 47,0 | 53,0 |
| 1928-29 . . . . . | 67.750 | 41,3 | 58 8 |
| 1929-30 . . . . . | 169.103 | 35,5 | 64,5 |

За 1929-30 г. шырока разгарнулася сетка лікпунктаў, груп, а таксама і мэтод індывідуальнага навучаньня. Усяго па БССР налічвалася 10 000 лікпунктаў і груп, з якіх пры саўгасах і колгасах было 1.047 л/п. Было організавана, па вестках былых акруг Менскай, Гомельскай і Аршанскай, 57 батрацкіх лікпунтаў, і па былых акругах Гомельскай, Мазырскай і Аршанскай было організавана 215 жаночых лікпунктаў. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што кожны няпісьменны ўявіў сабе значэньне ліквідацыі няпісьменнасьці і вядзе барацьбу за пісьменнасьць. Гэта галоўная ўмова для пасьпяховага выкананьня задачы ліквідацыі няпісьменнасьці і сканчэньня ліквідацыі ў самы кароткі тэрмін—замест 5 гадоў у 3 гады. Гэтыя лічбы таксама яскрава паказваюць, што пытаньне ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных жанчын пачынае займаць усё большае і большае месца ў працы партыйна-комсамольскіх, савецкіх, коопэрацыйна-профэсіянальных організацый, што з году ў год павялічваецца ахоп жанчын лікпунктамі, што павялічваецца процант пісьменнасьці, што праца па ліквідацыі няпісьменнасьці пачынае прыстасоўвацца да ўмоў і асаблівасьцяй працы і жыцьця жанчыны. Гэта першы крок у барацьбе за пісьменную жанчыну.

Аднак сучасныя тэмпы рэконструкцыі народнай гаспадаркі патрабуюць усё большага, хутчэйшага і рашучага пералому ў працы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод работніц і працоўных сялянак.

Да гэтага часу партыйна-савецкая грамадзкасьць зьвяртала недастатковую

ўвагу на стварэньне патрэбных умоў, на поўнае забесьпячэньне наведваньня жанчынамі лікпунктаў.

Трэба прыняць усе меры, каб уцягнуць у лікпункты пагалоўна ўсіх няпісьменных жанчын—работніц, членаў прафсаюзаў, грамадчыц, дэлегатак, арганізоўваць спэцыяльныя лікпункты для жанчын, ствараць пры лікпунктах дзіцячыя пакоі і іншыя дашкольныя ўстановы, вылучаць грамадчыц-культармейцаў з пісьменных жанчын, якія-б вялі працу сярод работніц і сялянак па ліквідацыі няпісьменнасьці.

У тых выпадках, калі жанчыны ня будуць мець магчымасьці наведваць арганізаваныя лікпункты, трэба праводзіць заняткі з імі ў сьвяточныя дні, трэба шырока прыстасаваць мэтод індывідуальнага навучаньня.

У сваёй працы комсамольскія ячэйкі і піонэратрады, фабзаўмясцкомы, культурна-бытавыя комісіі колгасаў павінны вылучыць комсамолак, старэйшых піонэрак, работніц, колгасьніц для абслугоўваньня дзяцей тых матак, якія ліквідуюць сваю няпісьменнасьць. У гэтым напрамку НКА, ЦК комсамолу, Белколгасцэнтр, ЦСПСБ з 1/IX па 1/XII абвясьцілі 3-месячны паход за пісьменнасьць, які павінен зьявіцца зброяй у барацьбе за пісьменнасьць, за ўзьняцьце тэхнічнай, палітычнай і агульнай адукацыі. У час 3-месячніку трэба ўцягнуць ўсю пісьменную масу жанчын у практычную работу па ліквідацыі няпісьменнасьці, мобілізаваць працоўную грамадзкасьць на вырашэньне актуальнейшай задачы соцыялістычнага будаўніцтва—ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных жанчын, як неабходнай умовы поўнага вызваленьня работніцы і сялянкі для таго, каб кожная кухарка змагла кіраваць пролетарскай дзяржавай.

# УЗМАЦНІМ ВАЕНІЗАЦЫЮ Ў ШКОЛЕ

А. Мэезіт

## Вайсковыя элемэнты ў фізыцы

Увядзеньне вайсковых элемэнтаў у програму фізыкі, хэміі і іншых галін навукі ня мае на мэце вывучаць тыя ці іншыя тэхнічныя сродкі ўзброенай барацьбы, а толькі павінна даць яснае разуменьне тых прынцыпаў і асноў, якія выкарыстаны вайсковай тэхнікай, каб пры практычным вывучэньні вайсковай справы ўсе гэтыя пытаньні сталі адразу зразумелымі і хутка запаміналіся.

Такое папярэдняе вывучэньне дае поўнае ўяўленьне аб асновах вайсковай справы і тэндэнцыях разьвіцьця ўсяе вайсковай тэхнікі. Трэба толькі ўлічваць, што гутарка ідзе не пра якія-небудзь асаблівасьці вайсковай тэхнікі, а пра тыя элемэнты, якія сустракаюцца і выкарыстоўваюцца ў штодзённым жыцьці, у нашым социялістычным будаўніцтве, і лепш засвоіць гэтыя элемэнты, бо яны выкарыстаны ў вайсковай справе, і з імі мы сустракаемся ва ўзброенай барацьбе за права на социялістычнае будаўніцтва.

Возьмем з фізыкі адзін з найбольш вялікіх разьдзелаў гэтай навукі—сьвятло. Сьвятло ў фізыцы ў адносінах да вайсковай справы займае такое-ж месца, як і электрычнасьць.

У час баявых дзеяньняў сьвятло адыгрывае рашаючую ролю. Асьвятленьне далёкай цэлі, нагляданьне, выведка, азначэньне даўжыні адлегласьці, сыгналізацыя, бліскаўкі ад стрэлаў, маскаваньне—ўсё гэта адносіцца да зьяў сьвятла. Вывучэньне сьвятла павінна быць цесна зьвязана з ілюстрацыяй зьяў, зьвязаных з вайсковай справай і прыладамі, якія ўжываюцца ў ёй. Прызмавы бінокаль, стэрэотруба, гарматная панорама, оптычны прыцэл, гэліограф, ночныя сыгнальныя прылады, прожэктар, фотокамэра паветранай здымкі зьяўляюцца асноўнымі, найбольш распаўсюджанымі прыладамі ў вайсковай справе. Усе яны ўжываюцца ў самыя важныя, рашучыя моманты бойкі.

Об‘ектам вывучэньня павінна стаць не матар‘яльная частка гэтых прылад, а іх оптычная сутнасьць, карысныя і некарысныя для вайсковай справы іх уласьцівасьці і запатрабаваньні, якія прад‘яўляюцца ім баявымі абставінамі і спэцыяльнай работай у полі.

На разрэзе прызмавага бінокалю можна зразумець ідэю іншых труб. Дэталі можна паказаць, правёўшы колектыўную разборку. Можна запрасіць артылерыстага або камандзіра з гарнізону, каб ён памог вучням разабрацца з адпаведнымі прыладамі на лекцыі. Калі ёсьць час, трэба азнаёміць вучняў і з дальнамерамі. Усе элемэнты, якія тут адзначаны, маюць значэньне і ва ўсім нашым культурным будаўніцтве.

Гук, у сувязі з далёкастрэльнасьцю артылерыі, нявідочнасьцю самалётаў і ночным палётам дырыжабляў і самалётаў, становіцца добрым сродкам для выведкі. Спэцыяльныя прылады вызначаюць зьяўленьне і напрамак палётаў. Асобныя пэленгаторныя атрады чулымі прыладамі ўлаўліваюць па гуку зьявы, якіх нельга наглядаць простымі спосабамі. Гукамэтрычныя атрады вызначалі (засякалі) па гуках стрэлаў месца разьмяшчэньня батарэі ворага.

Нарэшце, зноў зьявіліся на Захадзе досьледы з эрыхонскаю трубою з мэтаю, пры дапамозе вялізарнага ўзмацніцеля, аглушыць варожае войска, учыніць разлад і паніку, патрэсьці яго моральна і паралізаваць баявыя дзеяньні.

Пры выкладаньні молекулярных зьяў і цяплыні трэба разгледзець пытаньне аб узаемадзеяньні паміж цьвёрдым целам

і газам. Гэтыя зьявы атрымліваюць асаблівае значэньне ў процігазавай справе. Напрыклад, можна паказаць на практыцы, як дробны вугаль уцягвае ў сябе пару. На гэтым прыкладзе трэба выявіць ідэю пабудовы процігазаў.

Пытаньні дыфузіі ілюструюцца ўзорамі пабудовы газавых прытулкаў, пры чым трэба азнаёміць са зручнымі сродкамі організацыі асабістай і колектыўнай процігазавай абароны.

Мэханічныя ўласьцівасьці мэталяў (мацунак і пругкасьць) цесна зьвязаны з пабудовай ствалоў вінтоўкі, гарматы, ляфэту. Трэба ілюстраваць гэта асаблівасьцямі змацаваньня гарматных ствалоў, нанізваньнем асобных муфт на казённую частку гарматы і вібрацыяй. У самой жа мэханіцы паказаць зьмены хуткасьці цела пры руху—траекторыю—ад пункту вылятаньня да пункту паданьня, узвышэньне, раўнамерны і прыскораны рух. Адначасова паказаць пабудову табліц стральбы для розных відаў зброі. Гэтыя табліцы могуць быць продэмонстраваны запрошаным, у парадку шэфства, камандзірам. Іх можа продэмонстраваць і кіраўнік вайсковай падрыхтоўкі, які ёсьць у большасьці навучальных устаноў. Ён павінен гэта зрабіць як кіраўнік вайсковай падрыхтоўкі. Трэба высьветліць і пытаньні калаўротнага руху знарадаў, дэрывацыі і яе прычыны, энэргіі знараду 76-м/м. гарматы і вінтовачнай кулі.

Пытаньні стралковай справы ящчэ ўвойдуць і ў „Рух і сіла". Але і тут, як і ўсюды, будуць зьявы, якія аднолькава важны для вайсковай справы і мірнага будаўніцтва. Напр., роля „трения" тормозоў. Прычыны, ад якіх залежыць лёгкасьць ходу, напр. калёсы. У сувязі з шырокай моторызацыяй і мэханізацыяй арміі як нашых ворагаў, так і нашай, усё тое, што адносіцца да мотораў, аўтомобіляў, павінна быць асабліва падкрэсьлена, і часамі неабходна браць прыклады для ілюстрацыі розных зьяў, зьвязаных з імі.

Калі мы возьмем нагляданьні розных пераходаў аднае формы энэргіі ў другую і паставім стрэл, як грубую форму гэтага пераходу, то атрымаем усе моманты ператварэньня аднаго віду энэргіі ў другі. Гэта азнаёміць нас з шэрагам мэханізмаў, зьвязаных са стрэлам.

Так, напр., першае—гэта штуршок ударніка, пры якім мэханічная энэргія пераходзіць у хэмічную, бо ўдарнік узрывае ў капсулі грымучую ртуць. Пры выбуху хэмічная энэргія пераходзіць у цеплавую, далей цеплавая пераходзіць у хэмічную, бо яна запальвае порах. Тут хэмічная энэргія зноў пераходзіць у цеплавую пры згараньні пораху, а далей цеплавая ператвараецца ў мэханічную і выкідвае знарад з каналу ствала. Тут можна вызначыць колькасьць мэханічнай энэргіі, якая атрымліваецца ў канале ствала ў выніку згараньня набою, вызначыць колькасьць цяплыні, вылучаемай пры выбуху драбільнай матэрыі або пораху, і захады па ахалоджваньню ствала кулямёта, цыліндраў аўтомобіля і мотоцыкляў ад награваньня, пашырэньне каналу ствала гарматы, кулямёта, колькасьць стрэлаў у адну хвіліну і працяжнасьць страляніны, уплыў тэмпэратуры на палёт кулі.

Адсюль жа вынікае і пытаньне пра ціск газаў у канале ствала і пра выштурхоўваньне знараду або кулі. На гэтым жа прынцыпе пабудован агнямёт, які напоўнен сьціснутай вадкасьцю. У вадкім жа стане сьціснуты ў балёнах атрутныя газы.

Прынцыпы, на якіх аснована пабудова аўтоматычнай зброі, могуць быць ілюстраваны рысункамі або растлумачаны кіраўніком вайсковай падрыхтоўкі. Прынцыпы аддачы, прынцыпы выкарыстоўваньня адыходзячых газаў ужываюцца і на вытворчасьці.

Засваеньне ўсіх гэтых асноў па курсу фізыкі палегчыць практычнае вывучэньне вайсковай справы. Фізыка павінна тлумачыць ідэю пабудовы кіруемых і зьмейкавых аэростатаў, дырыжабляй і дзеяньне апаратаў, цяжэйшых за паветра.

На разьвязваньні самых простых задач вызначыць пад'ёмныя сілы плытоў, пабудову пераходаў рэк пры дапамозе паплаўкоў, надзіманых чаўноў вайсковага ўзору.

Нарэшце, электрычнасьць у вайсковай справе перш за ўсё выкарыстана для сувязі. Зьвесткі аб сухіх іналіўных элемэнтах, як крыніцах току, аснованых на хэмічным узаемадзеяньні, роўналежнае

злучэньне праваднікоў, пасьлядоўнае злучэньне элемэнтаў павінны быць добра засвоены. У выніку гэтага тэлефон і радыё, як асноўныя сродкі сувязі ня толькі ў вайсковай справе, але і ва ўсім жыцьці краіны, павінны быць добра вывучаны. З гэтай жа мэтай павінна быць падрабязна прапрацована і электромагнітная індукцыя. Для ілюстрацыі трэба выкарыстаць палявыя тэлефоны, іх устаноўкі, злучэньне, наводку ліній. І да гэтае справы трэба прыцягнуць кіраўніка вайсковай падрыхтоўкі. Пры вывучэньні тэлефону трэба зазначыць на магчымасьць падслухоўваньня пры дапамозе роўналежных правадоў і шляхам уключэньня іх у лінію. Адначасова трэба паказаць, як, дзякуючы кондэнсатару, можна ўключыцца ў лінію тэлефону. Электрычная энэргія, акрамя асьвятленьня штабаў у палявых абставінах, падачы сьвятла прожэкторам, ужываецца для электрыфікацыі драцяных загародаў, утварэньня выбухаў. Можна азнаёміць з ідэяй пабудовы электрычнай гарматы, кіраваньнем на адлегласьці, якое набывае ў вайсковай справе асаблівае значэньне.

Новыя віды звышдальняй стральбы асабліва цесна зьвязаны з мэтэоролёгіяй, ня кажучы ўжо пра тое, што наогул стральба знаходзіцца пад уплывам мэтэоролёгічных умоў. Адсюль пытаньні мэтэоролёгіі набываюць вялікае значэньне для стральбы, газавых і дымавых атак, паветранага лёту.

Спэцыяльнай літаратуры на гэтую тэму няма, ды яна і непатрэбна. Трэба толькі выкарыстаць адпаведныя статуты, якія параіць кіраўнік вайсковай падрыхтоўкай, і з іх узяць, галоўным чынам, лічбовыя даныя, пляны, рысункі і разьлікі, а дзе патрэбна, прачытаць і тлумачэньні.

З літаратуры можна раіць:

1. Внуков і Казаченко (як асноўны падручнік)—„Учебник физики для артиллерийских и специальных военных школ",выданьне 1929 г. Гэты падручнік мае многа прыкладаў з вайсковай практыкі. У ім разгледжан цэлы шэраг прылад, якія маюць значэньне ў вайсковай справе, дадзены задачы па розных разьдзелах фізыкі з пункту гледжаньня вайсковай справы.

2. Скляренко и Свешников—„Физические основы военно-химического дела". Выданьне курсаў удасканаленьня начскладу хэмсправы. Гэту кніжку цяжэй здабыць з прычыны малога тыражу.

3. Смосарев—„Электротехника в военном деле".

4. Ауэрбах—Физика на войне", выданьне 1928 г. У гэтай кніжцы сабрана многа фактаў з галіны вайсковай справы (галоўным чынам, нямецкая тэхніка), аснованых на фізыцы.

5. Козловский—„Артиллерия". У гэтай кніжцы ёсьць усё, што датычыцца артылерыі, прынцыпаў стральбы, знадворнай і ўнутраной балістыкі. Тут можна знайсьці матар'ял для ілюстрацыі.

Такое ўвядзеньне вайсковых элемэнтаў у фізыку адначасова азнаёміць і саміх фізыкаў са ўсёй найноўшай вайсковай тэхнікай і яе дасягненьнямі ў гэтай справе.

# ЛІТАРАТУРА—ЗБРОЯ КЛЯСАВАЙ БАРАЦЬБЫ

Л. Бэндэ

## Да пытаньня аб клясавай дыфэрэнцыяцыі сучаснай беларускай літаратуры[1])

Другі выпуск літаратурнае чытанкі афяраваны выключна пасьлякастрычніцкай літаратуры, асноўным яе плыням і галоўным, найбольш выдатным, найбольш акрэсьленым прадстаўніком—пісьменнікам гэтых плыняў. Пасьлякастрычніцкая беларуская літаратура падзелена ў асноўным на чатыры найбольш акрэсьленыя групы, гэта значыць, на пролетарскую, буржуазна-кулацкую, як процілеглую пролетарскай літаратуры і варожую пролетарыяту, сялянскую, як саюзную пролетарскай літаратуры, і спадарожніцкую. Наяўнасьцю гэтых асноўных плыняў і змаганьнем паміж імі і характарызуюцца разьвіцьцё, рост і сучаснае становішча беларускай літаратуры.

Бясспрэчна, што пролетарская літаратура ў сучасным стане беларускай літаратуры адыгрывае параўнальна галоўную ролю. Бясспрэчна і тое, што літаратура, як навучальны прадмет, выканае сваю выхаваўчую задачу пры тэй умове, калі цэнтрам цяжару пры вывучэньні пасьлякастрычніцкай літаратуры будзе зьяўляцца пролетарская літаратура. Таму ў час распрацоўкі літаратурнага матар'ялу патрэбна асаблівую ўвагу вучняў концэнтраваць на пролетарскай літаратуры.

Разьдзел „Пролетарская літаратура“ пачынаецца творчасьцю Міхася Чарота. Пры прапрацоўцы творчасьці Чарота патрэбна даць вучню элемэнтарнае, пачатковае разуменьне паняцьця „пролетарская літаратура“, каб гэтым даць магчымасьць пры прапрацоўцы іншых пісьменьнікаў гэтага разьдзелу правільна орыентавацца і з кожным крокам наперад узбагачаць паняцьце „пролетарская літаратура“. Пры гэтым жа трэба зрабіць націск на тым факце, што сапраўдным пачынальнікам беларускай пролетарскай літаратуры зьяўляецца М. Чарот.

У выніку прапрацоўкі ўсяго разьдзелу ў вучня павінна скласьціся больш-менш поўнае ўяўленьне як аб зараджэньні, разьвіцьці і росьце, так і аб ролі пролетарскай літаратуры ў клясавай барацьбе рабочае клясы супроць сваіх ворагаў, а таксама і аб стылёвых асаблівасьцях пролетарскай літаратуры. У выніку ўсяго гэтага вучань павінен прыйсьці да разуменьня пролетарскай літаратуры, якая пазнае сьвет з пункту гледжаньня пролетарыяту, якая ўзьдзейнічае на чытача, узбуджае ў ім нянавісьць да клясавых ворагаў пролетарыяту, запальвае энтузыязм на барацьбу супроць клясавых ворагаў пролетарыяту і на выкананьне

---

[1]) Прадмова да літаратурнай хрэстоматы па сучаснай беларускай літаратуры, якая друкуецца БДВ.

задач па пабудове социялістычнага грамадзтва якая дапамагае пролетарыяту перабудоўваць сьвет сваімі спэцыфічнымі сродкамі.

Поруч з вывучэньнем пролетарскай літаратуры патрэбна выкарыстоўваць зьмешчаныя ў чытанцы ўзоры буржуазнай і кулацкай літаратуры, трэба выкарыстоўваць іх толькі ў якасьці ілюстрацыі, параўнаньня і ні ў якім разе не вылучаць ў самастойны разьдзел „Буржуазная і кулацкая плынь у сучаснай беларускай літаратуры“. Гэты разьдзел уведзены ў чытанку не як разьдзел „роўнапраўны“ з іншымі разьдзеламі, а толькі з мэтай параўнаньня і ілюстрацыі, а таксама для доказу таго палажэньня, што клясавая барацьба, якая адбываецца ў краіне, знаходзіць сваё адлюстраваньне і ў літаратуры, што буржуазія і кулацтва выкарыстоўваюць для барацьбы супроць пролетарыяту ня толькі абрэз, „чырвонага пеўня“, буржуазных спэцыялістых, навуку, але і мастацтва, у прыватнасьці, літаратуру, і, нарэшце, што беларусская літаратура не зьяўляецца „адзінай“, як не зьяўляецца адзіным і беларускі народ. Вось з гэтай мэтай і ўведзены ў чытанку ўзоры буржуазнай і кулацкай літаратуры. Найбольш яскравымі ўзорамі буржуазна-кулацкай літаратуры зьяўляюцца творы М. Зарэцкага, У. Дубоўкі і Я. Пушчы, у прыватнасьці, тыя ўрыўкі, якія надрукаваны ў чытанцы. Трэба памятаць, што клясавы вораг ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту прымушаны маскаваць сваю сапраўдную контррэволюцыйную сутнасьць розным „нечым унутраным, прыроджаным“, часамі цяжка зразумелымі містычна-мітычнымі вобразамі, а часамі нават рэволюцыйнымі фразамі.

Калі прыняць пад увагу тое, што клясавы вораг прымушаны апранаць на сябе маску, прымушаны складана завуаляваць сваю рэакцыйную сутнасьць, мы, каб дапамагчы настаўніку сарваць гэтыя маскі і вуалі, паказаць сапраўдную сутнасьць зьместу творчасьці пісьменьнікаў гэтай групы, даем да кожнага твору, да ўрыўку з твору буржуазна-кулацкіх пісьменьнікаў пытальнікі, якія па сутнасьці зьяўляюцца і адказамі.

Гэтыя пытаньні нельга разглядаць як пытаньні ў дапамогу вучню, бо ён іх наўрад ці зразумее, яны зьяўляюцца галоўным чынам установкаю, дапаможнікам настаўніку, які павінен, выходзячы з установкі, распрацаваць свае пытаньні для вучняў, якія былі-б лёгка-зразумелы для іх.

Наступная група пісьменьнікаў ідзе пад назвай „сялянскія пісьменьнікі: С. Баранавых, П. Глебка, В. Каваль, К. Крапіва.

Пры распрацоўцы гэтага разьдзелу трэба добра памятаць, што ня ўсякі, пісьменьнік, які карыстаецца ў сваёй творчасьці вясковай, сялянскай тэматыкай і вобразамі, зьяўляецца сапраўды сялянскім пісьменьнікам. Напрыклад, тыя-ж пісьменьнікі, як Зарэцкі, Дубоўка, Пушча карыстаюцца ў значнай меры сялянскай тэматыкай і сялянскімі вобразамі, але ж творчасьць іх прасякнута варожай пролетарыяту ідэолёгіяй. Асноўнай характарыстыкай пісьменьніка зьяўляецца клясавы зьмест яго творчасьці, социяльная прыстасаванасьць, клясавая мэтанакіраванасьць яго творчасьці, а ні ў якім разе не мастацкія вобразы і тэматыка, якія пісьменьнік можа запазычаць з рознага социяльнага асяродзьдзя.

Пісьменьнік, апісваючы процэсы, якія адбываюцца ў вёсцы, паказваючы ў сваёй творчасьці клясавыя сілы, што змагаюцца паміж сабой, так ці інакш становіцца на бок аднэй якой-небудзь клясы, спачувае ёй, дапамагае ёй сваёй творчасьцю.

Сялянскім пісьменьнікам мы лічым толькі таго пісьменьніка, які ў клясавай барацьбе рашуча і безадмоўна становіцца на бок пролетарыяту і вясковай беднаты, а таксама на бок серадняцкага пласту, які ідзе ў саюзе з пролетарыятам супроць буржуазіі і кулацтва. „Толькі той пісьменьнік зьяўляецца сапраўды сялянскім пісьменьнікам, які сапраўды абараняе інтарэсы пролетарскага і бядняцкага пластоў вёскі, які ўмее адрозьніваць сярод розных, часткова супярэчлівых інтарэсаў сярэдняга сялянства яго асноўныя, рашаючыя інтарэсы, якія зьвязваюць яго (серадняка) з соцыялістычным пролетарыятам, які, змагаючыся супроць кулака-капіталістычнай і дробнабуржуазнай ідэолёгіі, ідзе да пролетарскай ідэолёгіі". (З рэзолюцыі I Усесаюзнага зьезду сялянскіх пісьменьнікаў.).

Вось такі зьмест патрэбна ўкладаць у паняцьце „сялянскі пісьменьнік". Найлепшым узорам, які пацьвердзіць цалкам прыведзенае вышэй разуменьне „сялянскага пісьменьніка", зьяўляецца творчасьць П. Глебкі, С. Баранавых і Б. Каваля. Што датычыцца К. Крапівы, дык яго творчасьць нельга цалкам параўнаць у гэтым контэксьце з творчасьцю, напрыклад, Глебкі. У час распрацоўкі творчасьці К. Крапівы патрэбна зьвярнуць увагу вучняў на хваравітае зьявішча ў Крапівы, на яго паступовы адыход ад балючых, злобадзённых актуальных тэм да тэм вузка-спэцыфічных, ня маючых грамадзкай вартасьці, да тэм далёкіх ад злобадзённасьці. Для прыкладу варта спаслацца на яго апошнія прозаічныя творы і вершаваную сатыру „Хвядос—чырвоны нос". Трэба на конкрэтных прыкладах паказаць вучням, што гэты шлях можа прывесьці Крапіву да спадарожнікаў старога тыпу.

Патрэбна завастрыць увагу вучняў і на стылёвай featureнастайнасьці сялянскай літаратуры, на розных тэмпах асобных пісьменьнікаў у справе набліжэньня іх да пролетарскай ідэолёгіі. Таксама трэба выразна вызначыць агульную тэндэнцыю разьвіцьця сялянскай літаратуры—пераход яе на рэйкі пролетарскай ідэолёгіі.

Да чацьвёртай групы пісьменьнікаў, якімі характарызуецца сучасная беларуская літаратура, да групы, якая ўмоўна названа „спадарожнікі", у чытанцы аднесены Я. Нёманскі і К. Чорны. „Спадарожніцкай" літаратурай па сваёй клясавай сутнасьці зьяўляецца літаратура рэволюцыйнай дробнай буржуазіі, дробнабуржуазнай інтэлігенцыі, літаратура, якая ня вышла з рамак дробнабуржуазнай ідэолёгіі, але прадстаўнікі якой імкнуццаісьці разам з пролетарыятам, паступова ператвараючыся ў яго саюзьнікаў.

Найбольш характэрнай ў гэтых адносінах зьяўляецца творчасьць Я. Нёманскага, у прыватнасьці, надрукаваны ў чытанцы твор „Маці". Што ж датычыцца К. Чорнага, дык некаторыя крытыкі схільны разглядаць яго як кулацкага пісьменьніка, спасылаючыся, у прыватнасьці, на яго творы „Зямля", „Лявон Бушмар" ды іншыя. Аднак, было-б памылкай лічыць К. Чорнага кулацкім пісьменьнікам. Адмаўленьне клясавае дыфэрэнцыяцыі вёскі ў „Зямлі", спачуваньне кулаку ў творы „Лявон Бушмар", капаньне ў „душах" гэрояў іншых сваіх твораў, якраз і характарызуюць прыроду дробнабуржуазнага спадарожніка, які яшчэ ня вызначыў канчаткова свайго шляху. Гэтая рыса, між тым, адрозьнівае К. Чорнага ад Нёманскага, які значна выразьней і бліжэй стаіць да пролетарыяту, чым К. Чорны.

Выходзячы з акрэсьленай вышэй дыфэрэнцыяцыі сучаснай беларускай літа-

ратуры, і патрэбна даць яе вучням, памятаючы пры гэтым асноўную задачу: дапамагчы праз літаратуру выхаваць сапраўдных, сьвядомых будаўнікоў соцыялізму, здольных вынесьці на сваіх плечах усе цяжкасьці барацьбы і будаўніцтва за сусьветны Кастрычнік, за комунізм.

Матар'ял для гэтага выпуску чытанкі падабралі і апрацавалі М. Аляхновіч, Л. Бэндэ, А. Кучар і А. Гародня.

Каштоўныя мэтодычныя парады па ўсім матар'яле другога выпуску чытанкі даваліся тав. Якшэвічам, за што выказваем яму нашу шчырую падзяку.

---

Кобэр і Барысенак

# Невуцтва ці сьвядомае шкодніцтва?

(*Аб праграмах па беларускай літаратуры для II концэнтру вячэрніх школ*)

Шпаркія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, шалёнае супраціўленьне пераможнаму наступу соцыялізму рэшткаў варожых клясаў і груп патрабуюць напружаньня ўсіх сіл будаўнікоў соцыялізму, якія, пры непасрэдным удзеле і пад кіраўніцтвам партыі, будуюць соцыялістычную грамаду. Клясавы вораг змагаецца на ўсіх вучастках фронту: супроць індустрыялізацыі краіны, супроць колектывізацыі вёскі, у галіне ідэолёгіі пропагандуе варожыя пролетарыяту буржуазныя і дробнабуржуазныя ідэі, і таму з вялікай настойлівасьцю і ўпартасьцю партыя вядзе барацьбу за чыстату марксысцка-ленінскай тэорыі, за падпарадкаваньне розных вучасткаў тэорытычнага фронту задачам соцыялістычнага будаўніцтва, бо тэорыя, калі яна аўладае масамі, становіцца вялізарнай сілай. Ужо ня раз констатавалася партыяй, што розныя вучасткі ідэолёгічнага фронту (філёзофія, політэкономія, распрацоўка аграрнага пытаньня і інш.) адстаюць ад задач, якія высоўвае перад імі рэконструкцыйны пэрыод. Асабліва гэтае адставаньне датычыцца літаратуразнаўства, дзе яшчэ ня зьнішчаны ўплыў варожых марксызму-ленінізму тэорый вароншчыны, пераверзеўшчыны, якія больш-менш замаскаваны пад марксызм, і адкрыта ідэалістычныя і эклектычныя тэорыі, як формалізм і іншыя.

Калі гэтак стаіць справа, так сказаць, на вышынях тэорыі, дзе ўсё-ж такі хоць недастаткова, але вядзецца барацьба з варожай ідэолёгіяй, то справай школьнага выкладаньня літаратуры амаль ніхто з так званых выдатных тэорэтыкаў ня цікавіцца. Тут шырокае поле дзейнасьці для клясавага ворага, ён тут амаль ніякага адпору не сустракае. Невялікая частка варожага нам настаўніцтва спакойна праводзіць сваю шкодніцкую працу, пропагандуе пры выкладаньні літаратуры варожыя пролетарыяту ідэі. Пераважная большасьць настаўніцтва, якое хоча паставіць выкладаньне літаратуры на службу соцыялістычнаму будаўніцтву, толькі чуе (а часам і ня чуе) далёкія водгукі барацьбы на літаратурным фронце і часта ня ведае, на каго орыентавацца. Ніхто не інформуе настаўніцтва (асабліва вясковае) аб выніках гэтае барацьбы, ніхто не высьвятляе перад настаўніцтвам тых задач, якія ставіць перад выкладаньнем літаратуры сучасны рэконструкцыйны пэрыод. Ня кажучы ўжо аб тым, што ў нас па беларускай літаратуры няма да гэтага часу ніводнага марксысцкага падручніка і выпушчана вельмі мала крытычных артыкулаў літаратуразнаўцаў-марксыстых, нават програмы па літаратуры, якія выдаюцца Наркомасьветы, не даюць правільнай установкі выкладчыку. Гэта адносіцца да ўсіх програм па літаратуры мінулых гадоў. У гэтым годзе асабліва яскравым прыкладам „недагляду" Наркомасьветы зьяўляецца програма па беларускай літаратуры для вячэрніх школ другога концэнтру.

У гэтай програме яскрава выяўлена варожая нацыянал-дэмократычная ўстаноўка аўтара програмы, які разглядае беларускую літаратуру, як адзіную нацыянальную літаратуру ад „Тараса на Парнасе“ да твораў Александровіча і Чарота. Проста дзіўна, што на трынаццатым годзе рэволюцыі настаўнікам даюцца яўна варожыя програмы, яшчэ больш дзіўна тое, што ў Наркомасьветы такім програмам ня толькі не даюць адпору, а... зацьвярджаюць... (па даведцы т. Шашкова, програма ўзгоднена з намесьнікам старшыні мэтодкому т. Ашаравым, які не знайшоў у ёй „нічога страшнага“).

У програме, як і ў „добрых“ старых падручніках, літаратура падзелена на эпохі, нават ёсьць такія загалоўкі, як „стыль эпохі“ (таксама ня новыя), але цікава запытацца ў аўтара програмы, ці вядома яму, што з таго часу, як пачалася гісторыя грамадзтва, у кожную эпоху існавалі і існуюць клясы, што клясы ня жывуць мірна, як гэта паказана ў програме, а вядуць паміж сабой бязьлітасную клясавую барацьбу, і літаратура зьяўляецца далёка не апошнім сродкам у гэтай барацьбе. Мы чуем сярдзіты адказ: „Ня тлумачце мне, што карова есьць сена, усё гэта добра вядома ня толькі настаўнікам, а нават і піонэрам“. Мы прымушаны цалкам згадзіцца з такім адказам, і таму прыходзіцца рабіць вывад, што аўтар зусім сьвядома стаіць на варожым пролетарыяту пункце гледжаньня, імкнецца шкодзіць нам сваёй програмай і сваёй настаўніцкай дзейнасьцю. Выбірайце, паважаны аўтар, паміж дзіцячай несьвядомасьцю ці сьвядомым шкодніцтвам—трэцяга вываду няма.

Выяўленыя ў програме погляды на беларускую літаратуру, як на агульнанацыянальную, бясклясавую, цалкам вынікаюць з поглядаў нацыянал-дэмократаў на беларускі народ, у якім, на іх думку, не існавала і ня існуе клясаў. Адзіны народ—і таму адзіная літаратура. Так беларуская буржуазія (і ня толькі беларуская) і кулацтва маскаваліся раней (у часы „Нашае Нівы“), так зараз яны імкнуцца маскавацца за мяжой, такую лінію праводзяць і „нашы“ сучасныя нацыянал-дэмократы. Але ў нас адкрыта пропагандаваць такія погляды небясьпечна, за гэта органы пролетарскае дыктатуры пагладзяць проціў шэрсьці, і таму нац.-дэмократы робяць сваю справу асьцярожна, каб не сарвацца. У разглядаемай програме аўтар ні слова не гаворыць аб задачах, якія стаяць перад выкладчыкам літаратуры, бо даць тлумачэньне да такой програмы—гэта значыць выдаць сябе з галавой. Аўтар пры разьмеркаваньні матар'ялу імкнецца да таго, каб выкладчык сам „здагадаўся“ (свой сваіх пазнае), чаго ад яго патрабуюць.

Програма для другога курсу мае такі загаловак: „Беларуская літаратура XIX стагодзьдзя“, потым падзагаловак—„Стыль эпохі прыгоннае гаспадаркі“. Далей ідзе пералічэньне твораў і пісьменьнікаў: „Энэіда навыварат“, „Тарас на Парнасе“, пісьменьнікі: Баршчэўскі, Рыпінскі, Чачот, Дунін-Марцінкевіч. Як бачыце, усе пералічаныя пісьменьнікі зьяўляюцца выказьнікамі ідэй і настрояў беларускай шляхты. Клясавая накіраванасьць іншых пісьменьнікаў выяўлена з усёй яскравасьцю. Адны „вучаць“ селяніна больш працаваць і менш гуляць, другія імкнуцца пераканаць яго, што паны—добрыя людзі, яны, як бацькі, непакояцца аб становішчы сялян, а калі часам хто і прыгнятае сялян, дык гэта ж не паны, а падпанкі...

Чаму-ж ня сказана ў програме, што гэта ня проста бясклясавы „стыль эпохі прыгоннае гаспадаркі“, а стыль беларускае шляхты часоў прыгону? Таму, што, па думцы нацыянал-дэмократаў, беларускае шляхты ніколі не існавала. Беларускі народ, бачыце, быў і ёсьць заўсёды адзіны, і таму гэта не шляхецкая літаратура, а проста „беларуская літаратура XIX стагодзьдзя“.

У другім разьдзеле да творчасьці Дуніна-Марцінкевіча дадаецца творчасьць Багушэвіча. На першым месцы стаіць яго прадмова, дзе, як вядома, найбольш поўна і яскрава выяўлены нацыяналістычныя погляды пісьменьніка. Вось на гэтых і падобных творах і патрэбна, на думку аўтара, „выхоўваць“ вучняў у напрамку, карысным для нацыянал-дэмократаў.

Літаратура эпохі 1905 году, эпохі крывавай барацьбы з самаўладзтвам таксама адзіная: тут і пісьменьнік беларускае буржуазіі Багдановіч і такія, як Алесь Гарун, Каганец і пісьменьнікі, якія ў той час выяўлялі рэволюцыйныя настроі сялянства, пастаўлены ў адных дужках. Шкодніцкая ўстаноўка аўтара програмы выяўлена з ўсёй відавочнасьцю і агіднасьцю. Ні ў водным разьдзеле не знайсьці ніводнага слова аб клясавасьці літаратуры, аб яе ролі і месцы ў клясавай барацьбе, усюды „бясклясавасьць“, „об'ектыўнасьць“, мэтавая ўстаноўка якой зводзіцца да таго, каб выкладаньне літаратуры было карысным для варожых пролетарыяту клясаў і груп.

Можа, хоць на сучасную літаратуру погляд аўтара програм зьменены, бо цяжка паверыць, каб аўтару ня была вядома сучасная барацьба з варожымі пролетарыяту плынямі ў літаратуры і паасобнымі пісьменьнікамі? Дарэмная надзея! Наступны разьдзел мае такі загаловак: „Беларуская літаратура XX стагодзьдзя“. (Раней хоць у загалоўку ўпаміналася рэволюцыя 1905 г., Кастрычніцкая-ж рэволюцыя даволі прыкрая зьява для нацыянал-дэмократа, і таму аб ёй лепш прамаўчаць). Пад гэтым загалоўкам „мірна“ ўжываюцца сучасныя літаратурныя пісьменьнікі: у адну шарэнгу пастаўлены Александровіч, Чарот, Дубоўка, Пушча, Зарэцкі і інш. Ні слова аб клясавым твары літаратурных аб'яднаньняў, ні гуку аб клясавай прыродзе паасобных пісьменьнікаў.

Усе яны, бачыце, сыны адзінага беларускага народу...

Так стаіць справа з програмай для другога году. Можа, у програме для першага году навучаньня ўсё зроблена наадварот? Паглядзім.

У першым годзе літаратура праходзіцца тэматычна, і таму, перш за ўсё патрэбна зьвярнуць увагу на тэмы. Іх можна падзяліць на дзьве групы. Першая група—тэмы, якія на першы погляд могуць здавацца анэкдотычнымі, напр., „Горад і вёска ў мастацкай літаратуры“. (Занадта шырока—чаму ўжо „ня неба і зямля ў мастацкай літаратуры“?). Тэма як-бы наіўная. Пад гэтай тэмай групуюцца творы Александровіча, Гартнага, Коласа, Бядулі, Гольдбэрга і толькі. Тэма такога парадку настолькі шырокая, што да яе адносяцца ўсе творы, зьмешчаныя ў програме, бо за які твор ні вазьміся, то абавязкова дзеяньне адбываецца або ў горадзе, або ў вёсцы.

Чаму-ж толькі творы вышэйпералічаных пісьменьнікаў папалі пад гэту тэму, невядома, гэта сакрэт аўтара. Горад або вёска разумеецца аўтарам адцягнена, без усялякага конкрэтнага зьместу. Няма ніводнай заўвагі, які горад, якога часу. А адсюль мы маем наступны малюнак: выкладчык літаратуры па рэцэпту аўтара програм павінен будзе скакаць з гораду ў горад, з „новага Менску“ ў „Слуцак“, з „Слуцку“ ў „сучасны Бэрлін“ і закончыць сваё вандраваньне падарожжам у Вільню. Горад савецкай краіны, што будуе соцыялізм, буржуазны Бэрлін мяшаюцца ў адну кучу, усе гарады групуюцца без усялякай сыстэмы, без усялякае мэты, незалежна ад клясаў, якія жывуць у гэтых гарадох, і адносін да гэтых клясаў пісьменьніка, выяўленых у вобразах мастацкага твору. Матар'ял групуецца без устаноўкі на клясавасьць мастака.

Ня меншай анэкдотычнасьцю вызначаецца і другая тэма: „Праца ў літаратурна-мастацкіх творах“. Якога характару праца? Чыя праца? Аб гэтым ні слова, але агульнай гэта тэма здаецца на першы погляд. Сапраўды націск робіцца на конкрэтным відзе працы дробнага ўласьніка. У творах, аб'яднаных гэтай тэмай, вы знойдзеце замалёўку працы каваля, гарбара, селяніна на сваёй уласнай гаспадарцы і г. д., але зусім ня знойдзеце твораў пролетарскіх пісьменьнікаў, у якіх замалёвана праца рабочых, што будуюць соцыялізм, і сялян-колгасьнікаў. На якіх падставах робіцца націск у програме на паказе працы рамесьніка ў сваёй майстэрні, селяніна на сваёй гаспадарцы? Тут яскрава выяўляецца ідэалізацыя індывідуальнай працы на грунце дробнай уласнасьці, замест пропаганды колектыўных, соцыялістычных форм працы. Што гэта за тэндэнцыя? Ці ня відаць тут устаноўкі на „самабытнасьць“ нашае краіны? Бязумоўна, так.

Для паўнаты тэм такога парадку падамо яшчэ адзін прыклад: „Абрысоўка быту ў літаратурна-мастацкіх творах“. І тут, як і ў першых тэмах, быт—агульнае паняцьце, адарванае ад практыкі грамадзкага чалавека. Аўтар праграм пашырае погляд, што пісьменьнік, незалежна ад таго, да якое клясы і эпохі ён належыць, калі бярэцца пісаць пра быт свае ці чужое клясы, апісвае яго па якіхсьці сталых, непарушных правілах, якія абавязковы для ўсіх пісьменьнікаў; пры гэтым ён замалёўвае быт бесстаронна, об'ектыўна. Для нас аналіз бытавых замалёвак каштоўны тым, што мы па бытавых малюнках, як і па іншых компонэнтах твору, ускрываем соцыяльную прыроду пісьменьніка, бачым і ў малюнках быту агульную ідэолёгічную накіраванасьць творчасьці. Быт дзеля быту, як і праца дзеля працы, ня можа цікавіць ні вучняў, ні выкладчыка, за выключэньнем аўтара гэтай праграмы.

Калі ад адцягненага паняцьця „быт“, якое зьяўляецца дымавой заслонай, перайсьці да конкрэтнага матар'ялу, то ўбачым поўнае падабенства з папярэдняй тэмай. Там пад агульным паняцьцем „праца“ ідэалізуюцца адсталыя формы працы, тут пад дымавой заслонай „быт“ пропангадуецца дробнабуржуазны бытавы ўклад. У гэтым разьдзеле праграмы вы ня знойдзеце, ніводнага твору, у якім новы быт замалёўваўся-б з пролетарскага пункту гледжаньня.

Ёсьць тэмы і другога парадку. Літаратурна-мастацкі матар'ял, аб'яднаны гэтымі тэмамі, павінен ілюстраваць рэволюцыйна-палітычныя падзеі, якія адбываліся на Беларусі. Згодзімся на хвілінку з аўтарам, што задача літаратуры зводзіцца выключна да ілюстрацыі, і паглядзім, якая ілюстрацыя яму падабаецца. Тэмы: „Нацыянальна-клясавы ўціск на Беларусі“, „Рэволюцыя 1905 г. у літаратурна-мастацкіх творах“ ілюструюцца ў пераважнай большасьці творамі Багушэвіча, Купалы, Коласа, Цёткі, Бядулі. Твораў пролетарскіх пісьменьнікаў да гэтых тэм пастаўлена толькі два. Як бачыце, калі ставіцца пытаньне аб ілюстрацыйным матар'яле да тэм рэволюцыйнай барацьбы, то творы сучасных пролетарскіх мастакоў слова амаль ігноруюцца, ня ставяцца ў праграму. Такім чынам, нават і тады, калі прыняць памылковы погляд на літаратуру, як на выключна пасыўна-ілюстрацыйны матар'ял, дык і з гэтага пункту гледжаньня згрупаваныя навокал тэм творы ў пераважнай большасьці зьяўляюцца кепскай ілюстрацыяй.

Разгляд тэм на гэтым патрэбна і скончыць, об'ектыўны сэнс іх наступны: роля літаратуры зводзіцца да самага прымітыўнага віду ілюстрацыі, гэтым самым адмаўляецца палажэньне марксысцкае мэтодолёгіі, што літаратура зьяўляецца адным з відаў клясавай ідэолёгіі, змазваецца роля літаратуры, як магутнага сродку клясавай барацьбы, як сродку організацыі клясавай сьвядомасьці, як фактару ператварэньня соцыяльнай рачаіснасьці. Ухіленьне ад клясавай дыфэрэнцыяцыі пісьменьнікаў спрыяе прышчапленьню вучням наіўна-рэалістычнага погляду на літаратуру, вучням убіваецца ў галаву скажонае, рэвізіоністкае разуменьне асноўнага прынцыпу марксысцкае мэтодолёгіі ў дачыненьні да суб'екту і об'екту. Пісьменьнік суб'ект як-бы стаіць над об'ектам. Ён аглядае навакольны сьвет і малюе стан розных клясаў ня з пункту гледжаньня пэўнае клясы, а „об'ектыўна“, так, як адбывалася на самай справе. Аўтару невядома, або ён сьвядома замазвае тое, што пісьменьнік дае малюнкі рачаіснасьці не об'ектыўна, а з пункту гледжаньня пэўнай клясы. Пісьменьнікі розных клясаў аб аднэй і тэй жа зьяве будуць гаварыць па-рознаму, розныя думкі і настроі выклікаюць у іх адны і тыя ж факты. Зразумела, гэта ня значыць, што малюнкі, дадзеныя ў творы, зусім не адпавядаюць рачаіснасьці, але гэта гаворыць за тое, што ступень гэтае адпаведнасьці будзе залежаць ад таго, да якое клясы належыць пісьменьнік—перадавое ці ўпадніцкае. У наш час пролетарскі пісьменьнік, узброены марксысцка-ленінскай ідэолёгіяй, найбольш правільна ўсьведамляе рачаіснасьць, бо суб'ектыўныя імкненьні пролетарыяту супадаюць з об'ектыўным ходам гісторыі. Наадварот, ступень

разыходжаньня паміж рачаіснасьцю і яе ўсьведамленьнем пісьменьнікамі ўпадніцкіх клясаў найбольш вялікая, бо ідэолёгія клясаў, што выходзяць з гістарычнай сцэны, ня толькі не дапамагае правільнаму ўсьведамленьню рачаіснасьці, а і перашкаджае яму.

Узяўшы літаратуру за „об'ектыўна" ілюстрацыйны матар'ял, аўтар програмы орыентуе выкладчыкаў на нацыянал-дэмократычную трактоўку нацыянальнай проблемы, адмаўляе кіруючую ролю пролетарыяту ў барацьбе за соцыялізм, скажае правільнае разуменьне гісторычнага процэсу.

У заключэньне трэба сказаць пару слоў аб падручніках, якія раяцца аўтарам програмы. Амаль усе падручнікі і артыкулы, у якіх часьцей адкрыта і зрэдку замаскавана пропагандуюцца нацыянал-дэмократычныя погляды на беларускую літаратуру, раяцца ў дапамогу выкладчыкам і вучням. На першым месцы стаіць кніжка Дзяржынскага, потым Гарэцкага, літаратурна-крытычныя зборнікі пра творчасьць Коласа, Купалы і інш. Для вывучэньня „тэорыі літаратуры" раяцца кніжкі эклектыка Русанава, формалістага Тамашэўскага, эклектыка Барычэўскага. Аб артыкулах літаратуразнаўцаў-марксыстых, па думцы аўтара, не павінны ведаць ні выкладчыкі, ні вучні. Толькі, як няўхільнае для нацыянал-дэмократа зло, паміж гэтым зборам шкодных падручнікаў пастаўлены артыкул Сталевіча, брошуры т.т. Сяньковіча і Некрашэвіча. Чаму мы кажам, што гэтыя брошуры пастаўлены ў програме як нямінучае зло? Таму, што пры складаньні програмы аўтар не кіраваўся і не прыстасоўваў поглядаў гэтых таварышоў да літаратуры, ня раіць ён гэтага зрабіць і выкладчыкам.

Якія-ж вывады вынікаюць з разглядаемага намі факту? Нашы ворагі, дарэмна спадзяюцца, што іх захады для выхаваньня маладога пакаленьня рэволюцыі ў варожым пролетарыяту напрамку ня будуць выкрыты і па заслугах ацэнены партыйнай і савецкай грамадзкасьцю, настаўніцтвам, якое сумленна працуе на карысьць пролетарскай рэволюцыі.

Разгледжаная програма павінна быць зараз жа забаронена. Наркомасьветы, рэдакцыя нашай часопісі, пролетарскія пісьменьніцкія організацыі павінны прыняць усе захады да таго, каб настаўніцтва ведала аб дасягненьнях сучаснага марксысцкага літаратуразнаўства і ў сваёй школьнай практыцы кіравалася гэтымі дасягненьнямі. Выкладаньне літаратуры патрэбна падпарадкаваць палітычным задачам рабочае клясы. Лёзунг партыі аб консолідацыі комуністычных сіл на літаратурным фронце трэба з усёй рашучасьцю праводзіць у жыцьцё. Усе літаратуразнаўцы і крытыкі, якія здольны працаваць на аснове марксысцкаленінскай тэорыі, павінны аб'яднацца для распрацоўкі пытаньняў марксысцкае тэорыі ў літаратуры, крытыкі і практыкі школьнага выкладаньня, для рашучага адпору клясаваму ворагу на літаратурным фронце.

**Ад рэдакцыі.**

Артыкул т.т. Кобэра і Барысенка напісаны па даручэньню рэдакцыі часопісі „Комуністычнае выхаваньне". Згаджаючыся з крытыкаю програмы, рэдакцыя патрабуе, каб кіраўніцтва Наркомасьветы зацікавілася програмнымі справамі Галоўмэтодкому, бо паказаныя факты зьяўляюцца не адзіночнымі.

# МАСТАЦТВА—НА СЛУЖБУ СОЦБУДАЎНІЦТВА

**І. Гурскі**

## Мастацтва ў пераходны пэрыод

Роля мастацтва ў пераходны пэрыод надзвычайна вялікая. Мастацтва ў руках пролетарыяту павінна быць вострай зброяй клясавай барацьбы, магутнай зброяй у справе разьвіцьця новых форм культуры, культуры „нацыянальнай па форме і социялістычнай па свайму зьместу", комуністычнага выхаваньня, агітацыі і організацыі шырокіх мас навакол соцыялістычнага будаўніцтва. Мастацтва павінна заражаць патосам вялікай будоўлі, падрыхтоўваць новыя пакаленьні да канчатковай перамогі—комунізму.

На вялікі жаль, яшчэ і на сёньняшні дзень ёсьць недаацэнка мастацтва, якое павінна быць найважнейшым вучасткам культурнай рэволюцыі. У выніку гэтага мы мелі тое, што на працягу раду год кіраўніцтва беларускімі тэатрамі было ў руках махровых контррэволюцыянэраў—нацдэмократаў, якія выкарыстоўвалі мастацтва, як сродак для распаўсюджваньня праз яго (мастацтва) буржуазнага і дробнабуржуазнага, нацыяналдэмократычнага і шовіністычнага ўплыву на масы. Такія пастаноўкі, як: „Апраметная", „Крывая аблона", „Эрос і Псыхэя", „Вір" ды шмат іншых з усёй яскравасьцю кажуць нам аб гэтым.

Рашучы пералом у рабоце нашых тэатраў адбыўся пасьля тэатдыскусіі 1928 году. Дакуманты партыі па гэтым пытаньні, якія былі надрукаваны ў свой час у нашай прэсе, знайшлі сваё праламленьне ў рабоце: тэатры паступова становяцца на шлях дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву.

Вельмі і вельмі дрэнна ў нас у БССР стаіць справа з разгортваньнем самадзейнага мастацтва; самадзейнае мастацтва разглядалася, як нешта другараднае. Неабходна ў гэтым напрамку зрабіць рашучы пералом. Галоўмастацтва мяркуе ў пачатку будучага году пачаць выданьне часопісі „Самадзейнае мастацтва", організацыю першай Усебеларускай олімпіяды па самадзейнаму мастацтву, перападрыхтоўку кіраўнікоў драмгурткоў, музхоргурткоў і цэлы шэраг іншых мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць разгортваньню гэтае галіны работы.

Надзвычайна востра ў нас стаіць пытаньне адносна рэпэртуару як для нашых профэсіянальных тэатраў, так і для самадзейных гурткоў і асабліва для клубнае сцэны. На сёньняшні дзень няма ніводнай беларускай п'есы для клюбных драмгурткоў і вельмі мала для вясковых. Стварэньне рэпэртуару, які-б адпавядаў задачам рэконструкцыйнага пэрыоду, рэч вельмі адказная. Неабходна прыняць цэлы шэраг мер з тым, каб мець гэты рэпэртуар. Мы бярэм і будзем браць лепшыя ўзоры пролетарскай драматургіі іншых народаў, але ж трэба ствараць і свой орыгінальны спэктакль, спэктакль, які-б організоўваў гледача

навокал соцыялістычнага будаўніцтва, спэктакль, соцыяльная значымасьць якога была-б на першым месцы. Наладжаныя раней конкурсы на напісаньне п‘есы часткова сябе апраўдалі, трэба будзе і надалей іх практыкаваць. Тэатр павінен згрупаваць навокал сябе ўсіх тых, хто цалкам аддаў сябе на службу будуючагася соцыялізму, дапамагаючы ім у стварэньні орыгінальнае патрэбнае пролетарыяту п‘есы. Тэатр павінен заняцца выяўленьнем талентаў у рабочай масе, згрупоўваючы навокал сябе тэатррабкораў, якія дапамогуць стварэньню беларускай пролетарскай драматургіі, дапамогуць тэатру ў вырашэньні рэпэртуарнага голаду, гэтым дапамогуць яму стаць сапраўды рэволюцыйным тэатрам.

Тэатр наш, ня кажучы ўжо аб кіраўнікох самадзейных гурткоў, літаральна затыхаецца з-за недахопу адпаведных кадраў. Папаўненьне акторамі ідзе выключна за лік выявіўшых сябе ў аматарскіх гуртках, гэта ў сваёй большасьці комсамольцы, якія ўносяць жывы струмень у работу нашых тэатраў, але гэты склад з-за непадрыхтаванасьці не дае мажлівасьці ісьці наперад тэатру, як тэатру высокае культуры. Пытаньне кадраў у галіне мастацтва стаіць вельмі востра. Ня гледзячы на ўсё гэта Тэхнікум сцэнічнага мастацтва, які павінен быў падрыхтаваць неабходныя пролетарскія кадры, ужо другі год выкрэсьліваецца з каштарысу. Недаацэнка мастацтва тут зусім відавочна. Нікому не сакрэт, што контррэволюцыянэры, нацыянал-дэмократы і іх падсобнікі нацыянал-апартуністыя сваю шкодную, варожую пролетарскай дыктатуры работу ў галіне мастацтва вялі ўвесь час. Вось чаму ў нас так дрэнна стаіць справа з пролетарскімі кадрамі для нашых тэатраў. Тут патрэбен самы рашучы пералом, іначай мы застанемся бяз кадраў, без чаго немагчымы будзе росквіт беларускага пролетарскага мастацтва. Барацьба за кадры ў мастацтве ёсьць барацьба за пролетарскае мастацтва.

Трамаўскі рух, які шырока разгарнуўся па ўсім СССР, які цалкам сябе апраўдаў, аб чым мы маглі пераканацца па пастаноўках Ленінградзкага ТРАМ‘у („Плавяцца дні“, „Цаліна“, „Дружная горка“ і інш.), гэта новы тып таго будучага соцыялістычнага тэатру, да якога-мы імкнемся, які павінен замяніць стары традыцыйны тэатр. Трамаўскі рух у нас у БССР разгортваўся пры поўнай пасыўнасьці і без дапамогі з боку былога кіраўніцтва НКА, а таксама і з боку рэакцыйнай часткі акторскага складу профэсійнага тэатру. Толькі ў гэтым годзе проектуецца некаторая субсыдыя гэтым тэатрам, але і яна выкрэсьлена работнікамі НКФіна. Трэба сказаць, што апошнія дайшлі да таго, што без НКА разглядаюць такое пытаньне, як разгортваньне мастацтва. Знайшліся нават такія працаўнікі з НКФіна, якія зьменшылі асыгнаваньні ў галіне мастацтва супроць 1929-30 году. Усё гэта з усёй яскравасьцю паказвае на недаацэнку мастацтва, як зброі пролетарскае рэволюцыі, на неразуменьне тых задач, якія стаяць перад мастацтвам, як сродкам перавыхаваньня, пераробкі чалавечага матар‘ялу.

Нашы тэатры, а таксама кіно яшчэ і да гэтага часу поўнасьцю не перабудавалі сваю работу ў адпаведнасьці з тымі задачамі, якія стаяць перад намі ў рэконструкцыйны пэрыод па забясьпечанасьці выкананьня промфінпляну, барацьбы з прагуламі, лятунствам, рвацтвам, хуліганствам, антысэмітызмам, рабскімі адносінамі да працы і інш. Яшчэ і да гэтага часу ня ўжываюцца мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва па культурным абслугоўваньні мас. Асабліва ў

гэтым напрамку адстаюць работнікі выяўленчага мастацтва і музыкі. Значна лепш стаіць справа з літаратарамі; апошнія, асабліва Бел. АПП, разгортваюць сваю работу значна хутчэй, чымся іншыя (мастакі, кампозытары), працуючыя на фронце культуры. Праўда, у літаратараў больш-менш лепшыя ўмовы, чымся ў іншых, у іх ёсьць свой Дом пісьменьніка, праз які можна праводзіць работу ў гэтым напрамку. У далейшым неабходна рэорганізаваць Дом пісьменьніка ў Дом літаратуры і мастацтва. „Літаратурная газэта“, пробныя нумары якой выйдуць у хуткім часе, павінна стаць баявым органам па перабудове ўсёй работы ў галіне літаратуры і мастацтва, па культурным абслугоўваньні мас, па выкананьні пяцігодкі за чатыры гады.

Такім чынам, роля мастацтва ў пераходны пэрыод і асабліва на даным этапе, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, рашучага выкарчоўваньня рэшткаў капіталізму і ліквідацыі кулацтва як клясы, на падставе суцэльнай колектывізацыі, надзвычайна вялікая. Праз літаратуру, мастацтва трэба павесьці барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з актывізуючымся контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам розных колераў. Літаратура і мастацтва—на барацьбу з усякага роду ўхіламі ад генэральнай лініі партыі. Пісьменьнікі, мастакі, драматургі, музыкі—на службу соцыялістычнаму будаўніцтву. Прасоўвайце „мастацтва ў масы“, ажыцьцяўляйце лёзунг: „масы ў мастацтва“. Пры разгорнутым правядзеньні культурнай рэволюцыі больш увагі мастацтву.

Міх. Марусык

## Становішча масавага самадзейнага мастацтва на Ўкраіне

Рэдакцыя Харкаўскай часопісі „Сильский Театр“ (часопісь масавай мастацкай работы на вёсцы) правяла ўлетку 1930 году абсьледваньне работы вясковых драмгурткоў за мінулы 1929 год. Было разаслана 200 анкет, па 5 на кожную акругу. У анкеце 10 запытаньняў: пра склад драмгуртка, якія п'есы ставіліся, колькі было эстрадных і канцэртных вечароў, колькі і каго абслугоўвалі, ці выяжджалі драмгурткі з пастаноўкамі ў суседнія вёскі, колькі экзэмпляраў часопісі выпісваецца, дзе дастаюць п'есы, ці акуратна дастаўляе пошта часопісь, і ці задавальняе яна патрэбы драмгурткоў.

Пакуль што яшчэ ня ўсе гурткі вярнулі анкеты. Рэдакцыя мае толькі 22 адказы з 15 акруг. Аднак, вынікі і падрахункі гэтых 22 адказаў даюць ужо досыць цікавы і прыблізна правільны малюнак аб становішчы і рабоце драмгурткоў на Ўкраіне. Ясна, магчымы былі-б сякія такія зьмены, павялічэньне ці зьмяншэньне колькасьці гледачоў за год, пастаўленых п'ес, складу драмгурткоў, калі-б рэдакцыя атрымала ўсе 200 анкет. Таксама яшчэ больш цікавамі былі-б вынікі анкет, калі-б іх разаслалі ўсім драмгурткам Украіны. Думаем, што такое абсьледваньне з цягам часу будзе праведзена, бо даўно пара мець яснае ўяўленьне, што робяць, у якім становішчы знаходзяцца вясковыя драмгурткі на Ўкраіне.

Заўважым толькі чытачом, што такая работа—абсьледваньне драмгурткоў—ёсьць вельмі складаная работа. Папершае, нельга дакладна вызначыць колькасьць драмгурткоў. Паводле вестак Цэнтральнай статыстычнай управы УССР на 1 студзеня 1927 г. на Ўкраіне было: сельсаветаў—3430, хат-чытальняў—6225, клюбаў—1058, сямігодак на вёсцы—1200 і, апрача таго, профшкол і тэхнікумаў 664, а ўсяго—12577 устаноў, пры якіх

ёсьць драмгурткі (можа, ня ўсюды, але, напэўна, пры 80 проц. яны ёсьць). Выходзіць, што ў 1926 годзе на Украіне было ня менш 10000 драмгурткоў. Рэдакцыя часопісі „С. Т.“ зрабіла абсьледваньне некаторых акруг па выбару. Прыслалі адказы 4 акругі: Крыварыская, Шэпецілаўская, Марыупальская, Шаўчэнкаўская. У 1929 годзе ў іх было драмгурткоў: пры сельсаветах і хатах-чытальнях—775, пры рабочых клюбах—251, пры школах—718, а ўсяго—1793, што дае прыблізную сярэднюю колькасьць на акругу 440-450 драмгурткоў. Праўда, былі на краіне акругі слабейшыя, напрыклад, Старабеліцкая, некаторыя на Чарнігаўшчыне, але былі і значна мацнейшыя (Палтаўская, Кіеўская, Днепрапятроўская), таму гэтыя весткі можна ўзяць за сярэднія. Дык вось і выйдзе, што ў 1929 г. на Украіне было пры сельсаветах і хатах-чытальнях да 8000 драмгурткоў, пры сельскіх школах—да 6000 і пры рабочых клюбах—да 2000, а ўсяго было гурткоў каля 16000.

Гэты лік ні ў якай меры не перабольшаны, наадварот, мы маем усе доказы за тое, што сапраўды драмгурткоў значна болей. Мерапрыемствы ўраду аб увядзеньні ўсеагульнага абавязковага навучаньня на многа павялічылі лік школ, а існаваўшыя ў 1926-27 г. 4-5-6-гадовыя школы ў процэсе свайго разьвіцьця ператварыліся ў поўныя сямігодкі, пры якіх шмат дзе ёсьць драмгурткі. Апрача таго, работа Наркомасьветы спрыяла ўзмацненьню работы сельсаветаў і хат-чытальняў. У карысьць гэтага гаворыць ужо адзін той факт, што часопісь „С. Т.“, якая выпісваецца драмгурткамі, з 4 тысяч у 1928 г. вырасла да 6 тысяч у 1930 г., выданьні п'ес для вёскі тыражом у 5-7 тыс. экзэмпляраў вельмі скора распрадаюцца, з вёсак шлюць усё новыя і новыя запатрабаваньні на п'есы. Пьеса М. Куліша „97“ мела некалькі выданьняў, кожнае ў 10 тыс. экзэмпляраў, і ўсёроўна ў кнігарнях гэтую п'есу цяжка набыць. Тое-ж самае і з лепшымі п'есамі іншых аўтараў. Большасьць драмгурткоў купляе 1-2 экз. цікавых п'ес, дык нават з гэтага мы бачым, што на Украіне драмгурткоў ёсьць у кожным разе блізка каля 16-18 тысяч.

Варта крыху забегчы наперад і спыніцца на падліку работы драмгурткоў па ўсёй Украіне, выходзячы з гэтых сярэдніх даных.

Як далей убачыць чытач, кожны драмгурток за мінулы год зрабіў 21 пастаноўку, значыцца, па ўсёй Украіне было каля 500000 пастановак у 1927 годзе. Гэтыя ж весткі сьведчаць, што ў сярэднім за год гурток абслугоўваў па 140 гледачоў кожнаю пастаноўкаю, усяго да 5 тысяч гледачоў за год, а па ўсёй Украіне было абслужана за 1929 г. усімі драмгурткамі каля 70 мільёнаў гледачоў.

Работа вялізарная—паўмільёна пастановак, 70 мільёнаў гледачоў, паўмільёна актыву рабочых і сялян аб'яднана ў драмгурткі.

Вернемся цяпер да вестак анкет.

1. Што да складу драмгурткоў, дык гэтыя анкеты даюць такі малюнак: у 20 драмгуртках ёсьць 683 члены, у сярэднім выходзіць па 34 чалавекі, ёсьць драмгурткі па 64 чалавекі, але маем і па 12 асоб. Мужчыны ўсюды займаюць значнае месца (67 проц.), хоць выявілася, што ў трох гуртках дзяўчат больш, чым хлопцаў.

Комсамольцаў і членаў партыі няма толькі ў 2 драмгуртках. Найбольш комсамольцаў і членаў партыі ў Златароскім драмгуртку (Арцёмаўская акруга), дзе на 36 чалавек партыйцаў і комсамольцаў 25, найменш у вёсцы Новая Сіняўка, дзе ёсьць толькі 3 комсамольцы на 17 членаў драмгуртка.

Значна зьмяніўся малюнак складу драмгурткоў, у параўнаньні з мінулымі гадамі, адносна ўдзелу настаўнікаў і наогул вясковай інтэлігенцыі.

Настаўнікі ёсьць толькі ў 9 драмгуртках дзе на 342 члены налічваецца 43 настаўнікі (12,5 проц.).

Найбольш іх (9) у вёсцы Папоўцы, Канатопскай акругі. Такое становішча сьведчыць, што драмгурткі часта працуюць саматугам, яны часта ледзь могуць чытаць п'есу, ня кажучы ўжо пра розныя мудрасьці ў тэхніцы, тэорыі, у розных стылях і напрамках у тэатры. Але гэта сьведчыць і пра тое, што ў драмгурткі прышлі новыя кадры—вясковая бедната, якая абуджана рэволюцыяй да актыўнай работы.

Найміты таксама займаюць ня вельмі вялікае месца. Паказаны яны толькі па 11 драмгуртках, дзе на 386 членаў маем іх 47 чалавек (12 проц.). Рэшта гуртkoў—гэта сяляне: беднякі, серадняки, службоўцы, вучні, наогул моладзь.

2. Пасьля складу драмгурткоў анкета падрабязна запытвала пра работу драмгурткоў. Тут бачым, што гурткі прарабілі вялікую работу, хоць гэтая работа па розных прычынах не заўсёды, звычайна, была на належнай вышыні па сваёй якасьці.

За 1929 год 21 драмгурток даў 658 пастановак і эстрадных вечароў самадзейнасьці моладзі, што дае сярэднюю колькасьць—31. Рэкорд пабіў Пакроўскі сельсавет, які даў за год 56 пастановак і 48 концэртаў і эстрадных вечароў, хоць, праўда, гурток вывучаў толькі 36 п'ес, бо ставіў па некалькі разоў адну і тую-ж п'есу. Найменш пастановак праведзена ў вёсцы Вайціўцах (6), зусім ня было пастановак у 4 драмгуртках.

Выходзіць, у сярэднім на гурток прыпадае за год 31 выступленьне.

Наогул мусім зазначыць, што эстрады і вечары самадзейнасьці занялі пачэснае месца ў праграмах мастацкай работы драмгурткоў, бо на 21 драмгурток эстрада была ў 16, заняўшы 203 вечары, у той час як пастаноўкі ў тых жа гуртках занялі 391 вечар (эстрада займае 34 проц. вечароў у адносінах да агульнай колькасьці вечароў). Гэта, бязумоўна, дадатная зьява. Гэтыя новыя формы работы заўсёды напоўнены палітычна-актуальным зьместам на тэму сёньняшняга дню.

3. Усяго ў рэпэртуары 21 драмгуртка было 188 назваў п'ес, з якіх: п'ес новых рэволюцыйных—106; п'ес з старога ўкраінскага тэатру—46 і п'ес з расійскай мовы—36.

Старыя ўкраінскія п'есы, якія, апрача некаторых твораў Карпенкі-Карага, пара здаць у архіў, знайшлі сабе амаль 30 проц. месца ў агульным рэпэртуары драмгурткоў. А гэта паказвае на няправільную лінію работы гурткоў, на захапленьне маларасійшчынай, таптаньне на месцы, задавальненьне густаў дэклясаванай местачковай часткі насельніцтва, пагоню за танным посьпехам.

П'есы з расійскай мовы займаюць нязначнае месца—11 проц.

П'есы новыя, сучасныя, рэволюцыйныя занялі самае большае месца—59 проц.

З усіх гэтых п'ес 25 проц. было надрукавана ў часопісі „С. Т.“, і гэта дапамагло новай п'есе трапіць у вёску, а паясьненьні і розныя заўвагі часопісі дапамаглі п'есам убачыць вясковую сцэну ў невялічкіх драмгуртках.

На падставе вестак можна сказаць, што ўсе вясковыя драмгурткі вымагаюць пераважна малых, вельмі простых для пастановак п'ес.

Рэдка які гурток ставіў п'есы: „Рэспубліка на калёсах“, „Таміла“, „Княжна Вікторыя“, „Казак Галота“, амаль усе драмгурткі ставяць п'есы з 2-4 актаў, дзе дэкорацыя простая, дзе мала ўдзельнікаў, няма масавых сцэн, бо для гэтых гурткоў цяжка паставіць п'есу з масавымі сцэнамі: ім няма дзе разьмясьціць на сцэне ўсіх удзельнікаў.

Усё гэта зноў і зноў гаворыць аб тым, што нам трэба зрабіць некаторыя зьмены ў становішчы драмгурткоў:

1. Нашым драмгуртком трэба рэорганізаваць сваю сцэну, як мага скарэй пакінуць сыстэму павільённых дэкорацый, і перайсьці да сукнаў, бо толькі яны даюць магчымасьць паставіць п'есу з 6-8 сцэн (а ёсьць п'есы цікавыя і добрыя з 14-18 сцэн).

2. Нашым драматургам трэба памятаць аб ўмовах вясковай сцэны і даваць як мага менш дзеючых асоб, а масавыя сцэны ўмець падаць так, каб глядач, бачачы першыя рады, думаў, што за імі тысячы.

У гэтых адносінах для маладых драматургаў працы нашых старэйшых клясыкаў—Табілевіча, Старыцкага, Крапіўніцкага—павінны быць прыкладам, бо ня толькі з „вялікай пашаны“ п'есы гэтых драматургаў так часта ставяцца нашымі драмгурткамі, далёка не, але ў гэтых п'есах усё прыстасавана да вясковай сцэны, мала актаў, мала зьмен дэкорацый, кароткія антракты, мала дзеючых асоб, пабудова п'ес лёгкая і зразумелая для кожнага глядача. Вось якія вывады можна зрабіць з таго матар'ялу—адказу на анкету адносна рэпэртуару (а гэта адно з галоўных месц).

3. Цікава яшчэ пытаньне, колькі гледачоў абслужана драмгурткамі за год. У шмат якіх гуртках ня было гадавога

падліку, тым больш, што часта пастаноўкі былі дармовыя (да 40 проц.), дзе народу набівалася поўным-поўна, значна больш, чым дазваляла месца. Усё ж драмгурткі падалі весткі на падставе ліку месцаў, якія мае той ці іншы вясковы тэатр (ясна, лічбы ў такім разе крыху зьменшаныя).

Толькі два гурткі не змаглі зусім падлічыць сваіх гледачоў, адказалі: „не падлічвалі". Наогул гэта адна з галоўных хібаў—мала зьвяртаецца ўвагі на справу падліку, слаба фіксуецца праробленая работа. Усё ж колькасьць абслужаных гледачоў дае для 19 драмгуртжоў вялізарную лічбу—93.430 гледачоў.

У сярэднім выходзіць, што на кожную пастаноўку і вечар прыпадае па 140 гледачоў (ад 120 да 200).

4. Хоць у анкеце запытаньне было яснае, хто гледачы, але адказаць на гэта ва умовах вёскі цяжка, і большасьць драмгурткоў адказала: „моладзь, дзеці, члены саюзаў, колгасьнікі, беднага". Некаторыя спрабавалі даць больш дакладныя весткі, вызначыўшы ў процантах паасобныя групы гледачоў. Наогул трэба адзначыць, што моладзь складае значную колькасьць гледачоў, выключаючы мэтавыя пастаноўкі для розных конфэрэнцый, зьездаў, нарад, коопэрацыі, саюзаў і г. д.

5. Усе гурткі, што былі абсьледваны анкетаю, працуюць пры сельсаветах, толькі тры з 21—пры хатах-чытальнях. Сувязь з суседнімі драмгурткамі ў форме выездаў туды з пастаноўкамі, пазычкі п'ес, грыму, дэкорацый, абмену вопытам маюць 14 драмгурткоў.

Гэтыя 14 гурткоў змаглі абслужыць, апрача сваіх вёсак і 37 суседніх вёсак.

6. Дзе набываць п'есы? Тут многа скаргаў і, дарэчы сказаць, цалкам беспадстаўных, выкліканых проста расхлябанасьцю і адсутнасьцю організаванасьці і належнага кіраўніцтва.

Нашы цэнтральныя выдавецтвы: ДВУ, „Книгоспілка", „Рух", „Радянське Село", мелі паштовыя аддзелы, якія акуратна высылалі кожнаму заказчыку розныя кніжкі, у тым ліку і п'есы. У часопісі „С. Т." заўсёды зьмяшчаліся рэкомэндацыйныя сьпісы з азначэньнем, як і дзе можна набыць п'есы. ДВУ дармова рассылаў свой бюлетэнь, тое самае рабіла і „Книгоспілка", заўсёды зьмяшчаліся абвесткі ў газэтах.

Бязумоўна, кожны драмгурток ці сельсавет меў магчымасьць атрымліваць дармова бюлетэнь, для гэтага трэба было толькі падаць заяўку з адрасам. Выдавецтва часта скардзілася, што ў яго няма адрасоў, куды рассылаць (дармова) свае бюлетэні новых выданьняў. П'есы каштуюць нядорага (у сярэднім 20-40 кап.), друкуецца іх досыць шмат, тэатральныя і мастацкія часопісі зьмяшчаюць сьпісы п'ес, ухваленых рэпэрткомам НКА, нарэшце, ДВУ некалькі разоў выдаваў каталёгі п'ес, а ў 1929 годзе выданы офіцыйны даведнік „Сьпіс п'ес, ухваленых рэпэрткомам НКА да пастаноўкі", ч. I, апрача таго, часопісь „С. Т." за 1929 г. надрукавала больш 14 п'ес, таксама друкаваліся п'есы і ў мінулыя гады. П'есы цікавыя, новыя, з дакладнымі заўвагамі, схэмамі і малюнкамі. За пяць гадоў выданьня гэтай часопісі было надрукавана каля 70 п'ес, жывых газэт ды інсцэніровак. А вось некаторыя драмгурткі кажуць, што няма п'ес, ня ведаюць пра іх, ня бачылі іх...

Справа тут глыбей, патрэбны кіраўнікі, якія ведаюць, дзе шукаць і як набываць (а знайсьці ёсьць „дзе" і ёсьць „што", гэта можна сказаць з пэўнасьцю, драматургічны крызіс для вёскі не такі ўжо вялікі, як пра гэта мы ўсе часта ахвотна гаворым, скідаючы віну са сваіх плеч на чужыя).

7. Выяўляецца, што ў 1929 годзе з 22 гурткоў толькі 14 выпісвалі часопісь „С. Т." (адзін драмгурток выпісваў аж 9 экз., адзін—3, тры па—2 экз.). Рэшта гурткоў ня выпісвалі часопісі—гэта тыя самыя, што найбольш скардзяцца на недахоп п'ес, парадаў, заўваг і розных паказаньняў. Некаторыя драмгурткі шмат чым карысталіся з часопісі „С. Т".

Вось такія падрахункі невялікай анкеты, якая не ахапіла ўсіх драмгурткоў Украіны, а толькі паказала, у якім становішчы знаходзіліся паасобныя драмгурткі, і што яны зрабілі за мінулы год па розных акругах.

# НАШ ВОПЫТ

Я. Крэмез

## Самакіраваньне ў школе

*(З практыкі Барздынскай школы, Заслаўскага раёну)*

Значнае месца ў справе комуністычнага выхаваньня дзяцей павінна заняць школьнае самакіраваньне. У кароткіх рысах я хачу падзяліцца практыкай організацыі самакіраваньня ў Барздынскай школе па так званай зьвеньневай сыстэме.

З самага пачатку навучальнага году, калі яшчэ вучні толькі зьбіраліся, самакіраваньне ў школе ішло звычайным парадкам: вучком, дзяжурныя і г. д. Вучняў прыбаўлялася. Трэба было паклапаціцца і аб устанаўленьні парадку, бо яго ня было (праўду кажучы, мною сумысьля працягвалася такое становішча, менавіта: адсутнасьць дысцыпліны, непарадак у клясе і г. д., дзеля таго, каб вучні самі як-небудзь пераканаліся ў шкоднасьці такога становішча). Усё-ж такі на далей такое становішча было недапушчальна, і трэба было шукаць выйсьця. Некаторыя вучні, асабліва IV групы, іншы раз у прыватных гутарках выказвалі, што ў школе пануе вялікі непарадак, які шкодна адбіваецца на рабоце школы.

Адным словам, адчувалася нейкая патрэба нешта зьмяніць, перарабіць. На пасяджэньні вучкому было ўхвалена склікаць агульны сход вучняў і абгаварыць пытаньне аб організацыі работы школы. На агульным сходзе было дэталёва высьветлена становішча школьнай работы, яскрава было падкрэьслена ўсё, што перашкаджала нормальнаму ходу работы школы. Было даведзена вучням, што прычынай непарадку ў школе зьяўляецца неорганізаванасьць вучняў, адсутнасьць самадысцыпліны і г. д. Для таго, каб пакласьці канец гэтаму, трэба організаваць неяк інакш школьнае самакіраваньне, трэба яго пабудаваць так, каб кожны вучань быў заняты справай наладжваньня школьнага самакіраваньня, каб кожны вучань выконваў які-небудзь абавязак і нёс адказнасьць за яго. Ухвалена было організаваць 4 зьвеньні: санітарнае, зьвяно парадку, сельска-гаспадарчае зьвяно, зьвяно організацыі перапынкаў Запіс у зьвеньні быў добраахвотны і зроблены тут-жа на сходзе. Тут-жа на сходзе былі абраны кіраўнікі і памочнікі кіраўнікоў зьвеньняў. Такім чынам, усе вучні былі ў зьвеньнях, і кожны адчуваў, што ён знаходзіцца ў школьнай організацыі. Усе кіраўнікі складалі савет кіраўнікоў, у савеце быў старшыня і сэкратар.

Работа і абавязкі кожнага зьвяна: 1) санітарнае зьвяно наглядае за чыстатою клясаў і іншых памяшканьняў, аглядае ў вучняў рукі, вушы, сочыць заплявальніцамі, скрынкамі для сьмецьця, праветрывае клясы; 2) зьвяно парадку сочыць за парадкам, намячае дзяжурных па клясах, па разьдзявальні, вядзе запіс адсутных вучняў і даведваецца аб прычынах адсутнасьці; апрача таго, зьвяну парадку была падпарадкавана раздача чаю вучням (у школе было ўведзена на сродкі бацькоў гарачае харчаваньне); 3) зьвяно організацыі перапынкаў організуе разумнае правядзеньне перапынкаў; для гэтага зьвяном вылучаліся па чарзе вучні для чыткі газэт, часопісаў у часе перапынкаў; гэтаму-ж зьвяну быў падпарадкаваны і драмгурток, яно організоўвала выпіску газэт і г. д. Работу гэта зьвяно праводзіла наступным чынам: напрыклад, кіраўнік зьвяна дзяліў усіх вучняў школы па сьпісу на групкі і разьмяркоўваў паміж імі заданьні: частка вучняў, гэта значыць—адна групка, будзе

слухаць чыгку газэты, другая—часопісяй, трэцяя—гуляць у лато, чацьвертая займацца гульнямі на паветры і г. д. 4) сельска-гаспадарчае зьвяно праводзіла наступную работу: організоўвала працу на школьных градках, у садзе, праводзіла чыткі кніжак сельска-гаспадарчага зьместу, купляла насеньне і г. д.

Праз вучнёўскія організацыі самакіраваньня вялася і грамадзка-карысная работа. Санітарнае зьвяно было зьвязана праз прадстаўнікоў з санітарнай комісіяй сельсавету; праз апошнюю санітарнае зьвяно запрашала доктара для чыткі лекцый. Праз санітарнае зьвяно праводзілася работа па ачыстцы двароў, вуліц, студняў. Калі які-небудзь вучань адсутнічаў, зьвяно парадку паведамляла аб гэтым санітарнае зьвяно, апошняе даведвалася дома аб прычынах адсутнасьці, і калі выяўлялася, што вучань хворы, і хвароба была пошасная, дык санітарнае зьвяно паведамляла аб гэтым санітарную комісію сельсавету і дамагалася прыняцьця належных захадаў, чым папярэджвалася распаўсюджваньне пошасных хвароб. Сельска-гаспадарчае зьвяно было зьвязана з с.-г. комісіяй пры сельсавеце і праз апошнюю запрашала агронома для чыткі лекцый ды інш. Зьвяно па організацыі перапынкаў было зьвязана з культурна-бытавой комісіяй пры сельсавеце і праз апошнюю запрашала кіно-перасоўку ў школу. Кіно наведвала ўсё насельніцтва.

Намі вышэй успаміналася аб гульнях у лато. Гэтае лато было куплена на сродкі, выручаныя ад наладжанага зьвяном па організацыі перапынкаў суботніку, у часе якога было ачышчана сьмецьце навокал школы пасьля рамонту. Апрача таго, сродкі былі атрыманы ад абкопваньня дрэў у садзе (школа мела 2 га саду; 15 дрэў былі прызначаны для практычнай работы вучняў, а астатнія даглядаліся за плату). На ўсе гэтыя сродкі было закуплена 4 лато. агульныя каламарніцы-невылівайкі, атрамант, алоўкі для маляваньня 12 колераў і іншая дробязь. Усё гэта абгаварвалася на сходах вучняў.

Падводзячы вынікі работы школьнага самакіраваньня па зьвеньневай сыстэме, трэба прызнаць вялікую перавагу апошняга перад аджыўшай сыстэмай вучкомаў, кляскомаў і г. д. Пры зьвеньневай сыстэме настаўнік у сваёй рабоце абапіраецца на самадзейнасьць вучняў, апрача гэтага, школа непасрэдна зьвязваецца з сельсаветам і іншымі ўстановамі. Настаўнік толькі дапамагае ў рабоце вучня.

Лічу патрэбным, каб настаўніцтва выказала сваю думку аб гэтым вельмі важным пытаньні ў жыцьці школы, якое набывае вельмі вялікае значэньне ў сувязі з політэхнізацыяй.

# ЗА ЎЗМАЦНЕНЬНЕ ОРГАНАЎ ДЫКТАТУРЫ ПРОЛЕТАРЫЯТУ

**Хв. Сьцепанюк**

## Усе сілы культурнага фронту на перавыбары саветаў

Чарговыя перавыбары саветаў зьяўляюцца важнейшай масавай політычнай кампаніяй для ўсіх працоўных мас, для ўсіх організацый, усіх зьвеньняў савецкіх устаноў і організацый, у тым ліку навучальных і політасьветных устаноў: школ, клюбаў, бібліотэк, нардамоў, хатчытальняў і інш.

Гэтыя перавыбары саветаў будуць праходзіць у новых умовах, якія значна адрозьніваюцца ад усіх мінулых перавыбараў.

Новае ў сучасны пэрыод социялістычнага будаўніцтва тое, што комуністычная партыя і савецкая ўлада з посьпехам ажыцьцяўляюць пяцігадовы плян народнае гаспадаркі. Вынікі першага і другога году выкананьня пяцігодкі далі надзвычайна высокія, нябачаныя да гэтага часу тэмпы, дзякуючы якім значна перавыкананы папярэднія плянавыя заданьні як па прамысловым будаўніцтве на базе індустрыялізацыі краіны, так і па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, на базе саўгаснага і колгаснага будаўніцтва.

Здабытыя вялізарныя посьпехі ў выкананьні і перавыкананьні першага і другога году пяцігодкі далі падставу для перагляду пяцігодкі па ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў бок далейшага павялічэньня тэмпаў і паставілі практычную задачу — „выканаць пяцігодку за чатыры гады“.

На падставе буйнейшых дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва, партыя і савецкая ўлада перайшлі да політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, прыступілі да разгорнутага соцыялістычнага наступу па ўсім фронце, пры ўмовах шалёнага супраціўленьня з боку ўсіх капіталістычных элемэнтаў супроць нашага соцыялістычнага наступу і ліквідацыі кулацтва як клясы — рэштак капіталізму.

З посьпехам выканана дырэктыва XVI зьезду ЎсеКП(б) аб ліквідацыі акруг, і прыняты першыя крокі да ўзмацненьня раёнаў „як асноўнага зьвяна соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы“.

Перавыбары саветаў будуць праходзіць у пэрыод асобнага кварталу — кастрычнік-сьнежань 1930 г., які павінен забясьпечыць падрыхтоўку і сустрэчу трэцяга (1931 году), як рашаючага году ў выкананьні пяцігодкі за чатыры гады.

У гэты асобны квартал партыяй і савецкай уладай пастаўлены цэлы шэраг актуальнейшых гаспадарча-політычных задач. Галоўныя з іх:

Поўная ліквіцацыя ўсіх прарываў, якія мы мелі ў 1929-30 годзе.

Поўнае выкананьне ўсіх відаў нарыхтовак збожжа, бульбы, лесу, тэхкультур і другіх.

Мобілізацыя ўсіх унутраных рэсурсаў і сродкаў працоўнага насельніцтва.

Далейшае разгортваньне колгаснага руху, як выкананьне асноўнай задачы партыі і савецкай улады ў галіне соцыялістычнай перабудовы вёскі, дабіўшыся таго, каб да 1-га студзеня „забясьпечыць колектывізацыю да 20 проц. агульнай колькасьці сельскіх гаспадарак БССР“.

Вось асноўнае, тое новае, што мы маем цяпер у параўнаньні з мінулай кампаніяй перавыбараў саветаў.

* * *

Усе навучальныя і політасьветныя ўстановы павінны адыграць значную ролю, як актыўнага памочніка партыі і савецкай улады, ва ўсіх правадзімых гаспадарчых і політычных мерапрыемствах.

Політасьветныя ўстановы: клюбы, нардамы, бібліотэкі, хаты-чытальні, чырвоныя куткі яшчэ ў большай меры павінны зьявіцца цэнтрамі, мобілізуючымі культурную і політычную актыўнасьць працоўных мас на правядзеньне перавыбараў саветаў.

Асноўная шматтысячная маса асьветнікаў, асабліва на вёсцы, зьяўлялася і будзе зьяўляцца ў далейшым актыўным удзельнікам социялістычнага будаўніцтва, яна, бязумоўна, прыме самы актыўны ўдзел у перавыбарчай кампаніі саветаў.

Такім чынам, надыходзячая кампамія перавыбараў саветаў патрабуе мобілізацыі ўсіх сіл, усіх сродкаў культурнага фронту. Яна зьявіцца для ўсіх органаў народнае асьветы політычным экзамэнам у тым сэнсе, наколькі гэтыя ўстановы на справе здолеюць актыўна і пасьлядоўна праводзіць генэральную клясавую лінію партыі і савецкай улады, у якой ступені мобілізуюць шырокія масы працоўных на выкананьне пастаўленых чарговых задач.

Для таго, каб поўнасьцю выканаць гэтыя вельмі важныя абавязкі, навучальным і політасьветным установам неабходна ў максымальнай меры выкарыстаць той кароткі час, які застаўся да перавыбараў, разгарнуць шырокую падрыхтоўчую работу, скарыстаць усе формы і мэтоды культмасавай работы: сходы, вечары, карнавалы, гутаркі, лекцыі, мітынгі, лёзунгі, насьценгазэты і інш. формы.

Актуальным пытаньнем усяе работы наогул і асабліва ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў зьяўляецца падлік, аб'яднаньне ўсіх культсіл, выпрацоўка адзінага пляну работы, поўная ўвязка работы ўсіх зьвеньняў, клюбаў з чырвонымі куткамі, хат-чытальняў з школамі і, нарэшце, рацыянальная расстаноўка і выкарыстаньне сілы ўсіх органаў і ўстаноў.

Патрэбна раз назаўсёды зьнішчыць вузкую „ведамсьцьвенасьць", замкнутасьць, адасобленасьць у працы, калі кожны праводзіць па свойму, адзін ня ведае, што і дзе праводзіць другі, трэці і г. д. Ад такой работы атрымліваецца распыленьне сіл і сродкаў, дарэмная трата іх без належнага эфэкту і вынікаў.

Таму неабходна на падставе агульнага пляну выбарчых камісій распрацаваць плян удзелу ў перавыбарах саветаў усіх навучальных, політасьветных устаноў; шчыльна ўвязаць гэты плян з усімі грамадзкімі організацыямі; вызначыць у пляне конкрэтныя агульнагарадзкія, раённыя і сельсавецкія заданьні для кожнай установы. І толькі на падставе такога пляну кожная ўстанова ўпаасобку распрацоўвае практычныя мерапрыемствы, каляндарны плян работы, пры чым уся гэта работа павінна праводзіцца пад пастаянным падвойным контролем і кіраўніцтвам органаў нарасьветы і выбарчых комісій.

У гарадох, раёнах і сельсаветах трэба правесьці шырокія нарады культактыву, на якіх распрацаваць агульны плян і практычныя заданьні для ўстаноў. Такія нарады трэба правесьці ў пачатку перавыбараў, дзе распрацаваць практычныя мерапрыемствы і плян удзелу ў перавыбарах. Потым, у час перавыбараў, трэба правяраць, што зроблена, і тут-жа выправіць дапушчаныя памылкі.

З самага пачатаку падрыхтоўчай работы трэба правесьці наступныя мерапрыемствы: растлумачыць працоўнаму насельніцтву і прапрацоваць выбарчую інструкцыю ўраду БССР, популярызаваць задачы і значэньне перавыбараў саветаў і неабходнасьці актыўнага ўдзелу працоўных мас. Пры гэтым трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на глыбокую прапрацоўку пытаньняў клясавай сутнасьці савецкай улады, як дыктатуры пралетарыяту, на нацполітыку, якую ажыцьцяўляе комуністычная партыя і савецкая ўлада, і наогул аб бліжэйшых задачах социялістычнага будаўніцтва.

Кожная політасьветная навучальная ўстанова: школа, хата-чытальня, клюб, чырвоны куток павінны організаваць цэлы шэраг масавых сходаў, вечароў,

сцэцыяльных гутарак па гэтых пытаньнях. У парадку пазашкольнай работы навучальныя ўстановы павінны прапрацаваць усе пытаньні, зьвязаныя з перавыбарамі саветаў і практычным ўдзелам школ у гэтай рабоце.

Дапамагчы выбарчым комісіям выявіць усе кулацка-нэпманскія элементы і пазбаўленых выбарчых правоў з тым, каб не дапусьціць ніводнага клясавага ворага да ўдзелу ў перавыбарчай кампаніі саветаў; падрыхтаваць і выпусьціць насьценгазэты, прысьвячаныя перавыбарам саветаў; падрыхтаваць і вывесіць лёзунгі, дыяграмы, якія-б заклікалі працоўных да ўдзелу ў перевыбарах і адбівалі дасягнутыя посьпехі працы саветаў па паасобных галінах гаспадарчага і нацыянальнага і культурнага будаўніцтва і інш.—вось практычныя задачы для нашых школ у перавыбарах саветаў.

Пры сучаснай надзвычайна ўзьнятай актыўнасьці працоўных мас гораду і вёскі трэба паставіць практычную задачу перад кожнай установай, перад кожным асьветнікам, культармейцам з тым, каб дабіцца стопроцантнага ўдзелу выбаршчыкаў у справаздачна-перавыбарчых сходах, узьняць актыўнасьць навакол выкананьня чарговых задач.

Вопыт удзелу школ у мінулых перавыбарах саветаў выявіў такія каштоўныя формы прыцягненьня выбаршчыкаў на сходы, як масавы абход рабочых кватэр, бядняцка-серадняцкіх двароў, правядзеньне агіт-карнавалаў і інш. Праз вучняў школ магчыма і неабходна правесьці адпаведную работу сярод бацькоў і членаў сем'яў, трэба, каб вучні запаўнялі позвы і разносілі іх выбаршчыкам. Для гэтага кожная школа павінна правесьці шырокую растлумачальную выхаваўчую работу сярод вучняў.

У час правядзеньня ўсяе работы, асабліва праверкі дзейнасьці саветаў, разам з гаспадарчымі пытаньнямі неабходна сконцэнтраваць увагу на пытаньнях культурнага будаўніцтва з тым, каб тэмпы культбудаўніцтва не адставалі ад агульных тэмпаў і новых задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Па баявому вырашыць пастаўленыя партыяй і савецкай уладай такія важныя пытаньні, як усеагульнае першапачатковае навучаньне, ліквідацыя няпісьменнасьці сярод працоўных, політэхнізацыя савецкае працоўнае школы і правядзеньне цэлага шэрагу практычных мерапрыемстваў, якія зьвязаны з політэхнізацыяй.

Усім асьветнікам, культармейцам трэба, у першую чаргу, увайсці ў арганізуемыя брыгады для праверкі дзейнасьці саветаў, прыняць самы актыўны ўдзел у іх працы, прыняць усе захады да таго, каб найбольш уцягнуць у гэтыя брыгады рабочых, колгасьнікаў, беднякоў і серадняков.

Трэба дапамагчы брыгадам, выбарчым комісіям праверыць стан работы саветаў, асабліва ў галіне кіраўніцтва работай школ, хат-чытальняў, клюбаў у напрамку прыстасаваньня ўсяе работы да сучасных задач барацьбы за выкананьне прамфінпляну, за колектывізацыю сельскай гаспадаркі, пад лёзунгам: „культмасавую работу—на службу соцыялістычнаму будаўніцтву".

Усю работу політасьветных устаноў—пад грамадзкі контроль мас! Трэба разгарнуць шырокую бальшавіцкую самакрытыку недахопаў і паасобных прарываў на культурным фронце; завастрыць увагу саветаў на неабходнасьці узмацненьня кіраўніцтва работай устаноў і органаў нарасьветы, павярнуцца тварам да пытаньняў культурнага будаўніцтва; прыняць актыўны ўдзел у абгаварэньні наказаў; дабіцца ўключэньня ў наказы практычных мерапрыемстваў па правядзеньні ўсеагульнага навучаньня: будаўніцтва і рамонт школ, дапамога дзецям беднаты, ліквідацыя няпісьменнасьці, уцягненьне ўсіх у лікпункты, арганізацыя лікпунктаў, вярбоўка кадраў і г. д.

Трэба дабіцца актыўнага ўдзелу школ граматы і малапісьменных у перавыбарах саветаў.

Пытаньне перавыбараў саветаў і ўдзел ўсіх вучняў і асьветнікаў у гэтай рабоце павінны стаць органічнай часткай усяе работы школ, зьвязаць штодзённае тэхнічнае навучаньне з грамадзка-політычным зьместам, клясавым выхаваньнем.

Уся агульнаадукацыйная і грамадзка-палітычная работа павінна быць падпарадкавана пытаньням перавыбараў саветаў. На працягу сьнежня месяца неабходна ў кожную дэкаду праводзіць палітгадзіны для прапрацоўкі пытаньняў перавыбараў саветаў.

Усё павінна быць мобілізавана для таго, каб усіх вучняў і малых і старых, што ліквідуюць сваю няпісьменнасьць, уцягнуць у працу па перавыбарах саветаў.

Уся работа палітасьветных і навучальных устаноў па падрыхтоўцы перавыбараў саветаў павінна быць накіравана на правядзеньне выразнай клясавай лініі, на бязьлітасную барацьбу з нэпманска-кулацкімі элемэнтамі і іх падпявваламі, якія будуць імкнуцца сарваць нашу пасьпяховую работу, сарваць перавыбары, альбо пралезьці ў саветы і г.д.

Неабходна проціпаставіць шалёнаму супраціўленьню капіталістычных элемэнтаў наш адзіны фронт соцыялістычнага наступу па ўсім фронце.

Разам з гэтым неабходна павесьці рашучую барацьбу з права-опортуністычным ухілам, як кулацкай агентурай, барацьбу з яго практыкай у савецкім і культурным будаўніцтве.

Толькі на падставе правядзеньня выразнай генэральнай лініі партыі, бязьлітаснай барацьбы з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай ў сучасны пэрыод, „лявацкімі“ загібамі і прымірэнчымі адносінамі да іх, барацьбы за правядзеньне ленінскай нацыянальнай політыкі ў гаспадарчым, нацыянальным і культурным будаўніцтве, непрымірымай барацьбы з вялікарасійскім шовінізмам, нацдэмократызмам і ўсялякім шовінізмам, адкуль бы ён ні паходзіў, мы забясьпечым пасьпяховае правядзеньне перавыбараў саветаў і ўзмацнім органы дыктатуры пролетарыяту.

# ХРОНІКА

## Пастановы Наркомасьветы БССР

### У Менску організуецца Беларускае аддзяленьне „Софіл“

Колегія НКА пастанавіла організаваць у Менску аддзяленьне „Софіл“.

Аддзяленьне будзе адкрыта на сродкі „Софіл“ РСФСР.

### Організуецца ўправа відовішчных прадпрыемстваў

Колегія НКА пастанавіла організаваць у БССР пры НКА ўправу відовішчных прадпрыемстваў.

### Усебеларуская карцінная галерэя

Колегія НКА пастанавіла організаваць у гэтым годзе Усебеларускую карцінную галерэю пры Менскім дзяржаўным музэі.

### У Менску організуецца яўрэйскі ТРАМ

Колегія НКА пастанавіла організаваць з новага бюджэтнага году ў Менску Яўрэйскі тэатр рабочае моладзі—„ТРАМ“.

### Бюро па завочнаму навучаньню

Колегія НКА выказалася за організацыю пры НКА бюро па завочнаму навучаньню для кіраўніцтва ўсёй справай завочнага навучаньня ў БССР.

### Аб спэцыялізацыі рабфакаў і прымацаваньні іх да адпаведных ВНУ і ВТНУ

З мэтаю спэцыялізацыі рабфакаў колегія НКА пастанавіла прымацаваць іх да наступных ВНУ і ВТНУ:

**I. Дзённыя рабфакі**

Менскі рабфак—да пэдфаку БДУ.
Гомельскі рабфак—да мэханічнага інстытуту.
Віцебскі рабфак—да вэтэрынарн. інстытуту.
Бабруйскі рабфак—да наргасу БДУ.
Барысаўскі рабфак—да мэдінстытуту.
Горацкі рабфак—да с. г. акадэміі.

**II. Вячэрнія рабфакі**

Мэнскі рабфак—да будаўнічага інстытуту.
Гомельскі рабфак—да лясного інстытуту.
Віцебскі рабфак—да індустр. пэд. інстытуту.
Бабруйскі рабфак—да саўбуду БДУ.
Барысаўскі рабфак—да хэміка-тэхн. інстытуту.
Аршанскі рабфак—да с. г. акадэміі.
Магілеўскі рабфак—да пэд. інстытуту.
Мазырскі рабфак—да лясного інстытуту.
Полацкі рабфак—да с. г. акадэміі.
Рэчыцкі рабфак—да Гомельскага агра-пэд. інстытуту.
Жлобінскі рабфак—да мэханічнага інстытуту.
Добрускі рабфак—да агра-пэд. інстытуту.
Шклоўскі рабфак—да зоотэхн. інстытуту.
Чашніцкі рабфак—да с. г. акадэміі.
Дукорскі рабфак—да мэдінстытуту.
Дрысенскі рабфак—да с. г. акадэміі.
Клімавіцкі рабфак—да зоотэхн. інстытуту.
Рабфак у саўгасе імя Леніна —да с. г. акадэміі.
Койданаўскі рабфак—да буд. інстытуту.
Тураўскі саўгас імя Х-годзьдзя БССР, рабфак—да с. г. акадэміі.
Уваравіцкі рабфак—да наргасу БДУ.
Лёзьнянскі рабфак—да с. г. акадэміі.
Смалявіцкі рабфак—да пэдфаку.

### Аб перадачы індустрыяльных і с.-гас, профтэхшкол адпаведным гаспадарчым аб'яднаньням ВСНГБ і НКЗему

На падставе дырэктыў ураду СССР і для таго каб не ствараць разрыву паміж вышэйшай, сярэдняй і ніжэйшай ступенямі падрыхтоўкі кадраў, колегія НКА пастанаўляе:

1. Лічыць неабходным паставіць у СНК БССР пытаньне аб перадачы профтэхнічных школ індустрыяльнага тыпу, якія знаходзяцца ў веданьні НКА, ВСНГБ і адпаведным гасаб'яднаньням сельска-гаспадарчага тыпу—НКЗему.

2. У сувязі з перадачай школ не павінна быць зьмяншэньня вызначаных і вызначаемых па контрольных лічбах на 1931 г. контынгентаў, і захаваны ўсе аддзяленьні, якія ёсьць цяпер.

3. Пры перадачы неабходна паставіць пытаньне аб рэорганізацыі часткі профшкол у ФЗВ, часткі найбольш абсталяваных і моцных—у тэхнікумы адпаведнай спэцыяльнасьці, з тым, каб пакінуць тып профшколы толькі там, дзе ня будзе іншай магчымай рэорганізацыі.

4. Даручыць інспэктару профасьветы на працягу 15 дзён дагаварыцца з усімі гаспадарчымі організацыямі ВСНГБ і НКЗемам аб парадку перадачы.

5. Усю работу па перадачы гэтых школ скончыць не пазьней 1 сьнежня.

# Аб ліквідацыі няпісьменнасьці

(*Пастанова колегіі*)

Констатаваць, што, ня гледзячы на сваячасова дадзеныя раёнам паказаньні з боку НКА, у адпаведнасьці з дырэктывамі партыі і ўраду аб усеагульнай абавяковай ліквідацыі няпісьменнасьці, практычная работа ў гэтым напрамку па цэламу шэрагу раёнаў (Валынецкі, Ляднянскі. Мсьціслаўскі, Высачанскі, Багушэўскі, Прапойскі і Асьвейскі) зусім не распачата, а ў астатніх 30 абгледжаных раёнах распачата толькі часткова. Грамадзкія організацыі (профсаюзы, копэрацыя, комсамол і інш.) у большасьці дасьледваных раёнаў справай ліквідацыі няпісьменнасьці не займаліся, зусім слаба праведзена растлумачальныя работа па популярызацыі пастаноў партыі і ўраду па гэтаму пытаньню. Амаль ва ўсіх раёнах ня выканана пастанова ўраду аб мобілізацыі культармейцаў—грамадчыкаў для работы па ліквідацыі няпісьменнасьці. Абвешчаны трохмесячнік культпаходу „За грамату" у большасьці раёнаў правалены. Райспажыўтаварыствы не забясьпечылі лікпункты і школы малапісьменных сшыткамі, алоўкамі, падручнікамі, лямпамі, газай і інш., з-за чаго большасьць лікпунктаў і школ малапісьменных ня могуць распачаць сваю работу. Райінспэктура політасьветы не займалася пытаньнем організацыі і кіраўніцтва справай ліквідацыі няпісьменнасьці.

Такое становішча з справай ліквідацыі няпісьменнасьці гаворыць аб права-опортуністычнай недаацэнцы з боку мясцовых органаў важнасьці вырашэньня гэтае асноўнае політычнае задачы. Выходзячы з гэтага. Колегія НКА п а с т а н а ў л я е:

1) за зрыў работы па ліквідацыі няпісьменнасьці абавясьціць вымову інспэктарам політасьветы Прапойскага, Ляднянскага, Гарадокскага і Высачанскага раёнаў і адначасова давесьці да СНК БССР аб абсолютнай бязьдзейнасьці Прапойскага, Ляднянскага, Высачанскага і Багушэўскага РВК, якія зусім не займаліся справай ліквідацыі няпісьменнасьці, і прасіць прыняць адпаведныя меры;

2) прасіць СНК БССР даць паказаньні РВК і гарсаветам, заслухаць даклады інспэктуры політасьветы і прыняць адпаведныя меры да зьнішчэньня прарываў у галіне ліквідацыі няпісьменнасьці;

3) прапанаваць гарадскім і райінспэктаром політасьветы безадкладнд організаваць і распачаць работу ўсіх лікпунктаў і школ малапісьменных, ахапіўшы імі, у першую чаргу, усіх вытворчых і с.-г. рабочых, батракоў, колгасьнікаў дапрызыўнікаў і асабліва жанчын;

4) паставіць пытаньне перад ЦСПСБ, ЦК ЛКСМБ, Колгасцэнтрам і Белкоопсаюзам аб прыняцьці неабходных мер у справе наладжаньня работы ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці сваіх нізавых зьвеньняў;

5) у сувязі з тым, што па цэламу шэрагу раёнаў работа лікпунктаў і школ малапісьменных зрываецца з-за адсутнасьці лямп, газы, сшыткаў, алоўкаў і інш. неабходных матар'ялаў, паставіць пытаньне перад Белкоопсаюзам аб прыняцьці адпаведных мер да зьнішчэньня гэтых недахопаў;

6) давесьці да ведама ЦэнтральнагаСавету Т-в „ПН" аб тым, што ў абсьледваемых раёнах Т-ва „ПН" ніякага ўдзелу ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці ня прымае;

7) адзначаючы зусім слабое прыцягненьне сродкаў грамадзкіх організацый на ліквідацыю няпісьменнасьці, прапанаваць райінспэкцыі політасьветы разгарнуць работу па мобілізацыі апошніх;

паставіць пытаньне перад цэнтральнымі грамадзкімі організацыямі аб дачы паказаньняў па гэтаму пытаньню сваім нізавым зьвеньням;

абавязаць політасьветгрупу заключыць з апошнімі аб гэтым адпаведныя ўмовы;

8) з мэтай забесьпячэньня лікпунктаў кадрамі, прапанаваць інспэктаром політасьветы безадкладна рэалізаваць пастанову ўраду аб мобілізацыі культармейцаў для гэтае работы;

9) прапанаваць райінспэкцыі політасьветы ў астатнім кіравацца раней дадзенымі дырэктывамі НКА, прыняўшы меры да іх поўнага выкананьня;

10) прасіць СНК паставіць даклад аб ліквідацыі няпісьменнасьці на бліжэйшым сваім пасяджэньні;

11) абвясьціць гэтую пастанову ў друку.

---

# Аб правядзеньні ўсеагулнага абвязковага навучаньня ў БССР

(*Пастанова колегіі*)

Констатаваць, што дырэктывы партыі і ўраду па ўсеагульнаму навучаньню да гэтага часу на мясцох не знайшлі дастатковага праламленьня, дзякуючы недастатковай увагі да гэтага пытаньня з боку раённых організацый і, у першую чаргу, інспэктуры нарасьветы.

Прызнаць, што вакол пытаньня ўсеагульнага навучаньня, гэтай баявой задачы, ня згуртавана належная грамадзкая думка, у прыватнасьці, камсамольскія раённыя і мясцовыя організації, як шэфы ўсеагульнага абавязковага навучаньня, у практычнай работе выявілі сябе слаба.

У выніку чаго ў справе ўсеагульнага навучаньня ёсьць шэрагі прарываў:

а) зрыў будаўніцтва новых школ і па некаторых раёнах рамонту старых

б) зрыў работы па організацыі гарачых сьнеданьняў і інтэрнатаў пры школах;

в) незабесьпячэньне падручнікамі 3 і 4 гр., а таксама для II конц. ШКМ. асабліва нацменаўскіх;

г) безьдзейнасьць многіх камітэтаў па ўсеобучу пры с.-г. і камсадаў пры школах;

д) няпоўнае забесьпячэньне школ настаўніцкімі кадрамі з тае прычыны, што значная колькасьць скончыўшых пэдустановы, атрымаўшы прызначэньне, да працы не прыступілі;

е) адсутнасьць работы па барацьбе з „лятунамі".

Выходзячы з гэтага колегія НКА пастанаўляе

1. За нядбайныя адносіны да ўсеагульнага навучаньня Прапойскаму, Ляднянскаму, Дубровенскаму і Дрыбенскаму райінспэктаром н/а абвясьціць вымову.

2. Давесьці да ведама СНК аб бязьдзейнасьці па пытаньню ўсеагульнага навучаньня Прапойскага, Ляднянскага, Дубровенскага і Дрыбенскага РКВ і прасіць прыняць належныя меры.

3. Усім райінспэктаром н/а у дэкадны тэрмін завесьці спэцыяльны вучот перарасткаў 11—15 год, улічыўшы і ахопленых школай. Для неахопленых школай перарасткаў організаваць навучаньне. Наладзіць сталы вучот дзяцей ад 8—11 год.

4. Райінспэктаром, дзе няма тэр. і сеткавых плянаў, скласьці іх не пазьней 1 сьнежня 1930 г. згодна паказаньняў НКА. Усім астатнім інспэктаром унесьці корэктывы на падставе адбыўшыхся зьмен. Увесь матар'ял павінен быць дасланы ў НКА.

5. Безадкладна організаваць комітэты па ўсеагульнаму навучаньню пры адпаведных організацыях там, дзе яшчэ не організаваны. Унесьці чоткасьць і яскравасьць у работу гэтых камітэтаў ува ўсіх раёнах, згодна пастановы ўраду.

6. За нескарыстаньне фондаў дзяцей беднаты па каштарысу мінулага году Сенінскім і Коханаўскім раёнамі справу перадаць прокурору рэспублікі.

7. Давесьці да ведама СНК аб правале работы па забесьпячэньню вучняў абуткам і вопратаай і прасіць прыняць адпаведныя захады па сутнасьці, бо такое становішча пагражае зрывам усеагульнага навучаньня.

8. Райінспэктаром н/а. тэрмінова організаваць гарачыя сьнеданьні, інтэрнаты пры школах і падвозку дзяцей, прыцягнуўшы для гэтае мэты сродкі грамадзкіх організацый (профсаюзы, колгасы і інш.).

Прасіць Белкоопсаюз аб забесьпячэньні школ неабходнымі дзеля гэтага продуктамі.

9. Дапамога дзецям беднаты пастаўлена нездавальняюча. Прапанаваць райінспэктаром у декадны тэрмін наладзіць вучот гэтых дзяцей. Скласьці конкрэтныя пляны скарыстаньня фонду па каштарысу г.г., улічваючы паступленьне сродкаў ад грамадзкіх організацый.

10. Прапанаваць будаўніча-тэхнічнай групе НКА тэрмінова выпрацаваць і разаслаць проекты будаўніцтва і тыпу школьных лавак, адпаведна запатрабаваньням сучаснае школы.

11. Адзначыць, што з боку многіх РВК былі нядбайныя адносіны да справы рамонту школ. Паставіць пытаньне перад адпаведнымі організацыямі аб неадкладным сканчэньні рамонту школ. Надалей своечасова складаць пляны рамонту з разьлікам сканчэньня яго да пачатку навучальнага году.

12. Райінспэктуры н/а ўзмацніць барацьбу з „лятунствам". Для гэтага безадкладна высьветліць і паведаміць НКА аб асобах, што скончылі навучальныя ўстановы і атрымалі прызначэньне, але не прыступілі да работы, для прыцягненьня іх да адказнасьці

Прасіць ЦП Саюзу Працасьветы даць паказаньні райгрупкомам аб узмацненьні работы сярод настаўнікаў па замацаваньню на працы ў школах.

13. Мэтодкому НКА ў 3-х дзённы тэрмін даслаць раёнам паказаньні аб структуры раймэдбюро і даць паказаньні аб іх рабоце, асаблівую ўвагу зьвярнуць на мэтод кіраўніцтва і пастаноўку навучальна-выхаваўчай работы школ. Організаваць спэцыяльныя выезды консультантаў НКА на месцы.

14. Улічваючы слабую пастаноўку работы па разгортваньню політэхнізацыі школ, прапанаваць райінспэктуры зьвярнуць асаблівую ўвагу на гэтую работу, кіруючыся паказаньнямі НКА.

15. Падкрэсьліць аб асабістай адказнасьці за справу ўсеагульнага навучаньня ня толькі райінспэктуры, але і заг. школ.

16. Пастанову колегіі НКА абвясьціць у друку

## Аб дасьледваньні матар'яльнага і праўнага становішча асьветнікаў

(*Пастанова колегіі*)

Заслухаўшы даклад аб матар'яльным і праўным становішчы асьветніцкіх мас, колегія НКА адзначае:

1) Найбольш здавальняюча ў адносінах да асьветнікаў пытаньне праўнае.

2) У галіне забесьпячэньня настаўніцтва прамтаварамі і харчамі дагэтуль справа абстаіць ня зусім здавальняюча. У гэтых адносінах коопэрацыйныя, профсаюзныя, савецкія і інш. організацыі зрабілі надзвычайна мала. Ёсьць паасобныя выпадкі простага ігнараваньня і нежаданьня выконваць дырэктывы партыі і ураду па забесьпячэньню настаўніцтва.

Выходзячы з гэтага, колегія НКА пастанаўляе:

1) Для зьнішчэньня перабояў па пытаньню своечасовай выдачы зарплаты асьветнікам, прапанаваць Інспэктаром Нарасьветы дабіцца там, дзе гэта справа не наладжана, своечасовай выдачы пэнсіі.

2) Маючы на ўвазе выпадкі нявыплаты пэрсональнай надбаўкі да пэнсіі за выслугу го

асьветнікам, райінспэктаром зрабіць сталы вучот для забесьпячэньня рэалізацыі закону па гэтаму пытаньню.

3) Прымаючы пад увагу дрэннае забесьпячэньне настаўніцтва кватэрамі, што, бязумоўна адбіваецца на самой працы,—прапанаваць усім інспэктаром Нарасьветы аказаць усямерное садзейнічаньне па забесьпячэньню іх кватэрамі праз мясцовыя органы.

4) Паставіць пытаньне перад Белкоопсаюзам аб дачы мясцом катэгорычных паказаньняў па пытаньню выкананьня пастаноў партыі і ўраду па забесяпячэньню настаўніцтва промтаварамі і харчовымі прадуктамі па рабочай норме, вызначыўшы пры гэтым і самыя нормы.

5) Райінспэктаром сачыць, як выконваецца гэтая пастанова мясцовымі коопэрацыйнымі організацыямі, прымаючы меры праз адпаведныя органы да асоб і ўстаноў, якія ня выконваюць пастановы.

6) Паставіць пытаньне перад Белкоопсаюзам і Саветам народных Камісараў аб адчыненні ў кожным раёне, для забесьпячэньня настаўніцтва прамтаварамі і харчовымі продуктамі па аднаму зачыненаму разьмеркавальніку.

7) Маючы на ўвазе выпадкі нерацыянальнага скарыстоўваньня асьветнікаў на мясцох на грамадзка-карыснай працы (тэхнічныя працы, адміністраваньне), прапанаваць райённаму інспэктарыяту ў далейшым зьвярнуць асаблівую ўвагу на рацыянальнае скарыстоўваньне асьветніцкіх мас па лініі грамадзкай працы.

8) Райінспэктаром поўнасьцю забясьпечыць выкананьне колумовы.

9) Колегія НКА лічыць неабходным пашырыць палажэньне аб прыёме асьветнікаў у пэдагогічныя ўстановы, у тым ліку і скончыўшых пэдкурсы, якія маюць практычны стаж працы, для чаго даручыць падрабязна распрацаваць гэтае пытаньне тав. Гольбрайху і далажыць на чарговым пасяджэньні колегіі НКА.

# Адмяніць плату за карыстаньне кніжкамі

## Усім раённым і гарадзкім інспэктаром народнае асьветы, загадчыкам бібліотэк.

Па цэламу шэрагу месц БССР да гэтага часу раённыя і гарадзкія бібліотэкі бяруць плату ад працоўных за карыстаньне (чытаньне) кнігамі. Такое становішча зьяўляецца простай перашкодай масаваму карыстаньню кніжкамі гэтых бібліотэк з боку самых шырокіх колаў працоўнага насельніцтва і прадстаўляе сабой праяву дзяляцтва і опортунізму на практыцы ў пытаньнях культурнага будаўніцтва.

Выходзячы з гэтага, НКА прапануе ўсім раённым і гарадзкім інспэктаром політасьветы ў дэкадны тэрмін, з часу атрыманьня гэтай дырэктывы праверыць усе як самастойныя, так і пры клюбах нардамох, хатах-чытальнях бібліотэкі і адмяніць плату за карыстаньне кніжкамі з гэтых бібліотэк працоўнымі. Правесьці шырокую растлумачальную работу і масавую вярбоўку чытачоў.

У далейшым інспэктаром політасьветы ўстанавіць контроль, які павінен сачыць за работай бібліотэк.

Адказнасьць за выкананьне гэтага ўскладаецца на раённых і гарадзкіх інспэктароў і загадчыкаў бібліотэк.

Наркомасьветы **Платун.**

Інспэктар політасьветы **Сьцепанюк.**

# Міжнародныя пэдагогічныя конгрэсы

## Конгрэс Інтэрнацыяналу працаўнікоў асьветы

Конгрэс, папярэдняе перад ім паседжаньне выканкому, як і першае паседжаньне новага выканкому, адбываліся ў Антвэрпэне з 9 па 13 жніўня 1930 г.

На конгрэсе стаялі такія пытаньні:

1. Справаздача выканкому. Дакладчык—генэральны сэкратар тав. Верношэ.

2. Пэрспэктывы і задачы міжнароднага профруху рэволюцыйных асьветнікаў. Дакладчык—сэкратар ІПА тав. Аплецін.

3. Школа і грамада. Дакладчыца—тав. Крупеніна (СССР).

4. Становішча школы і настаўніка ў колёніях. Дакладчык—Коньо (Францыя).

5. Становішча настаўніцы. Дакладчыца—тав. Ліндэман (Нямеччына).

6. Падрыхтоўка пэдагогаў. Дакладчык—тав. Мур (Ангельшчына).

7. Пытаньні культуры ў пяцігодцы. Дакладчык—тав. Аболін (СССР).

Парадак дню конгрэсу быў складзены з такім разьлікам, каб сконцэнтраваць увагу на барацьбе супроць адзінага фронту культурнай рэакцыі, як

выяўляецца як у ідэолёгічным наступе па ўсёй лініі культурна-асьветнай працы, так і ў рэжыме экономіі на школу, на галоўнай мэце гэтай культурнай рэакцыі—„барацьбе за душу рабочага".

Гэта пытаньне знайшло свой адбітак у дакладах і спрэчках па першых шасьці пытаньнях абвесткі дню.

Неабходна аддаваць асаблівую ўвагу працы сярод коленіяльнага настаўніцтва з прычыны разгортваючагася рэволюцыйнага руху ў колёніях, які з кожным днём усё расьце і пашыраецца. Таму і было пастаўлена гэта пытаньне.

Увесь цяжар рэжыму экономіі кладзецца на найменш матар'яльна забясьпечаныя пласты - жанчыннастаўніц, якія ня толькі атрымоўваюць амаль усюды значна меншую пэнсію за мужчын-настаўнікаў, але і больш прыгнечаны ў грамадзянскіх правох параўнаўча з настаўнікамі, хаця і апошнія ня могуць пахваліцца сваімі правамі, бо і іх у сучасны момант ставяць у асабліва вузкія прававыя рамкі „дзяржаўнай інтэлігенцыі".

У выключна цяжкім становішчы знаходзіцца настаўніцкая моладзь (беспрацоўе, вялікая розьніца ў заробку першых год і апошніх і г. д.).

Буржуазія зьвяртае вялікую ўвагу на муштроўку новых настаўніцкіх кадраў, якім давядзецца працаваць ва ўмовах яшчэ большага абвастрэньня клясавых бітваў.

Адсюль узрастае нездавальненьне сярод студэнтаў-пэдагогаў.

Пытаньню барацьбы за настаўніцкую моладзь быў афяраваны даклад „Падрыхтоўка пэдагогаў".

Зараз настаўніцкая інтэлігенцыя надзвычайна цікавіцца пытаньнямі культурнай рэволюцыі ў СССР. Таму на конгрэсе быў заслуханы даклад „Пытаньні культуры ў пяцігодцы", у якім гэтыя пытаньні разглядаліся на грунце гігантцкага соцыялістычнага будаўніцтва ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, у сувязі з вялізарным уздымам мільённых мас і ў залежнасьці ад нарастаючых патрэб гэтага соцыялістычнага будаўніцтва.

На конгрэсе прысутнічала каля 40 удзельнікаў—з Англіі, Францыі, СССР, Гішпаніі, Кітаю, Лацінскай Амэрыкі, Бэльгіі. Шэраг сэкцый і груп не змаглі прыслаць сваіх дэлегатаў з прычыны адмаўленьня ў выдачы візы. Сэкцыя Італіі прыслала падрабязную справаздачу аб сваёй працы. Шэраг паасобных сэкцый ня прыслалі сваіх дэлегатаў з прычыны матар'яльных умоў: ІПА не аплачвае расходы дэлегатаў са сродкаў Інтэрнацыяналу.

Шэраг сэкцый прыслалі конгрэсу свае прывітаньні.

Конгрэс атрымаў пісьмовае прывітаньне ад антыімпэрыялістычнай Лігі. Інтэрнацыянал старых франтавікоў прыслаў на конгрэс свайго адказнага прадстаўніка, які вітаў конгрэс і ўвесь час прысутнічаў на ім.

Адмаўленьне конгрэсу ўнітарнай фэдэрацыі асьветнікаў Францыі паслаць дэлегацыю на конгрэс ІПА зрабіла вялікае ўражаньне.

Фэдэральная кіраўнічая большасьць, як вядома ўжо з конгрэсу мінулага году, заняла варожую лінію ў адносінах да Профінтэрну і компартыі.

Яна вясною бягучага году, у асобе сваіх лідэраў, выступіла з маніфэстам, у якім імкнецца на сваёй трацкісцка-рэформісцкай пляцформе т. зв. „унітарнай опозыцыі" зьяднаць усе опозыцыйныя элемэнты сярод рэволюцыйнага профруху Францыі.

Лінія генэральнага сэкратарыяту ІПА, якая была ўзята ў адносінах да опортуністычнай позыцыі фэдэрацыі, з абурэньнем была спаткана кіраўніцтвам фэдэрацыі.

На сваім нацыянальным савеце яны выказалі сваё незадавальненьне ў даручэньні будучым сваім дэлегатам на конгрэсе Інтэрнацыяналу працаўнікоў асьветы дамагацца адводу з кіраўніцтва ІПА усіх 3 сэкратароў.

У далейшым позыцыя опортуністых зьмянілася, і яны на сваім конгрэсе ў Марсэлі, які адбываўся на некалькі дзён раней да конгрэсу ІПА, ухвалілі пастанову не пасылаць дэлегацыю на конгрэс у Антвэрпэн.

Свае мотывы яны вытлумачылі ў пісьмовым выглядзе і адаслалі конгрэсу ІПА.

Конгрэс прызнаў мотывы адмаўленьня ад удзелу ў конгрэсе беспадстаўнымі.

Што датычыцца позыцыі генэральнага сэкратарыяту, аб якой гаворыцца ў дакумэнце, то конгрэс аднагалосна ўхваліў правільнай лінію генсэкратарыяту для захаваньня баявой сувязі і фэдэрацыі асьветнікаў з рэволюцыйным профрухам Францыі.

Конгрэс лічыць неабходным правесьці шырокую кампанію па популярызацыі пастаноў Антвэрпэнскага конгрэсу сярод масы членаў унітарнай фэдэрацыі асьветнікаў Францыі.

## Дакумэнты і пастановы, ухваленыя конгрэсам

1. Зацьверджаньне справаздачы выканкому.
2. Тэзісы аб пэрспэктывах і задачах рэволюцыйнага профруху асьветнікаў.
3. Тэзісы дакладу аб школе і грамадзе.
4. Рэзолюцыя па дакладу аб становішчы настаўніцы.
5. Рэзолюцыя па дакладу аб становішчы школы настаўніка ў колёніях і паўколёніях.

6. Рэзолюцыя аб падрыхтоўцы пэдагогаў.

7. Рэзолюцыя з прычыны адмаўленьня конгрэсу францускай сэкцыі паслаць дэлегацыю на конгрэс

8. Адозва да 5-га конгрэсу Профінтэрну.

9. Рэзолюцыя з прычыны загаду (ад 3 ліпеня 1930 г.) прускае ўлады соцыял-дэмократа Браўна аб звальненьні з работы ўсіх настаўнікаў і чыноўнікаў, якія належаць да компартыі ці падтрымліваюць яе.

10. Рэзолюцыя аб белым тэроры ў Інда-Кітаі.

11. Тэлеграма скандынаўскай антыфашысцкай конфэрэнцыі.

12. Рэзолюцыя ў сувязі з надыходзячым 50-гадовым юбілеем сьвецкай школы ў Францыі.

## XII міжнародны конгрэс сярэдняй школы,

організаваны Міжнародным бюро сярэдняй школы адбываўся ў г. Брусэлі з 16 па 26 ліпеня г. г.

Прысутнічала 300 дэлегатаў.

Конгрэс выказаў такія пажаданьні:

„У сярэднія школы прымаюцца толькі тыя дзеці, якія здольны да вучобы".

„У клясе не павінна быць больш за 30 вучняў"

„Павінны быць скарочаны навучальныя гадзіны да 24 гадзін у тыдзень. Астатнія гадзіны павінны быць афяраваны самаразьвіцьцю вучняў" і г. д.

На банкеце, які наладзіў бэльгійскі міністар навук і мастацтва, прысутнічалі міністры Даніі, Баўгарыі, Латвіі, члены конгрэсу сярэдняй школы і выпівалі за здароўе караля.

Каталіцкая газэта Бэльгіі „Ліб Бэльжын" з абурэньнем паведамляе, што гэты конгрэс каштаваў бэльгійскаму міністэрству 500.000 франкаў. Спрачаючыся з „Ліб Бэльжын", газэта „Індэпанданс Бэльж" піша, што бэльгійская ўлада патраціла яшчэ больш сродкаў на іншыя конгрэсы, „дарагія для набожных душ".

* * *

Сэкцыя профэсароў Францускай унітарнай фэдэрацыі асьветнікаў у красавіку г. г. апублікавала адозву да ўсіх профэсароў і выкладчыкаў сярэдніх школ, перасьцерагаючы іх супроць дзейнасьці Міжнароднага бюро сярэдняй школы, якое зьяўляецца „лібэральнай" заслонай, і за якой хаваецца самы злосны фашызм і супрацоўніцтва з усімі капіталістычнымі ўладамі.

Сэкцыя профэсароў зазначыла, што на Брусэльскім конгрэсе бюро будзе праводзіць тую-ж політыку, якую яно праводзіла і на сваіх конгрэсах у Бухарэсьце і Гаазе.

## XII міжнародны студэнцкі конгрэс

адкрыўся 13 жніўня г. г. у г. Брусэлі.

Прысутнічала 400 дэлегатаў ад 40 нацый. Як паведамляюць газэты, конгрэс быў надзвычайна няўдалым. Гішпанская дэлегацыя пакінула конгрэс, падаўшы аб гэтым заяву. Усьлед за ёй пакінул конгрэс дэлегаты Італіі, Голяндыі, якія таксама заявілі свой рашучы протэст у сувязі з адмаўленьнем прыняць Флямандзкі саюз. Дэлегацыя Нямеччыны паехала, ня даўшы згоды аб супрацоўніцтве з Міжнароднай студэнцкай конфэдэрацыяй. Сэнс у тым, што гэта конфэдэрацыя пабудавана па на цыянальна-політычным прынцыпе. На практыцы гэта азначае выключэньне з конфэдэрацыі ўсіх прадстаўнікоў нацменшасьцяй. На аснове гэтага быў адмоўлены прыём Флямандзкай студэнцкай організацыі, як не ўваходзячай у Бэльгійскі дзяржаўны студэнцкі саюз, і Харвацкай організацыі як не ўваходзячай у Вяліка-сэрбскі саюз.

Нямецкае студэнцтва таксама ня можа быць членам гэтай конфэдэрацыі. Згодна паведамленьня „Бэрлінэр Бэрзэн Цэйтунг" ад 30/VIII-30 г., у гэтай організацыі пануе дух нянавісьці, дух Пуанкарэ і Клемансо, які прывёў у 1929 г. да стварэньня організацыі і выключэньня з яе немцаў.

*Рэдактар*—Рэдколегія

*Адказны рэдактар* Л. Бэндэ

ЦАНА 80 КАП.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ПОЛІТЫЧНУЮ,
ПЭДОЛЕГА-ПЭДАГОГІЧНУЮ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНУЮ ЧАСОПІСЬ

# „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
вядзе ваяўнічую барацьбу за комуністычнае выхаваньне працоўных мас, жыва адклікаецца на ўсе політычныя, пэдолёга-пэдагогічныя, політасьветныя проблемы дню.

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
зьяўляецца лепшым памочнікам у рабоце настаўніка, політасьветніка, дашкольніцы.

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
выходзіць пры ўдзеле лепшых марксысцкіх сіл як Беларусі, так і інш. саюзных рэспублік.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА 1930 ГОД

| | |
|---|---|
| На 1 год (12 нумароў) | 8 р. |
| „ паўгода (6 нумароў) | 4 р. 50 к. |
| „ 3 м-цы (3 нумары) | 2 р. 30 к. |
| Кошт асобнага нумару | — 80 к. |

Скідка 25% подлуг агалошанай цаны даецца настаўнікам школ, хатнікам ды інш., якія выпісваюць часопісь за свой кошт на цэлы год. Раённым установам (райінспэкцыя, мясцком) скідка 25% у тым выпадку, калі яны падпішуцца ня менш, як на 50 экзэмпляраў на цэлы год.

**Падпіска прымаецца рэдакцыяй: Менск, Пляц Волі, 23/2,
а таксама поштай і аддзяленьнямі Белдзяржвыдавецтва.**

### ДА ВЕДАМА ПАДПІСЧЫКАЎ

№ 1 часопісі „Комуністычнае Выхаваньне“ разыйшоўся поўнасьцю. Некаторыя падпісчыкі, што падпісаліся на „К. В.“ пасьля 1-га студзеня, часопісі № 1 не атрымаюць. Замест гэтага нумару яны атрымаюць нумар часопісі, што выйдзе пасьля тэрміну, на які яны падпісаліся.